Леанід Лаўрэш

# Генерал, які дайшоў да Беларусі

*Жыццяпіс генерала*
*Кіпрыяна Кандратовіча*

Гродна
«ЮрСаПрынт»
2018

*Аўтар выказвае шчырую падзяку: рэдактару выданняў «Лідскі летапісец» і «Наша слова» Станіславу Судніку, святару а. Мікалаю Семашкевічу, унуку генерала Кандратовіча Джорджу Рэйні, лідскаму краязнаўцу Уладзіміру Круцікаву*

УДК 94(476)
ББК 63.3(4Беи)
Л 13

**Лаўрэш, Л.Л.**

Л 13 Генерал, які дайшоў да Беларусі. Жыццяпіс Кіпрыяна Кандратовіча. / Л.Л. Лаўрэш – Гродна : ЮрСаПрынт, 2018. – 154 с.

ISBN 978-985-7134-47-2.

Кніга з'яўляецца вынікам амаль што дваццацігадовых пошукаў інфармацыі пра выбітнага дзеяча БНР Генерала ад інфантэрыі, Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча (1859–1932).

Кніга будзе цікавай аматараў біяграфій, краязнаўцам і прафесійным гісторыкам, таксама ўсім чытачам, якія цікавяцца беларускай мінуўшчынай.

**УДК 94(476)**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7134-47-2**

# Уступнае слова

На стагоддзе абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў рукі чытача патрапляе біяграфія генерала Кіпрыяна Кандратовіча, ветэрана руска-турэцкай, руска-японскай і Першай сусветнай войнаў, які ў 1917 г. далучыўся да беларускага нацыянальнага руху і стаў абаронцам незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай 25 сакавіка 1918 г. Вяртанне на старонкі гісторыі гэтай постаці адбылося дзякуючы пісьменніку і гісторыку Леаніду Лаўрэшу, які ўжо каля дваццаці гадоў даследуе лёс генерала і публікуе працы пра яго жыццё. Ягонай заслугай з'яўляецца адшуканне магілы генерала, пахаванага каля царквы ў Воранаве.

Прадстаўленая ў кнізе біяграфія генерала значна шырэйшая за папярэднюю, выдадзеную ў 2007 г. Праца мае высокую навуковую каштоўнасць, бо падмацавана дакументамі і добра напісана. Аўтар рупліва прааналізаваў вялікую колькасць крыніц: дакументы, прэсу, успаміны і навуковыя працы. Крок за крокам мы даведваемся пра лёс генерала Кандратовіча, які жыў у складаныя часы ўпадку і скону Расійскай Імперыі ды фармавання новай палітычнай карты Усходняй Еўропы.

Леанід Лаўрэш праводзіць чытача праз дзяцінства і маладосць генерала, які нарадзіўся ў 1859 г. у Зінавічах (Лідскі павет), апісвае яго сямейнае кола і школьныя гады ў Лідзе, а потым вучобу ў 2-й Канстанцінаўскай вучэльні і Мікалаеўскай акадэміі Генеральнага штаба. Аўтар цікава піша пра прыступкі вайсковай кар'еры Кандратовіча, ілюструючы пры гэтым яе ўспамінамі сучаснікаў. Чытач пачуе галасы асоб, якія ведалі Кандратовіча ў розныя часы ягонай вайсковай службы на Далёкім Усходзе: падчас паўстання баксёраў у Пекіне ў 1899– 1901 гг. ці руска-японскай вайны 1904–1907 гг. Чытача будуць весці па кнізе сведчанні вайскоўцаў пра генерала, якія розняцца ад прыхільных да не вельмі станоўчых. Гэта датычыць і яго дзейнасці на пачатку вайны ва Усходняй Прусіі ў 1914 г. і ў часе падрыхтоўкі да бітвы каля возера Нарач у 1915 г. Пасля гэтага аўтар паказвае чытачу драматычныя падзеі рэвалюцыі, якія адводзілі армію далёка ад рускіх вайсковых традыцый, да якіх быў прызвычаены генерал

высокага ўзроўню – дэмакратызацыя арміі і нацыяналізацыя вайсковых частак.

Генерал Кандратовіч зрабіў свой выбар – далучыўся да беларускага нацыянальнага руху і ўвосень 1917 г. узначаліў Беларускую Цэнтральную Вайсковую Раду. Ён не ўзяў на сябе рашэнне пра стварэнне беларускага войска, што не дадало яму сімпатыі з боку маладых, энергічных афіцэраў і прывяло да адстаўкі з пасады. Аднак генерал Кандратовіч не збочыў з абранай дарогі. У 1918 г. мы бачым яго ў другім урадзе БНР, створаным Раманам Скірмунтам, а на наступны год ён ствараў беларускія вайсковыя фармаванні пры літоўскім урадзе, а потым быў чальцом дэлегацыі БНР на мірнай канферэнцыі ў Парыжы. Нейкі час генерал жыў у Парыжы, дзе – як вынікае з апошніх даследаванняў Леаніда Лаўрэша – нарадзіўся яго пазашлюбны сын Уладзімір, чалавек трагічнага лёсу.

Апошнія гады жыцця генерал Кандратовіч правёў у Польшчы. Пасяліўся ў Гародне пад Лідай разам з нашмат маладшай за сабе жонкай Адай фон Рыхтэр, з якой пашлюбаваўся ў 1910 г. у Тыфлісе, калі камандаваў 1-м Каўказскім корпусам. Яго насычанае падзеямі жыццё скончылася ў апошні дзень кастрычніка 1932 г.

На вялікі жаль, генерал не пакінуў пасля сябе ўспамінаў, без чаго цяжка тлумачыць прычыны яго ўчынкаў і цалкам зразумець асобу. Аднак жыццяпіс, створаны Леанідам Лаўрэшам, дазваляе сістэматызаваць біяграфію генерала, які перайшоў на службу БНР.

Вельмі жадаю прыцягнуць увагу ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі пачатку XX ст., да гэтага незвычайна цікавага для аматараў біяграфій, краязнаўцаў і прафесійных гісторыкаў тэкста. Аўтар не толькі з захапленнем праводзіць нас праз жыццё генерала Кіпрыяна Кандратовіча, але таксама дзеліцца з чытачом этапамі сваіх пошукаў і даследаванняў і паказвае, якой надзвычай захапляльнай можа быць праца гісторыка.

*Дарота Міхалюк,*
*Універсітэт Мікалая Каперніка ў Торуні.*

# Ад аўтара

З канца 2000 г. я дакладна ведаў, што сям'я генерала Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча гаспадарыла ў маёнтку Гародна на Лідчыне (зараз – Воранаўскі р-н). Увесну 2000 г. мы з сябрамі выехалі ў краязнаўчую вандроўку і амаль што першы апытаны намі жыхар Гародна (Пагародна) накіраваў нас да Уладзіслава Янавіча Струкеля (1916–2008?), чалавека, які яшчэ хлопчыкам служыў у маёнтку Кандаратовічаў, а ў 1932 г., як служка, ўдзельнічаў у пахаванні генерала. У 1998 г. ён паказаў унуку генерала Кандратовіча Джорджу Рэйні месца пахавання на расцярушаных лідскіх праваслаўных могілках і потым удзельнічаў у перазахаванні парэшткаў у Воранава на гарадскіх могілках. Уладзіслаў Янавіч расказаў нам пра тое, што помніў пра жыццё маёнтка Гародна ў 1930-х гг. і падрабязна апісаў месца на воранаўскіх могілках, дзе трэба было шукаць магілу. Пафатаграфаваўшы парк і капліцу маёнтка, мы паехалі ў Воранава і хутка знайшлі магілу генерала. Інфармацыя, якую захоўваюць файлы першых здымкаў магілы беларускага генерала лічбавай камерай, сведчаць, што яны былі зроблены 17 сакавіка 2001 г. у 13.12. Стоячы тут, мы ўсведамлялі, што ўпершыню з 1930-х гг. над магілай генерала ад інфантэрыі знаходзяцца людзі, якія прыйшлі, каб запаліць знічку і аддаць даніну памяці і павагі выбітнаму дзеячу БНР, аднаму з тых, хто зрабіў нашу Бацькаўшчыну незалежнай.

Часопіс «Спадчына» адразу ўзяў наш артыкул, у якім упершыню, яшчэ фрагментарна, падавалася біяграфія ге-

нерала і ўказвалася месца яго пахавання, у тым жа часопісе на вокладцы былі надрукаваны каляровыя здымкі магілы Кіпрыяна Кандратовіча[1]. Ужо ў траўні 2000 г. парэшткі славутага беларуса былі яшчэ раз перазахаваны, і зараз магіла генерала Кандратовіча знаходзіцца каля воранаўскай царквы.

Пасля было шмат маіх публікацый, з якіх можна вылучыць кніжку пра генерала[2] і найбольш грунтоўны артыкул пра яго ў альманаху «Асоба і час»[3].

Атрымалася так, што праца сталася не дарэмнай. І вельмі прыемна, што зараз асоба генерала Кандратовіча добра вядома ў Беларусі, пра яго здымаюць дакументальныя фільмы, выпускаюць рэкламныя плакаты, а ў Мінску прайшла ўжо «трэцяя канферэнцыя, прысвечаная памяці генерала Кандратовіча».

За апошні час у мяне назапасілася шмат новай інфармацыі, што і прымусіла паклапаціцца пра другое, пашыранае і перапрацаванае, выданне кнігі пра земляка. Добра, што кніга выходзіць у 100-гадовы юбілей абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі – падзеі, з якой пачалася незалежнасць нашай Радзімы і да якой Кіпрыян Кандратовіч мае самае непасрэднае дачыненне.

---

[1] Гл: Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір і інш. Генерал Кіпрыян Кандратовіч // Спадчына 2002. № 1. С. 161–166.

[2] Гл: Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч (Дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі). Ліда, 2007. 43 с.

[3] Гл: Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч: крэскі да жыцця // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 2. 2010. С. 81–105.

# Дзяцінства і юнацтва

Кіпрыян (Цыпрыян) Антонавіч Кандратовіч нарадзіўся 28 красавіка 1859 г. у маёнтку Зіневічы (Лідскі раён, каля в. Ваверка). Паводле сямейнага падання, ён быў народжаны па-за шлюбам – сын графа Юрыя Трубяцкога, які на Лідчыне займаў розныя пасады, злучаныя з юрыспрудэнцыяй. Маці – Зінаіда Залеская, дачка абшарніка, які трымаў маёнтак Місевічы каля Зіневічаў. Маці выйшла замуж за шляхціца Кандратовіча, чыё прозвішча і імя па бацьку Кіпрыян атрымаў.

Род Залескіх герба «Любіч» – уладальнікаў маёнтка Зіневічы – ёсць у спісах лідскай шляхты. У 1834 г. гаспадаром Зіневічаў быў Маўрысі Залескі – сын Анджэя, меў 55 прыгонных сялян мужчынскага полу[4]. У 1844 г. маёнтак (51 душ мужчынскіх, 52 душы жаночыя, 460 дзесяцін зямлі) належаў падпалкоўніку Юзафу Залескаму, сыну Маўрысія[5], які і быў дзедам будучага генерала «па кудзелі».

Кандратовічы – старажытны род герба «Сыракомля», што паходзіць ад Кандрата, якому ў XV ст. былі падараваны некалькі маёнткаў. Род Кандратовічаў падзяліўся на 7 галін, унесеных у 1-ю і 6-ю часткі радаводных кніг Віленскай, Віцебскай, Ковенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў. Кандратовічы ёсць і ў спісах шляхты Лідскага павета[6].

---

[4] Гл.: Malewski Czessław. Wykaz alfabetyczny z 1844 r. majątków pow. lidzkiego // Ziemia lidzka. 2004. № 2 (60).

[5] Гл.: Malewski Czesław. Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiat Lidzki. Wilno, 2005. S. 261.

[6] Гл.: Malewski Czesław. Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku. S. 148.

Трубяцкія – княжацкі род, лінія Гедзімінавічаў, паходзяць ад князя Зміцера Альгердавіча, унука Гедзіміна. Тытулаваліся князямі ад горада Трубяцка – часткі былога Чарнігаўскага княства. Трубяцкое княства захоплена ў 1566 г. Маскоўскім княствам, тады ж князі Трубяцкія падпарадкаваліся маскоўскаму князю Івану Васільевічу. Трубяцкое княства вернута ў склад ВКЛ паводле Дэўлінскага перамір'я 1618 г. і зноў страчана ў выніку вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг. Князь Юры Мікітавіч Трубяцкі атрымаў частку Трубяцка ў 1621 г. (ад яго працягваецца род Трубяцкіх), ягоны ўнук князь Юрый Пятровіч Трубяцкі выехаў у Расію ў 1657 г. З XVII ст. – гэта магутны і разгалінаваны дваранскі род Расійскай Імперыі.

Сямейную гісторыю аб Юрыі Трубяцкім як бацьку будучага генерала мне паведаміў унук Кандратовіча – Джордж Рэйні, пажылы чалавек, які жыве цяпер у Англіі. Раздрукоўкі ягоных электронных лістоў я захоўваю вось ужо шмат гадоў. Джордж Рэйні паведаміў, што бацькам Юрыя Трубяцкога быў Мікалай Мікалаевіч Трубяцкі. Гэта і дало мне магчымасць зрабіць спробу прасачыць радавод генерала па лініі Трубяцкіх.

У віленскім адрас-календары на 1868 г. ёсць цікавая інфармацыя аб Трубяцкім: «Міравы пасрэднік 3-га ўчастка, Трубяцкі Юры Мікалаевіч, губернскі сакратар, узнагароджаны ордэнамі Св. Станіслава 2-й і 3-й ступеняў і медалём у памяць аб ўціхамірванні "польскага мяцяжу" 1863–1864 гг., на пасадзе міравога пасрэдніка знаходзіўся з 10 чэрвеня 1864 г., закончыў Маскоўскі ўніверсітэт, халасты, агульны тэрмін стацкай службы – 5 гадоў»[7].

У 1868 г. яму было 27 гадоў, а калі нарадзіўся Кіпрыян, Юрыю Трубяцкому было… 18 гадоў. Раман гімназістаў.

Памяць аб гэтай гісторыі захавалі не толькі ўнукі ў Англіі. Я чуў гэтую рамантычную гісторыю пра каханне лідскай паненкі з рускім князем і іхняга сына – генерала – ад жанчыны (1929 г. н.), чыя бабуля (прыкладна 1880 г. н.) была з роду Залескіх.

---

[7] Адрес-календарь Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. СПб., 1868. С. 19.

Адзіным Мікалаем Мікалаевічам Трубяцкім, які мог быць «дзедам» Кандратовіча, быў Мікалай Мікалаевіч Трубяцкі (1804–1879), жанаты з Лізаветай Аляксандраўнай Лапухінай. Князь Трубяцкі меў свецкую мянушку Эол якая выдатна характарызавала яго характар[8]. У лісце Надзеі Восіпаўны Пушкінай да дачкі Вольгі Сяргееўны ад 17 красавіка 1833 г. паведамляецца: «...Эол Трубяцкі ажэніцца з дзяўчынай Лапухінай, маладой, прыгожай, ветлівай, за яе даюць 5 сотень сялян, у бацькі яе іх тры тысячы, а ў жаніха, здаецца, амаль што нічога...»[9].

У адным з лістоў да Марыі Аляксандраўны Лапухінай (сястры Лізаветы Аляксандраўны) М. Ю. Лермантаў згадвае аб вяселлі князя (mariage du prince), і гэтае месца ў пісьме звычайна тлумачыцца як вяселле Мікалая Мікалаевіча Трубяцкога і Алены Аляксандраўны Лапухінай.

Князь М. М. Трубяцкі быў сынам Мікалая Сяргеевіча Трубяцкога і Кацярыны Пятроўны (у дзявоцтве – Мяшчэрскай). У 1822 г. М. М. Трубяцкі паступіў у Маскоўскі ўніверсітэт на аддзяленне славесных навук, якое закончыў у 1826 г. У 1830–1833 гг. служыў у Межавай канцылярыі. Памёр 13 кастрычніка 1879 г.[10] Ёсць непацверджаная інфармацыя аб тым, што нейкі час ён быў мінскім губернатарам[11].

З усёй сям'ёй Лапухіных сябраваў М. Ю. Лермантаў.

Родная сястра Лізаветы Аляксандраўны Трубяцкой – Варвара Аляксандраўна (1815–09.08.1851) – была блізкім сябрам М. Ю. Лермантава. Сардэчную прыхільнасць да яе паэт захоўваў усё жыццё. Вобраз Вараньկі Лапухінай знайшоў увасабленне ў раманах «Герой нашага часу», «Вадзім», а мноства вершаў, у тым ліку «Ізмаіл-бей», «Дэман», «Мы выпадкова

---

8 Эол – персанаж старажытнагрэчаскай міфалогіі, Зеўс зрабіў яго гаспадаром над вятрамі. Імя Эол знаходзіцца ў цеснай сувязі з паняццем рухомасці, якое характарызуе паветраную стыхію.

9 Мир Пушкина. СПб. 1993. Т. 1. С. 146.

10 Лермонтов М. Ю. Проза и письма: Комментарии и варианты / коммент. Б. М. Эйхенбаума, В. А. Мануйлова // Лермонтов М. Ю. Полное собрание сочинений: В 5 т. М.; Л.: Academia, 1935–1937. Т. 5. Проза и письма. 1937. С. 522.

11 Всероссийское генеалогическое древо. Трубецкие. http://www.vgd.ru/T/trubecky.htm // Трубецкая Любовь Николаевна 1868–1928. Дочь минского губернатора, генерал-майора князя Николая Николаевича Трубецкого (1804–1879) и Елены Алексеевны Лопухиной (1806–1882).

зведзеныя лёсам…»[12], прысвечаны Варвары Аляксандраўне, якую паэт глыбока кахаў.

Трэцяя сястра – Марыя Аляксандраўна Лапухіна (01.01.1803–17.03.1864 г.) – таксама сябар дзяцінства і юнацтва М. Ю. Лермантава. Захавалася іх перапіска.

Брат – Аляксей Аляксандравіч Лапухін (29.09.1813–09.12.1872) – камер-юнкер, стацкі дарадца ў 1864 г., блізкі сябар М. Ю. Лермантава: «Толькі вельмі нешматлікія, і сярод іх А. А. Лапухін, глыбока шанавалі сяброўства з ім і верылі ў ягоную высокую душу, і захавалі гэтае стаўленне пасля смерці»[13].

Дарэчы, старэйшым сынам Мікалая Мікалаевіча Трубяцкога («дзеда» Кандратовіча) быў Мікалай Мікалаевіч Трубяцкі (1836–1902), генерал-лейтэнант, мінскі генерал-губернатар з 1886 да 1902 гг.[14]

Па лініях Трубяцкіх і Лапухіных Кандратовіч быў сваяком Сяргея Мікалаевіча Трубяцкога (1862–1905), рэктара Маскоўскага ўніверсітэта (вядомы фундаментальнымі працамі па гісторыі антычнай філасофіі, анталогіі, гнасеалогіі, культуралогіі, яшчэ ён быў публіцыстам і грамадскім дзеячам), і Яўгена Мікалаевіча Трубяцкого (1863–1920), рэлігійнага філосафа і правазнаўца[15]. Сын С. М. Трубяцкога – Мікалай Сяргеевіч Трубяцкі (1890–1938) – філосаф рускага замежжа, лінгвіст, філолаг, гісторык, палітолаг, заснавальнік плыні рускай думкі еўразійства[16]. Прыхільнасць да палітычнага крыла гэтай плыні ў свой час фатальна паўплывала на лёс сына генерала Кандратовіча – Уладзіміра.

Але вернемся да спраў у нашым краі.

---

[12] Лермонтов М. Ю. Полное собрание сочинений. Т. 1. М.: Художественная литература, 1957. С. 273. («Не ты, но судьба виновата была, // Что скоро ты мне изменила, // Она тебе прелести женщин дала, // Но женское сердце вложила…»).

[13] Светлейшие князья, князья и дворяне Лопухины. Родословная поколенная роспись. http://lopukhins.narod.ru/rospisfull.htm.

[14] Гл.: Дворянские роды Российской империи. Т. 2. М.,1995. С. 72; інтэрнэт-рэсурс «MySpace», Science & History. Trubeckoj http://groups.myspace.com/trubetsky.

[15] Гл.: Всероссийское генеалогическое древо. Трубецкие. http://www.vgd.ru/T/trubecky.htm.

[16] Гл.: Трубецкой Николай Сергеевич. Биографический указатель. http://www.hrono.info/biograf/trubeckoins.html.

Расійскі афіцэр Іван Любарскі напісаў пры канцы XIX ст. дастаткова блытаныя мемуары пра службу ў расійскім войску ў Лідзе ў 1861–62 гг., перад самым паўстаннем. Ён прыводзіць размову са сваім знаёмым, якога ён называе «капітан З-скі». Нягледзячы на некаторыя недакладнасці (напрыклад, «капітан» замест «падпалкоўнік»), гэты самы «капітан З-скі» можа быць Юзафам Залескім, дзедам будучага міністра БНР Кіпрыяна Кандратавіча, Любарскі пісаў: «За некалькі вёрстаў ад горада жыў у сваёй сядзібе адстаўны капітан З-скі, ён быў тутэйшым, я аказаў яму некаторыя паслугі і праз гэта зблізіўся з ім. Падчас службы ў адной з унутраных губерняў ён ажаніўся па каханні з рускай дзяўчынай, а па выхадзе ў адстаўку засеў гаспадарыць у маленькім сваім фальварку. Ён не перашкаджаў жонцы выхоўваць дзяцей у духу праваслаўнай веры, у палітыку не ўмешваўся і таму не меў сяброў сярод сваіх ,,родакаў,,»[17]. Калі «капітан З-скі» – гэта Юзаф Залескі, зразумела, чаму маці Кіпрыяна мела праваслаўнае імя і, верагодна, юныя Зінаіда і Юры пазнаёміліся падчас службы Юзафа Залескага ў Расіі. Дарэчы, Любарскі піша, што калі «ўспыхнуў мяцеж, але яшчэ не распаўсюдзіўся на Літву, З-скі… з'ехаў з сямействам да родных жонкі ў Цвярскую губерню»[18].

Пасля задушэння паўстання ў наш край панаехалі рускія чыноўнікі, якія ў вядомым рамане Надзеі Ланской атрымалі трапную мянушку «абрусіцелі»[19]. Адным з іх быў і міравы

---

[17] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний). // Исторический вестник. 1895. № 3. С. 828.

[18] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний). С. 830.

[19] Ланская Н. Обрусители. Из общественной жизни Западного края, в двух частях. Спб., 1888. С. 9–11. (...западный край был центром, куда стекалось великое множество людей великорусского происхождения преимущественно и православного исповедания непременно. В то время край представлял собою арену где, не рискуя ничем, можно было тысячу раз отличиться, выйти, что называется, в люди и затем, успокоившись на лаврах, произнести со спокойной совестью: мы обрусили.
Сюда стремились все те, кто был чем-либо недоволен у себя дома: всякий, кого обошли чином, местом или наградой, чей не приняли или возвратили проект, чье имение, вследствие новых порядков, пришло в упадок, а приняться за дело не было ни уменья, ни сил – все это спешило в Западный край. Здесь стекались люди всяких профессий, возрастов и положений: молодые, старые, любившие пожить и прожившиеся вовсе, разочарованные в любви, обманутые в жизни и обманывавшиеся сами, все стремились сюда с лихорадочною поспешностью. Если было много званых, было много и избранных.

пасрэднік[20] Юры Трубяцкі, які прыехаў на Лідчыну ва ўзросце 23 гадоў пасля заканчэння Маскоўскага ўніверсітэта (курс навучання – 4 гады). Як бачна з вышэй напісанага, бацька маладога князя Юрыя Трубяцкога не быў багатым чалавекам.

Па Віленскіх памятных кніжках можна прасачыць службовы шлях Юрыя Трубяцкога на Лідчыне. Цывільную службу губернскі сакратар князь Юры Мікалаевіч Трубяцкі пачаў у 1864 г.[21] У 1866 г. ён яшчэ не мае ўзнагародаў, а ў 1867 г. ужо фігуруе з ордэнам Св. Станіслава 3-й ступені і медным

---

Это был пир, на который шли все те, кому нечего было терять, у кого ничего не осталось за душой дома. Здесь можно было только выиграть, там уж нечего было проигрывать. Это была ежечасная эмиграция. Манивший их стимул был таков, что мог расшевелить самого равнодушного и неподвижного человека, и действительно: равнодушные и неподвижные, за немногими исключениями, превращались здесь в исправных приобретателей...
Кроме того, человек, ехавший в этот провинциальный край на службу, часто считал это таким со своей стороны подвигом, за который никакое вознаграждение не могло быть достаточным; такой жертвой, которую оценить надлежащим образом мог, разумеется, только тот, кто ее приносил. И хотя, в большинстве случаев, в жертву приносилась полуграмотность, если не вовсе невежество, свободное время, которое было некуда девать, пустой карман, который надлежало наполнить... а иногда и не совсем безгрешное прошлое – тем не менее иные считали себя благодетелями quand nieme... Находчивым и смелым людям тут было раздолье; тут можно было сделаться помещиком без гроша; не купив леса, выгодно продать его, совершить какую угодно сделку, назваться чьим угодно именем...
Аттестатов никаких не требовалось: достаточно было приехать из России и заявить себя православным, чтобы получить право на такие льготы, права и преимущества, которые превращались в настоящий рог изобилия. Можно поэтому представить, какая масса разной дряни наводнила собой эти несчастные 9 губерний! Какой контингент лжи, низости, всяких обманов, подкупов, подлогов и нравственного растления принесла с собою эта православная армия алчущих и жаждущих, чающих и ожидающих! Как саранча, бросились они на готовые места, торопясь захватить все то пространство, которое было для них насильственным образом очищено; церемониться было ни к чему, и под видом обрусения и пропаганды православия эти завоеватели преследовали такие цели, которые не имели ничего общего ни с религией, ни с нравственностью, ни даже с политикой действительного обрусения).

[20] Міравы пасрэднік – службовая асоба ў Расіі ў перыяд правядзення сялянскай рэформы 1861 г. Прызначаўся з дваранаў для сцвярджэння статутных грамат і разбору канфліктаў паміж сялянамі і абшарнікамі. Валодаў судова-адміністрацыйнай уладай.

[21] Памятная книжка Виленской губернии на 1866 год. Вильна, 1866. С. 192.

медалём у памяць аб уціхамірванні «польскага мяцяжу» 1863–1864 гг.[22], заўважым, што гэты медаль ён атрымаў праз некалькі год пасля задушэння паўстання.

Вырашальным для Трубяцкога стаўся 1869 г. Тады ён стаў тытулярным дарадцам, атрымаў другі ордэн – Св. Станіслава 2-й ступені[23] – і 9 ліпеня 1869 г. быў прызначаны на пасаду старшыні міравога з'езду[24]. У тым жа 1869 г. Юры Трубяцкі выгадна купляе рэквізаваны ў паўстанца маёнтак Родзевічы на Лідчыне (зараз Шчучынскі р-н, 320 дзесяцін, кошт – 5 412 руб.)[25] і з 1870 г. знікае са спісаў чыноўнікаў Віленскай губерні.

Тое, што сталічны князь з універсітэцкай адукацыяй прыехаў у чужую і непрыхільную да расійца правінцыю, можа сведчыць пра сапраўднасць кахання. Але, як бачым, не толькі каханне прывяло яго ў наш край. Юры Трубяцкі за некалькі гадоў стаў абшарнікам, узняўся ў чыне, атрымаў узнагароды, як кажуць – выйшаў у людзі. Нездарма пасля яго з 1 сакавіка 1872 г. на пасадзе «товаришча прокурора» ў г. Дзісна мы бачым малодшага яго брата – князя Дзмітрыя Мікалаевіча Трубяцкога[26].

Юры Трубяцкі быў аматарам музыкі і нават з'яўляўся рэгентам лідскага царкоўнага хору. У «Весніку Заходняй Расіі» за 1867 г. знайшлася інфармацыя пра лідскага міравога пасрэдніка: «Нельга не згадаць… што пры асвячэнні абедзвюх цэркваў (у Дакудаве і Орлі – Л. Л.), на левым клірасе, да вялікага суцяшэння бацькоў і знаёмых, спяваў хор сялянскіх хлопчыкаў, арганізаваны ў Лідзе і добра навучаны спеву шаноўным міравым пасрэднікам князем Трубяцкім, гэты хор стройна спявае царкоўную службу ў лідскай царкве, яго яснавяльможнасць рэгент лічыць за… гонар, каб гэты хор спяваў… пры асвячэнні дакудаўскай і арлянскай цэркваў»[27]. Магчыма, што і малы Кіпрыян таксама спяваў у царкве. З напісанага

[22] Памятная книжка Виленской губернии на 1867 год. Вильна, 1867. С. 191.
[23] Памятная книжка Виленской губернии на 1869 год. Вильна, 1869. С. 159–160.
[24] Памятная книжка Виленской губернии на 1871 год. Вильна, 1871. С. 132.
[25] Karbowski W. Ludwik Narbutt. Życiorys wodza w powstaniu styczniowem na Litwie. 1935. S. 175.
[26] Памятная книжка Виленской губернии на 1874 год. Вильна, 1874. С. 74.
[27] Вестник Западной России. Вильна, 1867. Кн. 9., Т. III. С. 252.

ніжэй будзе бачна, што Юры Трубяцкі таксама быў і аматарам тэатра.

Адзін з «абрусіцеляў», брат лідскага вайсковага начальніка Васіля дэ Лазары, і чалавек, які ўваходзіў у кола лідскіх прыяцеляў Юрыя Трубяцкога, Мікалай дэ Лазары, пакінуў цікавыя мемуары, з якіх бачна, чаму гэты бравы пецярбургскі гвардзеец патрапіў служыць у Ліду. Яго мемуары – пакуль адзіны знойдзены намі тэкст, які можа даць уяўленне пра побыт царскіх чыноўнікаў у нашым горадзе таго часу. Таму я дазволю сабе вялікія цытаты з успамінаў Мікалая дэ Лазары: «З усіх афіцэраў нашага Фінляндскага палка я быў адзін з самых бедных і не мог існаваць толькі на заробак. Перахопліваючы ў аднаго ці ў другога з таварышаў па 15, 10 і 5 рублёў, я завінаваціў такім чынам рублёў 200. Па парадзе аднаго таварыша, падпалкоўніка барона Штакельберга, я звярнуўся да ліхвяра... і ўзяў у яго 400 руб. пад 10% у месяц. Атрымаўшы гэтыя грошы і расплаціўшыся з таварышамі, выправіў сабе мундзірны сурдут і набыў некаторыя неабходныя рэчы. Штомесяц я плаціў 40 руб. адных працэнтаў, і можна сказаць, што жалаванне амаль не атрымліваў, таму што ўсё ішло на выплату працэнтаў. Так цягнулася на працягу 6 – 7 месяцаў, і настаў такі сумны для мяне час, што не толькі капітал (400 руб.), але і працэнты плаціць не было з чаго. Заставалася адно: падаць рапарт аб хваробе і сядзець дома, нікуды не выходзіць. Пасля першага ж месяца маёй неплацежаздольнасці... ліхвяр падаў вэксаль да спагнання [...].

Пры такім цяжкім матэрыяльным становішчы працягваць службу ў гвардыі я больш не мог і пасля доўгіх разважанняў прыйшоў да высновы, што мне неабходна паехаць да брата ў г. Ліду і шукаць сабе якую-небудзь іншую службу.

Забраўшы ўсе свае нікчэмныя пажыткі, у сакавіку месяцы 1866 г. я выехаў з Пецярбурга ў Ліду і, прыбыўшы да брата Васіля, расказаў яму ўсю сутнасць справы. 27 сакавіка я стаў падпаручнікам. Пражыў у брата дзён 20 і адправіўся ў Вільню да тамтэйшага губернатара С. Ф. Панюціна з просьбай аб прадстаўленні мне якой-небудзь службы. Панюцін прапанаваў мне пасаду кандыдата ў міравыя пасрэднікі ў г. Ліда... і я падаў дакладную запіску. ...Нягледзячы на ўсю паспешнасць у атрыманні гэтай пасады, мне прыйшлося пра-

жыць у Вільні і ў брата ў Лідзе 4 месяцы, 4 чэрвеня я быў залічаны кандыдатам 7-га ўчастка да пасрэдніка паручніка Ушакова»[28].

Пасля жабрацкага жыцця ў Пецярбургу кандыдат у міравыя пасрэднікі разам з жонкай вельмі нядрэнна ўладкаваўся ў Лідзе: «Кватэра наша ў Лідзе складалася з асобнага дома ў 8 пакояў з прыслугай: кухаркай, яе дачкой Анэтай – пакаёўкай – і лёкаем. Абстаноўка кватэры была набыта ў брата Васіля, які з'яўляўся ваенным начальнікам у Лідскім павеце... Зрабіўшы ўсё чыста і ахайна, пры навізне ўсіх рэчаў, зажылі мы ўдваіх мірным, ціхім і ўтульным жыццём, з'явілася некалькі блізкіх знаёмых, у ліку якіх самымі блізкімі былі Ушаковы, муж з жонкай, а самай прывабнай – Кацярына Іванаўна Маўрас, якая любіла нас, як родных, а таму яе сяброўства было для нас самым радасным. Недалёка ад Ліды быў маёнтак Маўраса Тарноўшчына, мы часта ездзілі туды і бавілі там па некалькі дзён у асяроддзі яе сям'і. Але нам дзіўна было бачыць, што яе дзеці былі амаль што ўсе вельмі непрыгожымі, нягледзячы на прыгажосць і прывабнасць самой Кацярыны Іванаўны.

Акрамя гэтых асоб, часта бывалі ў нас Белажэўскія, муж з жонкай, якія пасля вельмі сышліся з намі, ...потым князь Трубяцкі, Грос, Празароўскі і Вінаградаў...

...сваё жыццё ў маленькім горадзе Ліда, я магу назваць... падмуркам майго шчаслівага шлюбнага, сямейнага жыцця, і часта я ўспамінаю гэты перыяд. Як добра, як утульна і ўцешна жылося нам там! Упіваючыся гэтай асалодай, ні на хвіліну не пакідаў маю дарагую жонку, патураў ёй... лічачы шчаслівыя моманты, калі мы былі толькі ўдваіх, не жадалі большага атачэння... Усе навакольныя добра ставіліся да нас, і ўсе знаёмыя шукалі нашага сяброўства.

Белажэўскі быў вялікім аматарам сцэны, і па яго ініцыятыве і пры ўдзеле князя Трубяцкога мы ставілі ў нас спектаклі...»[29].

Трэба сказаць некалькі слоў пра найбольш уплывовага і багатага «абрусіцеля» на Лідчыне генерала Дзмітрыя Маўраса. Маёнтак Тарнова генерал Маўрас набыў у 1866 г.

---

[28] Николай де Лазари. Наброски на бумагу. Лодзь, 2014. С. 73–75.

[29] Там жа. С. 82–83.

у паўстанца Канстанціна Кашыца. Прадаць свой маёнтак Кашыц павінен быў па царскім указе хутка і танна. Гэтак жа танна ў паўстанца Маўрас купіў дом у цэнтры Вільні, на Георгіеўскім праспекце[30] (цяпер праспект Гедыміна). Акрамя Тарнова генерал купіў суседнія вёскі Мыто, Дзітву Тарноўскую, Паперню, Нявішу, Ярэмічы, Жукоўшчыну і Лебяду. Уся гаспадарка разам мела 15 000 дзесяцін ці 150 квадратных кіламетраў. У тарноўскім палацы знаходзілася вялікая бібліятэка, каштоўная калекцыя карцін, мастацкіх вырабаў з золата, бронзы, парцаляны, старадаўняя зброя, рэдкія ракавіны, чучалы іншаземных жывёл[31]. Верагодна, карціны дасталіся Маўрасу ад былых уладальнікаў-паўстанцаў: былі куплены разам з маёнткам і домам у Вільні. Яны не былі вынікам працяглых пошукаў, таму генерала цяжка назваць калекцыянерам, хутчэй яго можна лічыць выпадковым чалавекам, якому за бясцэнак дасталіся каштоўныя рэчы. Добра, што не марадзёрам.

Мікалай дэ Лазары непрацяглы час жыў у Лідзе, бо «бачачы ўдалую і забяспечаную ў матэрыяльным сэнсе службу брата Васіля ў корпусе жандараў, я праз дапамогу Дзмітрыя Маўраса, які лічыўся тады пры шэфу жандараў, стаў прасіць аб залічэнні мяне на службу ў корпус. Клопаты гэтыя праз непрацяглы тэрмін увянчаліся поспехам, і ў жніўні месяцы 1867 г., прадаўшы ўсю сваю маёмасць, я з жонкай пераехаў у Пецярбург і быў прыкамандзіраваны да штаба. ...Хутка і м-м Маўрас з дзецьмі пераехала ў Пецярбург і я адшукаў ім кватэру ў тым жа доме Ліпса і на тым жа паверсе, дзверы ў дзверы. Дзякуючы жонцы Маўраса генерал Мезенцаў выдаў мне грашовую дапамогу ў памеры 250 руб. Гэта нам добра дапамагло...»[32].

Менавіта гэткае асяроддзе мог бачыць у дзяцінстве малы Кіпрыян.

---

[30] Дубин А. Признание брака графа Н. Н. Симонича и графини Е. Д. Маврос недействительным и статус их дочери Марии // Генеалогический вестник. СПб., 2010. Вып. 38. С. 32.

[31] Там жа. С. 32–33.

[32] Николай де Лазари. Наброски на бумагу. Лодзь, 2014. С. 84–85.

* * *

Будучы генерал ад інфантэрыі і міністр абароны БНР Кіпрыян Антонавіч Кандратовіч пачаў сваю адукацыю ў канцы 1860-х – пачатку 1870-х гг. у Лідскай павятовай вучэльні[33]. Былы вучань гэтай вучэльні Караль Ёдка заўважаў, што мінімальнай адукацыяй для атрымання першага дзяржаўнага чыну – калежскага рэгістратара была якраз двухкласная павятовая школа: «Хто меў пасведчанне аб заканчэнні такой школы, мог смела лічыць, што носіць у ранцы маршальскую булаву»[34].

З адрас-календара Віленскага генерал-губернатарства на 1868 г. мы даведваемся пра настаўнікаў і навукі, якія Кандратовіч вывучаў у Лідзе. Ганаровым наглядчыкам павятовага вучылішча быў граф фон Гутэн-Чапскі. У вучылішчы працавалі наступныя выкладчыкі: штатны наглядчык (дырэктар) і выкладчык рускай мовы Пратасевіч Ілья Усцінавіч (скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт, праваслаўнага веравызнання, на пасадзе з 1867 года, жалаванне – 750 рублёў і казённая кватэра); протаіерэй Каяловіч Іосіф Восіпавіч, настаўнік праваслаўнага веравызнання (скончыў Літоўскую духоўную семінарыю, жалаванне – 225 рублёў); ксёндз Вікенці Раецкі, настаўнік каталіцкага веравызнання (скончыў рымакаталіцкую семінарыю, жалаванне – 190 рублёў); настаўнік матэматыкі Голуб Ніканор Данілавіч, калежскі сакратар (скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт, жалаванне – 575 рублёў); настаўнік малявання і чыстапісання Пятроў Аляксей Пятровіч (скончыў Строганаўскую школу малявання, жалаванне – 510 рублёў)[35]. Менавіта гэтыя людзі былі першымі школьнымі настаўнікамі юнага Кіпрыяна.

Унук генерала, Джордж Рэйні, паведаміў, што менавіта Трубяцкія дапамагалі выхоўваць малога Кіпрыяна, далі магчымасць атрымаць адукацыю і пачаць вайсковую кар'еру. На вайсковую службу будучы генерал паступіў 7 траўня 1875 г.[36] вальнапісаным[37] ў 105-ы пяхотны Арэнбургскі полк, які тады

[33] Jodko Karol. Psie lata. Pamiętnik lidzianina z przed 50 laty // Ziemia Lidzka. 1937. № 10. S. 113.
[34] Там жа.
[35] Адрес-календарь Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. С.-Петербург, 1868. С. 64–65.
[36] Гл.: Lietuviu enciklopedija. Boston, T. 12. S. 318–319.
[37] Руск. *вольноопределяющийся*

дыслакаваўся ў Вільні. У тым жа 1875 г. паступіў і ў 1878 г. закончыў адну з найлепшых вайсковых вучэльняў Расіі – 2-ю вайсковую Канстанцінаўскую вучэльню ў Пецярбургу. Юнкеры тут атрымоўвалі выдатную адукацыю, грунтоўна вывучалі дакладныя навукі: матэматыку, аналітычную геаметрыю, дыферэнцыяльнае і пачатак інтэгральнага лічэння, фізіку, хімію, механіку, чарчэнне. Акрамя агульнаадукацыйных і адмысловых вайсковых навук юнкеры навучаліся пешаму і коннаму шыхту, статутам, гімнастыцы, верхавой яздзе і фехтаванню. У лагерах праходзілі практычны курс стральбы і тапаграфіі з вырашэннем тактычных задач.

16 красавіка 1878 г. Кандратовіч быў выпушчаны падпаручнікам і прыпісаны да лейб-гвардзейскага Егерскага палка. Затым пераведзены ў лейб-гвардзейскі Ізмайлаўскі полк з паніжэннем у чыне – прапаршчыкам (справа ў тым, што чын у арміі лічыўся на ступень меншым за чын у гвардыі)[38].

Так пачыналася жыццё будучага міністра БНР.

[38] Гл.: Военная энциклопедия издания Сытина. Т. 13. СПб., 1914. С. 105.

# Руска-турэцкая вайна, акадэмія

Адразу пасля вайсковай вучэльні малады афіцэр добраахвотнікам узяў удзел у руска-турэцкай вайне 1877– 1878 гг. у шэрагах грэнадзёрскага корпуса. Праз некалькі гадоў пасля вайны капітан Кандратовіч, афіцэр для асобых даручэнняў пры штабе грэнадзёрскага корпуса, у якасці дыпломнай працы ў акадэміі напісаў кнігу «Плеўна і грэнадзёры 28 лістапада 1877 г.»[39] (Плевна и гренадеры, 28 ноября 1877 г. / сост.: Кондратович К. А., Сокол И. Я.; под ред. Маныкина-Невструева А. И. М.: Унив. тип., 1887. X, 223, 61 с., [12] л. ил. Содерж. части: Очерк действий гренадер под Плевною в 1877 году; Плевненский памятник)[40]. Апісваючы месяцы перад адпраўкай корпуса на вайну, ён пісаў: «Грэнадзёры прагна сачылі за весткамі з тэатру вайны. Часта жаўнеры пыталіся ў сваіх афіцэраў: "Чаму нас не бяруць? Ці хапае войскаў за Дунаем?" Балюча было чуць і чытаць аб здзеках турак з балгараў. З пачуццём зайздрасці праводзілі афіцэры і жаўнеры сваіх таварышаў з першай дывізіі, якія выпраўляліся на Каўказ ваяваць з туркамі»[41]. Гэта кніга з'яўляецца фундаментальнай крыніцай і шырока выкарыстоўваецца гісторыкамі руска-турэцкай вайны 1877–1878 гг., за кнігу будучы генерал атрымаў «высочайшую благодарность».

У 1884 г. будучы генерал закончыў Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба па 1-м разрадзе (гэта значыць – быў ся-

[39] БЭ. Т. 7. С. 578.

[40] Кнігу можна прачытаць на сайце http://pawet.net

[41] Плевна и гренадеры, 28 ноября 1877 г. / сост.: Кондратович К. А., Сокол И. Я.; под ред. Маныкина-Невструева А. И. Москва, 1887. С. 23.

род найлепшых). Выпуск 1884 г. – 20 афіцэраў. Конкурс пры паступленні ў акадэмію дасягаў 20 чалавек на месца, пры тым што большасць афіцэраў здавала папярэднія іспыты ў сваіх вайсковых акругах. Кожны год заканчвалі жыццё самагубствам афіцэры, якія не паступілі ў акадэмію ці былі адлічаны пасля першага ці другога года. Акадэмія Генеральнага штаба давала вельмі добрую вышэйшую вайсковую адукацыю, і для «простых» афіцэраў гэта была практычна адзіная магчымасць хуткага службовага росту. Таму і ў арміі, і ў гвардыі выпускнікоў акадэміі не любілі, называлі мянушкамі «мамэнты» ці «фазаны»[42].

Уменне аналізаваць падзеі і пісаць не засталося незапатрабаваным, і пасля акадэміі Кіпрыян Кандратовіч у 1884– 1900 гг., працягваючы службу ў войску, супрацоўнічаў з газетай «Московские ведомости» ў якасці вайсковага аглядальніка.

У 1885–1887 гг. Кандратовіч быў «прыватным выкладчыкам»[43] тапаграфічнага чарчэння ў Аляксандраўскай вайсковай вучэльні, якая мясцілася ў Маскве.

[42] Наша слова. 2007. № 40 (828).
[43] Пазаштатным выкладчыкам.

# Паўстанне «баксёраў»

На мяжы XIX і XX ст. Кітайская імперыя апынулася ў вельмі цяжкім стане. Кіруючая дынастыя Цын захоўвае ўладу ўжо тры стагоддзі, але каля паловы стагоддзя Кітаем кіруюць вельмі маладыя і непадрыхтаваныя людзі. Пры гэтым краіну рэальна ўзначальвае імператрыца Цы Сі – былая наложніца імператара, якая здолела ўзяць уладу ў свае рукі.

У 1890-я гг. кітайская эліта складаецца з двух супрацьлеглых груп. Кансерватары (атачэнне імператрыцы Цы Сі) не хочуць рэформаў і арыентуюцца на дапамогу Расіі. Іншая, больш малалікая група, хоча мадэрнізацыі і арыентуецца на Брытанію і Японію, якая дзякуючы імператару Мэйдзі адкрылася Захаду ў 1860–1880-я гг. Імператар Гуансюй хоча пераўтварэнняў, але баіцца сваёй прыёмнай маці, імператрыцы Цы Сі. Тым не менш Гуансюй пераходзіць у наступ. З чэрвеня 1898 г. імператар пачынае выдаваць рэфарматарскія ўказы: аб стварэнні Пекінскага ўніверсітэта, аб будаўніцтве чыгунак, аб рэарганізацыі кітайскай арміі па еўрапейскім узоры, аб тэрміновым перакладзе замежных кніг, аб закупцы паравых машын і папулярызацыі машыннай тэхнікі, аб барацьбе з незаконнымі паборамі і г. д. Рэформы працягваюцца сто дзён і заканчваюцца ў верасні. Імператрыца Цы Сі здзяйсняе пераварот – імператара арыштоўваюць і саджаюць пад хатні арышт. Амаль усе ўказы, выдадзеныя за «сто дзён рэформаў», адмяняюцца, пачынаецца хваля антырэфарматарскіх рэпрэсій. Бліжэйшых дарадцаў імператара караюць смерцю без суда.

Рэпрэсіі супраць прыхільнікаў рэформ набіраюць сілу. Імператрыца і яе двор абвінавачваюць ва ўсіх праблемах знешніх ворагаў, якія навязалі Кітаю зневажальныя дагаворы і балючыя рэформы. У 1900 г. пачынаецца так званае паўстанне іхэцюаней[44], на самай справе гэта не зусім паўстанне, а кіруемая ўладамі хваля пагромаў і нападаў на замежнікаў і на «нацыянальных здраднікаў» – кітайскіх хрысціян.

Еўрапейцы называюць паўстанцаў «баксёрамі». Сітуацыя вельмі хутка выходзіць з-пад кантролю: у Пекіне пачынаюць забіваць дыпламатаў, па ўсёй краіне паляць хрысціянскія храмы. Паўстанцаў падтрымалі кітайскія вайсковыя часткі. У чэрвені «баксёры» дайшлі да Пекіна, па дарозе яны знішчаюць усіх замежных грамадзян і хрысціян-кітайцаў.

«Баксёрскае паўстанне» ў Кітаі разгараецца, еўрапейская прэса штодзень апісвае жахлівыя пагромы. Ствараецца міжнародная кааліцыя для ўварвання ў Кітай і падаўлення іхэцюаней. Свае войскі ў Кітай пасылаюць Расія, Брытанія, Францыя, Германія, Італія, Аўстра-Венгрыя, ЗША і Японія. Адзінае рашэнне было прынята ў еўрапейскіх сталіцах вельмі хутка, бо «баксёры» не рабілі адрознення паміж еўрапейцамі: яны бязлітасна знішчалі ўсіх «белых чарцей». 20 чэрвеня іхэцюані пачынаюць аблогу пасольскага квартала ў Пекіне, 21 чэрвеня імператрыца Цы Сі аб'яўляе вайну ўсім васьмі замежным дзяржавам, якія ўвялі войскі. У ноч з 23 на 24 чэрвеня ў Пекіне адбываецца «кітайская Варфаламееўская ноч»: пазверскі вынішчаюцца амаль усе хрысціяне, якія там жывуць.

У Пекін ідуць саюзныя вайсковыя кантынгенты. На пост галоўнакамандуючага міжнароднай карнай экспедыцыяй германскі імператар Вільгельм II прапанаваў 68-гадовага генерал-фельдмаршала Альфрэда фон Вальдэрзее. Але пакуль германскі генерал-фельдмаршал прыбыў на тэатр ваенных дзеянняў, барацьба з «баксёрамі» была ў асноўным ужо завершаная. З порта Цяньцзінь на сталіцу Цынскай імперыі Пекін выступіў міжнародны 20-тысячны экспедыцыйны корпус пад камандаваннем рускага генерала М. П. Ліневіча і адмірала

[44] Ініцыятарам паўстання з’явілася таемнае рэлігійнае таварыства «Іхэцюань» («Кулак у імя справядлівасці і згоды»). У сувязі з тым, што ў назву таварыства ўваходзіла слова «цюань» (кулак), замежнікі назвалі паўстанцаў «баксёрамі» а само паўстанне – «баксёрскім».

Я. І. Аляксеева (9 000 японцаў, 4 000 рускіх, 6 000 англічан, амерыканцаў, французаў і інш.). Саюзнікі штурмам авалодалі кітайскай сталіцай і вызвалілі дыпламатычны квартал, абаронцы якога вытрымалі 54-дзённую аблогу кітайцаў[45]. У каштоўнай крыніцы аб падзеях таго часу ў Кітаі – кнізе «У стен недвижного Китая. Дневник корреспондента "Нового Края" на театре военных действий в Китае в 1900 году» Дзмітрыя Янчавецкага[46] – на старонцы 472 чытаем: «24-га жніўня ў Пекін на тройцы прыбыў камандуючы войскамі віцэ-адмірал Я. І. Аляксееў, сустрэты перад варотамі Пекіна начальнікам вайсковых шляхоў палкоўнікам Кандратовічам. Прыняўшы рапарт (Кандратовіча – Л. Л.), адмірал праехаў у Імператарскую Расійскую місію…».



*Генерал-маёр Кандратовіч падчас паўстання «баксёраў»*

У 1900 г. з фармулёўкай «за баявыя адзнакі» раней тэрміну Кандратовічу прысвоена званне генерал-маёра[47].

Тым часам узмацняюцца антырасійскія хваляванні ў Маньчжурыі, усё часцей адбываюцца напады на будаўнікоў чыгункі, якую пракладваюць у бок Порт-Артура. У ліпені 1900 г. іхэцюані (у іх ліку апынуліся і мясцовыя кітайскія войскі) напалі на Усходне-Кітайскую чыгунку: з 1300 вёрст чыгуначнай каляі было разбурана каля 900 вёрст. Сотні мірных людзей – чыгуначнікі і члены іх сем'яў – былі забітыя. Справа дайшла да таго, што войскі ціцікарскага губернатара Шоў Шаня пераправіліся цераз Амур і атакавалі горад Благавешчанск, узялі ў аблогу сталіцу Усходне-Кітайскай

[45] Гл.: Шишо А. В. Неизвестные страницы русско-японской войны: 1904– 1905 гг. Москва, 2004. С. 9–15.

[46] Гл.: Янчевецкий Д. У стен недвижного Китая. Дневник корреспондента «Нового Края» на театре военных действий в Китае в 1900 году. СПб. – Порт-Артур, 1903. С. 472.

[47] Гл.: Военная энциклопедия издания Сытина. Т. 13. С. 105.

чыгункі (КВЖД) горад Харбін, спрабуючы знішчыць расійскіх будаўнікоў чыгункі. Гэта былі сапраўды драматычныя падзеі.

У Маньчжурыю былі ўведзены расійскія войскі. Падчас баёў з атрадамі «баксёраў» расійскія войскі страцілі 242 чалавекі забітымі і 1283 параненымі. Кітайскія рэгулярныя войскі былі хутка разбітыя, а для барацьбы са шматлікімі дробнымі атрадамі створаны лятучыя атрады расійскага войска. Д. Янчавецкі на старонках 604–607 піша: «23 верасня выйшаў з Мукдэна лятучы атрад пад начальствам Генеральнага штаба генерала Кандратовіча, начальніка вайсковых шляхоў, у складзе пяхоты і артылерыі (падпалкоўнік князь Крапоткін), конніцы (есаул Мадрытаў) і сапёраў. Мэтай гэтага атрада было ўсталяваць зносіны па рацэ Ляохэ і яе прытоку Хунхэ, які праходзіць побач з Мукдэнам, для таго, каб дастаўляць транспарты вадою…

Генерал Кандратовіч прайшоў увесь прызначаны шлях, меў у шматлікіх месцах перастрэлку з кітайскімі войскамі і "баксёрамі" і ўпершыню ўсталяваў сувязь па рацэ Ляохэ паміж Мукдэнам і Інкоў. На генерала Кандратовіча ў кампанію 1900 года была ўскладзена вельмі цяжкая, складаная і адказная справа: забеспячэнне вайсковых шляхоў зносін і арганізацыя тылу на вялізным абшары – ад Пекіна да Мукдэна.

Дзякуючы яго намаганням неўзабаве пасля ўзяцця Пекіна і Мукдэна быў праведзены нашымі сапёрамі рускі вайсковы тэлеграф паміж Порт-Артурам і гэтымі гарадамі. Таксама дзякуючы настойлівасці генерала Кандратовіча хутка быў адноўлены кітайскі тэлеграф, разбураны ў Маньчжурыі "баксёрамі". З дапамогай гэтага тэлеграфа былі ўсталяваны прамыя тэлеграфныя зносіны паміж Порт-Артурам і Сібір'ю, дзякуючы чаму Пецярбург атрымаў магчымасць мець сувязь непасрэдна з Маньчжурыяй і Квантунам па рускім тэлеграфе, не звяртаючыся да замежных кабеляў. Пасля генерал Кандратовіч быў начальнікам атрадаў, якія пасылаліся ўглыб Маньчжурыі для ўціхамірвання краіны… цяжкія і працяглыя экспедыцыі генералаў Кандратовіча, Цярпіцкага і Каўльбарса ў горы Маньчжурыі толькі раскідалі гнёзды "баксёраў", але не знішчылі іх. Некалькі тысяч "баксёраў" і іх галоўны правадыр… Ліўданьцэр (па-беларуску: шэсць

шрацінак) здаліся рускім… Але тысячы іх яшчэ хаваліся ў лясах і скалах Маньчжурыі, каб рабаваць і гвалціць»[48].

Буйныя групоўкі кітайскага супраціву ў Маньчжурыі былі разгромлены і ліквідаваны да канца 1901 г. шмат у чым дзякуючы палітыцы рускіх военачальнікаў, якія здолелі прыцягнуць на сваю службу нават былых паўстанцаў. Напрыклад, у 1902 г. генерал Кандратовіч схіліў на свой бок 4000 такіх ваяроў[49].

Вынікам вайсковай аперацыі стала акупацыя Маньчжурыі рускімі войскамі. Афіцыйна абвешчана, што акупацыя будзе доўжыцца толькі да таго часу, пакуль не скончыцца «баксёрская» смута. Але рускія не збіраюцца пакідаць Маньчжурыю, нягледзячы на тое, што іх місія выканана.

Завяршаецца першая, самая ўдалая і найбольш невядомая вайна цара Мікалая II, так званы кітайскі паход. Расія дэ-факта захоплівае паўночны ўсход Кітая, Пецярбург шчаслівы, бо павялічыў свае ўладанні. У атачэнні цара ўжо фантазіруюць пра тое, як будуць асвойваць «Жоўтаросію» (так пачынаюць называць гэты рэгіён), думаюць, ці трэба перасяляць у гэтую зону рускіх каланістаў, ці варта ствараць там мясцовы казачы корпус?

[48] Янчевецкий Д. У стен недвижного Китая... С. 472.
[49] Сухачёва Г. А. Историки о борьбе с хунхузами в период восстания ихэтуаней (1900–1901 гг.) // Россия и АТР. 2009. № 3. С. 14.

# Руска-японская вайна

Удача ў кітайскай вайне акрыляе імператара. Мікалай II прагне новых і новых перамог. Ён усё менш прыслухоўваецца да перасцярог і ўсё больш схіляецца да авантурных праектаў. Напрыклад, адстаўны афіцэр і ўлюбёнец цара Аляксандр Безабразаў прыдумвае план «паўзучай акупацыі» Карэі. Па яго ідэі, Расія павінна паступова скупіць як мага больш зямлі ў гэтай краіне, каб хутчэй узяць яе пад свой кантроль, пакуль гэтага не зрабіла Японія. Для пачатку ствараецца прыватнае прадпрыемства – Рускае лесапрамысловае таварыства, якое пачынае асвойваць лес у басейне ракі Ялу, паміж Карэяй і Кітаем.

Летам 1902 г. імператар едзе ў Талін (тады – Рэвель) на марскія манеўры. У чэрвені да яго далучаецца германскі імператар Вільгельм II. Пры расставанні, калі яхта Вільгельма адыходзіць, германскі імператар дасылае пасланне: «Адмірал Атлантычнага акіяна шле прывітанне Адміралу Ціхага акіяна». Такім чынам Вільгельм II кажа рускаму цару, што будзе імкнуа да дамінуючага становішча ў Атлантычным акіяне, і падтрымліваць Расію ў тым, каб яна дамінавала ў Ціхім акіяне – немцы мараць падарваць саюз Францыі і Расіі.

Мікалаю падабаецца ідэя стаць уладаром Ціхага акіяна і карэйская экспансія працягваецца – пры гэтым Расія цалкам ігнаруе Японію, усе спробы японскіх дыпламатаў пачаць перамовы аб супрацоўніцтве ў Карэі застаюцца без адказу. Японцы ўсё больш адчуваюць сябе абражанымі і не жадаюць перат-

варэння ў расійскую правінцыю ўсёй Маньчжурыі. У ліпені 1903 г. цар Мікалай пераўтварае былыя кітайскія тэрыторыі ў Далёкаўсходняе намесніцтва. Да таго моманту падобны статус ёсць толькі ў Каўказа – адмысловага рэгіёну Расійскай Імперыі, дзе ў тыя часы поўным ходам праводзіцца палітыка русіфікацыі. Расія афіцыйна пачынае асвойваць Кітай. Трызненні аб «Жоўтаросіі» ўзмацняюцца. Вайна з Японіяй непазбежная.

Пасля вайны 1900 г. генерал Кандратовіч застаўся служыць на Далёкім Усходзе. У войску ён лічыўся адмыслоўцам па Кітаі і, акрамя сваіх асноўных абавязкаў, займаўся кантактамі з мясцовым насельніцтвам і адказваў за выведку. З справаздачы № 1 «Аб дзейнасці выведвальнага аддзялення Штаба Маньчжурскай Арміі» (ад пачатку вайны па 25 лютага 1905 г.): «На пачатку кампаніі, адпаведна тагачаснаму размяшчэнню нашых войскаў… выведка праз лазутчыкаў кітайцаў і карэйцаў была ўскладзеная… у паўднёвым авангардзе на начальніка 9-й Усходне-Сібірскай стралковай дывізіі генерал-маёра Кандратовіча. Таемная выведка ў паўднёвым авангардзе… была ўскладзеная на пачатку сакавіка 1904 г. на генерал-маёра Кандратовіча, таму што ён служыў раней у Маньчжурыі, меў знаёмых кітайцаў і мясцовых місіянераў»[50].

Да пачатку вайны з Японіяй Расія хутка павялічвае колькасць сваіх войскаў на Далёкім Усходзе. Кандратовічу даручана сфармаваць у Паўднёвай Маньчжурыі 9-ю Усходне-Сібірскую брыгаду з 4 палкоў 3-батальённага складу. 30 студзеня 1904 г. пачалося дафармаванне брыгад новымі батальёнамі. Але да пачатку вайны паспелі павялічыць толькі 9-ю брыгаду. 18 лютага 1904 г. Кандратовіч завяршыў фармаванне сваіх войскаў. 6 лютага пачалося фармаванне 1-га Усходне-Сібірскага корпуса ў складзе 3-й, 4-й, 9-й брыгад. Да лета 1904 г. 9-я брыгада папаўняецца новымі батальёнамі і становіцца 9-й Усходне-Сібірскай дывізіяй. Камандзірам 9-й Усходне-Сібірскай дывізіі прызначаецца генерал К. А. Кандратовіч. Дывізіённы дабрачынны а. Георгі Шавельскі, які, дарэчы, таксама быў беларусам, пісаў, што адносіны з афіцэрамі дывізіі былі складанымі, напрыклад, «палкоўнік Лісоўскі дэманстраваў яму сваю непавагу, і ён [Кандратовіч]… цярпліва зносіў гэта». Цяжка сказаць,

[50] Деревянко И. «Белые пятна» русско-японской войны. Русская разведка и контрразведка в войне 1904–1905 гг. М., 2005. С. 15.

чым былі выкліканы такія адносіны да свайго камандзіра, магчыма, яго «нізкім» паходжаннем, але стрыманасць генерала не можа не выклікаць павагі. Тым больш што дывізія была адна з найлепшых, і яна зрабіла імя Кандратовічу[51]. Наогул, Кандратовіч быў элегантным, вытанчаным і вельмі патрабавальным афіцэрам.

Руска-японская вайна пачалася 27 студзеня 1904 г. з міннай атакі японцамі рускай эскадры ў Порт-Артуры. Вайна ішла беспаспяхова для расійскай арміі. 2 чэрвеня Першы корпус генерала Штакельберга, у склад якога ўваходзіла дывізія Кандратовіча, атрымаў паражэнне пад Вафангоў ад войскаў японскага генерала Оку. Згодна з дыспазіцыяй рускія наступалі трыма калонамі, «…агульнае кіраўніцтва над сярэдняй і правай калонамі даручаецца начальніку 9-й дывізіі генерал-маёру Кандратовічу»[52]. У бітве на р. Шахе напрыканцы верасня 1904 г. войскі 1-га Сібірскага корпуса вялі наступ на перавалы Чангаўлін, Заходні і Усходні Тумылін з мэтай захопу гэтых перавалаў. Кандратовіч кіраваў левай калонай з 9-ці батальёнаў і вёў наступ на перавал Заходні Тумылін[53]. У кнігах па гісторыі гэтай вайны імя Кандратовіча ўспамінаецца шмат разоў.

На гэтай вайне 13 студзеня 1905 г. на камандным пункце генерал атрымаў скразное раненне ў грудзі, сведкам ранення быў А. А. Ігнацьеў, які апісаў яго ў сваіх мемуарах[54]. Аб раненні камандзіра дывізіі паведамляла газета «Рускі інвалід»[55].

---

[51] Гл.: О. Гергий Шавельский. Воспоминания последнего Протопресвитера русской армии и флота. Т. I. Нью-Йорк: Издательство им. Чехова, 1954. С. 155.

[52] Русско-японская война 1904–1905 гг. Т. II. Спб., 1910. С. 10–12.

[53] Гл.: Куропаткин А. Н. Русско-японская война, 1904–1905: Итоги войны. СПб.: Полигон, 2002. С. 309.

[54] Гл.: Игнатьев А. А. 50 лет в строю. Петрозаводск, 1963. С. 294.: «Бой разгорался с каждой минутой. Загремела артиллерия. Хэгоутай огласился разрывами шимоз. Сперва они летели только с востока, потом откуда-то с юга, где развертывалась наша 9-я дивизия Кондратовича… потери росли.
– Алексей Алексеевич, я ранен, – сказал мне неожиданно стоявший рядом со мной генерал Кондратович, повиснув на моей руке. – Начальник штаба – распоряжайтесь!
Кондратович оказался прав, так как, взглянув на его спину, я заметил в его шинели выходное отверстие пули. Подбежали санитары, а Штакельберг (командир 1-го корпуса. – *Л. Л.*) тем же ровным сухим голосом, которым он отдавал все распоряжения, негромко сказал:
– Сдайте командование, генерал, желаю вам скоро поправиться…»

[55] Рускі інвалід. 18.01.1905. № 13. С. 3.

А 17 ліпеня 1906 г. Кандратовіч быў узнагароджаны ордэнам Святога Георгія 4-й ступені «за заслугі ў справах супраць японцаў». У загадзе аб узнагароджанні было напісана: «За тое, што будучы 16-га і 18-га жніўня 1904 года начальнікам баявога ўчастка на перадавых Ляалянскіх пазіцыях ля вёскі Фанцзятунь, ён, дзякуючы добраму кіраванню, асабістай мужнасці і ўмеламу выдаткоўванню сіл свайго малога атрада, адбіў шматлікія шалёныя атакі праціўніка, які пераўзыходзіў у шмат разоў у ліку наш слабы атрад; 18-га жніўня, калі з прычыны вялізнага змяншэння людзей у дывізіі становішча атрада стала крытычным і прарыў пазіцыі супраціўнікам зрабіўся непазбежным, генерал-лейтэнант Кандратовіч, па асабістай сваёй ініцыятыве і насуперак загаду камандзіра корпуса, зрушыў бліжэйшыя да пазіцыі часткі карпуснога рэзерву (2 батальёны 18-га Усходне-Сібірскага стралковага палка), асабіста накіраваў іх на больш пагражальныя ўчасткі пазіцыі, чым абараніў пазіцыю і выратаваў ад непазбежнай згубы рэшткі сваёй дывізіі»[56].

Дадам, што дзед аўтара гэтай кнігі, Васіль Гаўрыілавіч Лаўрэш (Лаўрыш), як кадравы шараговец расійскага войска прайшоў свой жаўнерскі шлях на той вайне ад пачатку да самага канца і быў узнагароджаны жаўнерскім Георгіеўскім крыжам «за ўратаванне афіцэра на полі бою».

* * *

На здымку, надрукаваным у часопісе «Летапіс вайны з Японіяй» за 1904 г.[57], побач сядзяць генерал К. Кандратовіч, падпалкоўнік Ю. Доўбар-Мусніцкі, шталмайстар двара Радзянка, карэспандэнт «Новага часу» Растоўцаў і іншыя афіцэры.

Кандратовіч на 8 гадоў старэйшы за Юзафа Рамуальдавіча Доўбар-Мусніцкага (1867–1937), але абодва афіцэры скончылі адну з лепшых у Расіі 2-ю вайсковую Канстанцінаўскую вучэльню ў Пецярбургу, абодва служылі ў элітным грэнадзёрскім корпусе і потым скончылі Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба. Аднакашнік па акадэміі Доўбар-Мусніцкага Ігнацьеў А. А. пісаў: «Пасля заканчэння акадэміі я быў, як і многія, здзіўлены, прачытаўшы ў загадзе, што, згодна з

[56] Наша слова. 10 кастр. 2007. № 40 (828).
[57] Летопись войны с Японией. № 73–1905. С. 1440.



*На здымку, надрукаваным у часопісе «Летапіс вайны з Японіяй» за 1904 г.: генерал К. Кандратовіч, Ю. Доўбар-Мусніцкі, шталмайстар двара Радзянка, карэспандэнт «Новага часу» Растоўцаў і інш.*

прадстаўленымі капітанам Доўбарам дакументамі, прозвішча яго варта дапоўніць і называць надалей – Доўбар-Мусніцкі. Тлумачылася гэта проста. Акадэмія была закрыта для афіцэраў польскага паходжання. Выбраўшы сабе за мэту яе скончыць, ён насіў на працягу ўсіх першых гадоў службы скарочанае прозвішча і выдаваў сябе за лютэраніна (Доўбар-Мусніцкі і насамрэч быў евангеліцка-рэфармацкага веравызнання – Л. Л.). Я сустрэў яго на маньчжурскай вайне, дзе ён выявіў сябе... адважным афіцэрам штаба геройскага 1-га Сібірскага корпуса. І, нарэшце, значна пазней, у Парыжы, я атрымаў ад яго ліст, у якім генерал Доўбар-Мусніцкі, былы камандзір рускага армейскага корпуса, тлумачыў мне прычыны свайго пераходу ў польскую армію»[58]. Кандратовіч таксама на пачатку

[58] Игнатьев А. А. Пятьдесят лет в строю. Кн І. Москва, 1986. С. 94.

Першай сусветнай вайны камандаваў армейскім корпусам. А пасля 1917 г. генералы – адзін, які нарадзіўся пад Лідай, і другі, народжаны ў Гарбаве каля Сандаміра – фармавалі нацыянальныя войскі. Доўбар-Мусніцкі ў 1917 г. са згоды Вярхоўнага галоўнакамандуючага Карнілава арганізаваў на Заходнім фронце 1-ы польскі корпус і 25.01.1918 г. аб'явіў вайну бальшавікам (так званы «Мяцеж Доўбар-Мусніцкага»). Потым служыў у польскім войску і ў 1919 г. камандаваў войскамі ў час Вялікапольскага паўстання ў былой прускай Польшчы. Быў вельмі ўплывовым палітычным праціўнікам Пілсудскага і, таксама як і «маршалак», прэтэндаваў на вядучае становішча ў пасляваеннай Польшчы. Аднак перамог Пілсудскі, і Доўбар-Мусніцкі ў чыне генерала броні быў вымушаны выйсці ў адстаўку. Ён на 5 гадоў пеpажыў генерала Кандратовіча.

І дзесьці тут, на той самай Руска-японскай вайне, ваявалі яшчэ два афіцэры, якія самым непасрэдным чынам прычыніліся да стварэння сваіх нацыянальных дзяржаў: украінец, праправнук брата гетмана Івана Скарападскага (гетман у 1708–1722), будучы «Яго Светласць Яснавяльможны Пан Гетман усяе Украіны» ў 1918 г. Павел Пятровіч Скарападскі (1873–1945), які, як заўважаў той самы Ігнацьеў, заўжды ганарыўся сваім украінствам, легендарны стваральнік незалежнай Фінляндыі і швед па паходжанні Карл Густаў Эміль Манэргейм (1867–1951).

Чаму польскі і фінскі генералы другую палову жыцця пражылі ў пашане ў сваіх незалежных дзяржавах, і ў канцы жыцця пісалі мемуары, а беларускі і ўкраінскі – не?

Пытанне, я думаю, рытарычнае...

# Паміж войнамі

Пасля выздараўлення Кіпрыян Кандратовіч быў прыкамандзіраваны да Галоўнага штаба, а на пачатку 1907 г. меней за месяц (02.01.1907–25.01.1907) быў камандзірам 2-га вайсковага корпуса, штаб якога знаходзіўся ў Гродна. Выглядае на тое, што камандаванне вырашыла даць магчымасць цяжка параненаму генералу пабыць на радзіме перад чарговым прызначэннем у Азію. Бо ўжо 25 студзеня 1907 г. генерал-лейтэнант К. А. Кандратовіч прызначаецца памочнікам Туркестанскага генерал-губернатара і камандуючага войскамі Туркестанскай акругі генерала Самсонава і адначасова начальнікам штаба Сямірэчанскага казачага войска ў г. Ташкент[59]. Камандуючым войскамі акругі быў аднагодак Кандратовіча і аднакашнік па Акадэміі Генеральнага штаба (таксама выпуск 1884 г.) генерал А. В. Самсонаў.

Пасада Кандратовіча ў Сярэдняй Азіі – гэта пасада адміністратара. Напрыклад, у адміністрацыйнай кнізе туркестанскага губернатара подпісы генерала з візай «Зацвярджаю, намеснік генерал-губернатара генерал-лейтэнант Кандратовіч» стаяць на паперах аб атрыманні крэдыту на насенне 294 кіргізам, якія пакутавалі ад неўраджаю (15 траўня 1909 г.), «аб выдачы крэдыту ў памеры 2 465 р. на насенне для 58 арандатараў, з якіх 57 туземцаў і 1 рускі» (23 траўня 1909 г.), аб абкладанні падаткамі жыхароў Бухары[60].

---

[59] Военная энциклопедия издания Сытина. Т. 13. С. 105.

[60] Наша слова. 2003. № 9 (596), № 10 (597), № 11 (598).

У той час яшчэ не заціхла рэха першай рускай рэвалюцыі, і барацьба з рэвалюцыянерамі таксама ўваходзіць у абавязкі К. А. Кандратовіча. Увесну 1907 г. удзельнікі семірэчанскай рэвалюцыйнай групы сацыялістаў наладзілі ў горадзе Верным (цяпер Алматы) выпуск газеты «Абстрэл» (па дадзеных паліцыі, з красавіка да канца жніўня 1907 г. выйшла 5 нумароў газеты). У 5-м нумары «Абстрэла» артыкул «Нашы героі» напісаны з нагоды прыезду ў Верны памочніка туркестанскага генерал-губернатара Кандратовіча, «які… атрымаў поспех па частцы вышуку, у чым яму дапамог віцэ-губернатар Осташкін». У артыкуле згадваецца выпадак, звязаны з «выяўленнем у бясплатнай чытальні дзвюх забароненых брашур. Па даручэнні Кандратовіча старэйшым дарадцам Пантусавым быў зроблены агляд гэтай чытальні, у выніку чаго знайшлі яшчэ дзве такія самыя брашуры… За гэта бібліятэка і кніжны склад былі зачынены». Кандратовіч арыштаваў тапографа Макарава за захаванне нелегальнай літаратуры… Падчас знаходжання генерала Кандратовіча ў горадзе Верным ён падняў пытанне аб бясплатнай адпраўцы салдацкіх лістоў, але на гэта не знайшлося сродкаў у бюджэце[61].



*Генерал Кандратовіч пасля руска-японскай вайны*

Наогул, як адзначалася ў афіцыйнай «Запісцы аб праявах рэвалюцыйнага характару ў Туркестанскім краі за перыяд з лістапада 1905 да лістапада 1906 г.», антыўрадавая агітацыя вялася асабліва актыўна. Сярод насельніцтва распаўсюджвалася мноства пракламацый, накіраваных супраць улады з заклікамі да супраціву са зброяй у руках. Гэта агітацыйна-прапагандысцкая праца сярод сялян прыносіла

[61] Центральный государственный архив города Алматы. Журнал «Вестник архивной службы». 2008. № 1 // Кривков А. Нелегальная газета «Обстрел» в городе Верном. http://www.cgaa.kz/magazine/2/2.jsp.

свой плён. Туркестанскі генерал-губернатар звязваў абвастрэнне аграрнага руху з дзейнасцю рэвалюцыйнай сацыялдэмакратыі. Дакладаючы 24 снежня 1905 г. вайсковаму міністру аб сваёй паездцы па Сямірэччы, ён падкрэсліў, што аграрныя беспарадкі не прынялі б шырокага размаху без рэвалюцыйнай прапаганды.

Увесну і ўлетку 1907 г. у Пішпекскім павеце (Кыргызстан) успыхнулі хваляванні сярод сялян. «Першыя просьбы, якія былі заяўлены мне, – пісаў у сваёй справаздачы аб выніках паездкі ў Сямірэчанскую вобласць у траўні – жніўні 1907 г. генерал-лейтэнант Кандратовіч, – пры ўездзе ў вобласць у сяле Карабалцінскім, а затым у наступных пунктах, аж да Пішпека, былі аб зямлі. Адны (перасяленцы, сяляне…) прасілі аб адводзе і павелічэнні зямельных надзелаў, іншыя (кіргізы) жаліліся на адабранне ў іх зямлі для новых рускіх селішчаў або прасілі аб ураўнанні сваіх правоў з сялянамі (рускімі перасяленцамі – Л. Л.)»[62].

Займаўся генерал і вырашэннем важкіх эканамічных праблем края. Напрыклад, у лістападзе 1909 г. газета «Новое время» пісала: «Ташкент. У прысутнасці памочніка генерал-губернатара Кандратовіча ў Туркестане зроблены выпрабаванні першай артэзіянскай студні для арашэння. Прадпрыемства, якое мае вялікае значэнне для Туркестанскага края і прамысловасці, увянчалася поспехам»[63].

6 снежня 1910 г. Кандратовічу нададзена годнасць генерала ад інфантэрыі (поўны генерал)[64], найвышэйшае вайсковае званне Расійскай Імперыі ў мірны час. Генерал ад інфантэрыі – гэта прыблізна генерал-палкоўнік у сучасным войску. Вышэйшае званне ў расійскай арміі – фельдмаршал, але ў той час амаль на працягу 50 гадоў гэтае званне не прысвойвалася, і, фактычна, годнасць генерала ад інфантэрыі (ад артылерыі, ад кавалерыі – «поўныя генералы») была найвышэйшай у войску. Поўныя генералы насілі генеральскія пагоны без зорак з кантам колеру, залежным ад роду войскаў, генералы ад інфантэрыі – з чырвоным кантам. У 1913 г. у

[62] Мухлынин Б. Ф. Очерк по истории села Беловодское. Революционное движение накануне Октябрьской Революции. http://belovodskoe.potwater.kg/? q=node/21.

[63] Новое время. 1909. № 12108.

[64] Гл.: Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. М., 2000. С. 181.

расійскай арміі было 177 поўных генералаў, пры гэтым толькі трохі больш за палову з іх мелі вышэйшую адукацыю пры сярэднім узросце 66,5 гадоў. Самым маладым (ва ўзросце 54 гады) з іх, нават праз 3 гады пасля атрымання чына, быў генерал ад інфантэрыі Кандратовіч[65].

1 студзеня 1910 г. генерал Кандратовіч прызначаецца камандзірам 1-га Каўказскага армейскага корпуса і адначасова памочнікам генерал-губернатара ў Тыфлісе[66]. І менавіта тут ва ўзросце 51 года Кіпрыян Антонавіч пабраўся шлюбам з Адай фон Рыхтэр (1879(?) – 1954). Ада Гвідаўна фон Рыхтэр (Ada von Richter) – дачка расійскага генерала фон Рыхтэра, нарадзілася ў Рызе, выпускніца Смольнага інстытута ў Санкт-Пецярбургу. У 1912 г. у Тыфлісе нарадзілася дачка Вера. Бацька Ады – генерал-лейтэнант Гвіда Казіміравіч Рыхтэр[67], саслужывец Кіпрыяна Антонавіча па Туркестане[68].

18 лютага 1910 г. у газеце «Новое время» адзін з уплывовых вайсковых аглядальнікаў «патрыятычнага» кірунку М. В. Меншыкаў у артыкуле «Ці можа Расія ваяваць», ацэньваючы перспектывы будучай сусветнай вайны, пісаў: «У нашых заходніх суседзяў толькі нешматлікія камандзіры карпусоў

---

65 Колпаков Ф. Н. Уровень, далекий от благополучного. Состояние российского генералитета на пороге Первой мировой войны // Независимое военное обозрение. 12 августа 2005.

66 Военная энциклопедия издания Сытина. Т. 13. С. 105.

67 Рыхтэр Гвіда Казіміравіч (25.06.1855–17.03.1919), генерал ад інфантэрыі. Закончыў Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба (1881 г.). Быў начальнікам штаба Туркестанскай ваеннай акругі. З 01.05.1910 да 31.01.1915 – камандзір 16-й пяхотнай дывізіі. Загінуў 17 сакавіка 1919 г. – закатаваны бальшавікамі. У Бруселі ў праваслаўным храме расійскіх пакутнікаў сярод іншых знаходзіцца персанальная мемарыяльная дошка пад № 46: «фон РЫХТЭР Гвіда Казіміравіч (1855–1919)…».
Сын генерала – Рыхтэр Уладзімір Гвідавіч (1886–1968). Закончыў Пажскі корпус (1907), Мікалаеўскую кавалерыйскую вучэльню (1908). Штаб-ротмістр 4-га ўланскага палка. Палкоўнік. У чэрвені 1919 г. паступае ў Войска Польскае. Камандуе эскадронам у Татарскім палку імя Ахматовіча, а затым у 13-м уланскім Віленскім палку. Пры абароне Плоцка ў жніўні 1920 г. быў паранены і ўзнагароджаны медалём. У 1921 г. выйшаў у адстаўку. Потым эміграцыя – у Іспаніі, Францыі, Марока, Італіі. У 1936 г. вяртаецца ў Польшчу. Памёр у Варшаве. Аўтар некалькіх кніг па ваеннай гісторыі. Супрацоўнік Нумізматычнага аддзела Брытанскага музея і карэспандэнт Медальнага кабінета Парыжскай нацыянальнай бібліятэкі.

68 Общий список Офицерским чинам Русской императорской армии. СПб., 1909. С. 105.

нюхалі порах, у нас жа 10000 начальнікаў розных ступеняў ваявалі. Генералы Самсонаў… Кандратовіч… складаюць цэлую плеяду. Усё яны дасведчаныя ільвы ў мундзірах»[69].

15 жніўня 1913 г., у прадчуванні вайны, Кандратовіч прызначаецца камандзірам 23-га армейскага корпуса 2-й арміі. Камандуючым 2-й арміі за тры тыдні да пачатку вайны прызначылі генерала ад кавалерыі Самсонава[70]. Самсонаў, кавалерыйскі камандзір велізарнай асабістай мужнасці, займаў адказныя штабныя (у тым ліку і ў Варшаўскай акрузе) і адміністрацыйныя пасады, але сам не камандаваў нават корпусам[71].

Для Кандратовіча гэтае прызначэнне азначала вяртанне дамоў.

---

[69] Гл: Меньшиков М. О. Из писем к ближним. Москва, 1991. С. 129.

[70] Гл.: Залесский К. А. Первая мировая война: биографический энциклопедический словарь. М., 2000. С. 423.

[71] Гл.: Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. С. 172–200.

# Першая сусветная вайна

1 жніўня 1914 г. у 17.00 Германія аб'явіла вайну Расіі.

Згодна з планамі расійскага камандавання, вайна павінна была пачацца з дзеянняў расійскай арміі супраць Усходняй Прусіі: 1-я расійская армія генерала Рэненкампфа наступае з усходу, з раёна Вільні, адначасова з ёй 2-я армія генерала Самсонава наступае з поўдня, з раёна Варшавы. Аднак яшчэ ў красавіку 1914 г. на камандна-штабной гульні ў Кіеве, якую праводзіў вайсковы міністр Сухамлінаў і ў якой бралі ўдзел усе камандзіры карпусоў і армій, у тым ліку і Кандратовіч, стала зразумела, што 2-я армія абавязкова спозніцца з-за адсутнасці дарог у зоне яе высоўвання. Гэта дасць магчымасць манеўру немцам і прывядзе да разгрому. Як быць? Вышэйшае вайсковае кіраўніцтва знаходзіць «бліскучае» выйсце. Даецца ўводная, што ў Францыі саюзнікі перамагаюць, немцы вось-вось атрымаюць паражэнне і нічога не робяць на ўсходзе дзеля выратавання. Наогул, было вырашана, што колькасць расійскіх войскаў будзе настолькі значнай, што немцы будуць разбіты без вялікіх перашкод[72].

У жыцці было ўсё наадварот. Каб дапамагчы французам і англічанам, наступаць давялося на 15-ы дзень ад пачатку мабілізацыі. Да гэтага тэрміну сканцэнтравалася толькі 30 % планаваных сіл. Для падыходу наступных 30 % неабходна было яшчэ 8 дзён, але немцы былі ўжо пад Парыжам, і, каб не застацца з ворагам сам-насам, раніцай 17 жніўня 1-я расійская

[72] Гл.: Такман Барбара. Первый блицкриг. Москва, 1999. С. 20.

армія перайшла мяжу[73]. Усходне-Прускай аперацыі прысвечана шмат кніг. Гэта адна з найбольш цяжкіх і павучальных бітваў Першай сусветнай вайны. Але наша мэта – расказаць аб удзеле ў ёй земляка, генерала ад інфантэрыі К. А. Кандратовіча.

23-і корпус пасля заканчэння мабілізацыі быў адразу разабраны на часткі. 3-я гвардзейская дывізія (генерал-лейтэнанта Сірэліуса) была адпраўлена ў Саколку, у рэзерв Паўночна-Заходняга фронту, штаб якога ў гэты час знаходзіўся ў Лідзе. 2-я пяхотная дывізія (генерал-лейтэнанта Мінгіна) засталася ў цвердзі Новагеоргіеўск (цяпер Модлін) і была падпарадкавана каменданту цвердзі. Кавалерыя корпуса (гвардзейская кавалерыйская брыгада) адпраўлена на Паўднёва-Заходні фронт супраць аўстрыйцаў, мартырны дывізіён прыдадзены ў 2-гі армейскі корпус, сапёрны батальён – у цвердзь Гродна. Потым дывізію Мінгіна зноў перадалі Кандратовічу, і яна даганяла карпусы, якія наступалі. У камандзіра застаўся толькі штаб корпуса. Аднак у загадах і дырэктывах корпус лічыўся так, як быццам ён дзейнічаў у поўным складзе[74].

17 жніўня 2-я армія пачала высоўвацца да дзяржаўнай мяжы. Стаяла спякота. Карпусы наступалі несупынна па сыпучых пясках, без тылавога суправаджэння, па некалькі дзён нават без хлеба. Дывізія Мінгіна наогул не мела абозаў, і ёй было загадана харчавацца з абозаў 15-га корпуса[75]. Ішлі без перапынкаў удзень. Адолеўшы за трое сутак 80 км, армія Самсонава 20 жніўня перайшла дзяржаўную мяжу[76]. 2-я армія складалася з 1, 2, 6, 13, 15 і 23-га армейскіх карпусоў. Гэтаксама ў яе склад уваходзілі 4-я, 6-я і 15-я кавалерыйскія дывізіі, усяго 150 000 чалавек, 702 гарматы, прыкладна такую самую моц мела і 1-я армія Рэненкампфа[77].

14 жніўня ў Беластоку Кандратовіч выдае загад па войсках корпуса № 7: «Вярнуўшыся з камандзіроўкі 13 жніўня, прыступіў да камандавання корпусам… 18 жніўня да 6 гадзін вечара корпусу сканцэнтравацца каля Новагеоргіеўска…»[78].

Аднак тэлеграма Галоўнакамандуючага фронтам ад 14

---

[73] Гл.: Восточно-Прусская операция: сборник документов. Москва, 1939. С. 9.
[74] Гл.: Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция. С. 587–593.
[75] Гл.: Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. С. 172–200.
[76] Гл.: История первой мировой войны 1914–1918 гг. Москва, 1975. С. 161.
[77] Гл.: Восточно-Прусская операция. С. 12.
[78] Восточно-Прусская операция. С. 172.

жніўня № 3 загадвала 3-й гвардзейскай дывізіі заставацца ў Саколцы. 16 жніўня дывізія была перасунута ў Беласток, а 17 жніўня дывізіі загадана рухацца ў бок фронту, на Дэмброва[79]. Ад такога кіравання штабам акругі дывізіямі корпуса Кандратовіча войскі пераблыталіся, і генерал прыкладна да 27 жніўня збіраў свае дывізіі.

Ад пачатку наступлення ў баях удзельнічала толькі 2-я пяхотная дывізія, наступаючы паміж 1-м і 15-м карпусамі. 24 жніўня гэтая дывізія была падпарадкавана камандзіру 15-га корпуса генералу Мартасу. 3-я гвардзейская дывізія, даганяючы войскі, падыходзіла ў гэты дзень да Млавы, 1-я стралковая брыгада была яшчэ ў Новагеоргіеўску. Такім чынам, пры выхадзе 23-га корпуса на лінію наступлення 2-й арміі 2-я пяхотная дывізія была ў 15-м корпусе, 3-я гвардзейская дывізія ўваходзіла ў бой часткамі, прычым яе Кексгольмскі полк быў перададзены 2-й дывізіі[80]. Больш заблытаць працу штаба 23-га корпуса не змаглі б нават немцы!

Амаль што да канца жніўня 2-я армія наступала без значных сутычак з праціўнікам і прайшла палову адлегласці ад расійскай мяжы да Балтыкі. Войскі смяротна стаміліся, адсутнічалі палявыя пякарні, сілкаваліся толькі сухарамі і тым, што адбіралі ў нямецкага насельніцтва. Штаб арміі не меў сувязі са штабамі карпусоў, штабы карпусоў – з дывізіямі. Ужывалася радыёсувязь, але ж да пачатку вайны штабы не распрацавалі нават кодаў, і загады войскам ішлі адкрытым тэкстам. У гэта цяжка паверыць, але не была арганізавана нават выведка, і ніхтоні ў штабе фронту, ні ў штабах армій і карпусоў – не ведаў, дзе немцы! Кавалерыя не рабіла рэйдаў па тылах праціўніка, а ішла за пяхотай. Авіяцыя дастаўляла пакеты паміж штабамі, а расійскія жаўнеры, якія ніколі не бачылі самалётаў, абстрэльвалі сваіх, мяркуючы, што такую хітрую машыну маглі мець толькі немцы[81].

У германскіх штабах не маглі паверыць, што рускія адкрытым тэкстам па радыё кіруюць сваімі войскамі. Але дакладная выведка з паветра красамоўна сведчыла, што рады-

---

[79] Гл.: Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция. С. 587–593.

[80] Гл.: Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция. С. 587–593.

[81] Гл.: Такман Барбара. Первый блицкриг. С. 306–358.

ёперахопам можна верыць. Гэтаксама працавала і нямецкая тэлефонная сувязь: аб кожным кроку расійцаў тутэйшае насельніцтва інфармавала па тэлефоне германскі штаб!

Нямецкія генералы ўмелі ваяваць і ваявалі надзвычай добра. Атрымаўшы паражэнне ад Рэненкампфа пад Гумбіенам (20 жніўня), нямецкія карпусы адарваліся ад расійцаў, для аховы Кенігсберга пакінуўшы толькі нязначныя часткі ландверу (апалчэнцаў). Выкарыстоўваючы шчыльную сетку чыгунак, нямецкія войскі былі перавезены на левы і правы флангі арміі Самсонава. У гэты час раскіданыя па фронце на адлегласці ў 120 вёрст войскі генерала Самсонава ішлі насустрач свайму лёсу, нічога не ведаючы аб праціўніку. Дадаўшы да сваіх сіл на ўсходзе два пяхотныя корпусы з французскага фронту (так расійскае паражэнне дапамагло Парыжу), 26 жніўня немцы выцялі ў флангі, адразаючы расійцаў ад сваіх баз. Камандзір 6-га корпуса Благавешчанскі пакінуў свае войскі і збег. У гэты дзень у 7.25 Кандратовіч дасылае Самсонаву тэлеграму: «… немцы перайшлі ў энергічны наступ супраць 1-га корпуса з захаду. …жадана супраць… наступаючых высунуць… 2-ю пяхотную дывізію… загадаў адной брыгадзе 6-й кав. дывізіі перасунуцца направы фланг…»[82].

27 жніўня 1-ы корпус пасля жорсткага бою адышоў да Сольдаў, камандзір гэтага корпуса генерал Артамонаў узяў вінтоўку і пайшоў кіраваць ротамі, кінуўшы камандаванне корпусам. «1-ы армейскі стаіць як скала!» – далажыў ён Самсонаву і праз гадзіну аддаў загад адступаць. Артамонаў быў неадкладна зняты з пасады. У гэты ж дзень 2-я пяхотная дывізія з корпуса Кандратовіча, падпарадкаваная штабу 15-га корпуса, была разгромлена каля Грос-Гардзіена[83]. Самсонаў абедаў разам з англійскім ваенным аташэ Ноксам недалёка ад фронту ў Найдэнбургу, калі жаўнеры разбітай 2-й дывізіі з'явіліся на вуліцах горада. Людзі былі «жахліва стомленыя, тры дні не бачылі хлеба, на працягу двух дзён жаўнеры не атрымлівалі аніякай ежы, ніводзін з абозаў не падышоў…» – апавядаў Ноксу адзін з палкавых камандзіраў[84]. У 23.00 Самсонаў даклаў камандуючаму фронтам аб разгроме 2-й дывізіі: «2-я дывізія панесла цяжкія страты… Рэвельскі полк амаль што

---

[82] Восточно-Прусская операция. С. 286.
[83] Гл.: Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. С. 172–200.
[84] Гл.: Такман Барбара. Первый блицкриг. С. 306–358.

знішчаны, засталіся сцяг і адзін звяз… Эстляндскі полк у вялікай мітусні адышоў да Найдэнбурга, дзе па маім загадзе застаўся…»[85]. Раніцай 27 жніўня Кандратовіч знаходзіўся ў Млаве, калі атрымаў загад прыбыць у Найдэнбург, каб кіраваць 2-й дывізіяй. Каля 8-й гадзіны раніцы генерал разам са штабам на трох аўтамабілях выехаў з Млавы. На дарозе ён затрымаў адступаўшыя часткі 2-й артылерыйскай брыгады і загадаў ім заняць абарону. Да аддзелаў 2-й дывізіі Кандратовіч прыбыў каля 3-й гадзіны дня. Камандзір генерал Мінгін даклаў аб вялікіх стратах і цяжкім стане 2-й дывізіі. Увечары Кандратовіч разам са сваім штабам накіраваўся ў Найдэнбург да Самсонава. У асабістай размове Самсонаў выказаў незадаволенасць Мінгіным і даў пісьмовы загад прыняць агульнае кіраванне над тым, што засталося ад 2-й дывізіі, каб абараніць Найдэнбург і Франкенау.

Мужна змагаўся лейб-гвардыі Кексгольмскі полк. Гэты полк сваім супрацівам 27 – 29 жніўня даў магчымасць адысці разбітаму 15-му корпусу. З германскіх дзённікаў і палкавых журналаў бачна, што тры дні ўсе палкі нямецкага 1-га армейскага корпуса мелі справу з кексгольмцамі. 28 жніўня полк вытрымлівае цяжкі бой з 2-й германскай пяхотнай дывізіяй. Ваенны тэарэтык генерал Галавін пісаў потым: «Неўзабаве пасля поўдня высвятляецца наступ нямецкай пяхотнай дывізіі на Ронцкен. Агонь шматлікай артылерыі суправаджае гэты наступ, супрацьпаставіць якому ген. Кандратовіч можа толькі л. гв. Кексгольмскі полк. Велічэзная перавага ў сілах немцаў прымушае гэты полк адсоўвацца. Але адыходзіць ён крок за крокам у агульным кірунку на Лана». Пра тое, які супраціў аказалі ворагу кексгольмцы, ускосна сведчыць германская афіцыйная гісторыя вайны: «Атака 2-й дывізіі развіваецца вельмі марудна. Гэтая дывізія страціла свой ранейшы баявы дух»[86].

З раніцы 28 жніўня генерал Кандратовіч кіраваў абаронай: затрымаў і вярнуў на пазіцыі Эстляндскі полк, які зноў быў кінуўся на ўцёкі, даваў указанні пяхоце і артылерыі, указваў напрамкі атакі кавалерыі і г. д. Да вечара становішча дывізіі стала невыносным, і генерал, каб пазбегнуць акру-

[85] Восточно-Прусская операция. С. 293.
[86] Андоленко С. П. Два знамени // Военная быль. Париж. 1968. № 90. С. 8.

жэння, дазволіў Мінгіну пачаць адыход. На прапанову Кандратовіча кіраваць адыходам генерал Мінгін папрасіў яго не турбавацца, бо ён за апошнія дні настолькі вывучыў справу манеўравання падчас бою, што можа сам выканаць гэты манеўр. Пасля гэтай размовы Кандратовіч пакінуў штаб Мінгіна і больш не вяртаўся[87].

У гэты ж дзень Самсонаў сам, «страціўшы галаву», з'ехаў са штаба арміі. Перад гэтым ён у 7.05 раніцы даслаў тэлеграму ў штаб фронту: «1-ы корпус… учора ўвечары адступіў… зараз пераязджаю ў штаб 15-га корпуса… апарат Юза здымаю, часова буду без сувязі з вамі»[88]. Такім чынам, было цалкам дэзарганізавана кіраванне арміяй. «З гэтага моманту армія перастала існаваць як цэльны арганізм: Самсонаў яе сакрушыў, і Гіндэнбургу засталося яе толькі дабіць», – пісаў вядомы расійскі вайсковы гісторык А. А. Кярсноўскі[89].

У дакладзе ўрадавай камісіі, якая даследавала гэтую катастрофу, вядома, пахвілінна распісана, што рабіў Кандратовіч 28 жніўня. І таму абсалютна не зразумела, чаму А. Салжаніцын пісаў відавочную лухту пра генерала, быццам ён узяў сабе для аховы 6 рот Эстляндскага палка і адступіў на ўсход[90]. Гэта пра тых самых панічна напужаных жаўнераў Эстляндскага палка, якія ўжо некалькі дзён уцякалі з усіх пазіцый, пра якіх пісаў Нокс. Гэтых жаўнераў, згодна з высновамі ўрадавай камісіі, якая расследавала катастрофу ва Ўсходняй Прусіі, якраз 28 жніўня Кандратовіч асабіста вяртаў на пазіцыі: «Тым часам

[87] Гл.: Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция. С. 587–593.

[88] Восточно-Прусская операция. С. 297.

[89] Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. С. 172–200.

[90] Гл: Солженицын Александр. Собрание сочинений в 30 томах. Москва, 2006. Т. 7. Кн. 1. С. 328–329. (И генерал Кондратович, которому – счастье выпало? – что его корпус раздёргали, и, будто бы собирая его, можно было долго кататься поездами между Варшавой и Вильной… Кондратович примчался в Найденбург и, не имея тут никого выше себя чином, распорядился: командиру Эстляндского полка взять шесть рот и пулемётную команду и с ними уходить на восток, по шоссе, сопровождая и охраняя его, генерала Кондратовича. Он, очевидно, так расчёл, что одна растрёпанная дивизия его несобранного корпуса всё равно уже подчинена Мартосу, Кексгольмский полк занял позиции и сам продержится, остальные гвардейские полки сюда вовсе не дойдут, – и ему, корпусному, делать нечего, а безопаснее отойти за русскую границу и там ждать, чем кончится).

конніца немцаў пачала прасоўвацца на поўдзень, у кірунку на Найдэнбург… Генерал Кандратовіч выправіўся ў Найдэнбург, каб хутка зарганізаваць там абарону. Прыбыўшы ў Найдэнбург, ён знайшоў там толькі 1000 чалавек эстляндцаў, сабраных камандуючым дзеля адпачынку. Эстляндцам, пры якіх было 2 штаб-афіцэры, было загадана заняць вышыні на захад ад горада… пасля чаго генерал Кандратовіч зноў выехаў з Найдэнбурга на поўнач, да астатніх частак свайго корпуса. Аднак, праехаўшы 2–3 вярсты, даведаўся аб адыходзе эстляндцаў… зноў вярнуўся… і асабіста, разам з чынамі штаба, давёў частку эстляндцаў да тых вышынь, якія яны павінны былі ўтрымліваць… Устанавіўшы на пазіцыі эстляндцаў, генерал Кандратовіч зноў выправіўся да аддзела Мінгіна на крайні правы фланг»[91]. Толькі ўвечары, каля 19-й гадзіны, пасля гарачай размовы з генералам Мінгіным, падчас якой Мінгін практычна адмовіўся падпарадкавацца (невядома, як складаліся адносіны гэтых генералаў да вайны, у расійскім войску бывала ўсялякае, напрыклад, паміж двума камандуючымі арміямі – Самсонавым і Рэненкампфам – падчас руска-японскай вайны была дуэль, гэта лёсавызначальным чынам адгукнулася ў 1914 г.), Кандратовіч пакінуў аддзелы Мінгіна[92]. Прычыны гэтага ўчынку незразумелыя, і тут маглі б дапамагчы мемуары абодвух генералаў, але, на жаль, мы не маем іх.

Верагодна, што Салжаніцын кіраваўся кнігай Яўсеева «Августовское сражение в Восточной Пруссии 1914 г.»[93], якая была выдадзена ў 1936 г., калі Кандратовіч для Масквы быў ворагам-нацдэмам. Яўсееў сцвярджае, што генерал Кандратовіч з'ехаў з фронту яшчэ ў 12 гадзін на чале аддзела з шасці рот 8-га Эстляндскага палка і кулямётнай каманды лейб-гвардзейскага Петраградскага палка. Апісанне дзеянняў генерала ў «Чырвоным коле» Салжаніцына літаральна супадае з тым, што напісана ў гэтай кнізе. Але на карысць Кандратовіча кажа неверагодны факт, які выкладае ў сваёй працы афіцэр-

[91] Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция. С. 587–593.
[92] Гл.: Восточно-Прусская операция. С. 293.
[93] Евсеев Н. Ф. Августовское сражение в Восточной Пруссии 1914 г. М., 1936.

эмігрант Багдановіч П. Н.[94] Ён цытуе ўспаміны камандзіра нямецкага корпуса генерала Франсуа аб тым, што а 15-й гадзіне каля ягонага штаба праехаў аўтамабіль з незнаёмымі афіцэрамі. Франсуа лічыў, што гэта быў камандзір 23-га корпуса. Аўтамабіль немцы нават не абстралялі! Вось так у дзень пагрому расійскага войска Кандратовіч, перамяшчаючыся сярод сваіх напалову акружаных войскаў, ледзь сам не трапіў у палон…

Як прайшла ноч, невядома, але ж назаўтра ўсё было скончана.

У ноч з 28 на 29 жніўня Самсонаў аддае загад аб агульным адступленні войскаў 2-й арміі[95].

29 жніўня пачалася агонія. Сакрушальны ўдар немцаў па тылах прывёў да разгрому расійскіх войскаў. Генерал Самсонаў застрэліўся. Штаб 15-га корпуса абстраляны з кулямётаў, і камандзір корпуса генерал Мартас узяты ў палон. Камандзір 13-га корпуса Клюеў здаўся ў палон разам з вялікім аддзелам сваіх войскаў. Два дні з месца разгрому не было ніякай інфармацыі.

30 жніўня Кандратовіч дасылае тэлеграму ў штаб акругі, у якой дае інфармацыю аб стане войскаў і знікненні камандуючага арміяй. У той жа дзень штаб фронту загадвае: «ген. Кандратовічу сабраць усе… сілы каля Харжэле, адтуль дзейнічаць па абставінах…»[96]. Некалькі дзён генерал з малымі сіламі прыкрываў шлях на Варшаву.

Усходне-Пруская аперацыя 1914 г., якая пачыналася з перамог расійскага войска, праз некалькі тыдняў скончылася поўным разгромам і ўцёкамі дзвюх расійскіх армій. Перамогу над 2-й арміяй Самсонава, у якую ўваходзіў 23-і корпус Кандратовіча, немцы назвалі бітвай пад Таненбергам (Грунвальдам) і лічылі гістарычным рэваншам за паражэнне 1410 г. Пасля разгрому 2-й арміі толькі палоннымі было ўзята 92 000 чалавек, немцам спатрэбілася 60 цягнікоў, каб вывезці трафейную вайсковую маёмасць. Практычна перасталі існаваць 15-ы і 13-ы карпусы, ад іх засталося 50 афіцэраў і 2000 салдат.

---

94 Богданович П. Н. Вторжение в Восточную Пруссию в августе 1914 г.; Воспоминания офицера Генерального штаба армии генерала Самсонова. Буэнос-Айрес, 1964. С. 199–200.

95 Гл.: Такман Барбара. Первый блицкриг. С. 306–358.

96 Восточно-Прусская операция. С. 310.

У 6-м і 1-м карпусах засталося па адной дывізіі, у 23-м – каля брыгады. Два камандзіры карпусоў былі ўзяты ў палон, усе астатнія адхілены ад сваіх пасад. Айцец Георгі Шавельскі, які на гэты час стаў протапрэсвітэрам усяго расійскага войска, піша, што ён спрабаваў заступіцца за Кандратовіча, свайго былога камандзіра, перад галоўнакамандуючым, але гэта не дапамагло[97].

Поўнае паражэнне атрымала і 1-я армія Рэненкампфа. Сам генерал Рэненкампф, кінуўшы армію, збег на аўтамабілі.

* * *

З верасня 1914 па 1917 г. да нядаўняга часу дакладнай інфармацыі пра генерала К. А. Кандратовіча не было. Найверагодней, што даследчык гісторыі расійскага войска А. А. Кярсноўскі[98] памылкова лічыў, што ўжо ўвосень К. А. Кандратовіч быў начальнікам штаба 2-й арміі.

Генерал К. А. Кандратовіч 30 жніўня 1914 г. быў звольнены ў адстаўку[99]. Верагодна, што пасля адстаўкі ён нейкі час з сям'ёй жыў ва ўласным маёнтку Гародна. Паводле інфармацыі ўнука генерала, сям'і прыйшлося пакінуць свой дом у 1915 г. пры набліжэнні нямецкага войска (другі і апошні раз удава генерала Ада Кандратовіч спешна пакінула Гародна ў верасні 1939 г.), але Кіпрыяна Кандратовіча з сям'ёй не было.

Вядома, што з 25 лістапада 1915 г. генерал Кандратовіч знаходзіўся ў рэзерве чыноў пры штабе Мінскай вайсковай акругі. У спісе генералаў Генеральнага штаба за 1916 г. значыцца сярод прызначаных на службу з запасу і адстаўкі. З канца 1915 г., пасля цяжкага паражэння і адступлення рускіх войскаў у 1915 г., па даручэнні камандуючага Заходнім фронтам ён пачаў інспектаваць войскі. Вось першы вядомы мне рапарт Кандратовіча на імя камандуючага фронтам генерала Эверта пра стан 2-й арміі: «Умацаванні баявых пазіцый у раёне размяшчэння войскаў 2-й арміі яшчэ ў вельмі дрэнным стане. ...У многіх месцах умацаванні ўяўляюць сабой

[97] Гл.: О. Гергий Шавельский. Воспоминания Последнего Протопресвитера русской армии и флота. Т. I. Нью-Йорк: Издательство им. Чехова, 1954. С. 155.
[98] Гл.: Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. С. 172–200.
[99] Военная энциклопедия издания Сытина. Т. 13. С. 105.

адну лінію акопаў... У дні агляду акопы былі настолькі засыпаны снегам, што стральба як праз байніцы, так і па-над бруствeрам, пакрытым тоўстым пластом снегу, стала немагчымай... Акопы прыкрытыя лёгкімі шырокімі брылямі, якія закрываюць зверху амаль увесь акоп. У некаторых месцах акопы абваліліся і часткова разбураны; у некаторых акопах і сховішчах стаіць зверху змёрзлая вада. Зямлянкі не асвятляюцца. Штучныя перашкоды месцамі развіты вельмі слаба (2-3 рады калоў); на некаторых участках замест загарод на калах пастаўлены рагаткі, змацаваныя паміж сабой. Сховішчаў ад цяжкіх снарадаў мала.

...Асноўным буйным недахопам умацаванняў 2-й арміі з'яўляецца няправільны выбар месца для ўмацаванай пазіцыі. У гэтых адносінах асабліва дрэнным з'яўляецца размяшчэнне 20-га корпуса ў балоце, дзе няма магчымасці ні трывала ўмацавацца, ні жыць і дзе тыл пазіцый назіраецца з боку праціўніка ва ўсіх кірунках... Войскі адчуваюць настойлівую патрэбу ў цяжкіх шанцавых прыладах... у кірка-матыках і, асабліва, ломах...»[100].

Рэзалюцыя Эверта на гэтым месцы даклада Кандратовіча: «Шанцавага інструменту на складах дастаткова». Але чаму гэты шанцавыя прылады не завезены ў часткі 2-й арміі, засталося невядомым[101].

Праверка генерала Кандратовіча выявіла вялікія недахопы ў забеспячэнні арміі: «Цёплым адзеннем войскі, наогул, забяспечаны, – дакладваў Кандратовіч, – але ў частках 36-га корпуса целагрэйкі яшчэ не атрымалі, што недапушчальна; боты паўсюль дрэнныя і шмат маламерных. Бялізнай людзі забяспечаны слаба».

Зноў рэзалюцыя Эверта: «Бялізны на складах маецца дастаткова». І зноў невядома, чаму яе не завозяць у войскі.

Далей даклад Кандратовіча малюе непрывабную карціну з харчаваннем. З дня ў дзень, па яго словах, войскі сілкуюцца адным супам; каша не варыцца, бо няма алею і сала. Крупы якія атрымліваюць войскі, закладваюцца ў суп. Рэзалюцыя Эверта: «Кашу варыць, спажываючы посны алей».

На ўсім дакладзе Кандратовіча Эверт наклаў такую

[100] Подорожный Н. Е. Нарочская операция в марте 1916 г. Москва, 1938. С. 27–28.
[101] Там жа. С. 28.

заключную рэзалюцыю: «Вельмі сумнае і індыферэнтнае стаўленне ўсіх кіраўнічых асоб»[102].

Камандуючаму фронтам стала вядома, што ніхто з генералаў наогул не лічыў патрэбным наведваць акопы і глядзець , як яны абсталяваны і як у іх жывуць людзі. У арміі, калі ў адзін з акопаў прыбыў генерал (верагодна, К. А. Кандратовіч), ён звярнуў увагу на тое, што салдаты не ўмеюць нават адказваць генералу на прывітанне[103].

Генерал Эверт далажыў начальніку Генеральнага штаба Вярхоўнага галоўнакамандуючага генералу ад інфантэрыі М. В. Аляксееву: «Са зробленага па майму загаду генералам Кандратовічам агляду франтавых пазіцый 1-й і 2-й армій бачу, што яны не маюць належнай крэпасці, гэта можа быць растлумачана недастаткова сур'ёзным стаўленнем да гэтага пытання з боку ўсіх кіруючых асоб»[104].

Цікавымі для нас з'яўляюцца ўспаміны генерала В. Ф. Джункоўскага (1865–1938), які ў 1908–1913 гг. займаў пасаду маскоўскага губернатара, а ў 1913–1915 гг. камандаваў Асобным корпусам жандараў. Аднак пасля таго як 19 жніўня 1915 г. Джункоўскі паспрабаваў выкрыць імператару Мікалаю II згубны ўплыў Рыгора Распуціна, ён быў звольнены з пасады галоўнага жандара і адпраўлены на фронт. З 26 снежня 1916 г. Джункоўскі камандаваў брыгадай у 8-й Сібірскай стралковай дывізіі на Заходнім фронце, а потым і самой 8-й Сібірскай стралковай дывізіяй.

На пачатку зімы 1916 г. руская армія ў паўночна-заходняй частцы Беларусі рыхтавалася да правядзення наступлення, якое атрымае назву Нарачанская аперацыя[105]. У студзені

---

[102] Там жа. С. 28–29.

[103] - Здорово, молодец.

- Здравия желаю, ваше... – дальше солдат запнулся.

Генерал обратился к другому:

- Здорово, молодец.

- Здравия желаю... – опять та же запинка. К третьему:

- Здорово, молодец.

- Здравия...

- Как это они у вас не знают, как надо отвечать генералу?

- Ваше превосходительство, – отвечал сопровождавший офицер, - у нас никогда ни один генерал еще здесь не был... – цыт. па: Подорожный Н. Е. Нарочская операция в марте 1916 г. С. 29.

[104] Лемке М. К. 250 дней в царской ставке 1914–1915. Минск, 2003. С. 548.

[105] Нарачанская аперацыя – няўдалая спроба наступлення расійскага войска Заходняга і Паўночнага франтоў 5–17 сакавіка 1916 г. (па новым

1916 г. да Джункоўскага «павінен быў прыехаць з штаба фронту генерал Кандратовіч для агляду пазіцыі з баявога пункту гледжання і ў сэнсе яе падрыхтаванасці... Што тычыцца падрыхтаванасці пазіцыі з баявога пункту гледжання, дык тут можна было знайсці шмат дэфектаў, але... віной гэтаму былі стыхійныя бедствы (цяжкая марозная зіма – Л. Л.)»[106].

Камандзіраваны Галоўнакамандуючым фронту Эвертам генерал ад інфантэрыі Кандратовіч прыехаў у дывізію Джункоўскага 13 студзеня 1916 г.: «Я не бачыўся з ім гадоў з 15, мы сустрэліся як старыя знаёмыя. Ён служыў у якасці афіцэра Генеральнага штаба для даручэнняў пры нябожчыку вялікім князі Сяргеі Аляксандравічы[107]... Потым ён камандаваў дывізіяй падчас Японскай вайны... а потым корпусам, але няўдала, зняты з пасады.

Прыезд Кандратовіча, якога мы ў гэты дзень не чакалі, ледзь не парушыў прызначанай у нас у штабе развітальнай вячэры, якую мы задумалі для нашых двух атрадаў Чырвонага Крыжа, з якімі расставаліся з-за адходу нашай дывізіі на адпачынак у армейскі рэзерв.

Неўзабаве пасля прыезду да мяне Кандратовіча прыехаў камандуючы корпусам і мы зладзілі нараду, даўшы Кандратовічу падрабязныя звесткі пра стан нашай пазіцыі. Пасля гэтай нарады я папярэдзіў Кандратовіча аб маючай адбыцца ў нас вячэры і запрасіў яго прыняць у ёй удзел. Ён ласкава прыняў запрашэнне і сказаў мне толькі, што хацеў бы пад раніцу абысці акопы, каб азнаёміцца з баявой службай у іх.

Вячэра прайшла вельмі ажыўлена – танцавалі, музіцыравалі, адна сястра, якая мела вельмі добры голас, праспявала некалькі рамансаў, раз'ехаліся каля гадзіны ночы»[108].

---

стылі) у ваколіцах Дзвінска і возера Нарач. Наступ пачаўся з-за просьбы саюзнікаў, у сувязі з іх цяжкім становішчам пад Вердэнам. Мэта аперацыі – разгром 8-й і 10-й нямецкіх армій. Рускім войскам удалося прасунуцца наперад на некалькі кіламетраў, але страты склалі, па розным ацэнкам, ад 78 да 150 тысяч чалавек.

[106] Джунковский В. Ф. Воспоминания (1915–1917). Т. 3. Москва, 2015. С. 71.

[107] Вялікі князь Сяргей Аляксандравіч (1857–1905) – пяты сын Аляксандра II, маскоўскі генерал-губернатар. Загінуў ад бомбы рэвалюцыянера Каляева

[108] Джунковский В. Ф. Воспоминания (1915–1917). С. 72.

У 4 гадзіны раніцы генералы і афіцэры на аўтамабілі, разам з «начальнікам інжынераў» 10-й арміі і яшчэ двума афіцэрамі паехалі ў штаб 31-га палка, а ўжо адтуль – пешшу ў акопы: «Кандратовіч быў вельмі здзіўлены, што я не ўзяў з сабой ні ардынарца, ні казака, і сам увесь час паказваў шафёру дарогу, а калі мы ўвайшлі ў акопы, дык на ўсе яго пытанні я адказваў сам, не звяртаючыся ні да камандзіра палка, ні да начальніка штаба. У акопах з-за моцнай адлігі было шмат вады, месцамі яна даходзіла да каленяў. Мы вымазаліся страшна, але Кандратовіч застаўся ўсім вельмі задаволены, а галоўнае – цудоўным выглядам стралкоў і іх бадзёрымі вясёлымі тварамі. Ён заходзіў у бліндажы і зямлянкі, гутарыў з імі і быў вельмі задаволены, а мне ён увесь час паўтараў, што бачыць першага начальніка дывізіі, які ў акопах пачуваецца, як у сябе дома.

На зваротным шляху я прапанаваў яму заехаць на назіральны пункт, які быў зладжаны на вышцы і меў вялікі кругагляд. Падняўшыся на вышку і азнаёміўшы Кандратовіча з пазіцыяй немцаў, я спытаў у яго, ці не хоча ён праверыць стральбу. Ён пагадзіўся, я загадаў адкрыць агонь пабатарэйна шрапнеллямі, якія адна за другой сталі прыгожа разрывацца над акопамі. Затым я загадаў перайсці на гранаты, і мы ясна бачылі, як яны сталі падаць у акопы, уздымаючы цэлыя слупы снегу і пяску. Выпусцілі два дзясяткі снарадаў і пайшлі піць гарбату да камандзіра батарэі. Немцы адразу сталі адказваць і пачалі моцную кананаду, якая доўжылася больш за гадзіну, яны абстрэльвалі нашы акопы і ўпадабаны імі штаб 31-га палка.

Я не мог зразумець, чаму немцы на мае 20 стрэлаў адказвалі сотнямі. Аказалася, што сёння быў дзень нараджэння Вільгельма, і таму яны стралялі па ўсім нашым фронце... Усе суседнія карпусы ўстрывожыліся, і адусюль мяне запытвалі па тэлефоне, што гэта за стральба. Я адказваў, што гэта падарунак Вільгельму да дня яго нараджэння. Тады мае суседзі па маім прыкладзе таксама пачалі абстрэл...

Вечарам быў на вячэры ў Гарадзенскім атрадзе Чырвонага Крыжа, а 15-га ўвесь дзень займаўся з генералам Кандратовічам і з ім жа абедаў у 65-й дывізіі...»[109].

---

[109] Там жа. С. 72–74.

Генерал Кандратовіч не памыліўся ў Джункоўскім – падчас правядзення ў сакавіку 1916 г. Нарачанскай аперацыі Джункоўскі праявіў сябе добрым военачальнікам і 15 верасня 1916 г. атрымаў мячы да ордэна Св. Уладзіміра 2 ступені, а 29 лістапада 1916 г. ён быў прызначаны камандуючым 131-й пяхотнай дывізіяй, 10 студзеня 1917 г. – камандуючым 15-й Сібірскай стралковай дывізіяй. 2 красавіка 1917 г. атрымаў чын генерал-лейтэнанта.

Зусім па-іншаму апісаў праверку сваёй дывізіі Кандратовічам камандзір 70-й дывізіі генерал А. П. Будберг. У сваіх мемуарах ён паведамляе пра складанасці, якія мела яго дывізія зімой 1915–16 гг. падчас вядзення абароны ў нашым Нарачанскім краі і ў падрыхтоўцы да правядзення наступальнай аперацыі. Да цяжкасцей, выкліканых размяшчэннем у балоцістай мясцовасці, як заўжды, дадаліся цяжкасці, выкліканыя неразумнымі загадамі з вышэйшых штабоў. Пасля аднаго з такіх загадаў Будберг патрабаваў ад вышэйшага штаба перагледзець свае ранейшыя пастановы[110]. З праверкай ад імя камандуючага фронтам у дывізію прыехаў генерал К. А. Кандратовіч, з якім Будберг быў знаёмы па агульнай службе на Далёкім Усходзе і на Каўказе: «...Кандратовіч наведаў... акопы аднаго батальёна, прычым я адмыслова правёў яго па самых кепскіх месцах, каб паказаць самыя абуральныя недахопы нашага размяшчэння... і даць падставых ...адвесці ўсю дывізію на ўсходнія ўзвышшы азёрнай даліны (возера Нарач – Л. Л.)»[111]. Вынікам рэвізіі Кандратовіча быў «страшэнны разнос, зроблены ўсёй 1-й арміі (часткай якой была 70-я дывізія – Л. Л.) загадам галоўнакамандуючага Паўночна-Заходняга фронту генералам Эвертам і асабліва з'едлівыя для нас заўвагі, што за той жа час немцы здолелі і паспелі пабудаваць у сябе выдатныя ўмацаваныя пазіцыі, а нашы войскі ў гэтым сэнсе нічога не зрабілі»[112].

Немагчыма адназначна выявіць, хто меў рацыю ў гэтай справе, аднак вядома, што ў другой палове 1916 г. немцы на асобных участках Паўночна-Заходняга фронту дазвалялі

---

110 Военный альбом генерала А. П. Будберга: материалы к биографии. Воспоминания о войне, 1914–1917. Москва, 2014. С. 140–142.

111 Там жа. С. 142.

112 Там жа. С. 143.

сабе пакідаць супраць рускай паўнакроўнай дывізіі полк непаўнавартаснага ландвера і нічым пры гэтым не рызыкавалі.

На працягу некалькіх старонак сваіх мемуараў генерал Будберг апісвае цяжкасці абароны ў беларускай балоцістай мясцовасці, а поспех немцаў у справе пабудовы ўмацаванняў тлумачыць выдатнай арганізацыяй тылу: «Мы ўсё цягалі на людзях, а ў немцаў вузкакалейкі падыходзілі амаль што да акопаў першай лініі... на баку непрыяцеля ўсё насельніцтва працавала па вайсковых нарадах і перавозках, а мы вымотваліся на папраўцы дарог, прычым мясцовыя жыхары (маюцца на ўвазе беларусы – Л. Л.) знарок псавалі бліжэйшыя да вёсак дарогі...»[113]. Будберг піша, што такім чынам мясцовыя людзі спадзяваліся пазбавіцца ад «нашых абозаў з іх рухам праз вёскі і мястэчкі; дзеля гэтага яны адмыслова ламалі пабудаваныя намі масткі, засыпалі выкапаныя канавы, раскідвалі накатнікі (маюцца на ўвазе дарогі з бярвення – Л. Л.) і г. д.»[114] Думаю, што насельніцтва ахвотна дапамагала немцам і байкатавала патрэбы як быццам свайго войска, таму што немцы нядрэнна плацілі за працу. А нямецкія вузкакалейкі таго часу шмат дзе працавалі да 1960-х гг.

Пасля Нарачанскай аперацыі руская армія пачала рыхтавацца на летняга наступу. На здымку з чэрвеня 1916 г. генерал Кандратовіч з біноклем у руках стаіць на лесвіцы ў траншэі каля каманднага пункта на якім вісіць шыльда з надпісам: «Наблюдат. пункт командира корпуса (Куропаткинский)», а на адвароце фотаздымка пазначана : «Генерал Кондратович на наблюд. пункте у дер. Горны Скробов. 19–20/VI – 16 г.»[115] Відавочна, што здымак зроблены падчас чарговай інспекцыі генерала.

Аматары вайсковай гісторыі добра ведаюць беларускі населены пункт Горны Скробаў, ён знаходзіўся ў самым віры так званай Баранавіцкай аперацыі 1916 г.

Але пра ўсё па чарзе.

Вядома, што былы вайсковы міністр Расіі Курапаткін А. Н. пасля руска-японскай вайны, дзе ён камандаваў Маньчжурскай арміяй, быў адлучаны ад службы за ганебныя

[113] Там жа. С. 144.
[114] Там жа. Заўвага 66.
[115] Даты па старым стылі.

паражэнні, і толькі 12 верасня 1915 г. яго прызначылі камандаваць грэнадзёрскім корпусам, які нанава фармаваўся восенню 1915 г. у Яраслаўскай губерні. Сваю справу выклікаы з адстаўкі генерал ведаў, і праз пяць месяцаў ён далажыў у стаўку пра гатоўнасць грэнадзёраў да адпраўкі на фронт. Але ў канцы студзеня 1916 г. Курапаткін атрымаў прызначэнне на пасаду камандуючага 5-й арміяй Паўночнага фронту. Камандавацъ корпусам быў прызначаны генерал-лейтэнант Парскі Д. П. (1866–1921), які, дарэчы, як і генералы Кандратовіч і Доўбар-Мусніцкі, таксама скончыў 2-ю вайсковую Канстанцінаўскую вучэльню, а потым Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба.

На пачатку 1916 г. грэнадзёрскі корпус перакідваецца на Заходні фронт у 4-ю армію. Тут, каля беларускага горада Баранавічы, чакаліся галоўныя падзеі кампаніі лета 1916 г.

Раён Баранавіч быў заняты германскімі войскамі яшчэ ў сярэдзіне верасня 1915 г. і лічыўся адным з найважнейшых участкаў германскага Усходняга фронту на кірунку Варшава – Масква. Згодна з рускім планам летняй кампаніі 1916 г., адначасова з наступам Паўднёва-Заходняга фронту (19 карпусоў), Заходні фронт (23 карпусы) павінен быў наносіць галоўны ўдар 4-й арміяй на ўчастку Наваградак – Баранавічы. На пачатку чэрвеня 1916 г. войскі Паўднёва-Заходняга фронту пачалі наступ, прарвалі пазіцыі аўстра-венгерскай арміі і пачалі прасоўванне ў глыб Галіцыі. Аднак камандуючы Заходнім фронтам генерал ад інфантэрыі Эверт двойчы адкладваў намечанае агульнае наступленне Заходняга фронту, спачатку на 13 чэрвеня, потым на 17 чэрвеня, а пасля зрабіў спробу наогул адмяніць аперацыю. Пасля катэгарычнага патрабавання Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання, Заходні фронт абавязаўся «атакаваць праціўніка на фронце Наваградак – Баранавічы». На падрыхтоўку наступлення адводзілася 22 дні. Якраз падчас падрыхтоўкі гэтага наступлення генерал ад інфантэрыі Кандратовіч, у ноч з 2 на 3 ліпеня па новым стылі, апынуўся на камандным пункце грэнадзёрскага корпуса ў беларускай вёсцы Горны Скробаў.

15 ліпеня грэнадзёры пайшлі ў прарыў – восем кіламетраў фронту на корпус! Але прасунуцца далей першай лініі германскіх пазіцый не ўдалося, да вечара грэнадзёрскія




*Генерал Кандратовіч з біноклем у руках стаіць на лесвіцы ў траншэі каля каманднага пункта, на якім вісіць шыльда з надпісам: «Наблюдат. пункт командира корпуса (Куропаткинский)», а на адвароце фотаздымка: «Генерал Кондратович на наблюд. пункте у дер. Горны Скробов. 19–20/VI – 16 г.», лета 1916 г.*

атакі канчаткова захлынуліся ва ўласнай крыві, і салдаты вярнуліся ў свае акопы. У ноч з 17 на 18 ліпеня, выбітыя грэнадзёрскія дывізіі на пазіцыях каля Горнага Скробава былі заменены звычайнай пяхотай. 17 ліпеня рускае камандаванне пачало дадатковую артпадрыхтоўку і ў 19 гадзін вечара 5 дывізій пайшлі ў паўторную атаку. Страты за першыя тры дні аперацыі даходзілі да 50% асабовага складу, войскі былі вельмі стомленыя. Эверт вырашыў адкласці новыя атакі да 21 ліпеня і зрабіў перагрупоўку войскаў. Павольныя дзеянні рускага камандавання былі выкарыстаны немцамі, якія ўмацавалі атакаваныя ўчасткі і ўзмацнілі іх артылерыяй. 21 ліпеня на досвітку пачалася новая артпадрыхтоўка і ў 2 гадзіны ночы яшчэ 6 дывізій пайшлі ў атаку. На працягу дня войскі чатыры разы хадзілі ў атаку, але поспеху не мелі, прасунуўшыся ў цэнтры ўсяго толькі на 2 км. У выніку доўга рыхтаваная аперацыя звялася да авалодання толькі першай умацаванай лініяй і захопу некалькіх гармат. А 27 ліпеня 1916 г. ужо германскія войскі распачалі контрнаступленне. Страты рускай арміі ў гэтай бітве склалі 80 000 чалавек супраць 13 000 забітых немцаў.

Сталыя праверкі войскаў патрабавальным генералам ад інфантэрыі Кандатовічам безумоўна прыносілі карысць арміі, але дадавалі яму мноства асабістых ворагаў. Шмат хто з «паркетных» генералаў адмоўна ўзгадваў яго ў сваіх мемуарах. Не ўсе былі такімі, як Джункоўскі, які не баяўся казаць праўду нават цару, сярод іх усё ж больш было такіх як Будберг, які ў сваіх успамінах напісаў пра Кандратовіча, што ў жніўні 1914 г. «ашалелы аўтамабіль аднес сваё высокароддзе на небяспечную адлегласць...»[116].

Нягледзячы на нядобразычліўцаў, уклад Кіпрыяна Кандратовіча ў ваенныя дзеянні падчас Першай сусветнай вайны быў высока ацэнены ўрадам. За «выдатна-старанную службу і працу, зробленую падчас ваенных дзеянняў» 01.06.1916 г. генерал ад інфантэрыі Кандратовіч быў узнагароджаны Ордэнам Святога Аляксандра Неўскага. Гэты ордэн быў зацверджаны ў якасці ўзнагароды для чыноў ад генераллейтэнанта і вышэй. За час яго існавання, з 1725 па 1917 г., ім

[116] Военный альбом генерала А. П. Будберга: материалы к биографии. Воспоминания о войне, 1914–1917. С. 142.

былі ўзнагароджаны 3 674 рускія і замежныя генералы ці адпаведныя па чыне цывільныя чыноўнікі і, дарэчы, кавалерам гэтага ордэна ў 1907 г. стаў сам імператар Францыі Напалеон. У гады Першай сусветнай вайны ордэн Святога Аляксандра Неўскага ўручаўся за вялікія заслугі і высока шанаваўся военачальнікамі.

З 1915 па 1917 г. служба генерала Кандратовіча праходзіла на радзіме – у Беларусі. І менавіта ў гэты час генерал зблізіўся з беларускай інтэлігенцыяй і дзеячамі беларускага адраджэння, што і дало яму падставы па-новаму паглядзець на гісторыю сваёй Радзімы і падумаць аб сваім месцы ў ёй.

# Беларускае войска

У 1917 г. наступіў кароткі перыяд гісторыі, калі народы Расійскай Імперыі маглі скарыстацца з дэмакратыі, здабытай пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі. Наступны спрыяльны перыяд гісторыі для паняволеных нацый наступіць толькі ў 1991 г. і таксама хутка закончыцца.

У траўні 1917 г. у Мінску было створана арганізацыйнае бюро Беларускай народнай партыі сацыялістаў, узначаліў партыю Раман Скірмунт. Сярод яе сяброў былі Павел Аляксюк, Аляксандр Уласаў, пісьменнік Ядвігін Ш. (Лявіцкі), ксёндз Гадлеўскі, генерал Кандратовіч, Паўліна Мядзёлка, а. Кульчыцкі, ксёндз Цікота. Бюро мясцілася ў адным доме з Беларускай кнігарняй (Захар'еўская, 24)[117]. Прозвішча генерала Кандратовіч ёсць у спісе 29-ці першых сяброў партыі[118].

Ужо 8 мая 1917 г. Кандратовіч прыняў на сябе камандаванне 75-й пяхотнай дывізіяй[119]. У 1914 г. гэтая дывізія была створана на базе 38-й і ўваходзіла ў склад Варшаўскай вайсковай акругі. Дывізія брала ўдзел у бітве пад Варшавай, а ў 1917 г. дыслацыравалася ў Беларусі. Травень 1917 г. – не лепшы час для таго, каб генералу ад інфантэрыі ва ўзросце 59 гадоў працягваць сваю вайсковую кар'еру. Расійская армія развальвалася, генералаў здымалі з пасад. На 1 траўня 1917 г. былі адхілены ад сваіх пасад 3 з 5 галоўнакамандуючых

---

117 Шыбека Захар. Менскія кватэры і сядзібы непрыяцеляў царызму // Наша слова. 2007. № 26 (814).

118 Гл: Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі / Уклад. С. Шупа. Т. 1. Кн. 1. Вільня–Менск–Нью-Ёрк–Прага, 1998. С. 5.

119 Наша слова. 2004. № 10 (645).

войскамі фронту (60%), 7 з 14 камандуючых арміямі (50%), 39 з 77 камандзіраў карпусоў (50,5%), каля траціны начальнікаў дывізій (75 з 240) – такім чынам, больш за палову вышэйшага каманднага складу былі выкінутыя з войска. У траўні 1917 г. зафіксаваны першыя забойствы генералаў на фронце. 17 траўня група салдат арыштавала і забіла камандзіра 177-й пяхотнай дывізіі генерала Я. Я. Любіцкага. Тады ж загінуў ад рук сваіх салдат камандзір 184-й пяхотнай дывізіі генерал П. А. Шкарпэтак. А хваляванні ў 75-й дывізіі пачаліся з сакавіка. Захавалася аператыўная перапіска за вясну 1917 г. штаба корпуса, якому падпарадкоўвалася 75-я дывізія. Адна з спраў штаба – «Аб розных здарэннях у сувязі з увядзеннем новага ладу» на 115 лістах – разгортвае паказвае карціну распаду войска – арышты старэйшых камандзіраў прапаршчыкамі, непадпарадкаванне загадам цэлых палкоў 75-й дывізіі, масавае дэзерцірства, бездапаможнасць вышэйшага камандавання, жудасны стан перадавых частак, крывавы шлях страявых афіцэраў; два дзясяткі лістоў гэтых тэчак апісваюць хваляванні ў красавіку 1917 г. у 75-й дывізіі. За адзін месяц у дывізіі змяніліся тры камандзіры: генералы Штэгельман (паспяхова камандаваў дывізіяй з 1914 г.,), Снесараў (быў камандзірам 2 тыдні ў красавіку), Баркоўскі[120]. У траўні гэтую дывізію прыняў К. А. Кандратовіч.

Упэўнена можна выказаць здагадку, што вяртанне Кандратовіча да камандавання рэальнай вайсковай часткай было выклікана перспектывай беларусізацыі войска і ўдзелам у гэтым генерала. Тым больш, што 15 траўня 1917 г. у Мінску ўзнікла Беларуская вайсковая арганізацыя, якая згуртавала вайскоўцаў, што знаходзіліся ў Мінску[121]. Але ў канцы верасня 1917 г. Часовы ўрад чамусьці запланаваў 75-ю дывізію, якая дыслакавалася ў Беларусі, падвергнуць «мусульманізацыі» – паводле планаў, 75-я пяхотная дывізія павінна была камплектавацца татарамі з Казані[122].

З успамінаў вышэйзгаданага генерала Джункоўскага бачна, што з чэрвеня 1917 г. генерал ад інфантэрыі

[120] Гл.: Белоголовый Б. Г. Доклад на «Снесаревских чтениях» – 2003 в ВАГШ. http://belogolovy.narod.ru/2003/S420031.html.

[121] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. Вільня, 2009. С. 40.

[122] Гл.: Шевяков Т. «Национализация» Российской армии в 1917 году. http://www.rustrana.ru/article.php? nid=14157.

К. А. Кандратовіч камандаваў 3-м Сібірскім корпусам (вядома, што апошні да Кандратовіча камандзір корпуса генерал-лейтэнант В. А. Трафімаў пайшоў у адстаўку з пасады 6 красавіка 1917 г.)[123].

У верасні 1917 г. салдацкі камітэт абраў на пасаду камандзіра 3-га Сібірскага армейскага корпуса генерала Джункоўскага: «3-ці Сібірскі корпус быў мне родным, я пачаў у ім баявую службу, але ў той час гэта быў страшна распушчаны корпус, апошнім часам у ім карпусныя камандзіры мяняліся адзін за адным і, калі мне прапанавалі гэтае прызначэнне, дык на чале корпуса стаяў генерал ад інфантэрыі Кандратовіч, якому на працягу трох месяцаў не давалі зацвярджэння на пасадзе, ён быў увесь час часовым камандуючым. Чаму яго хацелі зусім прыбраць, я не ведаў»[124].

Як бачым, верагодна, Кандратовіч таксама быў абраны жаўнерамі, але не быў зацверджаны камандаваннем. Штаб 3-га Сібірскага корпуса мясціўся ў мястэчку Мір, блізка ад Мінска, горада, у якім разгортваліся галоўныя падзеі, якія вызначылі далейшую гісторыю Беларусі.

2 кастрычніка 1917 г. Керанскі зацвердзіў генерала Джункоўскага на пасадзе[125]. У гэты час старая царская армія амаль што цалкам перастала існаваць, усе ахвотныя даўно дэзерціравалі з фронту, вайсковымі часткамі кіравалі салдацкія камітэты, афіцэраў часта забівалі, узмацнялася развальная бальшавіцкая прапаганда.

Джункоўскі так апісвае сваё ўступленне на пасаду: «Устаў я 6-га дня (кастрычніка – Л. Л.) у 9 гадзін раніцы, напіўся кавы і адправіўся да камандзіра корпуса Кандратовіча, застаў яго ў вельмі мінорным духу, адхіленне яго ад камандавання корпусам падзейнічала на яго гнятліва – цяжка было на яго глядзець . Пагаварылі з ім ад душы, вырашылі, што я ў гэты дзень буду знаёміцца са справамі і начальнікамі асобных частак корпуса, а на другі дзень заступлю ўжо на пасаду... Цяжка было на душы – корпус знаходзіўся на краі поўнага развалу... Начальнікі дывізій не атрымлівалі ніякіх дырэктыў, ніякай

---

[123] Генерал Кандратовіч камандаваў 3-м Сібірскім корпусам з 07.1917 па 02.10.1917 г.

[124] Джунковский В. Ф. Воспоминания (1915–1917). Т. 3. С. 439.

[125] Там жа. С. 443.

падтрымкі ад бліжэйшага начальства, і самі не праяўлялі ініцыятывы. Кандратовіч адчуваў сябе часовым камандзірам, дазваляў усяму плыць па цячэнні і толькі падпісваў бягучыя паперы...»[126].

Тады ж адбылася развітальная вячэра: «У гэты дзень у сталовай штаба адбылася вячэра ў гонар Кандратовіча і мяне, былі начальнікі частак корпуса, прадстаўнікі карпуснога камітэта. Вячэра прайшла ажыўлена, проста і сімпатычна. Вельмі сардэчна праводзілі Кандратовіча і вельмі сардэчна віталі мяне. Было шмат тостаў, прыйшлося шмат гаварыць, разышліся ў 12 гадзін.

8-га я выехаў з Кандратовічам на аўтамабілі ў вёску Юравічы на свята 31-га палка. Тое, што я там убачыў, перасягнула ўсе мае чаканні – дэмакратызацыя гэтага палка была поўная, для мяне гэта ўсё было дзіка. Па-першае, мяне не пачакалі і пачалі малебен без мяне. Пасля набажэнства адбыўся парад, праходжанне было агіднае, ішлі не салдаты, а нейкі зброд. Потым быў абед – салдаты і афіцэры сядзелі за адным сталом, абедалі разам з катла, а начальства і штабныя ў шатры. Падавалі нам тое ж, што было і ў салдат, і для поўнай дэмакратызацыі пасадзілі за наш стол маіх і начальніка дывізіі шафёраў.

З 31-га палка я накіраваўся на аўтамабілі разам з Кандратовічам да камандуючага арміяй у г. Слуцк...»[127].

Магчыма, з-за таго, што гэтым корпусам тры месяцы камандаваў Кандратовіч, Васіль Захарка пісаў пра беларусізацыю 3-га корпуса, называючы яго не 3-м Сібірскім, а 3-м Армейскім[128].

У кастрычніку 1917 г. расійскі Часовы ўрад і Стаўка на прапанову генерала Мікалая Духоніна, выканаўца абавязкаў Вярхоўнага галоўнакамандуючага, прыступілі да перафармавання арміі на нацыянальна-тэрытарыяльных асновах. Гэтай нацыяналізацыяй Часовы урад жадаў стабілізаваць армію. У сувязі з гэтым было дазволена арганізаваць у Мінску з'езд беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту. Пры-

[126] Там жа. С. 444–445.
[127] Там жа С. 447.
[128] Захарка Васіль. Галоўныя момэнты беларускага руху (урывак) // Спадчына. 1997. № 5. С. 6.

сутныя выказаліся за пераўтварэнне Расійскай дзяржавы ў федэратыўную дэмакратычную рэспубліку, арганізацыю беларускага войска прызналі важнейшай задачай. З'езд стварыў Цэнтральную беларускую вайсковую раду (ЦБВР). Яе часовы выканаўчы камітэт узначаліў былы настаўнік, старшы унтэр-афіцэр 24-га транспарту 5-га абознага батальёна Сымон Рак-Міхайлоўскі, яго намеснікамі сталі таксама былы настаўнік паручнік К. Езавітаў і малодшы унтэр-афіцэр 24-й асобнай тэлеграфнай роты 12-й арміі Я. Мамонька (хутка яго змяніў студэнт Тамаш Грыб)[129]. Як бачым, досвед у ваеннай справе ў гэтых людзей быў, у лепшым выпадку, на ўзроўні малодшага афіцэра прызванага з рэзерву.

На з'ездзе воінаў-беларусаў Заходняга фронту генерал Кандратовіч быў абраны ў ЦБВР. Удзельніца з'езду Зоська Верас пісала: «Увечары ў зале губернатарскага дому зьезд адкрыўся. Колькі было дэлегатаў – ня помню. Але шмат салдатаў і афіцэраў – з генэралам Кандратовічам»[130].

9 студзеня 1978 г. у адказ на запыт Міколы Ермаловіча пра генерала Зоська Верас патлумачыла: «Зьезд вайскоўцаў Заходняга фронту адбыўся 18–21 кастрычніка 1917 г. Я была дэлегатам і адной з арганізатарак, прытым – адзінай жанчынай на зьезьдзе. Загадзя прыгатаваныя значкі – бел-чырвона-белыя – параздавала ўсім сябрам зьезду і ўспакоілася. Аж тут падходзіць нехта да мяне і кажа: «А ў генэрала Кандратовіча значка німа». А ў мяне ўжо – ніводнага. Тады я адшпіліла сваю гаспадарскую бел-чырвона-белую разэтку (круглую) і прышпіліла генэралу. На трэці дзень зьезду пасадзілі мяне запісываць тых, хто хоча ў беларускія батальёны. Першым запісаўся генэрал Кандратовіч...»[131].

15–24 кастрычніка 1917 г. у Мінску адбылася другая сесія Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый і партый (ЦРБАіП), падчас якой гэты орган быў ператвораны ў Вялікую беларускую раду (ВБР), якая павінна была стаць зародкам будучага органа дзяржаўнай улады[132]. Як сведчыць фотаз-

---

129 Міхалюк Дарота. Беларуская Народная Рэспубліка 1918–1920 гг.: ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. Смаленск, 2015. С. 151.

130 Зоська Верас. Я помню ўсё. Успаміны, лісты. Гародня – Wrocław. 2013. С. 55.

131 Зоська Верас. Пакуль рука пяро трымае. Мінск, 2015. С. 210.

132 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 40.





*Удзельнікі сумеснага паседжання Вялікае беларускае рады і Цэнтральнае беларускае вайсковае рады ў Менску (у памяшканні губернатарскага дома) 15 кастрычніка 1917 г., на якім было вырашана склікаць Першы Усебеларускі з'езд (БДАМЛІМ).*

*Злева – фрагмент папярэдняга здымка, першы злева – генерал Кандратовіч*

дымак з гэтага мерапрыемства, генерал узяў у ім удзел[133]. Да таго ж яго памятала і Зоська Верас: «Калі рабілі здымак удзельнікаў Усебеларускага зьезду і Вайсковага (у залі губэрнатарскага дому), то і ген. Кандратовіч на гэтым здымку ёсьць (здымак маю)»[134].

Пасля гэтага пачалася канкрэтная праца па арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Утворанае ў гэты час бюро па арганізацыі беларускага войска ўзначаліў генерал Кіпрыян Кандратовіч, ветэран балканскай, японскай і Першай сусветнай войнаў, аўтар тэарэтычных прац у вайсковай галіне. Ягонымі памочнікамі былі генерал-маёр Пажарскі, палкоўнік Камароўскі і паручнік К. Езавітаў. Кандратовіч распрацаваў адпаведны план і атрымаў дазвол на стварэнне беларускага палка ў Мінску, а пасля – беларускага корпуса на Заходнім фронце[135].

У канцы кастрычніка 1917 г. дэлегацыя воінаў-беларусаў Заходняга фронту ў складзе старшыні выканкама ЦБВР С. Рака-Міхайлоўскага, К. Кандратовіча, М. Ярушэвіча і І. Шчэрбы выехала ў Стаўку ВГК дзеля перамоваў з Вярхоўным галоўнакамандуючым генералам М. Духоніным аб арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Генерал М. Духонін[136] першапачаткова нічога канкрэтнага не адказаў, але праз некалькі дзён прыслаў тэлеграму, якая дазваляла фармаванне беларускіх аддзелаў праз папаўненне беларусамі выбраных адзінак расійскага войска.

У час, калі генерал Кандратовіч чакаў канкрэтных распараджэнняў Стаўкі, Духоніна паглынаў нарастаючы канфлікт з бальшавіцкімі ўладамі. У выніку 9 лістапада генерал Духонін быў зняты з пасады галоўнакамандуючага. На яго месца бальшавікі прызначылі паручніка Мікалая Крыленку. Бальшавікам тады таксама ўдалося зняць з пасады

---

[133] Гл.: Беларускі гістарычны часосопіс. 1993. № 1. С. 63. Фотаздымак з подпісам «Дэлегаты з’езда беларусаў воінаў Заходняга фронту…» і Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 71. Фотаздымак з подпісам «Сябры ВБР і Беларускай цэнтральнай вайсковай рады…» (Кандратовіч сядзіць у першым радзе).

[134] Зоська Верас. Пакуль рука пяро трымае. С. 210.

[135] Гл.: Łatyszonek O. Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923. Białystok, 1995. S. 56.

[136] Гл.: Савіцкі В. Беларускае войска: ад ідэі да спроб рэалізацыі (1917 г.) // Беларускі гістарычны часопіс. 1994. № 4. С. 60–61.

галоўнакамандуючага Заходнім фронтам генерала П. Балуева[137]. ЦБВР і ВБР у той час негалосна прызналі бальшавіцкую цэнтральную ўладу і не згаджаліся толькі з узурпацыяй мясцовай улады[138].

Першы агульнабеларускі з’езд, які праходзіў у Мінску ў снежні 1917 г., па 6-м пункце планаваў выслухаць выступ генерала Кандратовіча і Рак-Міхайлоўскага пра арганізацыю беларускага войска[139]. Выступ не адбыўся з-за разгону з’езда бальшавікамі.

Кастусь Езавітаў пісаў: «У віну ген. Кандратовічу безмоўна трэба палічыць тое, што ён не зразумеў усей вялікай адпаведнасьці моманту і ня змог пераżаргнуць праз вайсковую традыцыю, патрабуючую ад падпарадкаванага безмоўнай паслухмянасьці распараджэньню старшага, і не даказаў, з належным у гэтым выпадку ўпорствам і націскам, усю неадкладную патрэбнасьць зараз-жа, не трацячы ніводнай хвіліны часу, разьвязаць беларускую вайсковую справу ў поўным маштабе і хутка аддаць патрэбныя срочныя загады»[140].

Генерал Кандратовіч быў чалавекам старой школы, трымаўся прысягі і чакаў распараджэнняў ад законнага вышэйшага кіраўніцтва. Пазіцыя старога ваякі складалася ў тым, што патрэбна палітычнае рашэнне, пасля якога прафесійныя вайскоўцы выканаюць свой абавязак. Але Часовага ўрада, ад імя якога Духонін дазволіў стварэнне беларускага войска, ужо не было, а да прыняцця палітычнай дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі заставалася яшчэ тры месяцы, па мерках рэвалюцыйнага часу – цэлая эпоха. Не з'яўляючыся палітыкам, як, напрыклад, Пілсудскі, фармаваць войска, якое будзе служыць невядома каму, генерал не мог. І таму ягоны намеснік, палкоўнік Камароўскі, стрымліваў маладых калег ад «неабдуманых крокаў». Па меркаванню Езавітава, па-за межамі Мінска арганізацыйную працу па стварэнні беларускіх вайсковых фармаванняў генерал аддаў на волю лёсу. Між тым, дзякуючы ініцыятыве франтавых рад, якія

---

137 Гл.: Łatyszonek O. Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923. S. 55–56.

138 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 47.

139 Белорусская рада 1917. №6.

140 Езавітаў К. Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада // Крывіч. 1924. № 1 (7). С. 41.

рэалізоўвалі пастановы сваіх з'ездаў, праца па фармаванні беларускіх аддзелаў павольна прасоўвалася наперад[141].

Езавітаў даводзіў, што ўтвораныя на розных франтах беларускія арганізацыі і вайсковыя фармацыі спрабавалі наладзіць кантакт з генералам Кандратовічам, але, на жаль, безвынікова. Загады па тэлеграфе і інструкцыі сыходзілі толькі ад малодшых афіцэраў ЦБВР і кіраўніцтва яе палітычнага аддзела. Не маючы над сабой палітычнага кіраўніцтва, Кандратовіч чакаў. Дайшло да таго, што ён парваў прапанаваны яму для падпісання дакумент. Малодшыя афіцэры давялі Прэзідыуму ЦБВР, што пакінуць вайсковы аддзел, калі генерал застанецца яго кіраўніком. Пасля гэтага выканаўчы камітэт ЦБВР адхіліў генерала К. Кандратовіча ад кіраўніцтва аддзелам і перадаў паўнамоцтвы паручніку К. Езавітаву, які быў тады адным з намеснікаў[142]. (гл. дадатак 8)

Але генерал Кандратовіч не адышоў ад беларускіх спраў і ў канцы лютага 1918 г. прапанаваў свае паслугі Беларускаму выканаўчаму камітэту. Макар Краўцоў[143] успамінаў: «Ніштo іншае, як, мусіць, пачуццё ўсё-ж такі беларускасці прывяло на пасяджэнне Выканаўчага Камітэту ў быўшы Губэрн. Дом дашчэнту зрусыфікаванага генерала ад інфантэрыі Кандратовіча. Раней ён быў у Вайсковай Беларускай Радзе, але стуль яго выключылі, здаецца, за "буржуазнасць"»[144].

Як бачым, Краўцоў кажа менавіта пра «буржуазнасць» як прычыну адстаўкі генерала з пасады ў ЦБВР, што не стасуецца з закідамі Езавітава. Таксама вельмі цікавай з'яўляецца заўвага пра «пачуццё... беларускасці» ў генерала, гэта шмат што тлумачыць.

На 14 лютага 1918 г. генерал Кандратовіч лічыўся ў распараджэнні начальніка штаба армій Заходняга фронту[145].

Тым часам галоўнакамандуючы Крыленка выдаў за-

141 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 48.

142 Гл.: Łatyszonek O. Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923. S. 64.

143 Макар Краўцоў (1891– пасля 1939) – беларускі паэт, публіцыст, перакладчык, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху. Аўтар слоў гімна БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». У 1918 г. увайшоў у Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПСР), сябар Рады БНР.

144 Краўцоў Макар. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі // Спадчына. 1998. № 1. С. 92.

145 Ганин А. В. Корпус офицеров Генерального штаба в годы Гражданской войны 1917–1922 гг.: Справочные материалы. Москва, 2009. С. 483.

гад на стрыманне «нацыяналізацыі» войскаў і забараніў скліканне народных з'ездаў у прыфрантавых зонах. Суровыя загады, скіраваныя супраць украінцаў і палякаў, камандуючы Заходнім фронтам Мяснікоў выкарыстаў супраць беларусаў і загадаў 8 снежня далучыць салдат 1-га Беларускага палка ў Мінску да размешчанага ў гэтым горадзе 289-га запаснога палка пяхоты. Гэта была ліквідацыя беларускага палка. У ноч з 31 студзеня на 1 лютага 1918 г. бальшавікі арыштавалі чальцоў БЦВР[146].

18 лютага немцы занялі Маладзечна і пачалі наступ на Мінск. Бальшавікі спешна пакідалі горад. 19 лютага беларускія вайскоўцы вырашылі ўзяць на сябе ахову парадку ў горадзе. Камендантам Мінска стаў К. Езавітаў. Спехам арганізаваныя групы беларускіх вайскоўцаў і чальцоў прафсаюзаў каля 21.00 пачалі займаць горад. Аперацыю па захопе горада пачалі таксама і польскія вайскоўцы. 20 лютага беларускія атрады былі аб'яднаны ў 1-ы Мінскі полк. 23 лютага ў 11-й гадзіне раніцы ў Мінск увайшлі нямецкія войскі. 25 лютага немцы раззброілі беларускія часткі[147].

На пачатку красавіка немцы забаранілі дзейнасць Народнага сакратарыята БНР. Шукаючы выйсця з такога становішча, Рада БНР дакааптавала ў свой склад кіраўнікоў беларускіх правых з утворанага ў лютым 1918 г. Мінскага беларускага народнага прадстаўніцтва. Вядучымі палітыкамі правых былі Р. Скірмунт, П. Аляксюк, генерал К. Кандратовіч, ксёндз В. Гадлеўскі, генерал А. Багдановіч, протаіерэй А. Кульчыцкі, А. Уласаў, В. Чавусаў[148].

Пра Камітэт беларускага народнага прадстаўніцтва, яго ўдзельнік Вінцэнт Гадлеўскі пісаў: «25 лютага быў выбраны Выканаўчы Камітэт Прадстаўніцтва ў ліку 9-ці асоб, у які ўвайшлі: пратаерэй Кульчыцкі, генэрал Кандратовіч, Скірмунт, кс. Гадлеўскі, Уласаў, Аляксюк, Чаўсаў, Зямкевіч і Русецкі»[149]. Прадстаўніцтва аб'ядноўвала палітычныя сілы, якія канкурыравалі з Беларускай сацыялістычнай грамадой. У праграмных дакументах было заяўлена, што Камітэт

[146] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 57.
[147] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 59–61.
[148] Архівы БНР. І, 1. С. 115.; Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 63.
[149] Гадлеўскі Вінцэнт. Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917-18 гг. // Спадчына. 1997. № 5. С. 30.

«прадстаўляе інтарэсы беларускага народу і з'яўляецца палітычным цэнтрам, які абараняе незалежнасць Беларусі, культуру і самабытнасць беларускага народа»[150].



*Генерал Кандратовіч у 1917 г.*

Віленская газета «Гоман» перадрукавала артыкул з «Беларускага шляху» № 20 ад 16.04.1918 г., у якім гэтай падзеі давалася такая ацэнка: «У Раду Рэспублікі адразу ўвайшоў моцны «цэнтр», і цяпер праца над адбудаваннем Беларускай Народнай Рэспублікі пойдзе моцнымі крокамі… Рада пры яе чыста сацыялістычным складзе мела многа крытыкаў добраахвотных і злых… цяпер – пры новым складзе з беларускім моцным цэнтрам і левым крылом мае магчымасць быць працаздольнай… Мы дачакаліся вялікай хвілі, калі беларусы зрабілі адзіны нацыянальны фронт»[151].

Пасля 25 сакавіка 1918 г. стварэнне беларускага войска было працягнута.

У сярэдзіне красавіка 1918 г. у спісе 80-ці сяброў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад Камітэта беларускага прадстаўніцтва пад № 42 прысутнічае і генерал Кандратовіч[152].

Дзякуючы сваёй кампетэнтнасці, дзеячы Мінскага беларускага народнага прадстаўніцтва мелі большую павагу ў немцаў, чым сацыялісты ў складзе Рады БНР. 25 красавіка Рада БНР па ініцыятыве Р. Скірмунта паслала тэлеграму з падзякай нямецкаму кайзеру Вільгельму II і прасіла аб дзяржаўнай незалежнасці ў звязе з немцамі. Тэлеграму падпісалі: кіраўнік Рады БНР І. Серада, кіраўнік Народнага

[150] Менскае беларускае прадстаўніцтва // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1993. Т. 1. С. 115.
[151] Гоман. 1918. 26 крас. № 34 (230).
[152] Архівы БНР. І, 1. С. 98.

сакратарыята Я. Варонка, Р. Скірмунт і іншыя. Кандратовіча сярод іх не было[153].

Тэлеграма нямецкаму кайзеру Вільгельму II выклікала востры крызіс у беларускім руху. Распаўся Народны Сакратарыят, з якога ў знак пратэсту выйшлі некалькі міністраў. На пачатку траўня на яго месцы была створана Рада Міністраў пад кіраўніцтвам Рамана Скірмунта. сакратаром унутраных спраў у гэтай радзе быў прызначаны генерал Кіпрыян Кандратовіч, замежных спраў – А. Аляксюк, сельскай гаспадаркі – Р. Астроўскі. Новага ўрада не прызнаў старшыня Народнага сакратарыята БНР Язэп Варонка, якога падтрымлівала частка Рады БНР[154]. Аб утварэнні новай рады ў нумары ад 22 траўня паведаміла віленская газета «Гоман»[155]. Урад Скірмунта праіснаваў да 22 ліпеня 1918 г.

У Вільні інтарэсы Рады БНР прадстаўляла падпарадкаваная ёй Віленская беларуская рада, якую Германія прызнала ў якасці беларускага нацыянальнага прадстаўніцтва[156]. 20 чэрвеня 1918 г. Язэп Варонка з Мінска піша Антону Луцкевічу ў Вільню пра тое, што генерал «Кандратовіч перадасьць Вам «на выданньне «Гомана» як два разы ў тыдзень» ад Народнага Сэкрэтарыяту – 5 000 рублёў»[157], 23 чэрвеня ён паведамляе, што генерал ужо павёз грошы[158]. У Мінск Кандратовіч вярнуўся 27 чэрвеня і 28 чэрвеня ўдзельнічаў у пасяджэнні Рады БНР, на якой разглядаліся пытанні міжнароднага і ўнутранага стану Беларусі, пытанні бежанцаў і «жалаванне членам Рады, іх правы і абавязкі»[159].

Адметна, што каштарыс Рады БНР на «выплату пэнсіі сябрам Рады за 20.03. – 1.07.1918» паказвае, што, у адрозненне ад большасці сяброў Рады, Кіпрыян Кандратовіч грошы за сваю працу не атрымліваў[160]. Беларускі генерал жыў на асабістыя сродкі, сам выдаткоўваў на свае паездкі па краіне,

---

[153] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 62.
[154] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 63.
[155] Гоман. 1918. 22 мая. № 41 (237).
[156] Міхалюк Дарота. Беларуская Народная Рэспубліка 1918–1920 гг.: ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. С. 245.
[157] Архівы БНР. І, 1. С. 182.
[158] Там жа. С. 185.
[159] Там жа. С. 191–192.
[160] Там жа. С. 194.

бо, верагодна, лічыў несумленным для сябе браць грошы ад дзяржавы, якая яшчэ толькі адраджалася.

З чэрвеньскіх лістоў Варонкі да Луцкевіча бачна, што ў чэрвені 1918 г. генерал ездзіў у Вільню, і можна выказаць здагадку, што мэтай паездкі быў пошук грошай для беларускага войска. Галоўныя праблемы, якія даводзілася вырашаць міністру абароны – гэта грошы і кадры, бо прафесійнае і баяздольнае войска на энтузіязме не ствараецца. І таму толькі 9 лістапада беларускі ўрад выдаў яшчэ адну пастанову аб фармаванні войска. 11 лістапада генералу К. Кандратовічу, палкоўніку К. Езавітаву даручана стварэнне штаба 1-га Беларускага палка. Кіпрыян Кандратовіч, як сябар Рады БНР, прапанаваў праект арганізацыі 20-тысячнага войска і паведаміў, што віленскія банкіры і грамадзяне ў падтрымку гэтай ідэі гатовы выдаткаваць значныя фінансавыя сродкі. Адзінай перашкодай, паводле генерала Кандратовіча, была неабходнасць згоды немцаў і пастаўка праз іх зброі[161].

У лістападзе 1918 быў утвораны чацвёрты Урад БНР – Рада Народных Міністраў на чале з Антонам Луцкевічам. Луцкевіч стрымліваў пачынанні генерала, бо не верыў у магчымасць стварэння гэткага вялікага войска. Нават польская самаабарона, якая мела падтрымку землеўласнікаў, скардзілася тады на малую грашовую дапамогу. Да таго ж немцы абяцалі знішчаць усе ўзброеныя аддзелы[162].

Напрыканцы нямецкай акупацыі Беларусі кіраўніцтва Обер-Оста (Нямецкая акупацыйная адміністрацыя на Усходзе, у Коўне) выказала згоду на фармаванне агульнай для ўсіх нацыянальнасцей міліцыі пад кіраўніцтвам генерала К. Кандратовіча, з чым, аднак, не былі згодны палякі, якія ўтваралі аддзелы самаабароны зямлі Мінскай, Лідскай і інш. Таму ў часе сустрэчы генерала Кандратовіча з польскім камандуючым генералам Уладзіславам Вейткам было вырашана, што кожная народнасць будзе мець уласныя аддзелы самааховы на прынцыпах аўтаноміі і толькі ў выпадку агульнай пагрозы будзе падпарадкоўвацца агульнаму кіраўніцтву. У хуткім часе ў Мінску адбылася супольная нарада, на якой генерал Кандратовіч прапанаваў месца начальніка штаба паля-

[161] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 66.
[162] Міхалюк Дарота. Беларуская Народная Рэспубліка 1918–1920 гг.: ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. С. 311.

ку – палкоўніку Фабіяну Каборду. Аднак да ўтварэння агульнага фронту супраць бальшавікоў не дайшло, і абодва бакі стваралі асобныя вайсковыя сілы[163].

Генерал Уладзіслаў Вейтка пісаў пра гэта ў сваіх мемуарах: «20 лістапада ў сувязі з перспектывай адыходу немцаў з Літвы Польскі камітэт стварыў Камітэт грамадскай бяспекі (Komitet Bezpieczeństwa Publicznego – Л. Л.)… Камітэт вёў перамовы з немцамі, літоўцамі, яўрэямі і беларусамі з мэтай арганізацыі супольнай самаабароны, але да паразумення ў гэтай справе не дайшло, хоць немцы і прапаноўвалі кіраўніком супольнай самаабароны Кандратовіча, які раней служыў у царскай арміі, а пасля рэвалюцыі далучыўся да беларусаў». І далей: «Немцы згаджаліся на фармаванне супольнай для ўсіх нацыянальнасцей міліцыі пад кіраўніцтвам генерала Кандратовіча, на прынцыпах, устаноўленых Обер-Остам, аднак на гэта не было згоды польскай самаабароны, і прапанова не была прынятая… Падчас сустрэчы і знаёмства ў вагоне генералаў Вейтка і Кандратовіча было вырашана, што кожная нацыянальнасць будзе мець сваю ўласную самаабарону на самастойнай аснове, але пры ўмове агульнага камандавання падчас вайсковых акцый, і неўзабаве ў Мінску адбылося сумеснае пасяджэнне палякаў і беларусаў, у ходзе якога генерал Кандратовіч выявіў тэндэнцыю апоры выключна на польскую самаабарону, запрасіўшы на пасаду начальніка штаба палкоўніка Каборду, але, убачыўшы, што ў Мінску ён не можа дасягнуць поспеху, вярнуўся ў Вільню, дзе ён перайшоў у распараджэнне літоўскай Тарыбы...»[164].

Калі Вейтак не памыляецца, дык спроба абаперціся на польскую Самаабарону магла тлумачыцца больш паспяховым фармаваннем польскіх аддзелаў і неабходнасцю абароны краю ад бальшавікоў. Генерал Кандратовіч мог добра ведаць, як фармуецца лідская Самаабарона, якая на пачатку снежня 1918 г. налічвала больш за 60 узброеных чалавек[165]. А для А. Луцкевіча, які доўгі час прытрымліваўся краёвай ідэалогіі, такая пазіцыя магла быць цалкам натуральнай.

Тым не менш справа стварэння беларускага войска па-

---

[163] Гл.: Łatyszonek O. Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923. S. 86–87.
[164] Wejtko Władyslaw. Samoobrona Litwy i Białorusi: szkic historyczny. Wino, 1930. S. 10–11.
[165] Гл: Дзічканец Юзэф. самаабарона лідскай зямлі. Ліда, 2010.

ступова рухалася наперад. 23 лістапада 1918 г. Рада БНР паведаміла: «Галоўнакамандуючы Беларускай народнай арміі генерал-ад'ютант К. А. Кандратовіч выехаў з Мінска па справах арганізацыі Арміі. На час яго адсутнасці намеснікам прызначаны генерал Святлоўскі. Канчаткова атрымалі прызначэнні па вайсковых частках генералы Крэйчман, Алсуф'еў і інш. Па ўсіх дадзеных у бліжэйшы час Беларуская армія можа даць да 10 000 войска, не лічачы бясконцага прытоку ў многіх гарадах Беларусі запісваючыхся ў войска добраахвотнікаў. Асаблівая ўвага пры запісванні ў рады Беларускай народнай арміі звяртаецца на вайсковую падрыхтоўку. Першымі прызначаюцца ўсе афіцэры... фельдфебелі, старшыя і малодшыя ўнтэр-афіцэры. Шмат хто з добраахвотнікаў прыходзіць з канём пры поўнай амуніцыі і ў сваім абмундзіраванні. Хутка чакаецца вялікая адозва ад Галоўнакамандуючага Беларускай Народнай арміі, у якой будуць выкладзены мэты стварэння войска і пададзены дакладныя ўмовы паступлення і прыёму. У Мінску хутка ствараецца Афіцэрская школа»[166].

Звяртае на сябе ўвагу пасада Галоўнакамандуючага Беларускай народнай арміяй і новы чын генерала ад інфантэрыі – «генерал-ад'ютант». Зразумела, што гэты чын Кандратовіч атрымаў ад урада БНР. Пакуль не вядома, што значыў гэты чын у БНР, але ў Расійская Імперыі генерал-ад'ютант узначальваў паходную канцылярыю пры цары ці пры генерале-фельдмаршале. З 1808 г. чын генерал-ад'ютанта выкарыстоўваўся як ганаровае званне для вышэйшых генералаў, якіх за заслугі залічвалі ў світу імператара[167]. Верагодна, гэтым новым генеральскім чынам Рада БНР вырашыла адзначыць працу Кіпрыяна Кандратовіча.

З вышэйцытаванага тэксту паведамлення Рады БНР бачна, што афіцэраў для беларускага войска не хапала. Гэта было вынікам апалітычнасці кадравых афіцэраў і стомленасці ад вайны. Нават тыя нямногія вышэйшыя афіцэры, якія, як Кіпрыян Кандратовіч, добраахвотна вызначыліся на беларускім боку, часта сустракалі абвінавачванні ў кан'юнктурызме і клопаце выключна пра асабістую выгаду. Так, напрыклад, левыя папракалі Кандратовіча за тое, што

---

[166] Архівы БНР. I, 1. С. 304.
[167] Советская военная энциклопедия. Москва: Воениздат, 1979. Т. 2. С. 507.

ён валодае маёнткам Гародна ў Лідскім павеце[168]. Беларусы ніяк не маглі пераадолець класавую варожасць – зрабіць тое, што зрабілі нашы суседзі, якія паставілі свае нацыянальныя інтарэсы вышэй за класавыя.

Макар Краўцоў заўважыў, што як «рэзультат ваенных няўдачаў, у Нямеччыне адбылася ў лістападзе рэвалюцыя, і войскі былога Кайзэра, акупаваўшыя Беларусь, а таксама й Украіну... пачалі паспешна адходзіць на бацькаўшчыну. Следам за імі паўзла ў бок Менску хмара бальшавіцкае чырвонае арміі. Нямецкі генерал Фалькэнгайн адносіўся невыразна да справы стварэння беларускага войска генералам Кандратовічам, хаця даў пропускі дэлегатам Рады Рэспублікі выехаць за граніцу, каб пратэставаць там проці бальшавіцкае навалы»[169].

У сувязі з магчымай акупацыяй Мінска ў канцы 1918 г. частка беларускіх дзеячаў на чале з А. Луцкевічам падалася ўслед за адыходзячымі нямецкімі войскамі ў Вільню. Разам з А. Луцкевічам былі генерал Кіпрыян Кандратовіч і палкоўнік К. Езавітаў з групай афіцэраў-добраахвотнікаў[170].

У канцы 1918 г. у Гродна Кандратовіч бярэ ўдзел у фармаванні 1-га Беларускага палка. Ад пачатку снежня 1918 г. да канца красавіка 1919 г. полк мясціўся ў Аляксандраўскіх казармах і складаўся з пяці рот і аднаго эскадрона[171].

10 снежня 1919 г. бальшавікі занялі Мінск і рушылі далей на захад.

Генерал Кандратовіч, згодна з дамовай паміж урадамі БНР і Літвы, з лістапада 1918 г. камандаваў беларускім войскам, што адступіла з Беларусі ў Літву. Лістападаўскія пагадненні мелі на ўвазе таксама ўтварэнне беларускіх вайсковых адзінак, падначаленых літоўскаму галоўнаму кіраўніцтву. Літоўскае войска ў тым часе знаходзілася ў зародкавым стане. Першы полк гэтага войска налічваў каля 30 афіцэраў і каля 200 салдат, а другі – толькі некалькі афіцэраў і некалькі

---

168 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 69.

169 Краўцоў Макар. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі // Спадчына. 1998. № 1. С. 106–107.

170 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 67.

171 Тодар Данілюк. Мае ўспаміны аб службе ў беларускіх вайсковых фармацыях і ўдзеле ў беларускім збройным змаганьні 1917–1921 гг. // Спадчына. 1995. № 5. С. 26.

салдат. Такім чынам, утварэнне беларускіх адзінак магло быць для літоўскага войска важным узмацненнем. Літоўскаму войску бракавала кадравых афіцэраў. З гэтай прычыны генерал Кіпрыян Кандратовіч на кароткі тэрмін быў прызначаны віцэ-міністрам народнай абароны ва ўрадзе Літвы, але фактычным кіраўніком вайсковага міністэрства быў прэм'ер А. Вальдэмарас[172]. Свой урад Вальдемарас будаваў не па партыйным прынцыпе, у яго кабінеце былі прадстаўлены дзеячы самых разнастайных поглядаў, а таксама самых розных нацыянальнасцей, напрыклад, на пасту міністра замежных спраў быў Сямён Разенбаўм (яўрэй).

Будучы на гэтай пасадзе, генерал арганізоўваў літоўскае войска на Ковеншчыне. Маёр беларускага войска А. Ружанцаў пісаў у мемуарах: «…віцэ-міністрам быў вельмі непапулярны сярод літоўцаў генерал расійскай службы К. А. Кандратовіч. Фармаванне войска пачалося ў Вільні, адразу былі заложаны штабы 1-га і 2-га беларускіх палкоў… у хуткім часе генерал Кандратовіч падаўся ў дымісію (адстаўку)»[173].

1 студзеня 1919 г. у сувязі з бальшавіцкім наступам літоўскі ўрад пакінуў Вільню, кіруючыся ў Коўна, большасць беларускіх дзеячаў яшчэ 27 снежня 1918 г. пераехала ў Гродна. Туды ж накіраваліся і беларускія вайскоўцы.

Цікава адзначыць, што калі восенню 1919 г. у Гродна польскія ўлады пачалі фармаваць у сваім войску беларускія часткі, дык казалі, што «будуць фармавацца "часьці", якія роўна нічога не маюць супольнага з гэн. Кандратовічам», г. зн. не падначаленыя Радзе БНР. Пра гэта напісаў Тамаш Грыб у лісце да Антона Луцкевіча[174]. Такім чынам, як бы там ні было, але імя генерала сталася сімвалам прыналежнасці да БНР, да Беларусі.

* * *

Вывучаючы падзеі 1917–1920 гг. на землях былога ВКЛ, можна прыйсці да высновы, што ніводзін з тутэйшых народаў не стварыў войска, здольнага абараніць свой край (нават украінцы, маючы армію колькасцю больш за 500 000 жаўнераў,

[172] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 74.
[173] Ружанцаў А. Беларускія войскі ў Літве (1918–1920) // Спадчына. 1993. № 4. С. 23.
[174] Архівы БНР. I, 1. С. 492.

не змаглі ўтрымаць сваю незалежную дзяржаву). Польскую справу на нашых землях вырашылі дывізіі з этнічнай Польшчы, літоўцы ўдала выкарысталі дыпламатычную кан'юнктуру, атрымаўшы прызнанне з боку бальшавіцкага ўрада супраць Польшчы. А беларуская дзяржава была раздушана чужымі войскамі з усходу і захаду. Таму для беларусаў лёсавызначальным з'яўляўся пошук саюзнікаў, але суседзі: расійцы, палякі, украінцы і літоўцы бачылі беларускія землі ў складзе сваіх дзяржаў.

Вырашальнай была хуткасць, бо ў рэвалюцыйны час страта некалькіх тыдняў магла прывесці да гібелі ўсёй справы. Мы беларусы, запозна дайшлі да ўсведамлення неабходнасці поўнай незалежнасці, дэкларававўшы яе 25 сакавіка 1918 г., украінцы зрабілі гэта 22 студзеня 1918 г., а літоўцы – 16 лютага 1918 г.

# У Парыжы

18 студзеня 1919 г. у Парыжы адкрылася міжнародная канферэнцыя, якая была павінна падвесці вынікі Першай сусветнай вайны. 22 студзеня 1919 г. Антон Луцкевіч падпісаў мемарандум беларускага ўрада да старшыні Парыжскай мірнай канферэнцыі, у якім абгрунтаваў права беларускага народа на дзяржаўнае існаванне, падаў этапы фармавання беларускай дзяржаўнасці, выказаў просьбы аб дапамозе Беларусі ў гэтай справе і дапушчэнні прадстаўнікоў БНР на канферэнцыю «дзеля абароны інтарэсаў беларускага народа і дачы патрэбных інфармацый»[175].

Сярод іншых мемарандум меўся завезці ў Парыж генерал Кіпрыян Кандратовіч, які на пачатку студзеня 1919 г. вярнуўся з перамоў з камандаваннем Обер-Оста і далажыў Луцкевічу, што немцы выступаюць супраць стварэння арміі. Луцкевіч запісаў у дзённіку, што генерал «маецца ехаць у Парыж сваім коштам. Пры нашых рэсурсах гэта шчасце»[176]. Трэба дадаць, што яшчэ ў 1892 г. Кандратовіч быў узнагароджаны вышэйшай французскай узнагародай, ордэнам Ганаровага легіёна (Kawaler orderu Wielkiej wstęgi Legii Honorowej)[177], што магло дапамагчы яму ў Парыжы.

У выніку ў Парыж са спазненнем больш чым на месяц

---

175 Архівы БНР. I, 1. С. 321–322.

176 Лазько Р. Р. Антон Луцкевіч у Парыжы летам 1919 г. // Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны: навук. зб. Вып. 5. Мінск, 2009. С. 103–104.

177 Słowo. № 277 (3084). 4 listopada 1932.

выехалі сябры дэлегацыі Кандратовіч, Азнабішын[178] і сакратар дэлегацыі Баркоў. Антон Луцкевіч далучыўся да іх у канцы траўня (знаходзіўся ў сталіцы Францыі на працягу трох месяцаў) і ўжо на месцы ўключыў у склад дэлегацыі «навапспечанага» палкоўніка Яўгена Ладнова, які прыехаў з Адэсы, дзе працаваў у беларускім асяродку[179].

22 студзеня 1918 г. генерал Кандратовіч атрымлівае ад урада БНР дыпламатычнае пасведчанне (гл. дадаткі)[180]. Як сябар дэлегацыі БНР на Парыжскую мірную міжнародную канферэнцыю генерал у лютым 1919 г. найперш прыехаў у нямецкую сталіцу. Доўгая працэдура атрымання пропуску ў Парыж прымусіла ўсю дэлегацыю правесці тры месяцы ў Берліне[181]. Таму разам з першым афіцыйным пасланнікам БНР у Германіі капітанам Антонам Борыкам[182] Кіпрыян Кандратовіч нейкі час вёў беларускую працу сярод палонных вайскоўцаў-беларусаў у Германіі. У нямецкіх лагерах для ваеннапалонных знаходзілася каля 60 000 беларусаў, з іх беларускі ўрад спадзяваўся сфармаваць вайсковыя аддзелы, якія пазней маглі скласці ядро нацыянальнага войска. Антон Борык пісаў: «Апіраючыся на грунт нацыянальнага развіцця сярод палонных беларусаў у Нямеччыне, я,

[178] Азнабішын Аляксей Аляксандравіч (1869–1929), уладальнік маёнтка Масты, гродзенскі віцэ-губернатар, а затым дэпутат IV Дзяржаўнай думы, застаўся ў эміграцыі ў Парыжы. Аўтар кнігі «Успаміны члена IV Дзяржаўнай думы» (Познобишин А. А. Воспоминания члена IV Государственной думы. Париж, 1937. 264 с.). На жаль, успаміны Азнабішына заканчваюцца лютаўскай рэвалюцыяй 1917 г. Кнігу можна прачытаць на сайце pawet.net

[179] Гл: Лазько Рыгор. Лісты Антона Луцкевіча з часу Парыжскай мірнай канферэнцыі // Arche. 2006. № 10. С. 57–58.

[180] Архівы БНР. I, 1. С. 320.

[181] Там жа. С. 632.

[182] Борык Антон (1894–?), кіраўнік Беларускай ваеннай місіі ў Нямеччыне, некаторы час узначальваў беларускую калонію ў Берліне. 30 чэрвеня 1919 г. разам з К. Цярэшчанкам заклалі Аддзел збліжэньня палоненых беларусаў у Нямеччыне з родным краем. У 1920 г. выканаўчы дырэктар фірмы «Сындыкат Сапегі для Эўропы і Азіі на Беларусі». Потым перабіраецца ў Беларусь, працуе ў Беларускай вайсковай камісіі (БВК). Удзельнік Слуцкага паўстання, быў начальнікам штаб 1-й Слуцкай брыгады войскаў БНР. Паводле інфармацыі Сяргея Шупы, завербаваны ў якасці агента-асведамляльніка польскаю дэфензіваю. Пасля ліквідавання БВК працаваў у прадстаўніцтвах БНР у Латвіі і Летуве. Пасля 1921 г. яго лёс невядомы. Гл: Дакумэнты дыпляматычнае чыннасьці БНР у Нямеччыне ... // Спадчына. 1998. № 2. С. 222.

прыехаўшы 23- го сакавіка ў Берлін, паставіў сабе мэтай... дастаць пазваленьне на свабодны праезд мне і членам, якія потым маглі бы быць прысланы, ва ўсе лагеры палонных. З гэтай мэтай былі зроблены ўсе заходы мною з дапамогай п. генерала Кандратовіча і пана Пасла, якім у той час быў п. Смоліч. Па праву мы павінны былі бы звярнуцца да нямецкага Ваеннага Міністэрства... Калі стараннi ўсіх нашых віднейшых людзей, у тым ліку і генерала Кандратовіча, не далі добрых рэзультатаў, і такім правам я, утраціўшы надзею дабіцца ў лагер дарогай легальнай, стаў шукаць... кірунку праціўнаго, т. е. неафіцыяльнай дарогі»[183].

У красавіку 1919 г. беларуская дэлегацыя на Парыжскую мірную канферэнцыю падае амбасадарам Францыі, Англіі і ЗША ў Берліне мемарандум ад імя Рады міністраў БНР з просьбаю прызнаць беларускую дзяржаву[184].

25 чэрвеня 1919 г. Антон Луцкевіч у сваім лісце да Дыпламатычнай місіі БНР у Берліне, сярод іншага, паведамляе: «Наладжываецца справа «заходняга анцібольшэвіцкага фронту» (паводле запіскі ген. Кондратовіча, якую дашлю), а разам з тым і выступленьня на гэтым фронці і нашых войск»[185].

У сярэдзіне лістапада 1919 г. кіраўнік беларускай дэлегацыі ў Парыжы Яўген Ладноў паведаміў Радзе БНР: «Ва французскім Міністэрстве замежных спраў генералу Кандратовічу і мне было сказана: «Сфармуйце хаця б невялікую воінскую частку, і мы Вам асігнуем неабходныя грашовыя сродкі і дадзім ваенна-тэхнічныя матэрыялы»... Французскі генерал Рампон па просьбе беларускай дэлегацыі ў Парыжы вылучыў у цвердзі Вердэн каля 200 чалавек беларусаў... Ведаючы, што на сфармаванне роты ў 200 чалавек, пры кошце ўтрымання аднаго чалавека ў месяц – мінімальна 300 фр., патрабуецца 60 000 фр. у месяц»[186].

Але грошай не было. 8 студзеня 1920 г. той жа Яўген Ладноў піша Антону Луцкевічу: «Заплаціў жалаванне за сту-дзень, [за] кватэру да 5 сакавіка, і селі на мель. Грошай больш няма, бо курс маркі 20-21 санцім. Азнабішын з'язджае ў Берлін к Баркову. Ге-

---

[183] Дакумэнты дыпляматычнае чыннасьці БНР у Нямеччыне. Падрыхтоўка публікацыі Уладзімера Сакалоўскага // Спадчына. 1998. № 2. С. 204., 206.
[184] Гл.: Сакалоўскі Уладзімір. Надзвычайная місія БНР у Нямеччыне (1919–1925) // Arhe. 2009. № 3. С. 7–328.
[185] Архівы БНР. I, 1. С. 363.
[186] Там жа. С. 498.

нерал [Кандратовіч] охае і ахае, што будзе далей!»[187]. Праз 4 дні Ладноў піша Луцкевічу: «Азнабішын збіраецца з'ехаць у Берлін да Баркова. Генерал занепакоены нашым далейшым лёсам і адсутнасцю сродкаў»[188].

13 снежня 1919 г. з-за расколу ў Радзе БНР паміж эсэрамі (БПС-Р) і Беларускай партыяй сацыялістаў-федэралістаў (БПС-Ф) быў створаны пяты (паралельны) урад БНР на чале з В. Ластоўскім. Да таго ж з'явіўся цалкам самазваны «ўрад» А. Бахановіча. Праца дэлегацыі прыпынялася, у сярэдзіне лютага 1920 г. Ладноў сярод іншага паведаміў Луцкевічу: «У выніку правакацыі атрымалася тры ўрады... Сёння князь Львоў паведаміў Кандратовічу, што руская дэлегацыя... пастанавіла заявіць Мірнай Канферэнцыі, што яна супраць незалежнай Беларусі і выступае за раздзел яе паміж Польшчай і Савецкай Расіяй... У нас сёння абедаў Ф. І. Родзічаў. Ён едзе ў Варшаву ў якасці пасла. Я азнаёміў яго з справамі і патлумачыў, што мы ўсёй душой з імі, але нас дзеляць, і таму адзіны для нас выхад – незалежнасць. ...генерал «дапоўніў» мае тлумачэнні: «Луцкевіч каталік, вялікі, вельмі вялікі «самасційнік». Ім шмат хто незадаволены...» Кандратовіч моцна заняўся камерцыяй – стараецца ўладкаваць гандлёвыя дачыненні паміж Поўднем Расіі і Іспаніяй. Зразумела, хоча зарабіць»[189].

Непаразуменне паміж кіраўніком беларускай дэлегацыі і Кандратовічам нарасталі, генерал пачаў атрымліваць тыповыя абвінавачванні на класавай глебе: «Ад генерала прыходзіцца ўсё хаваць... Ён дрыжыць за свой маёнтак і таму супраць усіх выступаў супраць палякаў. ...пры магчымасці наняць людзей, яго трэба прыбраць»[190].

У пісьмах да Луцкевіча Яўген Ладноў інтрыгуе супраць іншых сяброў дэлегацыі і патрабуе іх адстаўкі. 13 лютага 1920 г. Антон Луцкевіч афіцыйна выключыў Кіпрыяна Кандратовіча са складу беларускай дэлегацыі: «Гэтым падаю да Вашага ведама, што Член Дэлегацыі Генерал-ад-інфантэрыі Кіпрыян Кандратовіч... выключаецца са складу Дэлегацыі»[191]. Тады ж быў адстаўлены і Азнабішын[192].

---

[187] Там жа. С. 589.
[188] Там жа. С. 593.
[189] Там жа. 655–659.
[190] Там жа. С. 664–665.
[191] Там жа. С. 667.
[192] Там жа.

Яўген Ладноў паведаміў Антону Луцкевічу, што «тэлеграмы (аб адстаўцы Кандратовіча і Азнабішына – Л. Л.) падшыў у справу і нікому ні слова... У дадзены момант нельга нікога выключаць з дэлегацыі»[193].

28 лютага 1920 г. і сам Луцкевіч сышоў з пасады старшыні Рады народных міністраў.

Лісты Ладнова да Луцкевіча пакідаюць дзіўнае ўражанне. Бачна, што Яўген Ладноў лічыў сабе вялікім знаўцам людзей і палітыкі. Яго лісты да Луцкевіча напоўнены павучаннямі як павінен сябе паводзіць старшыня ўрада, што рабіць, каму верыць, на што спадзявацца і г. д. Не дзіва, што Антон Луцкевіч у сваіх паказаннях на допытах у НКУС сказаў пра Ладнова: «Трэба заўважыць, што ён валодаў нейкім асаблівым талентам заварожваць і пераконваць людзей: у першы момант яму нават вельмі цяжка нешта запрэчыць, гэтак уплывае ён на слухачоў»[194].

На нарадзе Прэзідыума Рады БНР і Рады народных міністраў БНР у Рызе 30.05.1920 г. Ладноў расказаў пра «змову», якая як быццам склалася яшчэ ў канцы жніўня 1919 г.: «Пасля арэштавання Французскай паліцыяй на Парыжскім вакзале Ознабішына, выкралося сьледствам, што ешче ў прошлым году ў Берліне Ознобішын, Кондратовіч і Борков заснавалі монархічна-патрыотычную расійскую організацыю, звязаліся з нямецкімі манархістамі і прыкрываючыся мандатамі Беларускай дэлегацыі знасіліся ўвесь час з немцамі. Французская паліцыя даўно прымечала за імі нейкую нелегальную работу і атгэтуль ішло недаверье Французаў да ўсёй Беларускай дэлегацыі. Гр. Ладнову каштавала многа высілкаў, каб ачысціцца асабіста ад падазрэнняў... і каб ачысціць ад падазрэнняў усю работу Беларускай Місыі ў Парыжы»[195].

Зараз цяжка сказаць што стаяла за словамі Ладнова (вядома, што "манархічная змова" на ўсходзе Еўропы і насамрэч была[196]). Але магчыма, гэта была ягоная асабістая правака-

[193] Там жа. С. 685.

[194] Чарнякевіч А. М. Міністр БНР: дзіўныя шляхі Яўгена Ладнова // Личность в истории: героическое и трагическое: сборник материалов Пятой междунар. науч.-практ. конф., посвящ. 20-летию историч. ф-та, Брест, 23–24 ноября 2011 г. / БрГУ им. А. С. Пушкина: редкол.: М. Э. Чесновский (гл. ред.) [и др.]. – Брест, 2012. С. 243.

[195] Архівы БНР. І, 1. С. 768.

[196] Гл: Шупа Сяргей. Падарожжа ў БНР. 2018. С. Ш-19–Ш-24.

цыя, а магчыма, французская паліцыя і сапраўды нешта западозрыла – толькі што скончылася вайна, і група асоб, якая прыехала з Германіі, павінна была выклікаць павышаную ўвагу французскіх улад. А можа, наогул нічога і не было. Аднак толькі пасля гэтай нарады Прэзідыума Рады БНР у траўні 1920 г. Ладноў рассылае замежным дыпламатам інфармацыю аб спыненні паўнамоцтваў Кандратовіча і Азнабішына[197].

І толькі ў 1921 г. стала вядома, што Яўген Ладноў з'яўляецца супрацоўнікам II га аддзела Генеральнага штаба Войска Польскага[198]. «Ладноў на дадзены момант з'яўляецца адным з галоўных інфарматараў нашага Генеральнага штаба. На вывядоўчую акцыю Ладнова было асігнавана 5 тысяч франкаў у месяц. Тэрыторыяй дзейнасці з'яўляецца Парыж і Прага», – паведаміў у сярэдзіне 1921 г. невядомы карэспандэнт, верагодна, афіцэр «двуйкі»[199].

Як вынік, 8 траўня 1921 г. Ладноў выключаны са складу ўрада БНР. Калі ён вярнуўся ў Парыж, яго чакала распараджэнне з боку Вацлава Ластоўскага здаць усе справы дэлегацыі на рукі генерала Кіпрыяна Кандратовіча[200]. Такім чынам безвыніковымі аказаліся шматгадовыя інтрыгі платнага агента «двуйкі» супраць старога беларускага генерала[201]. Праўда перамагла.

Але канчаткова Я. Ладноў быў адрынуты беларускім рухам толькі праз 2 гады. 10 траўня 1923 г. беларускае прэс-бюро распаўсюдзіла інфармацыю аб тым, што Я. Ладноў з’яўляецца правакатарам, і рэкамендавала ўсім беларускам арганізацыям і дзеячам «пазьбягаць блізкага знаёмства з ім». Як вынікае з паказанняў Антона Луцкевіча і Браніслава Тарашкевіча, дадзеных імі пасля арышту НКУС, II аддзел Генеральнага штаба Войска Польскага ўздзейнічаў на беларускіх палітыкаў якраз праз свайго агента Яўгена Ладнова[202].

---

197 Там жа. С. 845.; Архівы БНР. I, 2. 879.

198 Так званая «двуйка» – другі аддзел Генеральнага штаба польскага войска ў міжваеннае дваццацігоддзе – выведка.

199 Чарнякевіч А. М. Міністр БНР: дзіўныя шляхі Яўгена Ладнова. С. 247.

200 Там жа. С. 248.

201 Вышэй я адмыслова амаль што не цытаваў брудныя паклёпы Ладнова супраць генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Кандратовіча, але ў архівах БНР яны засталіся.

202 Кароткі нарыс беларускага пытаньня. Рэд. Алесь Пашкевіч, А. Вашкевіч. Мінск, 2009. С. 108. 267.

Ёсць надзея, што мы хутка даведаемся пра новыя падрабязнасці аб дзейнасці беларускай дэлегацыі ў Парыжы бо ў сваёй кнізе «Падарожжа ў БНР» Сяргей Шупа паведаміў: «...нядаўна ў сталіцы адной усходнеэўрапейскай дзяржавы быў знойдзены архіў беларускай дэлегацыі на Парыскай мірнай канфэрэнцыі. Тысячы старонак, сабраных і адсартаваных Ладновым» . Будзем чакаць публікацыі архіва, але, зразумела, што Ладноў павінен быў адбіраць для архіва тыя дакументы, якія станоўча адлюстроўвалі яго працу.

«Беларуская энцыклапедыя» піша, што К. А. Кандратовіч застаўся жыць у Парыжы і яго далейшы лёс невядомы[203]. Такую самую інфармацыю дае і «Літоўская гістарычная энцыклапедыя», выдадзеная ў Бостане[204].

Генерал і насамрэч на некалькі гадоў застаўся ў Парыжы. У Архіве БНР захавалася тэлеграма Кандратовіча з Парыжа да Вацлава Ластоўскага, датаваная 02.07.1921: «Ластоўскі. Гатэль Метраполь, Коўна. Ваш ліст, верагодна, не дайшоў, адпраўце копію». 19.07.1921 г. Кандратовіч дасылае з Парыжа Ластоўскаму ў Коўна ліст з паведамленнем аб тым, што нейкі Альберт Бодры аддаў архівы Місіі БНР у Парыжы і друкавальныя машынкі Ладнову[205].

Вядома, што яшчэ ў 1922 г. генерал быў падпісчыкам урадавай беларускай газеты «Беларускі Сьцяг», жыў ён тады ў раёне Парыжа Нёі-сюр-Сен (Neuilly-sur-Seine)[206]. У XX стагоддзі гэта прадмесце стала прытулкам заможных жыхароў Парыжа, асабліва бізнесменаў і прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі.

У 1923 г. Кандратовіч надрукаваў серыю цікавых артыкулаў пад рубрыкай «Ад нашага парыжскага карэспандэнта» ў беларускай газеце «Наш Сьцяг» (гл. дадаткі). У артыкулах ён расказвае пра падзеі ў Еўропе і Лізе Нацый, з тэкстаў бачна, што аўтар уважліва назірае за палітычным жыццём, трымаецца пры гэтым дастаткова левых поглядаў, мае добрыя сувязі і сталыя кантакты з чыноўнікамі высокага ўзроўню ў дзяржаўных еўрапейскіх сферах.

Згодна са спісам афіцэраў Генеральнага штаба з архіва

---

[203] БЭ. Т. 7. С. 578.

[204] Lietuviu enciklopedija. Boston. T. 12. S. 318–319.

[205] Там жа. С. 1152.

[206] Архівы БНР. I, 2. С. 1315.

Галоўнакамандуючага рускай арміяй у эміграцыі, 1 сакавіка 1924 г. генерал яшчэ жыў у Парыжы[207].

І як бачым, у Францыі Кандратовіч служыў Беларусі.

Але былі і асабістыя прычыны, з-за якіх генерал застаўся ў Францыі. У 1920 ці 1921 г. у яго ў Парыжы нарадзіўся сын Уладзімір. Пакуль што мы валодаем мінімумам інфармацыі пра сына генерала – Кандратовіча Уладзіміра Кіпрыянавіча. Але відочна, што ён нарадзіўся не ад шлюбу з Адай фон Рыхтэр. Адзіная згадка пра яго знайшлося ў кнізе А. А. Угрымава «З Масквы ў Маскву праз Парыж і Варкуту»[208].

---

[207] Ганин А. В. Корпус офицеров Генерального штаба в годы гражданской войны 1917-1922 гг. С. 727.

[208] Угримов А. А. Из Москвы в Москву через Париж и Воркуту / сост., предисл. и коммент. Т. А. Угримовой. М.: Изд-во «RA», 2004. С. 299. («Судьба этого человека типична для нашего времени. Сын генерала Кондратовича, он был младороссом в юношеской «спортгруппе». Красивый, статный, веселый был малый. В 1939 году пошел добровольцем во французскую армию и служил в драгунском полку – моторизованной кавалерии. Провоевал всю кампанию 1939–1940 годов и насмотрелся «чудес» о «drole de guerre» (странной войне): мосты не взрывались, минные поля разминировались, оружие не поступало и прочее, и прочее. Был взят в плен вместе с Данзасом, тоже младороссом, который в 1941 году пошел к немцам, а Кондратович отказался и вернулся во Францию только после войны. В общей волне стремления вернуться в Россию и разочарованный Францией, репатриировался в конце 1947 года. Скитался по Советскому Союзу в надежде найти подходящую работу в сельском хозяйстве. Выселен из Крыма, где, было, зацепился. Пытался меня найти в Саратове, когда я был уже арестован. Был сам посажен и осужден ОСО на принудительные работы на Воркуте. Был ранен при «беспорядках» на 29-й, но остался после освобождения, чтобы заработать деньги на устройство жизни с женой, которая приехала к нему на Воркуту после невероятно тяжелых лет, пока он «сидел». Позже начал работать на кожевенной фабрике в Осташкове и нашел меня по учебнику французского языка моей дочери. Заболел раком пищевода. Я ездил к нему в Осташков и сделал, что мог, так как домашние условия у него были совершенно неподходящими. Его, при моем участии, поместили в 62-ю онкологическую больницу в ПетровоДальнем в почти безнадежном состоянии. Он сознавал, что болен раком и умирает. Он умер у меня на руках вследствие кровоизлияния после облучения. Кондратович был жертвой того патриотического психоза, который нас охватил после победоносной войны, победы и веры, что теперь Россия расцветет! Торжественное отпевание Владимира было устроено А. Л. Казем-Беком в церкви Петра и Павла в Лефортове»). У тлумачальнай спасылцы Угрымаў А. А. піша, што справа ідзе менавіта пра сына генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча.

# У Гародне

Апошнія гады свайго жыцця беларускі генерал правёў на радзіме.

Перад Першай сусветнай вайной, пасля пераводу ў Варшаўскую акругу, сям'я генерала купіла маёнтак Гародна (500 га зямлі і лес) у Лідскім павеце, дзе Кандратовіч жыў разам з дачкой Верай і жонкай Адай[209].

Маёнтак Гародна мае вялікую і слынную гісторыю.

Гародна ў першай палове XVIII ст. было спадчыннай уласнасцю княгіні Саламеі Радзівіл з Сапегаў. У 1762 г. яна падаравала яго стрыечнаму ўнуку Людвіку Скумін-Тышкевічу (памёр у 1809 г.), жанатаму з княгіняй Канстанцыяй Панятоўскай (1759–1830). Кароль Станіслаў Аўгуст у Літве вырашыў абаперціся на Тышкевічаў. Адну з сваіх пляменніц, дачку князя Казіміра Панятоўскага, каароннага падкаморыя, выдаў замуж за Людвіка Тышкевіча, для другой, Тарэзы, дачкі Андрэя Панятоўскага, аўстрыйскага фельдмаршала, выбраў Вінцэнта Тышкевіча, літоўскага ардынарыя. Людвік Тышкевіч, паслядоўна займаючы пасады віленскага цівуна, пісара вялікага літоўскага, гетмана польнага літоўскага, падскарбія вялікага літоўскага, а пасля падзелу краіны губернскага маршалка, «действительного статского советника», паступова пашыраў свае ўладанні вакол Гародна, набыўшы Перавозы і Забалаць з фальваркамі. Таксама былі пажалаваны яму каралём староства Эйшышскае, Васілішскае, Каняўскае, Радунскае і інш. Цэнтрам сваёй

[209] Гл.: Roman Aftanazy. Dzieje rezydencji. T. 4. S. 122–139.

рэзідэнцыі ён выбраў Гародна. Ягоная зямельная маёмасць, падзеленая на дзве вялікія зоны, складалася з 65 вёсак. Добры гаспадар, ён трымаў свае маёнткі на высокім гаспадарчым узроўні.

Пасля смерці Людвіка Скумін-Тышкевіча ў 1808 г. увесь гэты вялікі маёнтак атрымала ў спадчыну ягоная адзіная дачка Ганна (1779–1867). Яна была замужам за Аляксандрам Патоцкім, а потым за Станіславам Дуніным-Вансоўскім. Тастаментам ад 1867 г. перапісала Гародна сыну ад першага шлюбу М. Патоцкаму (1812–1879), пасля смерці якога ўсё перайшло ў спадчыну ў 1880 г. графу Аўгусту Патоцкаму. Уладальніца Гародна, графіня Ганна Патоцкая напісала найцікавейшыя мемуары аб часе Напалеона, сваіх шматлікіх сустрэчах з ім (мемуары былі выдадзены ў XIX ст. на французскай мове і ў той жа час перакладзены на рускую, у 2005 г. перавыдадзены)[210].

Напрыканцы XIX ст. А. Патоцкі прадаў Гародна рускаму генералу Асатураву, ад якога маёнтак перайшоў да графа Ігнацьева, ад яго – да генерала Кандратовіча. У той час маёнтак складаўся з 23 200 дзесяцін зямлі і 15 фальваркаў, але Кандратовічы купілі толькі ягоную частку з Гароднам.

Людвік Тышкевіч, жанаты з княжной Канстанцыяй Панятоўскай, дачкой князя Казіміра, подкаморага вялікага кароннага, роднага брата караля Станіслава Аўгуста, у 1775 г. чакаў прыезду караля і, як кажа мясцовае паданне, на працягу аднаго года пабудаваў хоць драўляны, але вельмі прыгожы двор у класічным стылі. Сядзіба пабудавана архітэктарам Ф. Эйсенам. Дом звонку не вылучаўся нічым асаблівым, але ўсярэдзіне быў бліскуча і з добрым густам аздоблены. На ўпрыгожванне сядзібы Тышкевіч выдаткаваў вялікія сумы, запрашаючы мастакоў-дэкаратараў і майстроў, а таксама выпісваючы матэрыялы наўпрост з Парыжа. Кароль Станіслаў Панятоўскі ў Гародна так і не прыехаў, аднак двор быў закончаны і, няглядзячы на гульню лёсу, дастаяў да Другой сусветнай вайны.

Патоцкія ў Гародна бывалі эпізадычна, і таму з-за недахопу гаспадарчага нагляду і надта паспешнай будоўлі сцены пастунова пачалі нахіляцца, што запатрабавала рамонту.

[210] Гл.: Графиня Анна Патоцкая. Мемуары. 1794–1820. Москва, 2005.

Ад зруйнавання сядзібу выратаваў М. Патоцкі, які аддаў загад адрамантаваць дом і ашаляваць сцены дошкамі. Гэта не ўпрыгожыла дом, але забяспечыла яму доўгае жыццё. Таксама ўсярэдзіне былі праведзены работы па кансервацыі інтэр'еру.

Сядзібны ансамбль у Гародна стваралі тры будынкі: жылы палац, дом прыслугі, што стаяў насупраць, а з правага боку – мураваная капліца.

Цэнтр кампазіцыі – драўляны, на высокім мураваным цокалі, аднапавярховы прамавугольны сядзібны дом у стылі класіцызму (1780 г., архітэктар Ш. Цуг). Прасторны аднапавярховы сядзібны дом меў франтальна выцягнутыя фасады, па цэнтры якіх вылучаліся рызаліты з чатырохкалоннымі дарычнымі порцікамі, пад галоўны з якіх па шырокіх бакавых пандусах уязджалі карэты. Трохвугольныя франтоны порцікаў запаўнялі пластычныя картушы. Усярэдзіне дом меў парадную анфіладу апартаментаў з вялізнай бальнай залай у цэнтры. У падвале, у які вялі тарцовыя лесвіцы, знаходзіліся гаспадарчыя памяшканні і жыллё прыслугі. Строгі і аскетычны знешні выгляд будынка кантраставаў з багаццем і пышнасцю інтэр'еру дома, аформленага з выкарыстаннем палатняных шпалер, тукавых панэляў, пазалочаных барэльефаў, медальёнаў, гірлянд, кветак, ваз з арнаментным роспісам, кафляных грубак і камінаў, жырандоляў у стылі Людовіка XVI з крышталю з пазалочанамі бронзавымі апраўамі. Захаваліся фотаздымкі 1939 г., па якіх можна ўявіць сабе выгляд дома на працягу XIX–XX ст.ст. Самы вялікі пакой займала бібліятэка. Яна адначасова служыла памяшканнем для гульні ў карты і змяшчала 4 кніжныя шафы і бронзавы, з мармуровымі ўпрыгожаннямі стол для гульні ў карты, 14 карцін, 4 гіпсавыя бюсты[211]. Летам 1944 г. пасля бою аддзела АК з немцамі акаўцы запалілі палац, бо баяліся, што ў ім будзе размешчана залога надыходзячай Чырвонай Арміі. Пры гэтым шмат рэчаў з палаца разнеслі мясцовыя жыхары.

[211] Гл.: Roman Aftanazy. Dzieje rezydencji. T. 4. S. 122–139.



*Палацавы комплекс у Гародна, малюнак Напалеона Орды. На малюнку: палац, капліца, флігель*

* * *

Вось у гэтым прыгожым маёнтку і прайшлі апошнія гады жыцця беларускага генерала К. Кандратовіча.

Пра гэтыя гады распавёў былы памочнік садоўніка маёнтка Струкель Уладзіслаў Янавіч (1916 г. нар., у 1939 г. жаўнер, абаронца Варшавы)[212].

Сям'я Кандратовічаў вызначалася інтэлігентнасцю і добразычлівасцю да людзей. Сам генерал карыстаўся расійскай, беларускай, польскай мовамі ў побыце, у залежнасці ад абставін. Можна меркаваць, што адносіны з навакольнымі абшарнікамі не склаліся, і блізкае сяброўства ўсталявалася толькі з нейкім уладальнікам сядзібы каля Малога Мажэйкава. Госці прыязджалі з Варшавы і Францыі і Іспаніі, дзе жылі сваякі жонкі Ады. Дачка Вера атрымала хатнюю адукацыю і выйшла замуж за мастака з Англіі, іспанца па паходжанні, Трыстама Рэйні (Tristam Reiney), з канца 1930-х і да смерці ў 1988 г. жыла ў Англіі[213].

У жніво жонка Ада сустракала кожныя першыя вазы з падзякай да сялян і келіхам гарэлкі. Сам Струкель, тады яшчэ малады хлопец, атрымліваў заробак у памеры 90 пудоў жыта ў год плюс корм для жывёлы і бульбу, колькі трэба. Асабліва жонка генерала сачыла за прыгажосцю і парадкам у парку, сваім доме і ў дамах, дзе жыла прыслуга. Людзі, якія працавалі ў Кандратовічаў, атрымоўвалі беспрацэнтныя крэдыты на развіццё гаспадаркі, і, калі гаспадары бачылі, што грошы ўкладзены з розумам, крэдыт спісваўся.

Апошнія гады Кандратовіч правёў у інвалідным крэсле, хварэючы стратай каардынацыі руху. Ён не мог хадзіць, і жонка наняла сталую прыслугу. Памёр генерал Кандратовіч 31 кастрычніка 1932 г., быў пахаваны ў тым самым мундзіры, у якім быў паранены ў 1905 г. Пахаванне адбылося на лідскіх праваслаўных могілках.

Віленская газета «Слова» на пачатку лістапада 1932 г.

---

212 Спадчына. 2002. № 1. С. 161–166.

213 Вера Кандратовіч пазнаёмілася з Трыстамам Рэйні падчас знаходжання ў Іспаніі, дзе яна гасцявала ў свайго дзядзькі Уладзіміра Гвідавіча Рыхтэра. Каля яе ў кафэ страціў прытомнасць малады іспанец, і Вера была сярод тых, хто аказаў яму першую дапамогу. Першы ўнук генерала – Георгі – нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, наступныя, Мікалай і Аляксандр, у Англіі.

надрукавала аб'яву пра смерць былога міністра абароны БНР Кіпрыяна Кандратовіча: «Генерал ад інфантэрыі рускай арміі, кавалер ордэна Св. Георгія і вялікай стужкі Ганаровага легіёна, пасля доўгай і цяжкай хваробы ціха заснуў з Богам 31 кастрычніка гэтага года ў сваім маёнтку Гародна. Быў пахаваны на праваслаўных могілках у Лідзе. Аб чым з глыбокім смуткам паведамляюць жонка і дачка»[214].

Кандратовічы мелі аўтамабіль, у 1934 г. за Адай Кандратовіч быў зарэгістраваны амерыканскі аўтамабіль «Авэрлэнд» (Overland)[215], а ў 1936 г. польскі «Фіят»[216]. У яе маёнтку меўся адзіны ў Гародна тэлефон, які меў № 3[217].

Вядомы мастак, рэстаўратар, гісторык мастацтва і дацэнт Віленскага ўніверсітэта Ежы Хопэн (Jerzy Hoppen, 1891–1969), які ўвосень 1938 г. гасцяваў у гаспадыні маёнтка Гародна Ады Кандратовіч, вывучаў палац і напісаў цікавы нарыс у віленскай газеце «Слова». Даследчык залічыў гарадненскі палац да найбольш каштоўных помнікаў Віленшчыны. «Вялікі аднапавярховы дом, пабудаваны на невысокім узгорку, з велічным ганкам, манументальнымі сходамі і высокай пад'язной дарожкай, проста ўражвае сваім выглядам... Гародна захавалася да нашых дзён і зараз з'яўляецца маёмасцю жонкі генерала Кандратовіча... Акрамя выдатнага жылога дома гарадненскі двор складаецца яшчэ з найпрыгажэйшага парку і капліцы. У парку маецца штучны стаў у форме вельмі выцягнутага простакутніка, пры канцы става – вялікая альтанка на мураваных калонах. Жылы дом – цудоўны ўзор станіславаўскага стылю (часоў караля Станіслава Панятоўскага – Л. Л.)... знутры прасторны, з высокай столлю, каміны той эпохі, кафляныя печы таксама з XVIII ст. з гербам Тышкевічаў «Лялівай». Сцены, калісьці абабітыя ядвабнай тканінай, сёння выклеены шпалерамі, але захавалі рамы і ліштвы, на якіх трымалася ядваба. Дзверы, супрапорты і рамы ад люстраў таксама добра захаваліся. Усё гэта сніцарскай работы, выканана з дрэва ці з адмысловай масы, мае белы колер з пазалотай і нясе на сабе адбітак таленавітага майстра і архітэктара... Міфалагічныя і алегарычныя сцэнкі, якія ўпрыгожваюць рамы люстраў,

[214] Słowo. № 277 (3084), 4 listopada 1932.
[215] Nowogródzki Dziennik Wojewódzki. № 30. 15 grudnia 1934. S. 202.
[216] Nowogródzki Dziennik Wojewódzki. № 23. 15 grudnia 1936. S. 191.
[217] Spis Abonentów Sieci Telefonicznej Okręgu Dyrekcji Poczt i Telegrafów w Wilnie na 1939 r. Warszawa – Styczeń 1939. S. 36.

інтэграваныя ў супрапорты... Ёсць у іх нейкая лёгкасць, добры густ і атмасфера салонаў»[218], – пісаў Ежы Хопэн.

Аднак Першая сусветная вайна не пашкадавала Гародна. Удава генерала расказала даследчыку, што ў гэты час была вывезена ў Германію ўся бронза. На дзвярах засталіся сляды ад ранейшых клямак і акуццяў, а на прыгожым мармуровым каміне – толькі адтуліны ад цвікоў, якімі была прымацавана дэкаратыўная бронза. Аднак над камінам захаваўся медальён з залатой аздобай з выявай галавы Станіслава Аўгуста. З мэблі немцы пакінулі некалькі крэслаў і фатэляў у стылі Людовіка XVI і столікі пад люстрамі.

Ежы Хопэн заўважыў, што сям'я генерала Кандратовіча цалкам усведамляла каштоўнасць гэтага помніка і старанна яго захоўвала. «Усё ўтрымліваецца з незвычайным піетэтам да твораў мастацтва»[219].

Далей даследчык піша пра вялікую мураваную капліцу ці нават касцёл у стылі віленскага барока. Па меркаванні Хопэна, капліца пабудавана раней за палац і не мае ніякага дачынення да станіславаўскага стылю, на франтоне месціцца выраблены з тынку рэльеф з трыма гербамі фундатараў, сярод якіх чамусьці няма «Лялівы» Скумін-Тышкевічаў. У той час унутры капліцы добра захаваўся багаты алтар і хоры, абапёртыя на слупы, якія нагадваюць такія ж у віленскім касцёле Св. Духа. Падлога з цэглы. На дзвярах акуцці ў стылі ракако. «Несумненна, капліца мае агульныя рысы з архітэктурай віленскіх касцёлаў»[220], – мяркуе гісторык мастацтва.

Ежы Хопэн закончыў артыкул такімі словамі: «Увесь гэты прыгожы маёнтак, які складаецца з сядзібы, старых каштанавых алей у парку, мураваных лаў і да нашага часу рэгуляванага става з альтанкай, адлюстроўвае эпоху, ахінутую моцным захапленнем да асобы караля, з якім гэтак арганічна асацыявалася прыгажосць»[221].

---

[218] Słowo. № 271 (5195). 3 października 1938.
[219] Там жа.
[220] Там жа.
[221] Там жа.

17 верасня 1939 г. Ада Кандратовіч вымушана была з’ехаць праз Літву да дачкі ў Англію. У жніўні 1998 г. яе ўнук прыязджае на Беларусь дзеля перазахавання труны генерала на новых могілках у Воранава. А урну з часткай праху сваёй маці, якая пражыла найлепшыя гады маладосці ў маёнтку Гародна, пахаваў у прыгожым кутку парку, каля былой альтанкі. На крыжы было напісана: «Вера Киприяновна Рейни (Кондратович) 1912–1988». У траўні 2000 г. труна з парэшткамі генерала была перазахавана каля царквы ў Воранаве.

Цяпер унукі і праўнукі генерала жывуць у Англіі і ЗША. Магчыма, што ўнукі генерала ёсць і ў Расіі.

А ў Беларусі да магілы генерала Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча прыходзяць тыя, каму дарагія ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі, за якія ён змагаўся.



*Дачка генерала Вера з мужам каля палаца.*
*З музея Пагародненскай сярэдняй школы*



*Ада і Вера Кандратовіч на Каляды ў палацы Гародна.*
*З музея Пагародненскай сярэдняй школы*

*Некралог па генералу Кандратовічу ў газеце “Слова”*



ś. p.

**Cyprjan Kondratowicz**

**Generał broni b. armji rosyjskiej, kawaler Orderu św. Jerzego i Wielkiej wstęgi Legji Honorowej**

po długiej i ciężkiej chorobie cicho zasnął w Bogu w dniu 31 października r. b. w swoim majątku Horodno. Pochowany został na cmentarzu prawosławnym w Lidzie.

O czem pogrążeni w głębokim smutku zawiadamiają

**Żona i córka.**




*Сучасная магіла генерала Кандратовіча каля царквы ў Воранава*

## *Дадатак 1*
## *Паслужны спіс генерала Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча*

На службу паступіў 07.05.1875 г. у Вільні.

1878 – закончыў 2-ю вайсковую Канстанцінаўскую вучэльню ў Пецярбургу. 16 красавіка 1878 г. выпушчаны падпаручнікам і прыпісаны да лейб-гвардзейскага Егерскага палка. Затым пераведзены ў лейб-гвардзейскі Ізмайлаўскі полк прапаршчыкам.

29.07.1879 атрымаў чын падпаручніка гвардыі.

28.03.1882 – паручнік гвардыі.

25.03.1884 – штабс-капітан гвардыі, затым пераведзены ў капітаны Генеральнага штаба (зноў пры пераходзе з гвардыі ў армію аўтаматычна атрымаў чын на адну прыступку вышэй). Служыў пры штабе Маскоўскай вайсковай акругі.

08.11.1884–02.04.1888 – афіцэр для спецыяльных даручэнняў пры штабе грэнадзёрскага корпуса ў Маскве.

01.12.1885–01.10.1886 – адбывае цэнзавае камандаванне ротай у 1-м лейб-грэнадзёрскім Екацярынаслаўскім палку (дзеля павышэння па службе афіцэр абавязаны быў выканаць камандзірскі цэнз на ўсіх вайсковых прыступках).

24.04.1888 – падпалкоўнік.

02.04.1888–12.12.1889 – штаб-афіцэр для даручэнняў пры штабе Маскоўскай вайсковай акругі.

12.12.1889–15.11.1897 – штаб-афіцэр для спецыяльных даручэнняў пры камандуючым войскамі Маскоўскай вайсковай акругі.

28.03.1893 – палкоўнік.

01.05.1895–01.09.1895 – адбывае цэнзавае камандаванне батальёнам у 6-м грэнадзёрскім Таўрычаскім палку.

15.11.1897–02.02.1901 – начальнік штаба 2-й грэнадзёрскай дывізіі ў Маскве.

1900 – удзельнічаў у кітайскай кампаніі.

1900 – з фармулёўкай «за баявыя заслугі» раней тэрміну прысвоена званне генерал-маёр.

07.02.1901–11.07.1902 – камандзір 2-й брыгады 36-й пяхотнай дывізіі.

11.07.1902–24.12.1903 – у распараджэнні камандуючага войскамі Квантунскай вобласці.

24.12.1903–31.01.1904 – у распараджэнні намесніка на Далёкім Усходзе.

31.01.1904–22.02.1904 – начальнік 9-й Усходне-Сібірскай стралковай брыгады.

22.02.1904–05.03.1905 – камандзір 9-й Усходне-Сібірскай стралковай дывізіі.

20.08.1904 – «за баявыя заслугі» зноў датэрмінова пры-своена званне генерал-лейтэнант.

04.07.1906–02.01.1907 – прыкамандзіраваны да Галоўнага штаба.

02.01.07–25.01.1907 – камандзір 2-га вайсковага корпуса са штабам у Гродна.

25.01.1907–01.01.1910 – памочнік туркестанскага генерал-губернатара і камандуючага войскамі Туркестанскай акругі генерала Самсонава. Адначасова начальнік штаба Сямірэчанскага казачага войска ў г. Ташкент.

06.12.1910 – генерал ад інфантэрыі.

01.01.1910–15.08.1913 – камандзір 1-га Каўказскага армейскага корпуса, адначасова памочнік генерал-губернатара ў г. Тыфліс.

15.08.1913 – камандзір 23-га армейскага корпуса 2-й арміі.

30.08.1914 – па выніках баёў зняты з займанай пасады і звольнены ў адстаўку, быў ў рэзерве чыноў пры штабе Мінскага ВА (з 25.11.1915).

З 08.05.1917 камандаваў 75-й пяхотнай дывізіяй.

1917 – на з'ездзе воінаў-беларусаў Заходняга фронту ён быў абраны ў Цэнтральную беларускую вайсковую раду (ЦБВР). Узначаліў створанае Радай бюро па арганізацыі беларускага войска.

Май 1918 – у Радзе Міністраў БНР пад кіраўніцтвам Р. Скірмунта, міністр вайсковых спраў.

Лістапад 1918 – на кароткі тэрмін быў прызначаны віцэ-міністрам народнай абароны ва ўрадзе Літвы.

Пачатак 1919 – у Гродна Кандратовіч удзельнічае ў фармаванні штаба, беларускай камендатуры і 1-ы беларускі полк.

Пачатак 1919 – генерал Кандратовіч разам з дэпутатам Дзяржаўнай думы Расіі Азнабішыным выязджае ў Парыж дзеля ўдзелу ў Парыжскай мірнай канферэнцыі.

## *Дадатак 2*
## *Узнагароды генерала Кандратовіча*

За 42 гады службы ў расійскім войску генерал К. Кандратовіч быў узнагароджаны амаль усімі вышэйшымі ордэнамі імперыі і іншых дзяржаў:

Св. Станіслава 3-й ст. (1885);
Св. Ганны 3-й ст. (1891);
Французскі ордэн Ганаровага легіёна (1892);
Св. Станіслава 2-й ст. (1896);
Св. Ганны 2-й ст. (1899);
Св. Уладзіміра 3-й ст. з мячамі (1902);
Св. Станіслава 1-й ст. з мячамі (1904);
Св. Ганны 1-й ст. з мячамі (1905);
Залатая зброя (1906);
Св. Георгія 4-й ст. (17.07.1906);
Св. Уладзіміра 2-й ст. (03.07.1909);
Белага Арла (06.12.1912);
Св. Аляксандра Неўскага (01.06.1916);
Італьянскай кароны 2-й ст. (?).

## *Дадатак 3*

## *На войне*

*(От нашего специального корреспондента)*[222]

1) Выстрелы

Лагерь под Да-Ши-Цао. Безоблачное небо. Солнечные лучи обжигают до боли. Душно от горячих, влажных испарений, платье прилипает к телу. Прохладной тени искать негде. Растительности нет. Склоны гор со всех сторон обжигаются солнцем, доходящим в полдень почти до зенита. На биваке под палатками с подобранными краями для притока воздуха офицеры лежат, обмахиваясь веерами, а на солдатах соломенные китайские шляпы.

Китайцы, которых кругом тысячи, ходят голые до пояса. Их коричневые тела теснятся здесь всюду. Это – рабочие. Они роют канавы для осушки бивачных мест от ожидаемых дождей, строят у станции новые воинские платформы, работают у размывов, развозят интендантские грузы и т.п.

От подножия одиноко стоящей сопки на далекое пространство кругом раскинулся лагерь. На вершине сопки наблюдательный пост с сигнальным столбом.

Мы поднимались на эту вершину и в бинокль видели Ин-Коу, Ляо-Хэ и море, т.е. Ляо-Дунский залив с прибрежной полосой у Гай-Чжоу. Смотрели с жадностью, думая между судами различить неприятельские, но расстояние, даже и для сильного бинокля, слишком велико.

К 12 часам жара становится невыносимой. Как ни устрашали нас периодом дождей, но в такие минуты его ждут с нетерпением. Однако настоящий период дождей не наступает. Выпадают дожди дня на два, образуют местами целые озера, по которым можно кататься на лодках; но неделя солнечных дней, – и все высыхает.

Период дождей, с обиходной точкой зрения, значит: приготовляйся к домашнему аресту недель на шесть, заготовляй себе провизии на этот срок, потому что твой дом уподобится Ноеву ковчегу, и сообщение с внешним миром может поддерживается разве при помощи голубиной почты.

В лагере вечное движение: группы лошадей, идущих на водопой, без седел, с верховыми в рубахах, в соломенных китайских шляпах; бесконечные вереницы обозов; режущие ухо

[222] Нива. 1904. № 34.

крики мулов, ржание коней. Откуда-то раздается песня, и батальон пехоты, растянувшись на дороге, выступает на передовую позицию…

Глухой выстрел… за ним другой… Из палаток выходят офицеры. В руках у некоторых бинокли.

Смотрят на вершины южной цепи гор, где чернеют точки наших постов. Но точки неподвижны и загадочны.

Опять выстрел…

- Зимин! Седлай Ва-фан-гоу! – слышится из-за палаток.

«Ва-фан-гоу», как показывает название, лошадь, взятая в бою под Ва-фан-гоу, но не 2-го июня, а 17-го мая, когда было забрано более двадцати японских лошадей. Это очень милые лошадки австралийской породы черной масти, смирные, как телята, и все прекрасно выезженные. У всех на крепе выжжена цифра 13… цифра полка несчастного эскадрона, погибшего 17-го мая…

Бумм… Бумм…

И опять тихо…

В стороне по дороге проскакивают два офицера с вестовым…

- Поручик, куда вы?… Ведь ерунда…

- Посмотрим… Ничего нет – вернемся…

Выстрелы на биваке слышны почти каждый день. Армия в напряжении. Ждут дела, а потому от каждого выстрела настораживаем внимание.

Бу-у-у-м – раздается точно ближе и раскатистее. Группа у палатки прислушивается.

- Это, должно-быть у Кондратовича…

- Нет, это дальше верст на 18. Как разве вон за той дальней сопкой… у Гернгросса…

Выстрелы слишком редки. Однако сажусь на лодку и еду вместе с владельцем «Ва-фан-гоу». Несколько офицеров пошли подниматься на гору…

Через четверть часа палатки, солдаты, дымки от походных кухонь, белый санитарный поезд Императрицы Александры Федоровны, оружия с укутанными в чехлы замками, купающиеся в мелкой речонке солдаты и тут же моющие свое белье, – все это осталось позади, и мы крупной рысью едем по затоптанному гаоляну…

Вот проехали китайскую деревню. Черные свиньи копошатся у глиняных заборов. Голые китайчата показываются у входа и черными глазками удивленно смотрят на нас.

Премилые зверьки эти китайчата. Они не дичатся нас, достаточно им увидеть ласковую улыбку, чтобы они вам доверились. Это, кстати, относится вообще к китайцам, которые почему-то европейцам представляются полуживотными. К ним относятся презрительно и грубо… Это факт, который никто не будет оспаривать… Так относится к ним наш солдат, так смотрят на них наши офицеры; таково же отношение к нам иностранцев, как это я заметил в Ин-коу…

Между тем достаточно ласкового взгляда, приветливого слова, в черных с припухшими веками глазах загорается такая радостная благодарность, такая покорность, что становится стыдно за тех, кто не умеет или не хочет вызвать такой улыбки.

- Они привыкли от своих же властей, что с ними обращались жестко, – говорят любители прямолинейной логики.

Довод очень простой и ясный и очень похож на то, что «караси привыкли, чтобы их жарили в сметане».

Однако, несмотря на убедительность такой логики, в некоторых пунктах на полосе отчуждения, как, например, в Харбине, совместное правление таких деятелей, как генерал Джао-мян (китайский уполномоченный для сношений с русскими властями) и Вл. С. Иваненко, выработали совместно такую форму суда, где выворачивание рук и свист бамбуковых палок стали фигурировать гораздо реже. И странное дело! Китайцы не только не обиделись на такое отступление от их привычек, но даже стали реже попадаться в проступках, за которые с ними прежде проделывали подобные манипуляции.

Голые черномазые ребятишки выстраиваются во фронт и отдают честь, прикладывая руку ко лбу. В Ляо-Яне теперь толпы ребятишек ходят правильным строем с деревянными палками, в качестве ружей, и проделывают ружейные приемы. Старший мальчуган командует по-русски – по всем правилам военного устава. Чистота и правильность приемов приводит в удивление наших офицеров. Настоящий китайский солдат далеко уступает им в этом отношении. Нужно прибавить еще, что подобных игр среди китайских ребят прежде не существовало…

Горы все ближе и ближе… Вдали, пересекая наш путь, едет офицер с вестовым… Мы ему кричим, просим остановиться, но он машет рукой по направлению к горам и едет дальше.

Едем дальше. Нам навстречу, но гораздо правее, держась линии железной дороги, несут раненых. Двое носилок несут по четыре человека санитаров. Должно-быть, раненые в ночном разъезде.

Подъезжаем к крутому берегу реки, широкой и глубокой во время половодья, но теперь почти высохшей, так что в брод переправляемся свободно. Лошадям вода по колени.

Гора уже перед нами. На вершине по обыкновению сторожевой пост. У подножья раскинулась китайская деревня. Видны конные и пешие фигуры; у входов часовые.

Сдаем лошадей вестовым. В глубине двора фанзы, в тени нескольких лиан стоит большой стол; на нем карты-двухверстки, белые офицерские фуражки, несколько полубутылок танзана.

Генерал Кондратович разговаривает с датским военным агентом. За столом несколько офицеров штаба рассматривают карты. Здороваются.

- На выстрелы приехали? – спрашивает генерал.

Отвечаем утвердительно.

- Ничего нет. Это японцы стреляли по нашим разъездам..

Выражаем сожаление и, поговорив минут десять, собираемся ехать обратно.

- Куда вам торопиться? Пообедайте. Может-быть, скоро приедет Родзянко.

Шталмейстер Родзянко – общий любимец.

Его летучий отряд, снаряженный на его личные средства, единственный в этом роде, если не считать отрядов Высочайших Особ. Своей энергией и распорядительностью, как начальник отряда, он заслужил всеобщие симпатии. Находясь во главе летучего отряда, он всегда был впереди и в вафан-гоуском бою со своими помощниками оказывал помощь раненым именно там, где она более всего необходима, т.е. под огнем. Чтобы его отряд был действительно летучим, он вместо повозок снабдил свой отряд вьюками. Вьючные седла по изобретенному им самим образцу, имеющие вид кресел, помещаются на лошади и приспособлены так, что в этих креслах помещаются по бокам лошади по два раненых.

- Легок на помине!

Переступая порог фанзы, вошел П. В. Родзянко. За ним черномазый черкес Хасан нес корзину, из которой выглядывали жестянки всяких консервов и горлышки бутылок.

- Ваше превосходительство, я привез к вам гостей, принимайте! – произнес он красивым басом.

- Гостям очень рад, – отвечал генерал Кондратович, – но зачем же, ваше превосходительство, эти прибавления?..

- Это мое, а разве вы не считаете меня своим?

- Вам нельзя противоречить, – отвечает Кондратович, и генералы обнялись.

Собрались и гости. Люди все знакомые: командир железнодорожного батальона полковник Кашуба, капитан гвардии уполномоченный Красного Креста Кононович, комендант станции Да-Ши-Цао, красавиц мужчина, поручик Г-ский, колоссальный поручик-машинист З. и многие другие…

- Господа, – произнес Родзянко: теперь мы пообедаем, чем Бог послал, а потом, как будет попрохладнее, я вас угощу таким десертом, какого вы нигде не получите. Ваше превосходительство, разрешите песенников 34-го полка?

- Конечно, сделайте одолжение…

Покуда вестовые собирали обед, ординарец принес интересное донесение о ночном деле.

Накануне ночью партия охотников в сорок человек ползком добралась до деревни, где уже заранее предполагался передовой отряд японцев. Приблизившись к деревне на двести шагов, они из гаоляна дали залп, за ним – другой.

Мертвая деревня ожила, послышался топот коней, крики, команды, несколько тревожных выстрелов. Наши дали еще залп, и эскадрон японской кавалерии выскочил из деревни. Казалось, что он прямо на охотников, но на карьере изменил направление и, свернув влево, понесся по долине. Прождав в засаде около часа, охотники отошли на полверсты, простояли здесь еще около часа. Эскадрон не возвращался…

Когда сегодня утром наш конный разъезд проник в деревню, то она оказалась пустой, и там было девять трупов. Если взять приблизительно пропорцию, то раненых у японцев должно было быть не менее тридцати человек…

- Лихой народ эти охотники, – сказал Родзянко.

- И такие штуки они проделывают почти каждую ночь, – прибавил генерал Кондратович. – Я очень доволен своими молодцами.

Меню обеда было весьма разнообразно, почти все из консервов – кому что хватило. Сервировка также разнообразна – тарелками, ножами, ложками пользовались по очереди. Рюмки, стаканы из дорожных несессеров, даже жестяные кружки, из которых приятно пить только в бивачной обстановке… Но перехожу прямо к десерту.

Сумерки наступают здесь очень быстро. Около 8-ми часов подали свечи в китайских фонариках. Легкая прохлада пронеслась над двором. Мертвые днем листья чинар ожили и затрепетали.

Вдруг из темного угла двора раздался стройный аккорд хоровой песни. Сидевшие за столом приостановили свою долгую беседу и прислушались. Хор пел стройно, красиво, прекрасными голосами, и не верилось, что это поют солдаты. Когда пропели первую песнь, генерал велел песенникам подойти ближе. В тишине раздались мерные шаги строя, и из темноты выдвинулся ряд людей в серых рубахах, в руках у них были ружья…

Зачем ружья у песенников? Декорация чудная. Темная июльская южная ночь, разноцветные огни фонариков, которые песенники зажгли и держали перед собой, и отблески их на штыках… Но ружья у песенников не для декорации…

Здесь вблизи неприятеля, солдат оставляет ружье только на время отдыха. Покуда же он на ногах, ружье с ним неотлучно… Здесь в боевом районе, даже служащие на линии железной дороги вооружены, стрелочники стоят с ружьями за спиной; едешь на дрезине: солдаты сзади работают на рукоятках, а в ногах у них лежат их ружья…

Далекой родиной повеяло от русских песен… На минуту забыты тревоги войны, тягости походной жизни, и как ласковые успокоительные слова друга, осветили слушателей знакомые дорогие напевы.

Я отошел в сторону, чтобы полюбоваться необыкновенной картиной. На заднем фоне под взошедшей луной выделилось очертание высокой горы. За ней уже находились позиции японцев, под горой ходили невидимо наши разъезды, с

минуты на минуту могли раздаться выстрелы… в группе песенников блестели штыки… Но песнь лилась и разносилась по тихой долине…

Сзади меня на низкой стене кто-то пошевелился, Оглядываюсь – темная голова китайца: очевидно прислушивается.

- Что, ходя, хорошо? – спрашиваю…

- Шанго… – отвечает он, и зубастый рот его раскрывается в широкую улыбку…

Начав эти страницы в Да-Ши-Цао, а оборвал их на последних строках. В два-три дня произошли значительные события. Теперь, когда я дописываю эти строки, из окна вагона Спиридонского поезда расстилается уже не тот пейзаж, к которому мы успели привыкнуть в Да-Ши-Цао, а другой, менее знакомый… Да, в Да-Ши-Цао уже хозяйничают японцы, а мы в Хай-Чэне…

Перехожу к описанию необыкновенного по своим условиям и последствиям боя под Да-Ши-Цао. Это был вчера, и гром орудий до сих пор еще слышится в моих ушах.

## *Дадатак 4*

## *Доклад правительственной комиссии. 23-й корпус*[223]

23-й арм. корпус (командир корпуса генерал от инфантерии Кондратович) по окончании мобилизации был немедленно же разобран по частям: 3-я гвардейская пех. дивизия (начальник дивизии генерал-лейтенант Сирелиус) была отправлена в Соколку, и резерв Главнокомандующего армиями Северо-западного фронта; 2-я пех. дивизия (начальник дивизии генерал-лейтенант Мингин) осталась в Новогеоргиевске, в распоряжении коменданта крепости; корпусная конница (отдельная гвардейская кав. бригада) была отправлена на Юго-Западный фронт для действия против австрийцев; мортирный дивизион был переведен в состав 2-го арм. корпуса; саперный батальон – в крепость Гродно; корпусный транспорт и прочие тыловые учреждения были распределены по другим корпусам. В распоряжении командира корпуса оставался лишь штаб корпуса Однако в приказах и директивах 2-й армии корпус часто упоминался, как будто он действовал полностью.

После решения Главнокомандующего армиями фронта начать наступление в пределы Восточной Пруссии и обход Мазурских озер с севера и запада 23-му корпусу было приказано сосредоточиться в районе Новогеоргиевска.

Движение в указанный район началось 2 августа; однако телеграммою Главнокомандующего армиями фронта от 1 августа № 3 указывалось, что 3-я гвардейская пех. дивизия должна оставаться в Соколке для обеспечения направления на Гродно[224].

3 августа дивизия эта, передвинутая в Белосток, была возвращена обратно в Соколку, 4-го ее приказано было передвинуть в Домброво.

Таким образом, к началу операции 2-й армии в Восточной Пруссии 23-й арм. корпус оказался в составе одной только 2-й пех. дивизии, которую в Новогеоргиевске сменила 1-я стр. бригада (начальник бригады генерал-майор Васильев).

При наступлении 2-й армии 2-я пех. дивизия была дви-

[223] Восточно-Прусская операция: Сборник документов. С. 587–593.
[224] Показание генерала Орановского.

нута отдельно в «промежуток между 1-м и 15-м армейскими корпусами.

Дивизию составляли полки: 5-й пех. Калужский, 6-й пех. Либавский, 7-й пех. Ревельский и 8-й пех. Эстляндский.

9 августа дивизии приказано было перейти к Млаве, так как имелось в виду держать ее уступом сзади, для обеспечения левого фланга армии.

На 10 августа 2-я пех. дивизия, с ее артиллерией, должна была перейти в Липовец, но ввиду полученных от генерала Артамонова донесений о взятии вечером 9 августа передовыми частями 1-го корпуса Сольдау и о том, что Найденбург горит, дивизии приказано было перейти к Кл. Кослау.

11 августа, ввиду неприбытия командира 23-го корпуса генерала Кондратовича, находившегося с остальными частями корпуса еще в пути, 2-я пех. дивизия была подчинена командиру 15-го корпуса генералу Мартосу.

В этот день она была у Липпау, имея авангард у Скоттау. 3-я гвардейская пех. дивизия в это время подходила к Млаве. 1-я стр. бригада находилась еще в Новогеоргиевске.

Таким образом, при выходе корпуса на линию наступления 2-й армии 2-я пех. дивизия вошла в бой целиком, части 3-й гвардейской пех. дивизии подвозились эшелонами и входили в бой пачками и притом в районе действия 1-го корпуса, за исключением лишь одного л.-гв. Кексгольмского полка, приданного 14 августа 2-й пех. дивизии.

Направление частям корпуса дано было на линии: на 12 августа – Михалькен, Гардинен, на 13-е – Хохенштейн, Рейхенау. В действительности 12 августа 2-я пех. дивизия оставалась на месте, ввиду особого распоряжения командующего армией, переданного по искровому телеграфу, о том, чтобы 15-му и 13-му корпусам оставаться на местах впредь до особого приказания.

13 августа 1-я бригада 2-й пех. дивизии (полки 5-й Калужский и 6-й Либавский), выступив с места ночлега у Липпау, успешно продвигалась вперед и к полудню головными частями подошла к Зейтену. Здесь были получены сведения о занятии противником Мюлена и леса, что к западу от линии Зейтен, Тимау.

Быстро развернувшись, бригада выбила 6-м пех. Либав-

ским полком германцев из леса, но дальнейшее ее движение было остановлено противником, занимавшим сильно укрепленную позицию у Мюлена.

Либавцы и часть калужцев развернулись к югу от Мюлена.

Войдя в связь с 22-м пех. Нижегородским полком (из состава 15-го корпуса), начальник 2-й пех. дивизии генерал Мингин предполагал подготовить атаку на Мюлен артиллерийским огнем и к сумеркам овладеть деревней; да в это время, около 6-7 час. вечера, он получил донесение от начальника 2-й бригады о полной неудаче этой бригады (полков 7-го Ревельского и 8-го Эстляндского).

Бригада эта заняла Гросс Гардинен, а затем легко выбила германцев из Турау; при дальнейшем же своем движении от Турау на Зеевальде она неожиданно попала под сильный перекрестный огонь тяжелой артиллерии противника со стороны фронта Логдау, Фаулен и была атакована неприятельской пехотой из-за леса, находившегося у этой линии.

Потрясенная неожиданным сильным огнем противника, бригада в полном расстройстве отошла через Зиминау к Липпау, не принимая более никакого участия в боевых действиях дня.

Неудача 2-й бригады принудила генерала Мингина прекратить наступление на Мюлен. Ища с ней соединения, он в ночь с 13 на 14 августа отошел с 1-й бригадой к Янишкау, где и занял позицию, получив от командующего армией, через офицера генерального штаба, приказ удерживаться здесь упорно и южнее Скоттау не отходить ни в каком случае. 14 августа 2-я пех. дивизия вместе с 15-м корпусом вновь возобновила бой с противником.

1-я бригада этой дивизии с тремя батареями, как выше указано, занимала позицию у Янишкау. В 8 час. утра противник открыл по ней сильный артиллерийский огонь. Окопы, занятые Калужским и Либавским полками, буквально осыпались бомбами и шрапнелями тяжелой германской артиллерии, производившими на людей потрясающее моральное впечатление. Наша полевая артиллерия не могла состязаться с дальнобойными тяжелыми пушками противника. Вскоре на левом фланге бригады появились четыре неприятельские

эскадрона с конной артиллерией, открывшей огонь против тыла занятой позиции; вслед за этим обозначился обход левого фланга бригады германской пехотой. Полки начали отступать. Начальник дивизии генерал Мингин успел, однако, приостановить это отступление, уже начавшее делаться беспорядочным, и к 12 час. дня занял новую позицию, впереди и западнее Франкенау, теми частями бригады, которые ему удалось взять в руки. Роты оказались перемешанными, часть их успела уже отойти далеко за Франкенау; только к вечеру генерал Мингин мог привести расстроенную бригаду в порядок и на ночь остался на занятой позиции. Преследования со стороны противника не было.

Что касается 2-й бригады 2-й пех. дивизии (Ревельский и Эстляндский полки), то она утром 14 августа, без всякого давления со стороны противника, стала отходить от Липпау, где ночевала с 13 на 14 августа, к Найденбургу. Отход этот происходил в большом беспорядке.

Получив донесение о беспорядочном отступлении бригады, командующий армией послал к ней одного из офицеров Генерального штаба с приказанием остановить это отступление и привести бригаду а порядок. Оказалось, что к Найденбургу отходил 8-й пех. Эстляндский полк с полубатареей 2-й арт. бригады. Хаос был полный. Батальоны и роты совершенно перепутались, люди были страшно утомлены, патронов на руках почти не было, не было третий день ни хлеба, ни сухарей[225].

Полк был остановлен под самым Найденбургом, приведен в порядок и расположен на отдых. Однако общее состояние Эстляндского полка совершенно исключало возможность рассчитывать на него как на боевую единицу, и командующий армией приказал отвести его на бивак к Найденбургу, выдать ему хлеб из бывшего там транспорта и только утром 15 августа отправить его к Франкенау на присоединение к дивизии[226].

В ночь с 13 на 14 августа командиру 23-го корпуса генералу Кондратовичу, находившемуся в Млаве, было переда-

[225] В таком же положении, т. е. 3 дня без хлеба и сухарей, была и 1-я бригада дивизии. Это являлось результатом безостановочного наступления при неорганизованном тыле.

[226] Краткое описание боевых действий 2-й армии.

Глаўказап прапаршчык Мясьнікоў, часова, з прычыны ад'езду Крыленкі у Петраград, уступіў у абавязкі Глаўкаверха і першым чынам, – карыстаючы з новага свайго, хоць і часавага становішча і грунтуючыся, на выбухшай у гэты момант, і страшна перапужаўшай бальшавікоў, вайне з Украінай, зноў выдаў катэгарычны тэлэграмны загад з Могілева аб забароне далейшага фармаваньня 1-га пешага Менскага беларускага палка і аб злучэньні яго з астаткамі 289-га пеш. Запаснога палка, які стаяў ў Менску».

*Езавітаў К. Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада // Крывіч. 1924. №1(7). С. 42–43*

## *Дадатак 9. Палітычныя агляды з Парыжа генерала Кандратовіча К. А.*

Пабеда нацыянальнай ідэі[240].
(Ад нашага парыжскага карэспандэнта)

У Бэльгіі узьняўся міністэрскі крызіс. Зьмены ўрадаў у апошнія гады ў-ва ўсіх гаспадарствах не навіна: яны адбываюцца па некалькі разоў у год. Але крызіс у Бэльгіі заслугуе на асаблівую ўвагу дзеля тае прычыны, якая выклікала яго.

Прычына – тое, што ўрад не задаволіў нацыянальных патрэб флямандаў, якія становяць блізу палову насяленьня Бэльгіі. Дагэтуль, ня гледзячы на падзел насяленьня на дзьве нацыянальныя групы: валёнаў і флямандаў,ануючай мовай у Бельгіі была мова француская, ужываная валёнамі. Уся інтэлігенцыя гаварыла па француску, не раўнуючы, як у нас па польску, ці-то па маскоўску. Па флямандзку-ж гаварыла толькі народная маса флямандаў. З гэтае прычыны вышэйшая навука ў абодвух бэльгійскіх урадовых унівэрсытэтах адбываласа выключна па француску. Але за апошнія гады, асабліва ў часе сусьветнае аайны, нацыянальнае адраджэньне флямандаў зрабіла такі вялікі поступ, што народ зажадаў, каб і навука ў адным з унівэрсытэтаў адбыбалася па флямандзку, пакідаючы ў другім і надалей францускую мову.

Бэльгійскі парляманг, у якім большасьць галасоў маюць валёны, пад сільным націскам Францыі, дагэтуль ня йшоў ні на якія уступкі флягмандам. На такім-жа становішчы стаяў і прыхільны да Францыі бэльгійскі ўрад, дык паміж ім і парлямантам ня было ў гэтай справе разнабою. Але ў апошнім часе настрой парляманту зьмяніўся.

Зьмяніўся ён дзякуючы вельмі цікаўнай зьмене становішча сацыялістаў. Сацыялісты ў Бэльгіі стаялі дагэтуль на тым, што нацыянальныя імкненьні флямандаў – гэта зьявішча «дробна-буржуазнае», з якім сацыялізм павінен змагацца. Але пад уплывам нацыянальнае палітыкі ў Савецкіх Рэспубліках, якія ня толькі не змагаюцца з нацыянальнымі імкненьнямі розных народаў, а на гэтых імкненьнях будуюць вялізарны гмах сусьветнае Фэдэрацыі сацыялістычных нацыянальных

[240] Наш Сьцяг. № 7. 27 чэрвеня 1923.

рэспублік, пагляды бэльгійскіх сацыялістаў на нацыянальныя пытаньні значна зьмяніліся.

І вось, калі ў бэльгійскім парлямэнце ўзнялося пытаньне аб перастройцы аднаго з двух француcкіх унівэрсытэтаў на флямандзкі, лідэр сацыялістаў, Вандэрвэльдэ, і ўся сацыялістычная фракцыя падалі голас за здаваленьне дамаганьняў флямандаў. Сацыялістычныя галасы далі перавагу флямандам, і ўрад, які працівіўся іхнім дамаганьням, быў прымушаны падацца ў адстаўку.

У Францыі гэткі неспадзяваны паварот справы выклікаў вялікае абурэньне. Фрацуская мова ў Бэльгіі была да гэтуль тэй асновай, на якой грунтаваўся палітычны ўплыў тутака Францыі. Разумеючы гэта, немцы ў часе акупацыі Бэльгіі вельмі горача падтрымлівалі флямандзкі адраджэнскі рух. Пабеду гэтага руху фрацускія палітыкі разглядаюць, як пабеду нямецкіх уплываў, што можа адбіцца наагул на прыязных да гэтуль француска-бэльгійскіх адносінах.

Але гэты страх – неабаснованы. Гэта была не пабеда Нямеччыны, а пабеда нацыянальнае ідэі сярод бэльгійскіх сацыялістаў. Апошні факт трэба асабліва адзначыць, бо ён сьведчыць, што і заходня-эўрапэйскіх сацыялістаў ужо пачаў пакідаць стары забабонны страх перад нацыянальнымі рухамі адсталых народаў.

*Кандратовіч. 20.VI.1923 г.*

Крызіс насьпявае[241].

(Ад нашага парыжскага карэспандэнта)

Тое абурэньне англійскага грамадзянства, аб якім я пісаў у пачатку чэрвеня, з прычыны становішча Францыі ў пытаньні аб спагнаньні нямецкае кантрыбуцыі, пераходзіць у новую фазу. Я перуказваў вам перш толькі словы дыплямата, гавораныя паціху і ў “чатыры вочы”. Цяпер уся Англія ня ўкрывае свайго пагляду на непамерныя французскія апэтыты на нямецкае золата. У тэатрах і кабарэтах Лёндана вы пачуеце злыя насьмешкі над французамі і іх палітычнымі дзеячамі, якіх выводзяць на сцэну ў карыкатурнай постаці. У шырокіх масах народу раздражненьне ў адносінах да Францыі ўсё больш узмацоўваецца і ўжо пачало выліваецца і на страніцах

---

241 Наш Сьцяг. № 11. 11 ліпеня 1923.

англійскіх газет. Францускія палітычныя кругі нязвычайна парушаныя пагрозамі дзьвух дужа ўплывовых англійскіх газет: “Sunday Times” і “Observer”, якія адкрыта выступілі проці Францыі, пагражаючы развалам “Антанты” і самастойным выступленьнем Англіі ў справе адносін да Нямеччыны. Сказаныя газеты пішуць, што, раз Англіі не па дарозе ісьці з Францыяй, дык яна павінна цукаць апоры ў нэўтральных гаспадарствах і дайсці разьвязання споркі з Нямеччынай дарогай угоды з немцамі. Францускі пасол у Лёндане ураз-жа зьвярнуўся да лёрда Керзана з запытаньнем, як трэба разумець заявы гэных газет. І хаця яго заверылі, што газеты зусім не адбіваюць поглядаў ураду, ўсё-ж францускія палітычныя кругі дужа крэпка занепакоены: адначасна выявілася, што Англія, аб якой думалі, што яна ня будзе дамагацца ад Нямеччыны ніякіх аплат для сябе, вялікадушна пазваляючы Францыі “выпампаўваць” усё нямецкае золата ў свае кішэні, вымагае ад немцаў аплаты што-году па 600 мільёнаў залатых марак. Гэтае жаданьне зусім паблытала францускія пляны. Да таго і францускія камуністы задаюць ураду ў парлямэнце пытаньні, якія прыадкрываюць завесу над закуліснымі махінацыямі Францыі, скіраванымі да таго, каб разьбіць і так ужо парэзаную на кускі Нямеччыну на драбнейшыя часткі, апіраючыся на сэпаратызьме баварскіх манархістаў.

Настрой францускіх урадавых кругоў дужа нэрвовы. Пункарэ робіць што-раз вастрэйшыя заявы аб адносінах да немцаў, награжае ўсе цяжэйшым націскам на Нямеччыну, бо бачыць, што калі ня ўдасцца зламаць нямецкую апору зараз, дык ня ўдасца дапяць францускіх мэтаў зусім: сэпаратнае выступленьне Англіі, з якой увайшла ў паразуменьне і Італія, набліжаецца вельмі шыбка.

Але нэрвы для палітыкаў – гэта сьмерць. І нэрвовасьць у францускай палітыцы, якая выяўляецца ў усе часьцейшых сьмяротных прыгаворах над рурскімі сабатажнікамі, можа толькі ўскорыць крызіс Антанты.

*Кандратовіч.*

Палітычныя падзеі пасьля англійскае заявы[242].
(Ад нашага парыжскага карэспандэнта)

З тэлеграмаў вы ўжо напэўна ведаеце аб заяве англійскага прэмьера Бальдвіна ў справе адносін Англіі да пытаньня аб рэпарацыях.

Заявы гэнае ў Парыжу чакалі з вялікай нецярплівасьцяй і нэрвовасьцяў. Праўда, французы ня верылі, каб Англія адкрыта выступіла проці французскае палітыкі: хоць і гаварылі цішком аб тым, што гэта ангельскі ўрад паддае немцам сьмеласьці і падбівае іх супраціўляцца французскай акупацыі Рурскае краіны, ды французы пачувалі сваю сілу, з якой павінны ў Англіі паважна лічыцца. Сіла гэта – чыста матэрыяльная: захапіўшы ўсе лятальныя машыны Нямеччыны, Францыя мае найвялікшы на сьвеце паветраны флёт, каторы ў адзін дзень, калі-б здарылася патрэба, мог-бы закідаць бомбамі ўсеньку Англію і спыніць тым-жа спосабам рух агельскага марскога флёту. Дык, не гледзячы на галасы парыжскіх газет, якія робяць добрую міну пасьля заявы Бальдвіна, якбыццам Англія ў-ва ўсім уступіла Францыі, – у французскіх урадавых колах адчуваецца нейкая напружанасьць, нейкае зьмяшаньне, укрыванае вельмі лоўка. Палітычныя дзеячы, з якімі мне даводзілася гутарыць аб гэтым, не заплюшчваюць вачэй на небяспеку, што вісіць над Францыяй і над усёй Эўропай. Бальдвін зусім ясна даў зразумець французам, што Англія ня згодзіцца ні ў якім прыпадку, каб французская палітыка падтрымлівала надалей той фінансавы крызіс, які запанаваў у Нямеччыне і вельмі пагражае эканамічным інтарэсам Англіі і ўсяе Эўропы. Калі ня ўдасцца дагаварыцца з Францыяй да нейкае супольнае палітычнае лініі ў адносінах да Нямеччыны, дык Англія пачне перамовы з немцамі на сваю руку.

Як быццам дзеля падмацаваньня слоў Бальдвіна, англійскі ўрад пачаў апрацоўку плянаў павялічэньня паветранага флёту, каб зраўнаважыць свае сілы з сіламі Францыі. І гэта ў французскім міністэрстве загранічных спраў адчуваюць вельмі балюча.

Людзі, якія трымаюць руку на пульсе французскай дыпляматыі, кажуць, што ўсе-ж такі да гэткіх крайнасьцей

[242] Наш Сьцяг. № 14. 20 ліпеня 1923.

ня дойдзе. У Парыжу пануе перакананьне, што, захоўваючы свой прасціж у справах прынцыповых, Пуанкарэ пойдзе на ўступкі англічанам у сваёй тактыцы і не дапусціць да разрыву Антанты.

*Кандратовіч.*

Палітычныя падзеі. Паварот англійскай палітыкі[243]
(Ад нашага парыжскага карэспандэнта)

У прыватнай гутарцы, якую мне давялося мець гэтымі днямі з прадстаўнікам аднае з антанцкіх дзяржаваў у Лізе Нацыяў, апошні панізіўшы голас, сказаў прыблізна гэтак:

"Нам ужо па горла надакучыла Францыя з усімі сваімі дамаганьнямі і жаданьнем зьнішчыць Нямеччыну да званьня! Французы хочуць, каб мы памаглі ім заняць першае месца ў Эўропе. Але гэта – больш, чым наіўнасьць! Дый пара ўжо завясьці ў Эўропе запраўдны мір: мы ўсе замарыліся ад таго напружанага палітычнага палажэньня, якое падтрымлівае ўвесь час Францыя".

Гэтыя словы паважанага дыплямата дужа добра характарызуюць людзей, бадай усіх антанцкіх урадаў. Дый не адных толькі ўрадаў, а і шырокіх кругоў грамадзянства. Настроі гэныя найбольш ярка выяўляюцца ў сучаснай палітыцы Англіі – так дзяржавы, ад становішча якое запраўды будзе залежаць адказ на пытаньне: ці Францыі удасца заняць першае месца ў жыцьці народаў Эўропы, ці пляны яе аб гегемоніі на кантыненце развеюцца як дым.

Палажэньне ў Эропе ў сувязі з няўстаннымі пагрозамі новай вайной запраўды сталася несьцярпімым. Утрымліваньне напагатові армій дзеля таго, што Францыя ня можа згартавацца з Нямеччынай, сур'езная пагроза камуністычным пераваротам у Нямеччыне ў сувязі з немагчымасьцю дапусьціць усе далейшае пашырэньне на нямецкай зямлі французскае акупацыі, пагроза пашырэньня з Нямеччыны "камуністычнае заразы" на ўвесь Захад – усе гэта лішне дарага каштуе народам, якія хацелі-бы ўрэшце аддаць ізноў свае сілы творчай культурнай працы.

Вось чаму новы англійскі ўрад пачаў крокі, якія кіруюцца да разьвязаньня і заканчэння сваркі паміж Францыяй і Нямеччынай аб "рэпарацыях". І трэба думаць, што крокі Англіі

[243] Наш Сьцяг. № 17. 27 ліпеня 1923.

або давядуць гэту справу да канца, або ў вельмі яркай форме раскрыюць закрываныя дагэтуль супярэчнасьці паміж імкненьнямі Францыі і інтарэсамі яе саюзніцы Англіі. У апошнім прыпадку ўся палітычная фізіяномія Эўропы павінна будзе так ці сяк адмяніцца, і мы або дачакаемся запраўднага міру, або будзем сьведкамі новага змаганьня паміж Францыяй і Нямеччынай, але ўжо бяз учасьця і ў самай барацьбе, і ў адказнасьці за яе англійскага народу.

*Кандратовіч.*

## *Дадатак 10*
## *Стэнаграма відэзапісу размовы з Рулько Г. А., былой пакаёўкай Кандратовічаў (2010 г.)*

*Відэазапіс захоўваецца ў Пагародненскай сярэдняй школе*

Настаўніца: Добры дзень, Ганна Антонаўна.
Рулько Г.А.: Дзень добры!
Настаўніца: Мы жадаем задаць вам некалькі пытанняў, калі ласка, раскажыце пра сваю працу ў паноў.
Рулько Г.А.: У паноў я працавала... У паноў мне надта было добра. Дужа. Яны плацілі дужа, я пакаёўкай была, прыбірала пакоі, накрывала ім есці на стол і падавала ўсё... у паноў было добра...
Настаўніца: А цяпер, калі ласка раскажыце, які раней ў Пагародна быў парк, вы ж яго памятаеце.
Рулько Г.А.: За панамі парк меў ладны выгляд. Мы жылі каля маёнтка. Дарожкі былі выграсаваныя[244], прыгожыя. Кветкі каля дарожак раслі. Парк быў ладны. Адно слова – ладны. Дзеці ў ім гулялі, і моладзь збіралася... а потым ужо запусцілі гэты парк і ўсё.
Настаўніца: Нам вядома, што раней ісці да парку трэба было праз ліпавую алею. Як яна выглядала?
Рулько Г.А.: Дык вось жа гэтыя самыя ліпы былі, што папілавалі і павыцягвалі ў лес, у лесе ляжаць. Як зацвітуць гэтыя ліпы, дык не хочацца ісці дахаты. Такія ліпы былі прыгожыя ... Парк пасля паноў яшчэ чысты быў.
Настаўніца: А як у той час выглядала альтанка?
Рулько Г.А.: А бяседка была прыгожая, драўляная, пафарбаваная ў розныя колеры. Альтанкай называлася. З-за яе і возера ў парку да нашага часу Альтанкай называюць.
Настаўніца: А што вы ведаеце пра нашу капліцу? Нам вядома, што яе зносілі і не маглі знесці.
Рулько Г.А.: У капліцу я яшчэ дзяўчынай прыходзіла. Тут панна Кабылінская[245] шлюб брала, у гэтай капліцы, так ладна было. Тут святы святкавалі. Прыходзілі людзі, і заўсёды

---

[244] Выграсаваныя – праполатыя.
[245] Кабылінскія валодалі суседнім з Гародна маёнткам Гарадзенка Жырмунскай гміны.

капліца была поўная людзей. А сёння нікога няма. Дзве-тры старыя бабы прыйдуць... у капліцы молімся.

Настаўніца: А выгляд капліца мела такі самы, як і зараз?

Рулько Г.А.: Выгляд быў такі самы. Зараз толькі абразы другія – Ружанцовай і Сэрца Пана Езуса не было, былі толькі... Пан Езус быў і гэта... Мне ўжо амаль што 90 гадоў, забываю ўсё. Прыходзілі ў капліцу, ружанец адпраўлялі, і да сэрца Пана Езуса маліліся, і маёвыя адпраўлялі ў капліцы. На Каляды, на Вялікдзень, на другі дзень заўсёды ксёндз прыязджаў. Меў імшу ў капліцы... Усе верылі ў Бога, і ўсё зусім было не так, як зараз... Але без Бога – ні да парога...

Настаўніца: А Кандратовічаў вы ведалі?

Рулько Г.А.: А чаму ж я не ведала? Старая была пані і дачка замужняя. Дачка потым радзіла хлопчыка. Гэта Адаміцкая, што памерла, вечны спакой (паказвае на суседскі дом), усё вазіла ў вазку гэтага хлопчыка маладой пані.

Настаўніца: А як Кандратовічы адносіліся да людзей?

Рулько Г.А.: Вельмі добра! Ды і ўсе паны адносіліся да людзей добра! Каб вы толькі ведалі! Мы ў Кандратовічаў працавалі, дык нам гэтак было (загінае пальцы): карова забяспечана – сечку нарэжуць, ідзі напхні воркі, зважылі і нясі, на колькі трэба дзён; зімой трасянку давалі – сена і канюшына, і гэта была справа паноў. Яшчэ ж лямпы былі, і таму на месяц давалі літр газы, на месяц давалі кілаграм солі, паны гэта давалі, задарам. Тата мой быў парабкам, дык яму ў месяц плацілі дзевяць пудоў збожжа і дзевяць злотых.

Добра было за панамі. Прыйдзе нядзеля, дык Кандратовічава скажа фурману – запрагай пару коней і вязі людзей да касцёла. Такі быў Рынкевіч, старэйшы чалавек, яму казала: «Рынкевіч, павязеш людзей да касцёла». Сядаем усе на параконны воз і едзем у Асаву да касцёла.

Настаўніца: А шмат гадоў вы працавалі пакаёўкай?

Рулько Г.А.: З 14 да 18 гадоў. У 16 гадоў мяне на тры месяцы выправілі ў Вільню вучыцца на кухара. Потым паненка выйшла замуж за Гродна 60 кіламетраў, ужо не памятаю, як той маёнтак зваўся. Надта ладны быў маёнтак, у адных пладовых дрэвах – усякіх парэчкаў, усякіх ягадаў было ў ім, і яблыкаў, і грушаў, усяго. А кароў пан меў толькі дзесяць. Два

палацы там было, і яго маёнтак быў такі курортны. Адпачываць да яго прыязджалі. І там таксама цэлае лета прабыла ў іх, потым маладая пані паехала нараджаць у Вільню, а я вярнулася дахаты.

## *Дадатак 12*
## *Бібліяграфія публікацый пра генерала Кандратовіча*

Лаўрэш Л. Генерал Кіпрыян Кандратовіч (Дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі). 2007. Ліда. 43 с.

Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір і др. Генерал Кіпрыян Кандратовіч і інш. // Спадчына. 2002. № 1. С. 161–166.

Лаўрэш Леанід. Міністр БНР, генерал Кіпрыян (Цыпрыян) Кандратовіч. Наша слова. № 9 (596), 10 (597), 11 (598). 2002.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч на службе БНР // Наша Слова. № 10 (645). 17 сакавіка 2004.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч // Лідскі летапісец. 2005. № 4 (32). С. 12–26.

Лаўрэш Леанід. Крэскі да біяграфіі генерала К. Кандратовіча // Наша слова. № 40 (828). 10 кастрычніка 2007.

Лаўрэш Леанід. Занатоўкі да біяграфіі міністра БНР генерала Кандратовіча // Наша Слова. № 13 (904). 1 красавіка 2009.

Генерал Кіпрыян Кандратовіч. 150 гадоў з дня нараджэння // Лідскі Летапісец. 2009. № 1–2 (45–46). С. 24–27.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч: крэскі да жыцця // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 2. 2010. С. 81–105.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кандратовіч: два імгненні вечнасці // Наша Слова. № 12 (1163). 19 сакавіка 2014.

Лаўрэш Леанід. Генерал К. А. Кандратовіч ў 1916–1917 гг. // Наша Слова. № 34 (1341). 23 жніўня 2017.

Лаўрэш Леанід. «Абрусіцелі» і дзяцінства генерала Кіпрыяна Кандратовіча // Наша Слова. № 36 (1343). 6 верасня 2017.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кандратовіч і БНР // Наша Слова. № 41 (1348). 11 кастрычніка 2017; № 42 (1349). 18 кастрычніка 2017.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч у Парыжы // Наша Слова. № 44 (1351). 1 лістапада 2017.

# Змест

Навукова-папулярнае выданне

Леанід **Лаўрэш**

# Генерал, які дайшоў да Беларусі

*Жыццяпіс генерала*
*Кіпрыяна Кандратовіча*

Вёрстка *Алесь Рыжы*
Карэктар *Аксана Данілевіч*

Падпісана да друку 28.03.2018 г. Фармат 60х84/16.
Папера афсетная. Рызаграфія
Ум.друк.арк. 15,4. Ул.-выд.арк 15,2.
Наклад 130 ас. Замова 47-2/2018

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «ЮрСаПрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/388 ад 01.07.2014 г.
Вул. Карла Маркса,11, 230015, г. Гродна.
+375 152 77 18 20
+375 295 87 84 11

Леанід Лаўрэш

# Генерал, які дайшоў да Беларусі

*Жыццяпіс генерала*
*Кіпрыяна Кандратовіча*

Гродна
«ЮрСаПрынт»
2018

*Аўтар выказвае шчырую падзяку: рэдактару выданняў «Лідскі летапісец» і «Наша слова» Станіславу Судніку, святару а. Мікалаю Семашкевічу, унуку генерала Кандратовіча Джорджу Рэйні, лідскаму краязнаўцу Уладзіміру Круцікаву*

---

УДК 94(476)
ББК 63.3(4Беи)
Л 13

**Лаўрэш, Л.Л.**

Л 13 Генерал, які дайшоў да Беларусі. Жыццяпіс Кіпрыяна Кандратовіча. / Л.Л. Лаўрэш – Гродна : ЮрСаПрынт, 2018. – 154 с.

ISBN 978-985-7134-47-2.

Кніга з’яўляецца вынікам амаль што дваццацігадовых пошукаў інфармацыі пра выбітнага дзеяча БНР Генерала ад інфантэрыі, Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча (1859–1932).

Кніга будзе цікавай аматараў біяграфій, краязнаўцам і прафесійным гісторыкам, таксама ўсім чытачам, якія цікавяцца беларускай мінуўшчынай.

**УДК 94(476)**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7134-47-2**

# Уступнае слова

На стагоддзе абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў рукі чытача патрапляе біяграфія генерала Кіпрыяна Кандратовіча, ветэрана руска-турэцкай, руска-японскай і Першай сусветнай войнаў, які ў 1917 г. далучыўся да беларускага нацыянальнага руху і стаў абаронцам незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай 25 сакавіка 1918 г. Вяртанне на старонкі гісторыі гэтай постаці адбылося дзякуючы пісьменніку і гісторыку Леаніду Лаўрэшу, які ўжо каля дваццаці гадоў даследуе лёс генерала і публікуе працы пра яго жыццё. Ягонай заслугай з'яўляецца адшуканне магілы генерала, пахаванага каля царквы ў Воранаве.

Прадстаўленая ў кнізе біяграфія генерала значна шырэйшая за папярэднюю, выдадзеную ў 2007 г. Праца мае высокую навуковую каштоўнасць, бо падмацавана дакументамі і добра напісана. Аўтар рупліва прааналізаваў вялікую колькасць крыніц: дакументы, прэсу, успаміны і навуковыя працы. Крок за крокам мы даведваемся пра лёс генерала Кандратовіча, які жыў у складаныя часы ўпадку і скону Расійскай Імперыі ды фармавання новай палітычнай карты Усходняй Еўропы.

Леанід Лаўрэш праводзіць чытача праз дзяцінства і маладосць генерала, які нарадзіўся ў 1859 г. у Зінавічах (Лідскі павет), апісвае яго сямейнае кола і школьныя гады ў Лідзе, а потым вучобу ў 2-й Канстанцінаўскай вучэльні і Мікалаеўскай акадэміі Генеральнага штаба. Аўтар цікава піша пра прыступкі вайсковай кар'еры Кандратовіча, ілюструючы пры гэтым яе ўспамінамі сучаснікаў. Чытач пачуе галасы асоб, якія ведалі Кандратовіча ў розныя часы ягонай вайсковай службы на Далёкім Усходзе: падчас паўстання баксёраў у Пекіне ў 1899– 1901 гг. ці руска-японскай вайны 1904–1907 гг. Чытача будуць весці па кнізе сведчанні вайскоўцаў пра генерала, якія розняцца ад прыхільных да не вельмі станоўчых. Гэта датычыць і яго дзейнасці на пачатку вайны ва Усходняй Прусіі ў 1914 г. і ў часе падрыхтоўкі да бітвы каля возера Нарач у 1915 г. Пасля гэтага аўтар паказвае чытачу драматычныя падзеі рэвалюцыі, якія адводзілі армію далёка ад рускіх вайсковых традыцый, да якіх быў прызвычаены генерал

высокага ўзроўню – дэмакратызацыя арміі і нацыяналізацыя вайсковых частак.

Генерал Кандратовіч зрабіў свой выбар – далучыўся да беларускага нацыянальнага руху і ўвосень 1917 г. узначаліў Беларускую Цэнтральную Вайсковую Раду. Ён не ўзяў на сябе рашэнне пра стварэнне беларускага войска, што не дадало яму сімпатыі з боку маладых, энергічных афіцэраў і прывяло да адстаўкі з пасады. Аднак генерал Кандратовіч не збочыў з абранай дарогі. У 1918 г. мы бачым яго ў другім урадзе БНР, створаным Раманам Скірмунтам, а на наступны год ён ствараў беларускія вайсковыя фармаванні пры літоўскім урадзе, а потым быў чальцом дэлегацыі БНР на мірнай канферэнцыі ў Парыжы. Нейкі час генерал жыў у Парыжы, дзе – як вынікае з апошніх даследаванняў Леаніда Лаўрэша – нарадзіўся яго пазашлюбны сын Уладзімір, чалавек трагічнага лёсу.

Апошнія гады жыцця генерал Кандратовіч правёў у Польшчы. Пасяліўся ў Гародне пад Лідай разам з нашмат малодшай за сабе жонкай Адай фон Рыхтэр, з якой пашлюбаваўся ў 1910 г. у Тыфлісе, калі камандаваў 1-м Каўказскім корпусам. Яго насычанае падзеямі жыццё скончылася ў апошні дзень кастрычніка 1932 г.

На вялікі жаль, генерал не пакінуў пасля сябе ўспамінаў, без чаго цяжка тлумачыць прычыны яго ўчынкаў і цалкам зразумець асобу. Аднак жыццяпіс, створаны Леанідам Лаўрэшам, дазваляе сістэматызаваць біяграфію генерала, які перайшоў на службу БНР.

Вельмі жадаю прыцягнуць увагу ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі пачатку XX ст., да гэтага незвычайна цікавага для аматараў біяграфій, краязнаўцаў і прафесійных гісторыкаў тэкста. Аўтар не толькі з захапленнем праводзіць нас праз жыццё генерала Кіпрыяна Кандратовіча, але таксама дзеліцца з чытачом этапамі сваіх пошукаў і даследаванняў і паказвае, якой надзвычай захапляльнай можа быць праца гісторыка.

*Дарота Міхалюк,*
*Універсітэт Мікалая Каперніка ў Торуні.*

# Ад аўтара

З канца 2000 г. я дакладна ведаў, што сям'я генерала Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча гаспадарыла ў маёнтку Гародна на Лідчыне (зараз – Воранаўскі р-н). Увесну 2000 г. мы з сябрамі выехалі ў краязнаўчую вандроўку і амаль што першы апытаны намі жыхар Гародна (Пагародна) накіраваў нас да Уладзіслава Янавіча Струкеля (1916–2008?), чалавека, які яшчэ хлопчыкам служыў у маёнтку Кандаратовічаў, а ў 1932 г., як служка, ўдзельнічаў у пахаванні генерала. У 1998 г. ён паказаў унуку генерала Кандратовіча Джорджу Рэйні месца пахавання на расцярушаных лідскіх праваслаўных могілках і потым удзельнічаў у перазахаванні парэшткаў у Воранава на гарадскіх могілках. Уладзіслаў Янавіч расказаў нам пра тое, што помніў пра жыццё маёнтка Гародна ў 1930-х гг. і падрабязна апісаў месца на воранаўскіх могілках, дзе трэба было шукаць магілу. Пафатаграфаваўшы парк і капліцу маёнтка, мы паехалі ў Воранава і хутка знайшлі магілу генерала. Інфармацыя, якую захоўваюць файлы першых здымкаў магілы беларускага генерала лічбавай камерай, сведчаць, што яны былі зроблены 17 сакавіка 2001 г. у 13.12. Стоячы тут, мы ўсведамлялі, што ўпершыню з 1930-х гг. над магілай генерала ад інфантэрыі знаходзяцца людзі, якія прыйшлі, каб запаліць знічку і аддаць даніну памяці і павагі выбітнаму дзеячу БНР, аднаму з тых, хто зрабіў нашу Бацькаўшчыну незалежнай.

Часопіс «Спадчына» адразу ўзяў наш артыкул, у якім упершыню, яшчэ фрагментарна, падавалася біяграфія ге-

нерала і ўказвалася месца яго пахавання, у тым жа часопісе на вокладцы былі надрукаваны каляровыя здымкі магілы Кіпрыяна Кандратовіча[1]. Ужо ў траўні 2000 г. парэшткі славутага беларуса былі яшчэ раз перазахаваны, і зараз магіла генерала Кандратовіча знаходзіцца каля воранаўскай царквы.

Пасля было шмат маіх публікацый, з якіх можна вылучыць кніжку пра генерала[2] і найбольш грунтоўны артыкул пра яго ў альманаху «Асоба і час»[3].

Атрымалася так, што праца сталася не дарэмнай. І вельмі прыемна, што зараз асоба генерала Кандратовіча добра вядома ў Беларусі, пра яго здымаюць дакументальныя фільмы, выпускаюць рэкламныя плакаты, а ў Мінску прайшла ўжо «трэцяя канферэнцыя, прысвечаная памяці генерала Кандратовіча».

За апошні час у мяне назапасілася шмат новай інфармацыі, што і прымусіла паклапаціцца пра другое, пашыранае і перапрацаванае, выданне кнігі пра земляка. Добра, што кніга выходзіць у 100-гадовы юбілей абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі – падзеі, з якой пачалася незалежнасць нашай Радзімы і да якой Кіпрыян Кандратовіч мае самае непасрэднае дачыненне.

---

[1] Гл: Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір і інш. Генерал Кіпрыян Кандратовіч // Спадчына 2002. № 1. С. 161–166.

[2] Гл: Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч (Дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі). Ліда, 2007. 43 с.

[3] Гл: Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч: крэскі да жыцця // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 2. 2010. С. 81–105.

# Дзяцінства і юнацтва

Кіпрыян (Цыпрыян) Антонавіч Кандратовіч нарадзіўся 28 красавіка 1859 г. у маёнтку Зіневічы (Лідскі раён, каля в. Ваверка). Паводле сямейнага падання, ён быў народжаны па-за шлюбам – сын графа Юрыя Трубяцкога, які на Лідчыне займаў розныя пасады, злучаныя з юрыспрудэнцыяй. Маці – Зінаіда Залеская, дачка абшарніка, які трымаў маёнтак Місевічы каля Зіневічаў. Маці выйшла замуж за шляхціца Кандратовіча, чыё прозвішча і імя па бацьку Кіпрыян атрымаў.

Род Залескіх герба «Любіч» – уладальнікаў маёнтка Зіневічы – ёсць у спісах лідскай шляхты. У 1834 г. гаспадаром Зіневічаў быў Маўрысі Залескі – сын Анджэя, меў 55 прыгонных сялян мужчынскага полу[4]. У 1844 г. маёнтак (51 душ мужчынскіх, 52 душы жаночыя, 460 дзесяцін зямлі) належаў падпалкоўніку Юзафу Залескаму, сыну Маўрысія[5], які і быў дзедам будучага генерала «па кудзелі».

Кандратовічы – старажытны род герба «Сыракомля», што паходзіць ад Кандрата, якому ў XV ст. былі падараваны некалькі маёнткаў. Род Кандратовічаў падзяліўся на 7 галін, унесеных у 1-ю і 6-ю часткі радаводных кніг Віленскай, Віцебскай, Ковенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў. Кандратовічы ёсць і ў спісах шляхты Лідскага павета[6].

---

[4] Гл.: Malewski Czessław. Wykaz alfabetyczny z 1844 r. majątków pow. lidzkiego // Ziemia lidzka. 2004. № 2 (60).

[5] Гл.: Malewski Czesław. Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiat Lidzki. Wilno, 2005. S. 261.

[6] Гл.: Malewski Czesław. Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku. S. 148.

Трубяцкія – княжацкі род, лінія Гедзімінавічаў, паходзяць ад князя Зміцера Альгердавіча, унука Гедзіміна. Тытулаваліся князямі ад горада Трубяцка – часткі былога Чарнігаўскага княства. Трубяцкое княства захоплена ў 1566 г. Маскоўскім княствам, тады ж князі Трубяцкія падпарадкаваліся маскоўскаму князю Івану Васільевічу. Трубяцкое княства вернута ў склад ВКЛ паводле Дэўлінскага перамір'я 1618 г. і зноў страчана ў выніку вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг. Князь Юры Мікітавіч Трубяцкі атрымаў частку Трубяцка ў 1621 г. (ад яго працягваецца род Трубяцкіх), ягоны ўнук князь Юрый Пятровіч Трубяцкі выехаў у Расію ў 1657 г. З XVII ст. – гэта магутны і разгалінаваны дваранскі род Расійскай Імперыі.

Сямейную гісторыю аб Юрыі Трубяцкім як бацьку будучага генерала мне паведаміў унук Кандратовіча – Джордж Рэйні, пажылы чалавек, які жыве цяпер у Англіі. Раздрукоўкі ягоных электронных лістоў я захоўваю вось ужо шмат гадоў. Джордж Рэйні паведаміў, што бацькам Юрыя Трубяцкога быў Мікалай Мікалаевіч Трубяцкі. Гэта і дало мне магчымасць зрабіць спробу прасачыць радавод генерала па лініі Трубяцкіх.

У віленскім адрас-календары на 1868 г. ёсць цікавая інфармацыя аб Трубяцкім: «Міравы пасрэднік 3-га ўчастка, Трубяцкі Юры Мікалаевіч, губернскі сакратар, узнагароджаны ордэнамі Св. Станіслава 2-й і 3-й ступеняў і медалём у памяць аб ўціхамірванні “польскага мяцяжу” 1863–1864 гг., на пасадзе міравога пасрэдніка знаходзіўся з 10 чэрвеня 1864 г., закончыў Маскоўскі ўніверсітэт, халасты, агульны тэрмін стацкай службы – 5 гадоў»[7].

У 1868 г. яму было 27 гадоў, а калі нарадзіўся Кіпрыян, Юрыю Трубяцкому было… 18 гадоў. Раман гімназістаў.

Памяць аб гэтай гісторыі захавалі не толькі ўнукі ў Англіі. Я чуў гэтую рамантычную гісторыю пра каханне лідскай панечкі з рускім князем і іхняга сына – генерала – ад жанчыны (1929 г. н.), чыя бабуля (прыкладна 1880 г. н.) была з роду Залескіх.

---

[7] Адрес-календарь Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. СПб., 1868. С. 19.

Адзіным Мікалаем Мікалаевічам Трубяцкім, які мог быць «дзедам» Кандратовіча, быў Мікалай Мікалаевіч Трубяцкі (1804–1879), жанаты з Лізаветай Аляксандраўнай Лапухіной. Князь Трубяцкі меў свецкую мянушку Эол якая выдатна характарызавала яго характар[8]. У лісце Надзеі Восіпаўны Пушкінай да дачкі Вольгі Сяргееўны ад 17 красавіка 1833 г. паведамляецца: «...Эол Трубяцкі ажэніцца з дзяўчынай Лапухіной, маладой, прыгожай, ветлівай, за яе даюць 5 сотцень сялян, у бацькі яе іх тры тысячы, а ў жаніха, здаецца, амаль што нічога...»[9].

У адным з лістоў да Марыі Аляксандраўны Лапухіной (сястры Лізаветы Аляксандраўны) М. Ю. Лермантаў згадвае аб вяселлі князя (mariage du prince), і гэтае месца ў пісьме звычайна тлумачыцца як вяселле Мікалая Мікалаевіча Трубяцкога і Алены Аляксандраўны Лапухіной.

Князь М. М. Трубяцкі быў сынам Мікалая Сяргеевіча Трубяцкога і Кацярыны Пятроўны (у дзявоцтве – Мяшчэрскай). У 1822 г. М. М. Трубяцкі паступіў у Маскоўскі ўніверсітэт на аддзяленне славесных навук, якое закончыў у 1826 г. У 1830–1833 гг. служыў у Межавай канцылярыі. Памёр 13 кастрычніка 1879 г.[10] Ёсць непацверджаная інфармацыя аб тым, што нейкі час ён быў мінскім губернатарам[11].

З усёй сям'ёй Лапухіных сябраваў М. Ю. Лермантаў.

Родная сястра Лізаветы Аляксандраўны Трубяцкой – Варвара Аляксандраўна (1815–09.08.1851) – была блізкім сябрам М. Ю. Лермантава. Сардэчную прыхільнасць да яе паэт захоўваў усё жыццё. Вобраз Вараньки Лапухіной знайшоў увасабленне ў раманах «Герой нашага часу», «Вадзім», а мноства вершаў, у тым ліку «Ізмаіл-бей», «Дэман», «Мы выпадкова

---

8 Эол – персанаж старажытнагрэчаскай міфалогіі, Зеўс зрабіў яго гаспадаром над вятрамі. Імя Эол знаходзіцца ў цеснай сувязі з паняццем рухомасці, якое характарызуе паветраную стыхію.

9 Мир Пушкина. СПб. 1993. Т. 1. С. 146.

10 Лермонтов М. Ю. Проза и письма: Комментарии и варианты / коммент. Б. М. Эйхенбаума, В. А. Мануйлова // Лермонтов М. Ю. Полное собрание сочинений: В 5 т. М.; Л.: Academia, 1935–1937. Т. 5. Проза и письма. 1937. С. 522.

11 Всероссийское генеалогическое древо. Трубецкие. http://www.vgd.ru/T/trubecky.htm // Трубецкая Любовь Николаевна 1868–1928. Дочь минского губернатора, генерал-майора князя Николая Николаевича Трубецкого (1804–1879) и Елены Алексеевны Лопухиной (1806–1882).

зведзеныя лёсам…»[12], прысвечаны Варвары Аляксандраўне, якую паэт глыбока кахаў.

Трэцяя сястра – Марыя Аляксандраўна Лапухіна (01.01.1803–17.03.1864 г.) – таксама сябар дзяцінства і юнацтва М. Ю. Лермантава. Захавалася іх перапіска.

Брат – Аляксей Аляксандравіч Лапухін (29.09.1813–09.12.1872) – камер-юнкер, стацкі дарадца ў 1864 г., блізкі сябар М. Ю. Лермантава: «Толькі вельмі нешматлікія, і сярод іх А. А. Лапухін, глыбока шанавалі сяброўства з ім і верылі ў яго-ную высокую душу, і захавалі гэтае стаўленне пасля смерці»[13].

Дарэчы, старэйшым сынам Мікалая Мікалаевіча Трубяцкога («дзеда» Кандратовіча) быў Мікалай Мікалаевіч Трубяцкі (1836–1902), генерал-лейтэнант, мінскі генерал-губернатар з 1886 да 1902 гг.[14]

Па лініях Трубяцкіх і Лапухіных Кандратовіч быў сваяком Сяргея Мікалаевіча Трубяцкога (1862–1905), рэктара Маскоўскага ўніверсітэта (вядомы фундаментальнымі працамі па гісторыі антычнай філасофіі, анталогіі, гнасеалогіі, культуралогіі, яшчэ ён быў публіцыстам і грамадскім дзеячам), і Яўгена Мікалаевіча Трубяцкого (1863–1920), рэлігійнага філосафа і прававеда[15]. Сын С. М. Трубяцкога – Мікалай Сяргеевіч Трубяцкі (1890–1938) – філосаф рускага замежжа, лінгвіст, філолаг, гісторык, палітолаг, заснавальнік плыні рускай думкі еўразійства[16]. Прыхільнасць да палітычнага крыла гэтай плыні ў свой час фатальна паўплывала на лёс сына генерала Кандратовіча – Уладзіміра.

Але вернемся да спраў у нашым краі.

---

12 Лермонтов М. Ю. Полное собрание сочинений. Т. 1. М.: Художественная литература, 1957. С. 273. («Не ты, но судьба виновата была, // Что скоро ты мне изменила, // Она тебе прелести женщин дала, // Но женское сердце вложила…»).

13 Светлейшие князья, князья и дворяне Лопухины. Родословная поколенная роспись. http://lopukhins.narod.ru/rospisfull.htm.

14 Гл.: Дворянские роды Российской империи. Т. 2. М.,1995. С. 72; інтэрнэт-рэсурс «MySpace», Science & History. Trubeckoj http://groups.myspace.com/trubetsky.

15 Гл.: Всероссийское генеалогическое древо. Трубецкие. http://www.vgd.ru/T/trubecky.htm.

16 Гл.: Трубецкой Николай Сергеевич. Биографический указатель. http://www.hrono.info/biograf/trubeckoins.html.

Расійскі афіцэр Іван Любарскі напісаў пры канцы XIX ст. дастаткова блытаныя мемуары пра службу ў расійскім войску ў Лідзе ў 1861–62 гг., перад самым паўстаннем. Ён прыводзіць размову са сваім знаёмым, якога ён называе «капітан З-скі». Нягледзячы на некаторыя недакладнасці (напрыклад, «капітан» замест «падпалкоўнік»), гэты самы «капітан З-скі» можа быць Юзафам Залескім, дзедам будучага міністра БНР Кіпрыяна Кандратавіча, Любарскі пісаў: «За некалькі вёрстаў ад горада жыў у сваёй сядзібе адстаўны капітан З-скі, ён быў тутэйшым, я аказаў яму некаторыя паслугі і праз гэта зблізіўся з ім. Падчас службы ў адной з унутраных губерняў ён ажаніўся па каханні з рускай дзяўчынай, а па выхадзе ў адстаўку засеў гаспадарыць у маленькім сваім фальварку. Ён не перашкаджаў жонцы выхоўваць дзяцей у духу праваслаўнай веры, у палітыку не ўмешваўся і таму не меў сяброў сярод сваіх „родакаў„»[17]. Калі «капітан З-скі» – гэта Юзаф Залескі, зразумела, чаму маці Кіпрыяна мела праваслаўнае імя і, верагодна, юныя Зінаіда і Юры пазнаёміліся падчас службы Юзафа Залескага ў Расіі. Дарэчы, Любарскі піша, што калі «ўспыхнуў мяцеж, але яшчэ не распаўсюдзіўся на Літву, З-скі… з'ехаў з сямействам да родных жонкі ў Цвярскую губерню»[18].

Пасля задушэння паўстання ў наш край панаехалі рускія чыноўнікі, якія ў вядомым рамане Надзеі Ланской атрымалі трапную мянушку «абрусіцелі»[19]. Адным з іх быў і міравы

[17] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний). // Исторический вестник. 1895. № 3. С. 828.

[18] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний). С. 830.

[19] Ланская Н. Обрусители. Из общественной жизни Западного края, в двух частях. Спб., 1888. С. 9–11. (...западный край был центром, куда стекалось великое множество людей великорусского происхождения преимущественно и православного исповедания непременно. В то время край представлял собою арену где, не рискуя ничем, можно было тысячу раз отличиться, выйти, что называется, в люди и затем, успокоившись на лаврах, произнести со спокойной совестью: мы обрусили.
Сюда стремились все те, кто был чем-либо недоволен у себя дома: всякий, кого обошли чином, местом или наградой, чей не приняли или возвратили проект, чье имение, вследствие новых порядков, пришло в упадок, а приняться за дело не было ни уменья, ни сил – все это спешило в Западный край. Здесь стекались люди всяких профессий, возрастов и положений: молодые, старые, любившие пожить и прожившиеся вовсе, разочарованные в любви, обманутые в жизни и обманывавшиеся сами, все стремились сюда с лихорадочною поспешностью. Если было много званых, было много и избранных.

пасрэднік[20] Юры Трубяцкі, які прыехаў на Лідчыну ва ўзросце 23 гадоў пасля заканчэння Маскоўскага ўніверсітэта (курс навучання – 4 гады). Як бачна з вышэй напісанага, бацька маладога князя Юрыя Трубяцкога не быў багатым чалавекам.

Па Віленскіх памятных кніжках можна прасачыць службовы шлях Юрыя Трубяцкога на Лідчыне. Цывільную службу губернскі сакратар князь Юры Мікалаевіч Трубяцкі пачаў у 1864 г.[21] У 1866 г. ён яшчэ не мае ўзнагародаў, а ў 1867 г. ужо фігуруе з ордэнам Св. Станіслава 3-й ступені і медным

---

Это был пир, на который шли все те, кому нечего было терять, у кого ничего не осталось за душой дома. Здесь можно было только выиграть, там уж нечего было проигрывать. Это была ежечасная эмиграция. Манивший их стимул был таков, что мог расшевелить самого равнодушного и неподвижного человека, и действительно: равнодушные и неподвижные, за немногими исключениями, превращались здесь в исправных приобретателей...
Кроме того, человек, ехавший в этот провинциальный край на службу, часто считал это таким со своей стороны подвигом, за который никакое вознаграждение не могло быть достаточным; такой жертвой, которую оценить надлежащим образом мог, разумеется, только тот, кто ее приносил. И хотя, в большинстве случаев, в жертву приносилась полуграмотность, если не вовсе невежество, свободное время, которое было некуда девать, пустой карман, который надлежало наполнить... а иногда и не совсем безгрешное прошлое – тем не менее иные считали себя благодетелями quand nieme... Находчивым и смелым людям тут было раздолье; тут можно было сделаться помещиком без гроша; не купив леса, выгодно продать его, совершить какую угодно сделку, назваться чьим угодно именем...
Аттестатов никаких не требовалось: достаточно было приехать из России и заявить себя православным, чтобы получить право на такие льготы, права и преимущества, которые превращались в настоящий рог изобилия. Можно поэтому представить, какая масса разной дряни наводнила собой эти несчастные 9 губерний! Какой контингент лжи, низости, всяких обманов, подкупов, подлогов и нравственного растления принесла с собою эта православная армия алчущих и жаждущих, чающих и ожидающих! Как саранча, бросились они на готовые места, торопясь захватить все то пространство, которое было для них насильственным образом очищено; церемониться было ни к чему, и под видом обрусения и пропаганды православия эти завоеватели преследовали такие цели, которые не имели ничего общего ни с религией, ни с нравственностью, ни даже с политикой действительного обрусения).

[20] Міравы пасрэднік – службовая асоба ў Расіі ў перыяд правядзення сялянскай рэформы 1861 г. Прызначаўся з дваранаў для сцвярджэння статутных грамат і разбору канфліктаў паміж сялянамі і абшарнікамі. Валодаў судова-адміністрацыйнай уладай.

[21] Памятная книжка Виленской губернии на 1866 год. Вильна, 1866. С. 192.

медалём у памяць аб уціхамірванні «польскага мяцяжу» 1863–1864 гг.[22], заўважым, што гэты медаль ён атрымаў праз некалькі год пасля задушэння паўстання.

Вырашальным для Трубяцкога стаўся 1869 г. Тады ён стаў тытулярным дарадцам, атрымаў другі ордэн – Св. Станіслава 2-й ступені[23] – і 9 ліпеня 1869 г. быў прызначаны на пасаду старшыні міравога з'езду[24]. У тым жа 1869 г. Юры Трубяцкі выгадна купляе рэквізаваны ў паўстанца маёнтак Родзевічы на Лідчыне (зараз Шчучынскі р-н, 320 дзесяцін, кошт – 5 412 руб.)[25] і з 1870 г. знікае са спісаў чыноўнікаў Віленскай губерні.

Тое, што сталічны князь з універсітэцкай адукацыяй прыехаў у чужую і непрыхільную да расійца правінцыю, можа сведчыць пра сапраўднасць кахання. Але, як бачым, не толькі каханне прывяло яго ў наш край. Юры Трубяцкі за некалькі гадоў стаў абшарнікам, узняўся ў чыне, атрымаў узнагароды, як кажуць – выйшаў у людзі. Нездарма пасля яго з 1 сакавіка 1872 г. на пасадзе «товаришча прокурора» ў г. Дзісна мы бачым малодшага яго брата – князя Дзмітрыя Мікалаевіча Трубяцкога[26].

Юры Трубяцкі быў аматарам музыкі і нават з'яўляўся рэгентам лідскага царкоўнага хору. У «Весніку Заходняй Расіі» за 1867 г. знайшлася інфармацыя пра лідскага міравога пасрэдніка: «Нельга не згадаць… што пры асвячэнні абедзвюх цэркваў (у Дакудаве і Орлі – Л. Л.), на левым клірасе, да вялікага суцяшэння бацькоў і знаёмых, спяваў хор сялянскіх хлопчыкаў, арганізаваны ў Лідзе і добра навучаны спеву шаноўным міравым пасрэднікам князем Трубяцкім, гэты хор стройна спявае царкоўную службу ў лідскай царкве, яго яснавяльможнасць рэгент лічыць за… гонар, каб гэты хор спяваў… пры асвячэнні дакудаўскай і арлянскай цэркваў»[27]. Магчыма, што і малы Кіпрыян таксама спяваў у царкве. З напісанага

---

[22] Памятная книжка Виленской губернии на 1867 год. Вильна, 1867. С. 191.
[23] Памятная книжка Виленской губернии на 1869 год. Вильна, 1869. С. 159–160.
[24] Памятная книжка Виленской губернии на 1871 год. Вильна, 1871. С. 132.
[25] Karbowski W. Ludwik Narbutt. Życiorys wodza w powstaniu styczniowem na Litwie. 1935. S. 175.
[26] Памятная книжка Виленской губернии на 1874 год. Вильна, 1874. С. 74.
[27] Вестник Западной России. Вильна, 1867. Кн. 9., Т. III. С. 252.

ніжэй будзе бачна, што Юры Трубяцкі таксама быў і аматарам тэатра.

Адзін з «абрусіцеляў», брат лідскага вайсковага начальніка Васіля дэ Лазары, і чалавек, які ўваходзіў у кола лідскіх прыяцеляў Юрыя Трубяцкога, Мікалай дэ Лазары, пакінуў цікавыя мемуары, з якіх бачна, чаму гэты бравы пецярбургскі гвардзеец патрапіў служыць у Ліду. Яго мемуары – пакуль адзіны знойдзены намі тэкст, які можа даць уяўленне пра побыт царскіх чыноўнікаў у нашым горадзе таго часу. Таму я дазволю сабе вялікія цытаты з успамінаў Мікалая дэ Лазары: «З усіх афіцэраў нашага Фінляндскага палка я быў адзін з самых бедных і не мог існаваць толькі на заробак. Перахопліваючы ў аднаго ці ў другога з таварышаў па 15, 10 і 5 рублёў, я завінаваціў такім чынам рублёў 200. Па парадзе аднаго таварыша, падпалкоўніка барона Штакельберга, я звярнуўся да ліхвяра... і ўзяў у яго 400 руб. пад 10% у месяц. Атрымаўшы гэтыя грошы і расплаціўшыся з таварышамі, выправіў сабе мундзірны сурдут і набыў некаторыя неабходныя рэчы. Штомесяц я плаціў 40 руб. адных працэнтаў, і можна сказаць, што жалаванне амаль не атрымліваў, таму што ўсё ішло на выплату працэнтаў. Так цягнулася на працягу 6 – 7 месяцаў, і настаў такі сумны для мяне час, што не толькі капітал (400 руб.), але і працэнты плаціць не было з чаго. Заставалася адно: падаць рапарт аб хваробе і сядзець дома, нікуды не выходзіць. Пасля першага ж месяца маёй неплацежаздольнасці... ліхвяр падаў вэксаль да спагнання [...].

Пры такім цяжкім матэрыяльным становішчы працягваць службу ў гвардыі я больш не мог і пасля доўгіх разважанняў прыйшоў да высновы, што мне неабходна паехаць да брата ў г. Ліду і шукаць сабе якую-небудзь іншую службу.

Забраўшы ўсе свае нікчэмныя пажыткі, у сакавіку месяцы 1866 г. я выехаў з Пецярбурга ў Ліду і, прыбыўшы да брата Васіля, расказаў яму ўсю сутнасць справы. 27 сакавіка я стаў падпаручнікам. Пражыў у брата дзён 20 і адправіўся ў Вільню да тамтэйшага губернатара С. Ф. Панюціна з просьбай аб прадстаўленні мне якой-небудзь службы. Панюцін прапанаваў мне пасаду кандыдата ў міравыя пасрэднікі ў г. Ліда... і я падаў дакладную запіску. ...Нягледзячы на ўсю паспешнасць у атрыманні гэтай пасады, мне прыйшлося пра-

жыць у Вільні і ў брата ў Лідзе 4 месяцы, 4 чэрвеня я быў залічаны кандыдатам 7-га ўчастка да пасрэдніка паручніка Ушакова»[28].

Пасля жабрацкага жыцця ў Пецярбургу кандыдат у міравыя пасрэднікі разам з жонкай вельмі нядрэнна ўладкаваўся ў Лідзе: «Кватэра наша ў Лідзе складалася з асобнага дома ў 8 пакояў з прыслугай: кухаркай, яе дачкой Анэтай – пакаёўкай – і лёкаем. Абстаноўка кватэры была набыта ў брата Васіля, які з'яўляўся ваенным начальнікам у Лідскім павеце... Зрабіўшы ўсё чыста і ахайна, пры навізне ўсіх рэчаў, зажылі мы ўдваіх мірным, ціхім і ўтульным жыццём, з'явілася некалькі блізкіх знаёмых, у ліку якіх самымі блізкімі былі Ушаковы,  муж з жонкай, а самай прывабнай – Кацярына Іванаўна Маўрас, якая любіла нас, як родных, а таму яе сяброўства было для нас самым радасным. Недалёка ад Ліды быў маёнтак Маўраса Тарноўшчына, мы часта ездзілі туды і бавілі там па некалькі дзён у асяроддзі яе сям'і. Але нам дзіўна было бачыць, што яе дзеці былі амаль што ўсе вельмі непрыгожымі, нягледзячы на прыгажосць і прывабнасць самой Кацярыны Іванаўны.

Акрамя гэтых асоб, часта бывалі ў нас Белажэўскія, муж з жонкай, якія пасля вельмі сышліся з намі, ...потым князь Трубяцкі, Грос, Празароўскі і Вінаградаў...

...сваё жыццё ў маленькім горадзе Ліда, я магу назваць... падмуркам майго шчаслівага шлюбнага, сямейнага жыцця, і часта я ўспамінаю гэты перыяд. Як добра, як утульна і ўцешна жылося нам там! Упіваючыся гэтай асалодай, ні на хвіліну не пакідаў маю дарагую жонку, патураў ёй... лічачы шчаслівыя моманты, калі мы былі толькі ўдваіх, не жадалі большага атачэння... Усе навакольныя добра ставіліся да нас, і ўсе знаёмыя шукалі нашага сяброўства.

Белажэўскі быў вялікім аматарам сцэны, і па яго ініцыятыве і пры ўдзеле князя Трубяцкога мы ставілі ў нас спектаклі...»[29].

Трэба сказаць некалькі слоў пра найбольш уплывовага і багатага «абрусіцеля» на Лідчыне генерала Дзмітрыя Маўраса. Маёнтак Тарнова генерал Маўрас набыў у 1866 г.

---

[28] Николай де Лазари. Наброски на бумагу. Лодзь, 2014. С. 73–75.
[29] Там жа. С. 82–83.

у паўстанца Канстанціна Кашыца. Прадаць свой маёнтак Кашыц павінен быў па царскім указе хутка і танна. Гэтак жа танна ў паўстанца Маўрас купіў дом у цэнтры Вільні, на Георгіеўскім праспекце[30] (цяпер праспект Гедыміна). Акрамя Тарнова генерал купіў суседнія вёскі Мыто, Дзітву Тарноўскую, Паперню, Нявішу, Ярэмічы, Жукоўшчыну і Лебяду. Уся гаспадарка разам мела 15 000 дзесяцін ці 150 квадратных кіламетраў. У тарноўскім палацы знаходзілася вялікая бібліятэка, каштоўная калекцыя карцін, мастацкіх вырабаў з золата, бронзы, парцаляны, старадаўняя зброя, рэдкія ракавіны, чучалы іншаземных жывёл[31]. Верагодна, карціны дасталіся Маўрасу ад былых уладальнікаў-паўстанцаў: былі куплены разам з маёнткам і домам у Вільні. Яны не былі вынікам працяглых пошукаў, таму генерала цяжка назваць калекцыянерам, хутчэй яго можна лічыць выпадковым чалавекам, якому за бясцэнак дасталіся каштоўныя рэчы. Добра, што не марадзёрам.

Мікалай дэ Лазары непрацяглы час жыў у Лідзе, бо «бачачы ўдалую і забяспечаную ў матэрыяльным сэнсе службу брата Васіля ў корпусе жандараў, я праз дапамогу Дзмітрыя Маўраса, які лічыўся тады пры шэфу жандараў, стаў прасіць аб залічэнні мяне на службу ў корпус. Клопаты гэтыя праз непрацяглы тэрмін увянчаліся поспехам, і ў жніўні месяцы 1867 г., прадаўшы ўсю сваю маёмасць, я з жонкай пераехаў у Пецярбург і быў прыкамандзіраваны да штаба. ...Хутка і м-м Маўрас з дзецьмі пераехала ў Пецярбург і я адшукаў ім кватэру ў тым жа доме Ліпса і на тым жа паверсе, дзверы ў дзверы. Дзякуючы жонцы Маўраса генерал Мезенцаў выдаў мне грашовую дапамогу ў памеры 250 руб. Гэта нам добра дапамагло...»[32].

Менавіта гэткае асяроддзе мог бачыць у дзяцінстве малы Кіпрыян.

---

30 Дубин А. Признание брака графа Н. Н. Симонича и графини Е. Д. Маврос недействительным и статус их дочери Марии // Генеалогический вестник. СПб., 2010. Вып. 38. С. 32.

31 Там жа. С. 32–33.

32 Николай де Лазари. Наброски на бумагу. Лодзь, 2014. С. 84–85.

конніца немцаў пачала прасоўвацца на поўдзень, у кірунку на Найдэнбург… Генерал Кандратовіч выправіўся ў Найдэнбург, каб хутка зарганізаваць там абарону. Прыбыўшы ў Найдэнбург, ён знайшоў там толькі 1000 чалавек эстляндцаў, сабраных камандуючым дзеля адпачынку. Эстляндцам, пры якіх было 2 штаб-афіцэры, было загадана заняць вышыні на захад ад горада… пасля чаго генерал Кандратовіч зноў выехаў з Найдэнбурга на поўнач, да астатніх частак свайго корпуса. Аднак, праехаўшы 2–3 вярсты, даведаўся аб адыходзе эстляндцаў… зноў вярнуўся… і асабіста, разам з чынамі штаба, давёў частку эстляндцаў да тых вышынь, якія яны павінны былі ўтрымліваць… Устанавіўшы на пазіцыі эстляндцаў, генерал Кандратовіч зноў выправіўся да аддзела Мінгіна на крайні правы фланг»[91]. Толькі ўвечары, каля 19-й гадзіны, пасля гарачай размовы з генералам Мінгіным, падчас якой Мінгін практычна адмовіўся падпарадкавацца (невядома, як складаліся адносіны гэтых генералаў да вайны, у расійскім войску бывала ўсялякае, напрыклад, паміж двума камандуючымі арміямі – Самсонавым і Рэненкампфам – падчас руска-японскай вайны была дуэль, гэта лёсавызначальным чынам адгукнулася ў 1914 г.), Кандратовіч пакінуў аддзелы Мінгіна[92]. Прычыны гэтага ўчынку незразумелыя, і тут маглі б дапамагчы мемуары абодвух генералаў, але, на жаль, мы не маем іх.

Верагодна, што Салжаніцын кіраваўся кнігай Яўсеева «Августовское сражение в Восточной Пруссии 1914 г.»[93], якая была выдадзена ў 1936 г., калі Кандратовіч для Масквы быў ворагам-нацдэмам. Яўсееў сцвярджае, што генерал Кандратовіч з'ехаў з фронту яшчэ ў 12 гадзін на чале аддзела з шасці рот 8-га Эстляндскага палка і кулямётнай каманды лейб-гвардзейскага Петраградскага палка. Апісанне дзеянняў генерала ў «Чырвоным коле» Салжаніцына літаральна супадае з тым, што напісана ў гэтай кнізе. Але на карысць Кандратовіча кажа неверагодны факт, які выкладае ў сваёй працы афіцэр-

[91] Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция. С. 587–593.
[92] Гл.: Восточно-Прусская операция. С. 293.
[93] Евсеев Н. Ф. Августовское сражение в Восточной Пруссии 1914 г. М., 1936.

эмігрант Багдановіч П. Н.[94] Ён цытуе ўспаміны камандзіра нямецкага корпуса генерала Франсуа аб тым, што а 15-й гадзіне каля ягонага штаба праехаў аўтамабіль з незнаёмымі афіцэрамі. Франсуа лічыў, што гэта быў камандзір 23-га корпуса. Аўтамабіль немцы нават не абстралялі! Вось так у дзень пагрому расійскага войска Кандратовіч, перамяшчаючыся сярод сваіх напалову акружаных войскаў, ледзь сам не трапіў у палон…

Як прайшла ноч, невядома, але ж назаўтра ўсё было скончана.

У ноч з 28 на 29 жніўня Самсонаў аддае загад аб агульным адступленні войскаў 2-й арміі[95].

29 жніўня пачалася агонія. Сакрушальны ўдар немцаў па тылах прывёў да разгрому расійскіх войскаў. Генерал Самсонаў застрэліўся. Штаб 15-га корпуса абстраляны з кулямётаў, і камандзір корпуса генерал Мартас узяты ў палон. Камандзір 13-га корпуса Клюеў здаўся ў палон разам з вялікім аддзелам сваіх войскаў. Два дні з месца разгрому не было ніякай інфармацыі.

30 жніўня Кандратовіч дасылае тэлеграму ў штаб акругі, у якой дае інфармацыю аб стане войскаў і знікненні камандуючага арміяй. У той жа дзень штаб фронту загадвае: «ген. Кандратовічу сабраць усе… сілы каля Харжэле, адтуль дзейнічаць па абставінах…»[96]. Некалькі дзён генерал з малымі сіламі прыкрываў шлях на Варшаву.

Усходне-Пруская аперацыя 1914 г., якая пачыналася з перамог расійскага войска, праз некалькі тыдняў скончылася поўным разгромам і ўцёкамі дзвюх расійскіх армій. Перамогу над 2-й арміяй Самсонава, у якую ўваходзіў 23-і корпус Кандратовіча, немцы назвалі бітвай пад Таненбергам (Грунвальдам) і лічылі гістарычным рэваншам за паражэнне 1410 г. Пасля разгрому 2-й арміі толькі палоннымі было ўзята 92 000 чалавек, немцам спатрэбілася 60 цягнікоў, каб вывезці трафейную вайсковую маёмасць. Практычна перасталі існаваць 15-ы і 13-ы карпусы, ад іх засталося 50 афіцэраў і 2000 салдат.

94 Богданович П. Н. Вторжение в Восточную Пруссию в августе 1914 г.; Воспоминания офицера Генерального штаба армии генерала Самсонова. Буэнос-Айрес, 1964. С. 199–200.

95 Гл.: Такман Барбара. Первый блицкриг. С. 306–358.

96 Восточно-Прусская операция. С. 310.

У 6-м і 1-м карпусах засталося па адной дывізіі, у 23-м – каля брыгады. Два камандзіры карпусоў былі ўзяты ў палон, усе астатнія адхілены ад сваіх пасад. Айцец Георгі Шавельскі, які на гэты час стаў протапрэсвітэрам усяго расійскага войска, піша, што ён спрабаваў заступіцца за Кандратовіча, свайго былога камандзіра, перад галоўнакамандуючым, але гэта не дапамагло[97].

Поўнае паражэнне атрымала і 1-я армія Рэненкампфа. Сам генерал Рэненкампф, кінуўшы армію, збег на аўтамабілі.

* * *

З верасня 1914 па 1917 г. да нядаўняга часу дакладнай інфармацыі пра генерала К. А. Кандратовіча не было. Найверагодней, што даследчык гісторыі расійскага войска А. А. Кярсноўскі[98] памылкова лічыў, што ўжо ўвосень К. А. Кандратовіч быў начальнікам штаба 2-й арміі.

Генерал К. А. Кандратовіч 30 жніўня 1914 г. быў звольнены ў адстаўку[99]. Верагодна, што пасля адстаўкі ён нейкі час з сям'ёй жыў ва ўласным маёнтку Гародна. Паводле інфармацыі ўнука генерала, сям'і прыйшлося пакінуць свой дом у 1915 г. пры набліжэнні нямецкага войска (другі і апошні раз удава генерала Ада Кандратовіч спешна пакінула Гародна ў верасні 1939 г.), але Кіпрыяна Кандратовіча з сям'ёй не было.

Вядома, што з 25 лістапада 1915 г. генерал Кандратовіч знаходзіўся ў рэзерве чыноў пры штабе Мінскай вайсковай акругі. У спісе генералаў Генеральнага штаба за 1916 г. значыцца сярод прызначаных на службу з запасу і адстаўкі. З канца 1915 г., пасля цяжкага паражэння і адступлення рускіх войскаў у 1915 г., па даручэнні камандуючага Заходнім фронтам ён пачаў інспектаваць войскі. Вось першы вядомы мне рапарт Кандратовіча на імя камандуючага фронтам генерала Эверта пра стан 2-й арміі: «Умацаванні баявых пазіцый у раёне размяшчэння войскаў 2-й арміі яшчэ ў вельмі дрэнным стане. ...У многіх месцах умацаванні ўяўляюць сабой

---

[97] Гл.: О. Гергий Шавельский. Воспоминания Последнего Протопресвитера русской армии и флота. Т. I. Нью-Йорк: Издательство им. Чехова, 1954. С. 155.

[98] Гл.: Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. С. 172–200.

[99] Военная энциклопедия издания Сытина. Т. 13. С. 105.

адну лінію акопаў... У дні агляду акопы былі настолькі засыпаны снегам, што стральба як праз байніцы, так і па-над бруствeрам, пакрытым тоўстым пластом снегу, стала немагчымай... Акопы прыкрытыя лёгкімі шырокімі брылямі, якія закрываюць зверху амаль увесь акоп. У некаторых месцах акопы абваліліся і часткова разбураны; у некаторых акопах і сховішчах стаіць зверху змёрзлая вада. Зямлянкі не асвятляюцца. Штучныя перашкоды месцамі развіты вельмі слаба (2-3 рады калоў); на некаторых участках замест загарод на калах пастаўлены рагаткі, змацаваныя паміж сабой. Сховішчаў ад цяжкіх снарадаў мала.

...Асноўным буйным недахопам умацаванняў 2-й арміі з'яўляецца няправільны выбар месца для ўмацаванай пазіцыі. У гэтых адносінах асабліва дрэнным з'яўляецца размяшчэнне 20-га корпуса ў балоце, дзе няма магчымасці ні трывала ўмацавацца, ні жыць і дзе тыл пазіцый назіраецца з боку праціўніка ва ўсіх кірунках... Войскі адчуваюць настойлівую патрэбу ў цяжкіх шанцавых прыладах... у кірка-матыках і, асабліва, ломах...»[100].

Рэзалюцыя Эверта на гэтым месцы даклада Кандратовіча: «Шанцавага інструменту на складах дастаткова». Але чаму гэты шанцавыя прылады не завезены ў часткі 2-й арміі, засталося невядомым[101].

Праверка генерала Кандратовіча выявіла вялікія недахопы ў забеспячэнні арміі: «Цёплым адзеннем войскі, наогул, забяспечаны, – дакладваў Кандратовіч, – але ў частках 36-га корпуса целагрэйкі яшчэ не атрымалі, што недапушчальна; боты паўсюль дрэнныя і шмат маламерных. Бялізнай людзі забяспечаны слаба».

Зноў рэзалюцыя Эверта: «Бялізны на складах маецца дастаткова». І зноў невядома, чаму яе не завозяць у войскі.

Далей даклад Кандратовіча малюе непрывабную карціну з харчаваннем. З дня ў дзень, па яго словах, войскі сілкуюцца адным супам; каша не варыцца, бо няма алею і сала. Крупы якія атрымліваюць войскі, закладваюцца ў суп. Рэзалюцыя Эверта: «Кашу варыць, спажываючы посны алей».

На ўсім дакладзе Кандратовіча Эверт наклаў такую

---

[100] Подорожный Н. Е. Нарочская операция в марте 1916 г. Москва, 1938. С. 27–28.

[101] Там жа. С. 28.

заключную рэзалюцыю: «Вельмі сумнае і індыферэнтнае стаўленне ўсіх кіраўнічых асоб»[102].

Камандуючаму фронтам стала вядома, што ніхто з генералаў наогул не лічыў патрэбным наведваць акопы і глядзець , як яны абсталяваны і як у іх жывуць людзі. У арміі, калі ў адзін з акопаў прыбыў генерал (верагодна, К. А. Кандратовіч), ён звярнуў увагу на тое, што салдаты не ўмеюць нават адказваць генералу на прывітанне[103].

Генерал Эверт далажыў начальніку Генеральнага штаба Вярхоўнага галоўнакамандуючага генералу ад інфантэрыі М. В. Аляксееву: «Са зробленага па майму загаду генералам Кандратовічам агляду франтавых пазіцый 1-й і 2-й армій бачу, што яны не маюць належнай крэпасці, гэта можа быць растлумачана недастаткова сур'ёзным стаўленнем да гэтага пытання з боку ўсіх кіруючых асоб»[104].

Цікавымі для нас з'яўляюцца ўспаміны генерала В. Ф. Джункоўскага (1865–1938), які ў 1908–1913 гг. займаў пасаду маскоўскага губернатара, а ў 1913–1915 гг. камандаваў Асобным корпусам жандараў. Аднак пасля таго як 19 жніўня 1915 г. Джункоўскі паспрабаваў выкрыць імператару Мікалаю II згубны ўплыў Рыгора Распуціна, ён быў звольнены з пасады галоўнага жандара і адпраўлены на фронт. З 26 снежня 1916 г. Джункоўскі камандаваў брыгадай у 8-й Сібірскай стралковай дывізіі на Заходнім фронце, а потым і самой 8-й Сібірскай стралковай дывізіяй.

На пачатку зімы 1916 г. руская армія ў паўночна-заходняй частцы Беларусі рыхтавалася да правядзення наступлення, якое атрымае назву Нарачанская аперацыя[105]. У студзені

[102] Там жа. С. 28–29.

[103] - Здорово, молодец.
- Здравия желаю, ваше... – дальше солдат запнулся.
Генерал обратился к другому:
- Здорово, молодец.
- Здравия желаю... – опять та же запинка. К третьему:
- Здорово, молодец.
- Здравия...
- Как это они у вас не знают, как надо отвечать генералу?
- Ваше превосходительство, – отвечал сопровождавший офицер, - у нас никогда ни один генерал еще здесь не был... – цыт. па: Подорожный Н. Е. Нарочская операция в марте 1916 г. С. 29.

[104] Лемке М. К. 250 дней в царской ставке 1914–1915. Минск, 2003. С. 548.

[105] Нарачанская аперацыя – няўдалая спроба наступлення расійскага войска Заходняга і Паўночнага франтоў 5–17 сакавіка 1916 г. (па новым

1916 г. да Джункоўскага «павінен быў прыехаць з штаба фронту генерал Кандратовіч для агляду пазіцыі з баявога пункту гледжання і ў сэнсе яе падрыхтаванасці... Што тычыцца падрыхтаванасці пазіцыі з баявога пункту гледжання, дык тут можна было знайсці шмат дэфектаў, але... віной гэтаму былі стыхійныя бедствы (цяжкая марозная зіма – Л. Л.)»[106].

Камандзіраваны Галоўнакамандуючым фронту Эвертам генерал ад інфантэрыі Кандратовіч прыехаў у дывізію Джункоўскага 13 студзеня 1916 г.: «Я не бачыўся з ім гадоў з 15, мы сустрэліся як старыя знаёмыя. Ён служыў у якасці афіцэра Генеральнага штаба для даручэнняў пры нябожчыку вялікім князі Сяргеі Аляксандравічы[107]... Потым ён камандаваў дывізіяй падчас Японскай вайны... а потым корпусам, але няўдала, зняты з пасады.

Прыезд Кандратовіча, якога мы ў гэты дзень не чакалі, ледзь не парушыў прызначанай у нас у штабе развітальнай вячэры, якую мы задумалі для нашых двух атрадаў Чырвонага Крыжа, з якімі расставаліся з-за адходу нашай дывізіі на адпачынак у армейскі рэзерв.

Неўзабаве пасля прыезду да мяне Кандратовіча прыехаў камандуючы корпусам і мы зладзілі нараду, даўшы Кандратовічу падрабязныя звесткі пра стан нашай пазіцыі. Пасля гэтай нарады я папярэдзіў Кандратовіча аб маючай адбыцца ў нас вячэры і запрасіў яго прыняць у ёй удзел. Ён ласкава прыняў запрашэнне і сказаў мне толькі, што хацеў бы пад раніцу абысці акопы, каб азнаёміцца з баявой службай у іх.

Вячэра прайшла вельмі ажыўлена – танцавалі, музіцыравалі, адна сястра, якая мела вельмі добры голас, праспявала некалькі рамансаў, раз'ехаліся каля гадзіны ночы»[108].

---

стылі) у ваколіцах Дзвінска і возера Нарач. Наступ пачаўся з-за просьбы саюзнікаў, у сувязі з іх цяжкім становішчам пад Вердэнам. Мэта аперацыі – разгром 8-й і 10-й нямецкіх армій. Рускім войскам удалося прасунуцца наперад на некалькі кіламетраў, але страты склалі, па розным ацэнкам, ад 78 да 150 тысяч чалавек.

[106] Джунковский В. Ф. Воспоминания (1915–1917). Т. 3. Москва, 2015. С. 71.

[107] Вялікі князь Сяргей Аляксандравіч (1857–1905) – пяты сын Аляксандра II, маскоўскі генерал-губернатар. Загінуў ад бомбы рэвалюцыянера Каляева

[108] Джунковский В. Ф. Воспоминания (1915–1917). С. 72.

У 4 гадзіны раніцы генералы і афіцэры на аўтамабілі, разам з «начальнікам інжынераў» 10-й арміі і яшчэ двума афіцэрамі паехалі ў штаб 31-га палка, а ўжо адтуль – пешшу ў акопы: «Кандратовіч быў вельмі здзіўлены, што я не ўзяў з сабой ні ардынарца, ні казака, і сам увесь час паказваў шафёру дарогу, а калі мы ўвайшлі ў акопы, дык на ўсе яго пытанні я адказваў сам, не звяртаючыся ні да камандзіра палка, ні да начальніка штаба. У акопах з-за моцнай адлігі было шмат вады, месцамі яна даходзіла да каленяў. Мы вымазаліся страшна, але Кандратовіч застаўся ўсім вельмі задаволены, а галоўнае – цудоўным выглядам стралкоў і іх бадзёрымі вясёлымі тварамі. Ён заходзіў у бліндажы і зямлянкі, гутарыў з імі і быў вельмі задаволены, а мне ён увесь час паўтараў, што бачыць першага начальніка дывізіі, які ў акопах пачуваецца, як у сябе дома.

На зваротным шляху я прапанаваў яму заехаць на назіральны пункт, які быў зладжаны на вышцы і меў вялікі кругагляд. Падняўшыся на вышку і азнаёміўшы Кандратовіча з пазіцыяй немцаў, я спытаў у яго, ці не хоча ён праверыць стральбу. Ён пагадзіўся, я загадаў адкрыць агонь пабатарэйна шрапнеллямі, якія адна за другой сталі прыгожа разрывацца над акопамі. Затым я загадаў перайсці на гранаты, і мы ясна бачылі, як яны сталі падаць у акопы, уздымаючы цэлыя слупы снегу і пяску. Выпусцілі два дзясяткі снарадаў і пайшлі піць гарбату да камандзіра батарэі. Немцы адразу сталі адказваць і пачалі моцную кананаду, якая доўжылася больш за гадзіну, яны абстрэльвалі нашы акопы і ўпадабаны імі штаб 31-га палка.

Я не мог зразумець, чаму немцы на мае 20 стрэлаў адказвалі сотнямі. Аказалася, што сёння быў дзень нараджэння Вільгельма, і таму яны стралялі па ўсім нашым фронце... Усе суседнія карпусы ўстрывожыліся, і адусюль мяне запытвалі па тэлефоне, што гэта за стральба. Я адказваў, што гэта падарунак Вільгельму да дня яго нараджэння. Тады мае суседзі па маім прыкладзе таксама пачалі абстрэл...

Вечарам быў на вячэры ў Гарадзенскім атрадзе Чырвонага Крыжа, а 15-га ўвесь дзень займаўся з генералам Кандратовічам і з ім жа абедаў у 65-й дывізіі...»[109].

[109] Там жа. С. 72–74.

Генерал Кандратовіч не памыліўся ў Джункоўскім – падчас правядзення ў сакавіку 1916 г. Нарачанскай аперацыі Джункоўскі праявіў сябе добрым военачальнікам і 15 верасня 1916 г. атрымаў мячы да ордэна Св. Уладзіміра 2 ступені, а 29 лістапада 1916 г. ён быў прызначаны камандуючым 131-й пяхотнай дывізіяй, 10 студзеня 1917 г. – камандуючым 15-й Сібірскай стралковай дывізіяй. 2 красавіка 1917 г. атрымаў чын генерал-лейтэнанта.

Зусім па-іншаму апісаў праверку сваёй дывізіі Кандратовічам камандзір 70-й дывізіі генерал А. П. Будберг. У сваіх мемуарах ён паведамляе пра складанасці, якія мела яго дывізія зімой 1915–16 гг. падчас вядзення абароны ў нашым Нарачанскім краі і ў падрыхтоўцы да правядзення наступальнай аперацыі. Да цяжкасцей, выкліканых размяшчэннем у балоцістай мясцовасці, як заўжды, дадаліся цяжкасці, выкліканыя неразумнымі загадамі з вышэйшых штабоў. Пасля аднаго з такіх загадаў Будберг патрабаваў ад вышэйшага штаба перагледзець свае ранейшыя пастановы[110]. З праверкай ад імя камандуючага фронтам у дывізію прыехаў генерал К. А. Кандратовіч, з якім Будберг быў знаёмы па агульнай службе на Далёкім Усходзе і на Каўказе: «...Кандратовіч наведаў... акопы аднаго батальёна, прычым я адмыслова правёў яго па самых кепскіх месцах, каб паказаць самыя абуральныя недахопы нашага размяшчэння... і даць падставых ...адвесці ўсю дывізію на ўсходнія ўзвышшы азёрнай даліны (возера Нарач – Л. Л.)»[111]. Вынікам рэвізіі Кандратовіча быў «страшэнны разнос, зроблены ўсёй 1-й арміі (часткай якой была 70-я дывізія – Л. Л.) загадам галоўнакамандуючага Паўночна-Заходняга фронту генералам Эвертам і асабліва з'едлівыя для нас заўвагі, што за той жа час немцы здолелі і паспелі пабудаваць у сябе выдатныя ўмацаваныя пазіцыі, а нашы войскі ў гэтым сэнсе нічога не зрабілі»[112].

Немагчыма адназначна выявіць, хто меў рацыю ў гэтай справе, аднак вядома, што ў другой палове 1916 г. немцы на асобных участках Паўночна-Заходняга фронту дазвалялі

---

[110] Военный альбом генерала А. П. Будберга: материалы к биографии. Воспоминания о войне, 1914–1917. Москва, 2014. С. 140–142.
[111] Там жа. С. 142.
[112] Там жа. С. 143.

сабе пакідаць супраць рускай паўнакроўнай дывізіі полк непаўнавартаснага ландвера і нічым пры гэтым не рызыкавалі.

На працягу некалькіх старонак сваіх мемуараў генерал Будберг апісвае цяжкасці абароны ў беларускай балоцістай мясцовасці, а поспех немцаў у справе пабудовы ўмацаванняў тлумачыць выдатнай арганізацыяй тылу: «Мы ўсё цягалі на людзях, а ў немцаў вузкакалейкі падыходзілі амаль што да акопаў першай лініі... на баку непрыяцеля ўсё насельніцтва працавала па вайсковых нарадах і перавозках, а мы вымотваліся на папраўцы дарог, прычым мясцовыя жыхары (маюцца на ўвазе беларусы – Л. Л.) знарок псавалі бліжэйшыя да вёсак дарогі...»[113]. Будберг піша, што такім чынам мясцовыя людзі спадзяваліся пазбавіцца ад «нашых абозаў з іх рухам праз вёскі і мястэчкі; дзеля гэтага яны адмыслова ламалі пабудаваныя намі масткі, засыпалі выкапаныя канавы, раскідвалі накатнікі (маюцца на ўвазе дарогі з бярвення – Л. Л.) і г. д.»[114] Думаю, што насельніцтва ахвотна дапамагала немцам і байкатавала патрэбы як быццам свайго войска, таму што немцы нядрэнна плацілі за працу. А нямецкія вузкакалейкі таго часу шмат дзе працавалі да 1960-х гг.

Пасля Нарачанскай аперацыі руская армія пачала рыхтавацца на летняга наступу. На здымку з чэрвеня 1916 г. генерал Кандратовіч з біноклем у руках стаіць на лесвіцы ў траншэі каля каманднага пункта на якім вісіць шыльда з надпісам: «Наблюдат. пункт командира корпуса (Куропаткинский)», а на адвароце фотаздымка пазначана : «Генерал Кондратович на наблюд. пункте у дер. Горны Скробов. 19–20/VI – 16 г.»[115] Відавочна, што здымак зроблены падчас чарговай інспекцыі генерала.

Аматары вайсковай гісторыі добра ведаюць беларускі населены пункт Горны Скробаў, ён знаходзіўся ў самым віры так званай Баранавіцкай аперацыі 1916 г.

Але пра ўсё па чарзе.

Вядома, што былы вайсковы міністр Расіі Курапаткін А. Н. пасля руска-японскай вайны, дзе ён камандаваў Маньчжурскай арміяй, быў адлучаны ад службы за ганебныя

113 Там жа. С. 144.
114 Там жа. Заўвага 66.
115 Даты па старым стылі.

паражэнні, і толькі 12 верасня 1915 г. яго прызначылі камандаваць грэнадзёрскім корпусам, які нанава фармаваўся восенню 1915 г. у Яраслаўскай губерні. Сваю справу выкліканы з адстаўкі генерал ведаў, і праз пяць месяцаў ён далажыў у стаўку пра гатоўнасць грэнадзёраў да адпраўкі на фронт. Але ў канцы студзеня 1916 г. Курапаткін атрымаў прызначэнне на пасаду камандуючага 5-й арміяй Паўночнага фронту. Камандавацьь корпусам быў прызначаны генерал-лейтэнант Парскі Д. П. (1866–1921), які, дарэчы, як і генералы Кандратовіч і Доўбар-Мусніцкі, таксама скончыў 2-ю вайсковую Канстанцінаўскую вучэльню, а потым Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба.

На пачатку 1916 г. грэнадзёрскі корпус перакідваецца на Заходні фронт у 4-ю армію. Тут, каля беларускага горада Баранавічы, чакаліся галоўныя падзеі кампаніі лета 1916 г.

Раён Баранавіч быў заняты германскімі войскамі яшчэ ў сярэдзіне верасня 1915 г. і лічыўся адным з найважнейшых участкаў германскага Усходняга фронту на кірунку Варшава – Масква. Згодна з рускім планам летняй кампаніі 1916 г., адначасова з наступам Паўднёва-Заходняга фронту (19 карпусоў), Заходні фронт (23 карпусы) павінен быў наносіць галоўны ўдар 4-й арміяй на ўчастку Наваградак – Баранавічы. На пачатку чэрвеня 1916 г. войскі Паўднёва-Заходняга фронту пачалі наступ, прарвалі пазіцыі аўстравенгерскай арміі і пачалі прасоўванне ў глыб Галіцыі. Аднак камандуючы Заходнім фронтам генерал ад інфантэрыі Эверт двойчы адкладваў намечанае агульнае наступленне Заходняга фронту, спачатку на 13 чэрвеня, потым на 17 чэрвеня, а пасля зрабіў спробу наогул адмяніць аперацыю. Пасля катэгарычнага патрабавання Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання, Заходні фронт абавязаўся «атакаваць праціўніка на фронце Наваградак – Баранавічы». На падрыхтоўку наступлення адводзілася 22 дні. Якраз падчас падрыхтоўкі гэтага наступлення генерал ад інфантэрыі Кандратовіч, у ноч з 2 на 3 ліпеня па новым стылі, апынуўся на камандным пункце грэнадзёрскага корпуса ў беларускай вёсцы Горны Скробаў.

15 ліпеня грэнадзёры пайшлі ў прарыў – восем кіламетраў фронту на корпус! Але прасунуцца далей першай лініі германскіх пазіцый не ўдалося, да вечара грэнадзёрскія




*Генерал Кандратовіч з біноклем у руках стаіць на лесвіцы ў траншэі каля каманднага пункта, на якім вісіць шыльда з надпісам: «Наблюдат. пункт командира корпуса (Куропаткинский)», а на адвароце фотаздымка: «Генерал Кондратович на наблюд. пункте у дер. Горны Скробов. 19–20/VI – 16 г.», лета 1916 г.*

атакі канчаткова захлынуліся ва ўласнай крыві, і салдаты вярнуліся ў свае акопы. У ноч з 17 на 18 ліпеня, выбітыя грэнадзёрскія дывізіі на пазіцыях каля Горнага Скробава былі заменены звычайнай пяхотай. 17 ліпеня рускае камандаванне пачало дадатковую артпадрыхтоўку і ў 19 гадзін вечара 5 дывізій пайшлі ў паўторную атаку. Страты за першыя тры дні аперацыі даходзілі да 50% асабовага складу, войскі былі вельмі стомленыя. Эверт вырашыў адкласці новыя атакі да 21 ліпеня і зрабіў перагрупоўку войскаў. Павольныя дзеянні рускага камандавання былі выкарыстаны немцамі, якія ўмацавалі атакаваныя ўчасткі і ўзмацнілі іх артылерыяй. 21 ліпеня на досвітку пачалася новая артпадрыхтоўка і ў 2 гадзіны ночы яшчэ 6 дывізій пайшлі ў атаку. На працягу дня войскі чатыры разы хадзілі ў атаку, але поспеху не мелі, прасунуўшыся ў цэнтры ўсяго толькі на 2 км. У выніку доўга рыхтаваная аперацыя звялася да авалодання толькі першай умацаванай лініяй і захопу некалькіх гармат. А 27 ліпеня 1916 г. ужо германскія войскі распачалі контрнаступленне. Страты рускай арміі ў гэтай бітве склалі 80 000 чалавек супраць 13 000 забітых немцаў.

Сталыя праверкі войскаў патрабавальным генералам ад інфантэрыі Кандатовічам безумоўна прыносілі карысць арміі, але дадавалі яму мноства асабістых ворагаў. Шмат хто з «паркетных» генералаў адмоўна ўзгадваў яго ў сваіх мемуарах. Не ўсе былі такімі, як Джункоўскі, які не баяўся казаць праўду нават цару, сярод іх усё ж больш было такіх як Будберг, які ў сваіх успамінах напісаў пра Кандратовіча, што ў жніўні 1914 г. «ашалелы аўтамабіль аднес сваё высокароддзе на небяспечную адлегласць...»[116].

Нягледзячы на нядобразычліўцаў, уклад Кіпрыяна Кандратовіча ў ваенныя дзеянні падчас Першай сусветнай вайны быў высока ацэнены ўрадам. За «выдатна-старанную службу і працу, зробленую падчас ваенных дзеянняў» 01.06.1916 г. генерал ад інфантэрыі Кандратовіч быў узнагароджаны Ордэнам Святога Аляксандра Неўскага. Гэты ордэн быў зацверджаны ў якасці ўзнагароды для чыноў ад генерал-лейтэнанта і вышэй. За час яго існавання, з 1725 па 1917 г., ім

[116] Военный альбом генерала А. П. Будберга: материалы к биографии. Воспоминания о войне, 1914–1917. С. 142.

былі ўзнагароджаны 3 674 рускія і замежныя генералы ці адпаведныя па чыне цывільныя чыноўнікі і, дарэчы, кавалерам гэтага ордэна ў 1907 г. стаў сам імператар Францыі Напалеон. У гады Першай сусветнай вайны ордэн Святога Аляксандра Неўскага ўручаўся за вялікія заслугі і высока шанаваўся военачальнікамі.

З 1915 па 1917 г. служба генерала Кандратовіча праходзіла на радзіме – у Беларусі. І менавіта ў гэты час генерал зблізіўся з беларускай інтэлігенцыяй і дзеячамі беларускага адраджэння, што і дало яму падставы па-новаму паглядзець на гісторыю сваёй Радзімы і падумаць аб сваім месцы ў ёй.

# Беларускае войска

У 1917 г. наступіў кароткі перыяд гісторыі, калі народы Расійскай Імперыі маглі скарыстацца з дэмакратыі, здабытай пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі. Наступны спрыяльны перыяд гісторыі для паняволеных нацый наступіць толькі ў 1991 г. і таксама хутка закончыцца.

У траўні 1917 г. у Мінску было створана арганізацыйнае бюро Беларускай народнай партыі сацыялістаў, узначаліў партыю Раман Скірмунт. Сярод яе сяброў былі Павел Аляксюк, Аляксандр Уласаў, пісьменнік Ядвігін Ш. (Лявіцкі), ксёндз Гадлеўскі, генерал Кандратовіч, Паўліна Мядзёлка, а. Кульчыцкі, ксёндз Цікота. Бюро мясцілася ў адным доме з Беларускай кнігарняй (Захар'еўская, 24)[117]. Прозвішча генерала Кандратовіч ёсць у спісе 29-ці першых сяброў партыі[118].

Ужо 8 мая 1917 г. Кандратовіч прыняў на сябе камандаванне 75-й пяхотнай дывізіяй[119]. У 1914 г. гэтая дывізія была створана на базе 38-й і ўваходзіла ў склад Варшаўскай вайсковай акругі. Дывізія брала ўдзел у бітве пад Варшавай, а ў 1917 г. дыслацыравалася ў Беларусі. Травень 1917 г. – не лепшы час для таго, каб генералу ад інфантэрыі ва ўзросце 59 гадоў працягваць сваю вайсковую кар'еру. Расійская армія развальвалася, генералаў здымалі з пасад. На 1 траўня 1917 г. былі адхілены ад сваіх пасад 3 з 5 галоўнакамандуючых

---

117 Шыбека Захар. Менскія кватэры і сядзібы непрыяцеляў царызму // Наша слова. 2007. № 26 (814).

118 Гл: Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі / Уклад. С. Шупа. Т. 1. Кн. 1. Вільня–Менск–Нью-Ёрк–Прага, 1998. С. 5.

119 Наша слова. 2004. № 10 (645).

войскамі фронту (60%), 7 з 14 камандуючых арміямі (50%), 39 з 77 камандзіраў карпусоў (50,5%), каля траціны начальнікаў дывізій (75 з 240) – такім чынам, больш за палову вышэйшага каманднага складу былі выкінутыя з войска. У траўні 1917 г. зафіксаваны першыя забойствы генералаў на фронце. 17 траўня група салдат арыштавала і забіла камандзіра 177-й пяхотнай дывізіі генерала Я. Я. Любіцкага. Тады ж загінуў ад рук сваіх салдат камандзір 184-й пяхотнай дывізіі генерал П. А. Шкарпэтак. А хваляванні ў 75-й дывізіі пачаліся з сакавіка. Захавалася аператыўная перапіска за вясну 1917 г. штаба корпуса, якому падпарадкоўвалася 75-я дывізія. Адна з спраў штаба – «Аб розных здарэннях у сувязі з увядзеннем новага ладу» на 115 лістах – разгортвае паказвае карціну распаду войска – арышты старэйшых камандзіраў прапаршчыкамі, непадпарадкаванне загадам цэлых палкоў 75-й дывізіі, масавае дэзерцірства, бездапаможнасць вышэйшага камандавання, жудасны стан перадавых частак, крывавы шлях страявых афіцэраў; два дзясяткі лістоў гэтых тэчак апісваюць хваляванні ў красавіку 1917 г. у 75-й дывізіі. За адзін месяц у дывізіі змяніліся тры камандзіры: генералы Штэгельман (паспяхова камандаваў дывізіяй з 1914 г.,), Снесараў (быў камандзірам 2 тыдні ў красавіку), Баркоўскі[120]. У траўні гэтую дывізію прыняў К. А. Кандратовіч.

Упэўнена можна выказаць здагадку, што вяртанне Кандратовіча да камандавання рэальнай вайсковай часткай было выклікана перспектывай беларусізацыі войска і ўдзелам у гэтым генерала. Тым больш, што 15 траўня 1917 г. у Мінску ўзнікла Беларуская вайсковая арганізацыя, якая згуртавала вайскоўцаў, што знаходзіліся ў Мінску[121]. Але ў канцы верасня 1917 г. Часовы ўрад чамусьці запланаваў 75-ю дывізію, якая дыслакавалася ў Беларусі, падвергнуць «мусульманізацыі» – паводле планаў, 75-я пяхотная дывізія павінна была камплектавацца татарамі з Казані[122].

З успамінаў вышэйзгаданага генерала Джункоўскага бачна, што з чэрвеня 1917 г. генерал ад інфантэрыі

120 Гл.: Белоголовый Б. Г. Доклад на «Снесаревских чтениях» – 2003 в ВАГШ. http://belogolovy.narod.ru/2003/S420031.html.
121 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. Вільня, 2009. С. 40.
122 Гл.: Шевяков Т. «Национализация» Российской армии в 1917 году. http://www.rustrana.ru/article.php? nid=14157.

К. А. Кандратовіч камандаваў 3-м Сібірскім корпусам (вядома, што апошні да Кандратовіча камандзір корпуса генерал-лейтэнант В. А. Трафімаў пайшоў у адстаўку з пасады 6 красавіка 1917 г.)[123].

У верасні 1917 г. салдацкі камітэт абраў на пасаду камандзіра 3-га Сібірскага армейскага корпуса генерала Джункоўскага: «3-ці Сібірскі корпус быў мне родным, я пачаў у ім баявую службу, але ў той час гэта быў страшна распушчаны корпус, апошнім часам у ім карпусныя камандзіры мяняліся адзін за адным і, калі мне прапанавалі гэтае прызначэнне, дык на чале корпуса стаяў генерал ад інфантэрыі Кандратовіч, якому на працягу трох месяцаў не давалі зацвярджэння на пасадзе, ён быў увесь час часовым камандуючым. Чаму яго хацелі зусім прыбраць, я не ведаў»[124].

Як бачым, верагодна, Кандратовіч таксама быў абраны жаўнерамі, але не быў зацверджаны камандаваннем. Штаб 3-га Сібірскага корпуса мясціўся ў мястэчку Мір, блізка ад Мінска, горада, у якім разгортваліся галоўныя падзеі, якія вызначылі далейшую гісторыю Беларусі.

2 кастрычніка 1917 г. Керанскі зацвердзіў генерала Джункоўскага на пасадзе[125]. У гэты час старая царская армія амаль што цалкам перастала існаваць, усе ахвотныя даўно дэзерціравалі з фронту, вайсковымі часткамі кіравалі салдацкія камітэты, афіцэраў часта забівалі, узмацнялася развальная бальшавіцкая прапаганда.

Джункоўскі так апісвае сваё ўступленне на пасаду: «Устаў я 6-га дня (кастрычніка – Л. Л.) у 9 гадзін раніцы, напіўся кавы і адправіўся да камандзіра корпуса Кандратовіча, застаў яго ў вельмі мінорным духу, адхіленне яго ад камандавання корпусам падзейнічала на яго гнятліва – цяжка было на яго глядзець . Пагаварылі з ім ад душы, вырашылі, што я ў гэты дзень буду знаёміцца са справамі і начальнікамі асобных частак корпуса, а на другі дзень заступлю ўжо на пасаду... Цяжка было на душы – корпус знаходзіўся на краі поўнага развалу... Начальнікі дывізій не атрымлівалі ніякіх дырэктыў, ніякай

---

[123] Генерал Кандратовіч камандаваў 3-м Сібірскім корпусам з 07.1917 па 02.10.1917 г.

[124] Джунковский В. Ф. Воспоминания (1915–1917). Т. 3. С. 439.

[125] Там жа. С. 443.

падтрымкі ад бліжэйшага начальства, і самі не праяўлялі ініцыятывы. Кандратовіч адчуваў сябе часовым камандзірам, дазваляў усяму плыць па цячэнні і толькі падпісваў бягучыя паперы...»[126].

Тады ж адбылася развітальная вячэра: «У гэты дзень у сталовай штаба адбылася вячэра ў гонар Кандратовіча і мяне, былі начальнікі частак корпуса, прадстаўнікі карпуснога камітэта. Вячэра прайшла ажыўлена, проста і сімпатычна. Вельмі сардэчна праводзілі Кандратовіча і вельмі сардэчна віталі мяне. Было шмат тостаў, прыйшлося шмат гаварыць, разышліся ў 12 гадзін.

8-га я выехаў з Кандратовічам на аўтамабілі ў вёску Юравічы на свята 31-га палка. Тое, што я там убачыў, перасягнула ўсе мае чаканні – дэмакратызацыя гэтага палка была поўная, для мяне гэта ўсё было дзіка. Па-першае, мяне не пачакалі і пачалі малебен без мяне. Пасля набажэнства адбыўся парад, праходжанне было агіднае, ішлі не салдаты, а нейкі зброд. Потым быў абед – салдаты і афіцэры сядзелі за адным сталом, абедалі разам з катла, а начальства і штабныя ў шатры. Падавалі нам тое ж, што было і ў салдат, і для поўнай дэмакратызацыі пасадзілі за наш стол маіх і начальніка дывізіі шафёраў.

З 31-га палка я накіраваўся на аўтамабілі разам з Кандратовічам да камандуючага арміяй у г. Слуцк...»[127].

Магчыма, з-за таго, што гэтым корпусам тры месяцы камандаваў Кандратовіч, Васіль Захарка пісаў пра беларусізацыю 3-га корпуса, называючы яго не 3-м Сібірскім, а 3-м Армейскім[128].

У кастрычніку 1917 г. расійскі Часовы ўрад і Стаўка на прапанову генерала Мікалая Духоніна, выканаўца абавязкаў Вярхоўнага галоўнакамандуючага, прыступілі да перафармавання арміі на нацыянальна-тэрытарыяльных асновах. Гэтай нацыяналізацыяй Часовы урад жадаў стабілізаваць армію. У сувязі з гэтым было дазволена арганізаваць у Мінску з'езд беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту. Пры-

[126] Там жа. С. 444–445.
[127] Там жа С. 447.
[128] Захарка Васіль. Галоўныя момэнты беларускага руху (урывак) // Спадчына. 1997. № 5. С. 6.

сутныя выказаліся за пераўтварэнне Расійскай дзяржавы ў федэратыўную дэмакратычную рэспубліку, арганізацыю беларускага войска прызналі важнейшай задачай. З'езд стварыў Цэнтральную беларускую вайсковую раду (ЦБВР). Яе часовы выканаўчы камітэт узначаліў былы настаўнік, старшы унтэр-афіцэр 24-га транспарту 5-га абознага батальёна Сымон Рак-Міхайлоўскі, яго намеснікамі сталі таксама былы настаўнік паручнік К. Езавітаў і малодшы унтэр-афіцэр 24-й асобнай тэлеграфнай роты 12-й арміі Я. Мамонька (хутка яго змяніў студэнт Тамаш Грыб)[129]. Як бачым, досвед у ваеннай справе ў гэтых людзей быў, у лепшым выпадку, на ўзроўні малодшага афіцэра прызванага з рэзерву.

На з'ездзе воінаў-беларусаў Заходняга фронту генерал Кандратовіч быў абраны ў ЦБВР. Удзельніца з'езду Зоська Верас пісала: «Увечары ў зале губернатарскага дому зьезд адкрыўся. Колькі было дэлегатаў – ня помню. Але шмат салдатаў і афіцэраў – з генэралам Кандратовічам»[130].

9 студзеня 1978 г. у адказ на запыт Міколы Ермаловіча пра генерала Зоська Верас патлумачыла: «Зьезд вайскоўцаў Заходняга фронту адбыўся 18–21 кастрычніка 1917 г. Я была дэлегатам і адной з арганізатарак, прытым – адзінай жанчынай на зьезьдзе. Загадзя прыгатаваныя значкі – бел-чырвона-белыя – параздавала ўсім сябрам зьезду і ўспакоілася. Аж тут падходзіць нехта да мяне і кажа: «А ў генэрала Кандратовіча значка німа». А ў мяне ўжо – ніводнага. Тады я адшпіліла сваю гаспадарскую бел-чырвона-белую разэтку (круглую) і прышпіліла генэралу. На трэці дзень зьезду пасадзілі мяне запісываць тых, хто хоча ў беларускія батальёны. Першым запісаўся генэрал Кандратовіч...»[131].

15–24 кастрычніка 1917 г. у Мінску адбылася другая сесія Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый і партый (ЦРБАіП), падчас якой гэты орган быўператвораны ў Вялікую беларускую раду (ВБР), якая павінна была стаць зародкам будучага органа дзяржаўнай улады[132]. Як сведчыць фотаз-

---

[129] Міхалюк Дарота. Беларуская Народная Рэспубліка 1918–1920 гг.: ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. Смаленск, 2015. С. 151.

[130] Зоська Верас. Я помню ўсё. Успаміны, лісты. Гародня – Wrocław. 2013. С. 55.

[131] Зоська Верас. Пакуль рука пяро трымае. Мінск, 2015. С. 210.

[132] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 40.



*Удзельнікі сумеснага паседжання Вялікае беларускае рады і Цэнтральнае беларускае вайсковае рады ў Менску (у памяшканні губернатарскага дома) 15 кастрычніка 1917 г., на якім было вырашана склікаць Першы Усебеларускі з'езд (БДАМЛІМ).*
*Злева – фрагмент папярэдняга здымка, першы злева – генерал Кандратовіч*



дымак з гэтага мерапрыемства, генерал узяў у ім удзел[133]. Да таго ж яго памятала і Зоська Верас: «Калі рабілі здымак удзельнікаў Усебеларускага зьезду і Вайсковага (у залі губэрнатарскага дому), то і ген. Кандратовіч на гэтым здымку ёсьць (здымак маю)»[134].

Пасля гэтага пачалася канкрэтная праца па арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Утворанае ў гэты час бюро па арганізацыі беларускага войска ўзначаліў генерал Кіпрыян Кандратовіч, ветэран балканскай, японскай і Першай сусветнай войнаў, аўтар тэарэтычных прац у вайсковай галіне. Ягонымі памочнікамі былі генерал-маёр Пажарскі, палкоўнік Камароўскі і паручнік К. Езавітаў. Кандратовіч распрацаваў адпаведны план і атрымаў дазвол на стварэнне беларускага палка ў Мінску, а пасля – беларускага корпуса на Заходнім фронце[135].

У канцы кастрычніка 1917 г. дэлегацыя воінаў-беларусаў Заходняга фронту ў складзе старшыні выканкама ЦБВР С. Рака-Міхайлоўскага, К. Кандратовіча, М. Ярушэвіча і І. Шчэрбы выехала ў Стаўку ВГК дзеля перамоваў з Вярхоўным галоўнакамандуючым генералам М. Духонiным аб арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Генерал М. Духонін[136] першапачаткова нічога канкрэтнага не адказаў, але праз некалькі дзён прыслаў тэлеграму, якая дазваляла фармаванне беларускіх аддзелаў праз папаўненне беларусамі выбраных адзінак расійскага войска.

У час, калі генерал Кандратовіч чакаў канкрэтных распараджэнняў Стаўкі, Духоніна паглынаў нарастаючы канфлікт з бальшавіцкімі ўладамі. У выніку 9 лістапада генерал Духонін быў зняты з пасады галоўнакамандуючага. На яго месца бальшавікі прызначылі паручніка Мікалая Крыленку. Бальшавікам тады таксама ўдалося зняць з пасады

---

133 Гл.: Беларускі гістарычны часосопіс. 1993. № 1. С. 63. Фотаздымак з подпісам «Дэлегаты з'езда беларусаў воінаў Заходняга фронту…» і Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 71. Фотаздымак з подпісам «Сябры ВБР і Беларускай цэнтральнай вайсковай рады…» (Кандратовіч сядзіць у першым радзе).

134 Зоська Верас. Пакуль рука пяро трымае. С. 210.

135 Гл.: Łatyszonek O. Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923. Białystok, 1995. S. 56.

136 Гл.: Савіцкі В. Беларускае войска: ад ідэі да спроб рэалізацыі (1917 г.) // Беларускі гістарычны часопіс. 1994. № 4. С. 60–61.

галоўнакамандуючага Заходнім фронтам генерала П. Балуева[137]. ЦБВР і ВБР у той час негалосна прызналі бальшавіцкую цэнтральную ўладу і не згаджаліся толькі з узурпацыяй мясцовай улады[138].

Першы агульнабеларускі з'езд, які праходзіў у Мінску ў снежні 1917 г., па 6-м пункце планаваў выслухаць выступ генерала Кандратовіча і Рак-Міхайлоўскага пра арганізацыю беларускага войска[139]. Выступ не адбыўся з-за разгону з'езда бальшавікамі.

Кастусь Езавітаў пісаў: «У віну ген. Кандратовічу безмоўна трэба палічыць тое, што ён не зразумеў усей вялікай адпаведнасьці моманту і ня змог перажаргнуць праз вайсковую традыцыю, патрабуючую ад падпарадкаванага безмоўнай паслухмянасьці распараджэньню старшага, і не даказаў, з належным у гэтым выпадку ўпорствам і націскам, усю неадкладную патрэбнасьць зараз-жа, не трацячы ніводнай хвіліны часу, разьвязаць беларускую вайсковую справу ў поўным маштабе і хутка аддаць патрэбныя срочныя загады»[140].

Генерал Кандратовіч быў чалавекам старой школы, трымаўся прысягі і чакаў распараджэнняў ад законнага вышэйшага кіраўніцтва. Пазіцыя старога ваякі складалася ў тым, што патрэбна палітычнае рашэнне, пасля якога прафесійныя вайскоўцы выканаюць свой абавязак. Але Часовага ўрада, ад імя якога Духонін дазволіў стварэнне беларускага войска, ужо не было, а да прыняцця палітычнай дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі заставалася яшчэ тры месяцы, па мерках рэвалюцыйнага часу – цэлая эпоха. Не з'яўляючыся палітыкам, як, напрыклад, Пілсудскі, фармаваць войска, якое будзе служыць невядома каму, генерал не мог. І таму ягоны намеснік, палкоўнік Камароўскі, стрымліваў маладых калег ад «неабдуманых крокаў». Па меркаванню Езавітава, па-за межамі Мінска арганізацыйную працу па стварэнні беларускіх вайсковых фармаванняў генерал аддаў на волю лёсу. Між тым, дзякуючы ініцыятыве франтавых рад, якія

---

[137] Гл.: Łatyszonek O. Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923. S. 55–56.
[138] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 47.
[139] Белорусская рада 1917. №6.
[140] Езавітаў К. Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада // Крывіч. 1924. № 1 (7). С. 41.

рэалізоўвалі пастановы сваіх з'ездаў, праца па фармаванні беларускіх аддзелаў павольна прасоўвалася наперад[141].

Езавітаў даводзіў, што ўтвораныя на розных франтах беларускія арганізацыі і вайсковыя фармацыі спрабавалі наладзіць кантакт з генералам Кандратовічам, але, на жаль, безвынікова. Загады па тэлеграфе і інструкцыі сыходзілі толькі ад малодшых афіцэраў ЦБВР і кіраўніцтва яе палітычнага аддзела. Не маючы над сабой палітычнага кіраўніцтва, Кандратовіч чакаў. Дайшло да таго, што ён парваў прапанаваны яму для падпісання дакумент. Малодшыя афіцэры давялі Прэзідыуму ЦБВР, што пакінуць вайсковы аддзел, калі генерал застанецца яго кіраўніком. Пасля гэтага выканаўчы камітэт ЦБВР адхіліў генерала К. Кандратовіча ад кіраўніцтва аддзелам і перадаў паўнамоцтвы паручніку К. Езавітаву, які быў тады адным з намеснікаў[142]. (гл. дадатак 8)

Але генерал Кандратовіч не адышоў ад беларускіх спраў і ў канцы лютага 1918 г. прапанаваў свае паслугі Беларускаму выканаўчаму камітэту. Макар Краўцоў[143] успамінаў: «Нішто іншае, як, мусіць, пачуццё ўсё-ж такі беларускасці прывяло на пасяджэнне Выканаўчага Камітэту ў быўшы Губэрн. Дом дашчэнту зрусыфікаванага генерала ад інфантэрыі Кандратовіча. Раней ён быў у Вайсковай Беларускай Радзе, але стуль яго выключылі, здаецца, за "буржуазнасць"»[144].

Як бачым, Краўцоў кажа менавіта пра «буржуазнасць» як прычыну адстаўкі генерала з пасады ў ЦБВР, што не стасуецца з закідамі Езавітава. Таксама вельмі цікавай з'яўляеца заўвага пра «пачуццё... беларускасці» ў генерала, гэта шмат што тлумачыць.

На 14 лютага 1918 г. генерал Кандратовіч лічыўся ў распараджэнні начальніка штаба армій Заходняга фронту[145].

Тым часам галоўнакамандуючы Крыленка выдаў за-

[141] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 48.

[142] Гл.: Łatyszonek O. Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923. S. 64.

[143] Макар Краўцоў (1891– пасля 1939) – беларускі паэт, публіцыст, перакладчык, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху. Аўтар слоў гімна БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». У 1918 г. увайшоў у Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПСР), сябар Рады БНР.

[144] Краўцоў Макар. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі // Спадчына. 1998. № 1. С. 92.

[145] Ганин А. В. Корпус офицеров Генерального штаба в годы Гражданской войны 1917–1922 гг.: Справочные материалы. Москва, 2009. С. 483.

гад на стрыманне «нацыяналізацыі» войскаў і забараніў скліканне народных з'ездаў у прыфрантавых зонах. Суровыя загады, скіраваныя супраць украінцаў і палякаў, камандуючы Заходнім фронтам Мяснікоў выкарыстаў супраць беларусаў і загадаў 8 снежня далучыць салдат 1-га Беларускага палка ў Мінску да размешчанага ў гэтым горадзе 289-га запаснога палка пяхоты. Гэта была ліквідацыя беларускага палка. У ноч з 31 студзеня на 1 лютага 1918 г. бальшавікі арыштавалі чальцоў БЦВР[146].

18 лютага немцы занялі Маладзечна і пачалі наступ на Мінск. Бальшавікі спешна пакідалі горад. 19 лютага беларускія вайскоўцы вырашылі ўзяць на сябе ахову парадку ў горадзе. Камендантам Мінска стаў К. Езавітаў. Спехам арганізаваныя групы беларускіх вайскоўцаў і чальцоў прафсаюзаў каля 21.00 пачалі займаць горад. Аперацыю па захопе горада пачалі таксама і польскія вайскоўцы. 20 лютага беларускія атрады былі аб'яднаны ў 1-ы Мінскі полк. 23 лютага ў 11-й гадзіне раніцы ў Мінск увайшлі нямецкія войскі. 25 лютага немцы раззброілі беларускія часткі[147].

На пачатку красавіка немцы забаранілі дзейнасць Народнага сакратарыята БНР. Шукаючы выйсця з такога становішча, Рада БНР дакааптавала ў свой склад кіраўнікоў беларускіх правых з утворанага ў лютым 1918 г. Мінскага беларускага народнага прадстаўніцтва. Вядучымі палітыкамі правых былі Р. Скірмунт, П. Аляксюк, генерал К. Кандратовіч, ксёндз В. Гадлеўскі, генерал А. Багдановіч, протаіерэй А. Кульчыцкі, А. Уласаў, В. Чавусаў[148].

Пра Камітэт беларускага народнага прадстаўніцтва, яго ўдзельнік Вінцэнт Гадлеўскі пісаў: «25 лютага быў выбраны Выканаўчы Камітэт Прадстаўніцтва ў ліку 9-ці асоб, у які ўвайшлі: пратаерэй Кульчыцкі, генэрал Кандратовіч, Скірмунт, кс. Гадлеўскі, Уласаў, Аляксюк, Чаўсаў, Зямкевіч і Русецкі»[149]. Прадстаўніцтва аб'ядноўвала палітычныя сілы, якія канкурыравалі з Беларускай сацыялістычнай грамадой. У праграмных дакументах было заяўлена, што Камітэт

146 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 57.
147 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 59–61.
148 Архівы БНР. I, 1. С. 115.; Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 63.
149 Гадлеўскі Вінцэнт. Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917-18 гг. // Спадчына. 1997. № 5. С. 30.

«прадстаўляе інтарэсы беларускага народу і з'яўляецца палітычным цэнтрам, які абараняе незалежнасць Беларусі, культуру і самабытнасць беларускага народа»[150].


*Генерал Кандратовіч у 1917 г.*

Віленская газета «Гоман» перадрукавала артыкул з «Беларускага шляху» № 20 ад 16.04.1918 г., у якім гэтай падзеі давалася такая ацэнка: «У Раду Рэспублікі адразу ўвайшоў моцны «цэнтр», і цяпер праца над адбудаваннем Беларускай Народнай Рэспублікі пойдзе моцнымі крокамі… Рада пры яе чыста сацыялістычным складзе мела многа крытыкаў добраахвотных і злых… цяпер – пры новым складзе з беларускім моцным цэнтрам і левым крылом мае магчымасць быць працаздольнай… Мы дачакаліся вялікай хвілі, калі беларусы зрабілі адзіны нацыянальны фронт»[151].

Пасля 25 сакавіка 1918 г. стварэнне беларускага войска было працягнута.

У сярэдзіне красавіка 1918 г. у спісе 80-ці сяброў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад Камітэта беларускага прадстаўніцтва пад № 42 прысутнічае і генерал Кандратовіч[152].

Дзякуючы сваёй кампетэнтнасці, дзеячы Мінскага беларускага народнага прадстаўніцтва мелі большую павагу ў немцаў, чым сацыялісты ў складзе Рады БНР. 25 красавіка Рада БНР па ініцыятыве Р. Скірмунта паслала тэлеграму з падзякай нямецкаму кайзеру Вільгельму II і прасіла аб дзяржаўнай незалежнасці ў звязе з немцамі. Тэлеграму падпісалі: кіраўнік Рады БНР І. Серада, кіраўнік Народнага

[150] Менскае беларускае прадстаўніцтва // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1993. Т. 1. С. 115.
[151] Гоман. 1918. 26 крас. № 34 (230).
[152] Архівы БНР. І, 1. С. 98.

сакратарыята Я. Варонка, Р. Скірмунт і іншыя. Кандратовіча сярод іх не было[153].

Тэлеграма нямецкаму кайзеру Вільгельму II выклікала востры крызіс у беларускім руху. Распаўся Народны Сакратарыят, з якога ў знак пратэсту выйшлі некалькі міністраў. На пачатку траўня на яго месцы была створана Рада Міністраў пад кіраўніцтвам Рамана Скірмунта. сакратаром унутраных спраў у гэтай радзе быў прызначаны генерал Кіпрыян Кандратовіч, замежных спраў – А. Аляксюк, сельскай гаспадаркі – Р. Астроўскі. Новага ўрада не прызнаў старшыня Народнага сакратарыята БНР Язэп Варонка, якога падтрымлівала частка Рады БНР[154]. Аб утварэнні новай рады ў нумары ад 22 траўня паведаміла віленская газета «Гоман»[155]. Урад Скірмунта праіснаваў да 22 ліпеня 1918 г.

У Вільні інтарэсы Рады БНР прадстаўляла падпарадкаваная ёй Віленская беларуская рада, якую Германія прызнала ў якасці беларускага нацыянальнага прадстаўніцтва[156]. 20 чэрвеня 1918 г. Язэп Варонка з Мінска піша Антону Луцкевічу ў Вільню пра тое, што генерал «Кандратовіч перадасьць Вам «на выданньне «Гомана» як два разы ў тыдзень» ад Народнага Сэкрэтарыяту – 5 000 рублёў»[157], 23 чэрвеня ён паведамляе, што генерал ужо павёз грошы[158]. У Мінск Кандратовіч вярнуўся 27 чэрвеня і 28 чэрвеня ўдзельнічаў у пасяджэнні Рады БНР, на якой разглядаліся пытанні міжнароднага і ўнутранага стану Беларусі, пытанні бежанцаў і «жалаванне членам Рады, іх правы і абавязкі»[159].

Адметна, што каштарыс Рады БНР на «выплату пэнсіі сябрам Рады за 20.03. – 1.07.1918» паказвае, што, у адрозненне ад большасці сяброў Рады, Кіпрыян Кандратовіч грошы за сваю працу не атрымліваў[160]. Беларускі генерал жыў на асабістыя сродкі, сам выдаткоўваў на свае паездкі па краіне,

---

153 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 62.
154 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 63.
155 Гоман. 1918. 22 мая. № 41 (237).
156 Міхалюк Дарота. Беларуская Народная Рэспубліка 1918–1920 гг.: ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. С. 245.
157 Архівы БНР. I, 1. С. 182.
158 Там жа. С. 185.
159 Там жа. С. 191–192.
160 Там жа. С. 194.

бо, верагодна, лічыў несумленным для сябе браць грошы ад дзяржавы, якая яшчэ толькі адраджалася.

З чэрвеньскіх лістоў Варонкі да Луцкевіча бачна, што ў чэрвені 1918 г. генерал ездзіў у Вільню, і можна выказаць здагадку, што мэтай паездкі быў пошук грошай для беларускага войска. Галоўныя праблемы, якія даводзілася вырашаць міністру абароны – гэта грошы і кадры, бо прафесійнае і баяздольнае войска на энтузіязме не ствараецца. І таму толькі 9 лістапада беларускі ўрад выдаў яшчэ адну пастанову аб фармаванні войска. 11 лістапада генералу К. Кандратовічу, палкоўніку К. Езавітаву даручана стварэнне штаба 1-га Беларускага палка. Кіпрыян Кандратовіч, як сябар Рады БНР, прапанаваў праект арганізацыі 20-тысячнага войска і паведаміў, што віленскія банкіры і грамадзяне ў падтрымку гэтай ідэі гатовы выдаткаваць значныя фінансавыя сродкі. Адзінай перашкодай, паводле генерала Кандратовіча, была неабходнасць згоды немцаў і пастаўка праз іх зброі[161].

У лістападзе 1918 быў утвораны чацвёрты Урад БНР – Рада Народных Міністраў на чале з Антонам Луцкевічам. Луцкевіч стрымліваў пачынанні генерала, бо не верыў у магчымасць стварэння гэткага вялікага войска. Нават польская самаабарона, якая мела падтрымку землеўласнікаў, скардзілася тады на малую грашовую дапамогу. Да таго ж немцы абяцалі знішчаць усе ўзброеныя аддзелы[162].

Напрыканцы нямецкай акупацыі Беларусі кіраўніцтва Обер-Оста (Нямецкая акупацыйная адміністрацыя на Усходзе, у Коўне) выказала згоду на фармаванне агульнай для ўсіх нацыянальнасцей міліцыі пад кіраўніцтвам генерала К. Кандратовіча, з чым, аднак, не былі згодны палякі, якія ўтваралі аддзелы самаабароны зямлі Мінскай, Лідскай і інш. Таму ў часе сустрэчы генерала Кандратовіча з польскім камандуючым генералам Уладзіславам Вейткам было вырашана, што кожная народнасць будзе мець уласныя аддзелы самааховы на прынцыпах аўтаноміі і толькі ў выпадку агульнай пагрозы будзе падпарадкоўвацца агульнаму кіраўніцтву. У хуткім часе ў Мінску адбылася супольная нарада, на якой генерал Кандратовіч прапанаваў месца начальніка штаба паля-

[161] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 66.
[162] Міхалюк Дарота. Беларуская Народная Рэспубліка 1918–1920 гг.: ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. С. 311.

ку – палкоўніку Фабіяну Каборду. Аднак да ўтварэння агульнага фронту супраць бальшавікоў не дайшло, і абодва бакі стваралі асобныя вайсковыя сілы[163].

Генерал Уладзіслаў Вейтка пісаў пра гэта ў сваіх мемуарах: «20 лістапада ў сувязі з перспектывай адыходу немцаў з Літвы Польскі камітэт стварыў Камітэт грамадскай бяспекі (Komitet Bezpieczeństwa Publicznego – Л. Л.)… Камітэт вёў перамовы з немцамі, літоўцамі, яўрэямі і беларусамі з мэтай арганізацыі супольнай самаабароны, але да паразумення ў гэтай справе не дайшло, хоць немцы і прапаноўвалі кіраўніком супольнай самаабароны Кандратовіча, які раней служыў у царскай арміі, а пасля рэвалюцыі далучыўся да беларусаў». І далей: «Немцы згаджаліся на фармаванне супольнай для ўсіх нацыянальнасцей міліцыі пад кіраўніцтвам генерала Кандратовіча, на прынцыпах, устаноўленых Обер-Остам, аднак на гэта не было згоды польскай самаабароны, і прапанова не была прынятая… Падчас сустрэчы і знаёмства ў вагоне генералаў Вейтка і Кандратовіча было вырашана, што кожная нацыянальнасць будзе мець сваю ўласную самаабарону на самастойнай аснове, але пры ўмове агульнага камандавання падчас вайсковых акцый, і неўзабаве ў Мінску адбылося сумеснае пасяджэнне палякаў і беларусаў, у ходзе якога генерал Кандратовіч выявіў тэндэнцыю апоры выключна на польскую самаабарону, запрасіўшы на пасаду начальніка штаба палкоўніка Каборду, але, убачыўшы, што ў Мінску ён не можа дасягнуць поспеху, вярнуўся ў Вільню, дзе ён перайшоў у распараджэнне літоўскай Тарыбы...»[164].

Калі Вейтак не памыляецца, дык спроба абаперціся на польскую Самаабарону магла тлумачыцца больш паспяховым фармаваннем польскіх аддзелаў і неабходнасцю абароны краю ад бальшавікоў. Генерал Кандратовіч мог добра ведаць, як фармуецца лідская Самаабарона, якая на пачатку снежня 1918 г. налічвала больш за 60 узброеных чалавек[165]. А для А. Луцкевіча, які доўгі час прытрымліваўся краёвай ідэалогіі, такая пазіцыя магла быць цалкам натуральнай.

Тым не менш справа стварэння беларускага войска па-

[163] Гл.: Łatyszonek O. Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923. S. 86–87.
[164] Wejtko Władyslaw. Samoobrona Litwy i Białorusi: szkic historyczny. Wino, 1930. S. 10–11.
[165] Гл: Дзічканец Юзэф. самаабарона лідскай зямлі. Ліда, 2010.

ступова рухалася наперад. 23 лістапада 1918 г. Рада БНР паведаміла: «Галоўнакамандуючы Беларускай народнай арміі генерал-ад'ютант К. А. Кандратовіч выехаў з Мінска па справах арганізацыі Арміі. На час яго адсутнасці намеснікам прызначаны генерал Святлоўскі. Канчаткова атрымалі прызначэнні па вайсковых частках генералы Крэйчман, Алсуф'еў і інш. Па ўсіх дадзеных у бліжэйшы час Беларуская армія можа даць да 10 000 войска, не лічачы бясконцага прытоку ў многіх гарадах Беларусі запісваючыхся ў войска добраахвотнікаў. Асаблівая ўвага пры запісванні ў рады Беларускай народнай арміі звяртаецца на вайсковую падрыхтоўку. Першымі прызначаюцца ўсе афіцэры... фельдфебелі, старшыя і малодшыя ўнтэр-афіцэры. Шмат хто з добраахвотнікаў прыходзіць з канём пры поўнай амуніцыі і ў сваім абмундзіраванні. Хутка чакаецца вялікая адозва ад Галоўнакамандуючага Беларускай Народнай арміі, у якой будуць выкладзены мэты стварэння войска і пададзены дакладныя ўмовы паступлення і прыёму. У Мінску хутка ствараецца Афіцэрская школа»[166].

Звяртае на сябе ўвагу пасада Галоўнакамандуючага Беларускай народнай арміяй і новы чын генерала ад інфантэрыі – «генерал-ад'ютант». Зразумела, што гэты чын Кандратовіч атрымаў ад урада БНР. Пакуль не вядома, што значыў гэты чын у БНР, але ў Расійская Імперыі генерал-ад'ютант узначальваў паходную канцылярыю пры цары ці пры генерале-фельдмаршале. З 1808 г. чын генерал-ад'ютанта выкарыстоўваўся як ганаровае званне для вышэйшых генералаў, якіх за заслугі залічвалі ў світу імператара[167]. Верагодна, гэтым новым генеральскім чынам Рада БНР вырашыла адзначыць працу Кіпрыяна Кандратовіча.

З вышэйцытаванага тэксту паведамлення Рады БНР бачна, што афіцэраў для беларускага войска не хапала. Гэта было вынікам апалітычнасці кадравых афіцэраў і стомленасці ад вайны. Нават тыя нямногія вышэйшыя афіцэры, якія, як Кіпрыян Кандратовіч, добраахвотна вызначыліся на беларускім боку, часта сустракалі абвінавачванні ў кан'юнктурызме і клопаце выключна пра асабістую выгаду. Так, напрыклад, левыя папракалі Кандратовіча за тое, што

166 Архівы БНР. I, 1. С. 304.
167 Советская военная энциклопедия. Москва: Воениздат, 1979. Т. 2. С. 507.

ён валодае маёнткам Гародна ў Лідскім павеце[168]. Беларусы ніяк не маглі пераадолець класавую варожасць – зрабіць тое, што зрабілі нашы суседзі, якія паставілі свае нацыянальныя інтарэсы вышэй за класавыя.

Макар Краўцоў заўважыў, што як «рэзультат ваенных няўдачаў, у Нямеччыне адбылася ў лістападзе рэвалюцыя, і войскі былога Кайзэра, акупаваўшыя Беларусь, а таксама й Украіну... пачалі паспешна адходзіць на бацькаўшчыну. Следам за імі паўзла ў бок Менску хмара бальшавіцкае чырвонае арміі. Нямецкі генерал Фалькэнгайн адносіўся невыразна да справы стварэння беларускага войска генералам Кандратовічам, хаця даў пропускі дэлегатам Рады Рэспублікі выехаць за граніцу, каб пратэставаць там проці бальшавіцкае навалы»[169].

У сувязі з магчымай акупацыяй Мінска ў канцы 1918 г. частка беларускіх дзеячаў на чале з А. Луцкевічам падалася ўслед за адыходзячымі нямецкімі войскамі ў Вільню. Разам з А. Луцкевічам былі генерал Кіпрыян Кандратовіч і палкоўнік К. Езавітаў з групай афіцэраў-добраахвотнікаў[170].

У канцы 1918 г. у Гродна Кандратовіч бярэ ўдзел у фармаванні 1-га Беларускага палка. Ад пачатку снежня 1918 г. да канца красавіка 1919 г. полк мясціўся ў Аляксандраўскіх казармах і складаўся з пяці рот і аднаго эскадрона[171].

10 снежня 1919 г. бальшавікі занялі Мінск і рушылі далей на захад.

Генерал Кандратовіч, згодна з дамовай паміж урадамі БНР і Літвы, з лістапада 1918 г. камандаваў беларускім войскам, што адступіла з Беларусі ў Літву. Лістападаўскія пагадненні мелі на ўвазе таксама ўтварэнне беларускіх вайсковых адзінак, падначаленых літоўскаму галоўнаму кіраўніцтву. Літоўскае войска ў тым часе знаходзілася ў зародкавым стане. Першы полк гэтага войска налічваў каля 30 афіцэраў і каля 200 салдат, а другі – толькі некалькі афіцэраў і некалькі

168 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 69.

169 Краўцоў Макар. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі // Спадчына. 1998. № 1. С. 106–107.

170 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 67.

171 Тодар Данілюк. Мае ўспаміны аб службе ў беларускіх вайсковых фармацыях і ўдзеле ў беларускім збройным змаганьні 1917–1921 гг. // Спадчына. 1995. № 5. С. 26.

салдат. Такім чынам, утварэнне беларускіх адзінак магло быць для літоўскага войска важным узмацненнем. Літоўскаму войску бракавала кадравых афіцэраў. З гэтай прычыны генерал Кіпрыян Кандратовіч на кароткі тэрмін быў прызначаны віцэ-міністрам народнай абароны ва ўрадзе Літвы, але фактычным кіраўніком вайсковага міністэрства быў прэм'ер А. Вальдэмарас[172]. Свой урад Вальдемарас будаваў не па партыйным прынцыпе, у яго кабінеце былі прадстаўлены дзеячы самых разнастайных поглядаў, а таксама самых розных нацыянальнасцей, напрыклад, на пасту міністра замежных спраў быў Сямён Разенбаўм (яўрэй).

Будучы на гэтай пасадзе, генерал арганізоўваў літоўскае войска на Ковеншчыне. Маёр беларускага войска А. Ружанцаў пісаў у мемуарах: «…віцэ-міністрам быў вельмі непапулярны сярод літоўцаў генерал расійскай службы К. А. Кандратовіч. Фармаванне войска пачалося ў Вільні, адразу былі заложаны штабы 1-га і 2-га беларускіх палкоў… у хуткім часе генерал Кандратовіч падаўся ў дымісію (адстаўку)»[173].

1 студзеня 1919 г. у сувязі з бальшавіцкім наступам літоўскі ўрад пакінуў Вільню, кіруючыся ў Коўна, большасць беларускіх дзеячаў яшчэ 27 снежня 1918 г. пераехала ў Гродна. Туды ж накіраваліся і беларускія вайскоўцы.

Цікава адзначыць, што калі восенню 1919 г. у Гродна польскія ўлады пачалі фармаваць у сваім войску беларускія часткі, дык казалі, што «будуць фармавацца “часьці”, якія роўна нічога не маюць супольнага з гэн. Кандратовічам», г. зн. не падначаленыя Радзе БНР. Пра гэта напісаў Тамаш Грыб у лісце да Антона Луцкевіча[174]. Такім чынам, як бы там ні было, але імя генерала сталася сімвалам прыналежнасці да БНР, да Беларусі.

* * *

Вывучаючы падзеі 1917–1920 гг. на землях былога ВКЛ, можна прыйсці да высновы, што ніводзін з тутэйшых народаў не стварыў войска, здольнага абараніць свой край (нават украінцы, маючы армію колькасцю больш за 500 000 жаўнераў,

---

[172] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 74.

[173] Ружанцаў А. Беларускія войскі ў Літве (1918–1920) // Спадчына. 1993. № 4. С. 23.

[174] Архівы БНР. I, 1. С. 492.

не змаглі ўтрымаць сваю незалежную дзяржаву). Польскую справу на нашых землях вырашылі дывізіі з этнічнай Польшчы, літоўцы ўдала выкарысталі дыпламатычную кан'юнктуру, атрымаўшы прызнанне з боку бальшавіцкага ўрада супраць Польшчы. А беларуская дзяржава была раздушана чужымі войскамі з усходу і захаду. Таму для беларусаў лёсавызначальным з'яўляўся пошук саюзнікаў, але суседзі: расійцы, палякі, украінцы і літоўцы бачылі беларускія землі ў складзе сваіх дзяржаў.

Вырашальнай была хуткасць, бо ў рэвалюцыйны час страта некалькіх тыдняў магла прывесці да гібелі ўсёй справы. Мы беларусы, запозна дайшлі да ўсведамлення неабходнасці поўнай незалежнасці, дэклараваўшы яе 25 сакавіка 1918 г., украінцы зрабілі гэта 22 студзеня 1918 г., а літоўцы – 16 лютага 1918 г.

# У Парыжы

18 студзеня 1919 г. у Парыжы адкрылася міжнародная канферэнцыя, якая была павінна падвесці вынікі Першай сусветнай вайны. 22 студзеня 1919 г. Антон Луцкевіч падпісаў мемарандум беларускага ўрада да старшыні Парыжскай мірнай канферэнцыі, у якім абгрунтаваў права беларускага народа на дзяржаўнае існаванне, падаў этапы фармавання беларускай дзяржаўнасці, выказаў просьбы аб дапамозе Беларусі ў гэтай справе і дапушчэнні прадстаўнікоў БНР на канферэнцыю «дзеля абароны інтарэсаў беларускага народа і дачы патрэбных інфармацый»[175].

Сярод іншых мемарандум меўся завезці ў Парыж генерал Кіпрыян Кандратовіч, які на пачатку студзеня 1919 г. вярнуўся з перамоў з камандаваннем Обер-Оста і далажыў Луцкевічу, што немцы выступаюць супраць стварэння арміі. Луцкевіч запісаў у дзённіку, што генерал «маецца ехаць у Парыж сваім коштам. Пры нашых рэсурсах гэта шчасце»[176]. Трэба дадаць, што яшчэ ў 1892 г. Кандратовіч быў узнагароджаны вышэйшай французскай узнагародай, ордэнам Ганаровага легіёна (Kawaler orderu Wielkiej wstęgi Legii Honorowej)[177], што магло дапамагчы яму ў Парыжы.

У выніку ў Парыж са спазненнем больш чым на месяц

[175] Архівы БНР. I, 1. С. 321–322.

[176] Лазько Р. Р. Антон Луцкевіч у Парыжы летам 1919 г. // Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны: навук. зб. Вып. 5. Мінск, 2009. С. 103–104.

[177] Słowo. № 277 (3084). 4 listopada 1932.

выехалі сябры дэлегацыі Кандратовіч, Азнабішын[178] і сакратар дэлегацыі Баркоў. Антон Луцкевіч далучыўся да іх у канцы траўня (знаходзіўся ў сталіцы Францыі на працягу трох месяцаў) і ўжо на месцы ўключыў у склад дэлегацыі «нова-спечанага» палкоўніка Яўгена Ладнова, які прыехаў з Адэсы, дзе працаваў у беларускім асяродку[179].

22 студзеня 1918 г. генерал Кандратовіч атрымлівае ад урада БНР дыпламатычнае пасведчанне (гл. дадаткі)[180]. Як сябар дэлегацыі БНР на Парыжскую мірную міжнародную канферэнцыю генерал у лютым 1919 г. найперш прыехаў у нямецкую сталіцу. Доўгая працэдура атрымання пропуску ў Парыж прымусіла ўсю дэлегацыю правесці тры месяцы ў Берліне[181]. Таму разам з першым афіцыйным пасланнікам БНР у Германіі капітанам Антонам Борыкам[182] Кіпрыян Кандратовіч нейкі час вёў беларускую працу сярод палонных вайскоўцаў-беларусаў у Германіі. У нямецкіх лагерах для ваеннапалонных знаходзілася каля 60 000 беларусаў, з іх беларускі ўрад спадзяваўся сфармаваць вайсковыя аддзелы, якія пазней маглі скласці ядро нацыянальнага войска. Антон Борык пісаў: «Апіраючыся на грунт нацыянальнага развіцця сярод палонных беларусаў у Нямеччыне, я,

---

178 Азнабішын Аляксей Аляксандравіч (1869–1929), уладальнік маёнтка Масты, гродзенскі віцэ-губернатар, а затым дэпутат IV Дзяржаўнай думы, застаўся ў эміграцыі ў Парыжы. Аўтар кнігі «Успаміны члена IV Дзяржаўнай думы» (Ознобишин А. А. Воспоминания члена IV Государственной думы. Париж, 1937. 264 с.). На жаль, успаміны Азнабішына заканчваюцца лютаўскай рэвалюцыяй 1917 г. Кнігу можна прачытаць на сайце pawet.net

179 Гл: Лазько Рыгор. Лісты Антона Луцкевіча з часу Парыжскай мірнай канферэнцыі // Arche. 2006. № 10. С. 57–58.

180 Архівы БНР. I, 1. С. 320.

181 Там жа. С. 632.

182 Борык Антон (1894–?), кіраўнік Беларускай ваеннай місіі ў Нямеччыне, некаторы час узначальваў беларускую калонію ў Берліне. 30 чэрвеня 1919 г. разам з К. Цярэшчанкам заклалі Аддзел збліжэньня палоненых беларусаў у Нямеччыне з родным краем. У 1920 г. выканаўчы дырэктар фірмы «Сындыкат Сапегі для Эўропы і Азіі на Беларусі». Потым перабіраецца ў Беларусь, працуе ў Беларускай вайсковай камісіі (БВК). Удзельнік Слуцкага паўстання, быў начальнікам штаб 1-й Слуцкай брыгады войскаў БНР. Паводле інфармацыі Сяргея Шупы, завербаваны ў якасці агента-асведамляльніка польскаю дэфензіваю. Пасля ліквідавання БВК працаваў у прадстаўніцтвах БНР у Латвіі і Летуве. Пасля 1921 г. яго лёс невядомы. Гл: Дакумэнты дыпляматычнае чыннасьці БНР у Нямеччыне ... // Спадчына. 1998. № 2. С. 222.

прыехаўшы 23- го сакавіка ў Берлін, паставіў сабе мэтай... дастаць пазваленьне на свабодны праезд мне і членам, якія потым маглі бы быць прысланы, ва ўсе лагеры палонных. З гэтай мэтай былі зроблены ўсе заходы мною з дапамогай п. генерала Кандратовіча і пана Пасла, якім у той час быў п. Смоліч. Па праву мы павінны былі бы звярнуцца да нямецкага Ваеннага Міністэрства... Калі старанні ўсіх нашых віднейшых людзей, у тым ліку і генерала Кандратовіча, не далі добрых рэзультатаў, і такім правам я, утраціўшы надзею дабіцца ў лагер дарогай легальнай, стаў шукаць... кірунку праціўнаго, т. е. неафіцыяльнай дарогі»[183].

У красавіку 1919 г. беларуская дэлегацыя на Парыжскую мірную канферэнцыю падае амбасадарам Францыі, Англіі і ЗША ў Берліне мемарандум ад імя Рады міністраў БНР з просьбаю прызнаць беларускую дзяржаву[184].

25 чэрвеня 1919 г. Антон Луцкевіч у сваім лісце да Дыпламатычнай місіі БНР у Берліне, сярод іншага, паведамляе: «Наладжываецца справа «заходняга анцібольшэвіцкага фронту» (паводле запіскі ген. Кондратовіча, якую дашлю), а разам з тым і выступленьня на гэтым фронці і нашых войск»[185].

У сярэдзіне лістапада 1919 г. кіраўнік беларускай дэлегацыі ў Парыжы Яўген Ладноў паведаміў Радзе БНР: «Ва французскім Міністэрстве замежных спраў генералу Кандратовічу і мне было сказана: «Сфармуйце хаця б невялікую воінскую частку, і мы Вам асігнуем неабходныя грашовыя сродкі і дадзім ваенна-тэхнічныя матэрыялы»... Французскі генерал Рампон па просьбе беларускай дэлегацыі ў Парыжы вылучыў у цвердзі Вердэн каля 200 чалавек беларусаў... Ведаючы, што на сфармаванне роты ў 200 чалавек, пры кошце ўтрымання аднаго чалавека ў месяц – мінімальна 300 фр., патрабуецца 60 000 фр. у месяц»[186].

Але грошай не было. 8 студзеня 1920 г. той жа Яўген Ладноў піша Антону Луцкевічу: «Заплаціў жалаванне за сту-дзень, [за] кватэру да 5 сакавіка, і селі на мель. Грошай больш няма, бо курс маркі 20-21 санцім. Азнабішын з'язджае ў Берлін к Баркову. Ге-

[183] Дакумэнты дыпляматычнае чыннасьці БНР у Нямеччыне. Падрыхтоўка публікацыі Уладзімера Сакалоўскага // Спадчына. 1998. № 2. С. 204., 206.
[184] Гл.: Сакалоўскі Уладзімір. Надзвычайная місія БНР у Нямеччыне (1919–1925) // Arhe. 2009. № 3. С. 7–328.
[185] Архівы БНР. I, 1. С. 363.
[186] Там жа. С. 498.

нерал [Кандратовіч] охае і ахае, што будзе далей!»[187]. Праз 4 дні Ладноў піша Луцкевічу: «Азнабішын збіраецца з’ехаць у Берлін да Баркова. Генерал занепакоены нашым далейшым лёсам і адсутнасцю сродкаў»[188].

13 снежня 1919 г. з-за расколу ў Радзе БНР паміж эсэрамі (БПС-Р) і Беларускай партыяй сацыялістаў-федэралістаў (БПС-Ф) быў створаны пяты (паралельны) урад БНР на чале з В. Ластоўскім. Да таго ж з'явіўся цалкам самазваны «ўрад» А. Бахановіча. Праца дэлегацыі прыпынялася, у сярэдзіне лютага 1920 г. Ладноў сярод іншага паведаміў Луцкевічу: «У выніку правакацыі атрымалася тры ўрады... Сёння князь Львоў паведаміў Кандратовічу, што руская дэлегацыя... пастанавіла заявіць Мірнай Канферэнцыі, што яна супраць незалежнай Беларусі і выступае за раздзел яе паміж Польшчай і Савецкай Расіяй... У нас сёння абедаў Ф. І. Родзічаў. Ён едзе ў Варшаву ў якасці пасла. Я азнаёміў яго з справамі і патлумачыў, што мы ўсёй душой з імі, але нас дзеляць, і таму адзіны для нас выхад – незалежнасць. ...генерал «дапоўніў» мае тлумачэнні: «Луцкевіч каталік, вялікі, вельмі вялікі «самасційнік». Ім шмат хто незадаволены...» Кандратовіч моцна заняўся камерцыяй – стараецца ўладкаваць гандлёвыя дачыненні паміж Поўднем Расіі і Іспаніяй. Зразумела, хоча зарабіць»[189].

Непаразуменне паміж кіраўніком беларускай дэлегацыі і Кандратовічам нарасталі, генерал пачаў атрымліваць тыповыя абвінавачванні на класавай глебе: «Ад генерала прыходзіцца ўсё хаваць... Ён дрыжыць за свой маёнтак і таму супраць усіх выступаў супраць палякаў. ...пры магчымасці наняць людзей, яго трэба прыбраць»[190].

У пісьмах да Луцкевіча Яўген Ладноў інтрыгуе супраць іншых сяброў дэлегацыі і патрабуе іх адстаўкі. 13 лютага 1920 г. Антон Луцкевіч афіцыйна выключыў Кіпрыяна Кандратовіча са складу беларускай дэлегацыі: «Гэтым падаю да Вашага ведама, што Член Дэлегацыі Генерал-ад-інфантэрыі Кіпрыян Кандратовіч... выключаецца са складу Дэлегацыі»[191]. Тады ж быў адстаўлены і Азнабішын[192].

---

[187] Там жа. С. 589.
[188] Там жа. С. 593.
[189] Там жа. 655–659.
[190] Там жа. С. 664–665.
[191] Там жа. С. 667.
[192] Там жа.

Яўген Ладноў паведаміў Антону Луцкевічу, што «тэлеграмы (аб адстаўцы Кандратовіча і Азнабішына – Л. Л.) падшыў у справу і нікому ні слова... У дадзены момант нельга нікога выключаць з дэлегацыі»[193].

28 лютага 1920 г. і сам Луцкевіч сышоў з пасады старшыні Рады народных міністраў.

Лісты Ладнова да Луцкевіча пакідаюць дзіўнае ўражанне. Бачна, што Яўген Ладноў лічыў сабе вялікім знаўцам людзей і палітыкі. Яго лісты да Луцкевіча напоўнены павучаннямі як павінен сябе паводзіць старшыня ўрада, што рабіць, каму верыць, на што спадзявацца і г. д. Не дзіва, што Антон Луцкевіч у сваіх паказаннях на допытах у НКУС сказаў пра Ладнова: «Трэба заўважыць, што ён валодаў нейкім асаблівым талентам заварожваць і пераконваць людзей: у першы момант яму нават вельмі цяжка нешта заспрэчыць, гэтак уплывае ён на слухачоў»[194].

На нарадзе Прэзідыума Рады БНР і Рады народных міністраў БНР у Рызе 30.05.1920 г. Ладноў расказаў пра «змову», якая як быццам склалася яшчэ ў канцы жніўня 1919 г.: «Пасля арэштавання Французскай паліцыяй на Парыжскім вакзале Ознабішына, выкралося сьледствам, што ешче ў прошлым годзе ў Берліне Ознобішын, Кондратовіч і Борков заснавалі монархічна-патрыотычную расійскую організацыю, звязаліся з нямецкімі манархістамі і прыкрываючыся мандатамі Беларускай дэлегацыі знасіліся ўвесь час з немцамі. Французская паліцыя даўно прымечала за імі нейкую нелегальную работу і атгэтуль ішло недаверье Французаў да ўсёй Беларускай дэлегацыі. Гр. Ладнову каштавала многа высілкаў, каб ачысціцца асабіста ад падазрэнняў... і каб ачысціць ад падазрэнняў усю работу Беларускай Місыі ў Парыжы»[195].

Зараз цяжка сказаць што стаяла за словамі Ладнова (вядома, што "манархічная змова" на ўсходзе Еўропы і насамрэч была[196]). Але магчыма, гэта была ягоная асабістая правака-

---

[193] Там жа. С. 685.

[194] Чарнякевіч А. М. Міністр БНР: дзіўныя шляхі Яўгена Ладнова // Личность в истории: героическое и трагическое: сборник материалов Пятой междунар. науч.-практ. конф., посвящ. 20-летию историч. ф-та, Брест, 23–24 ноября 2011 г. / БрГУ им. А. С. Пушкина: редкол.: М. Э. Чесновский (гл. ред.) [и др.]. – Брест, 2012. С. 243.

[195] Архівы БНР. І, 1. С. 768.

[196] Гл: Шупа Сяргей. Падарожжа ў БНР. 2018. С. Ш-19–Ш-24.

цыя, а магчыма, французская паліцыя і сапраўды нешта западозрыла – толькі што скончылася вайна, і група асоб, якая прыехала з Германіі, павінна была выклікаць павышаную ўвагу французскіх улад. А можа, наогул нічога і не было. Аднак толькі пасля гэтай нарады Прэзідыума Рады БНР у траўні 1920 г. Ладноў рассылае замежным дыпламатам інфармацыю аб спыненні паўнамоцтваў Кандратовіча і Азнабішына[197].

І толькі ў 1921 г. стала вядома, што Яўген Ладноў з'яўляецца супрацоўнікам II га аддзела Генеральнага штаба Войска Польскага[198]. «Ладноў на дадзены момант з'яўляецца адным з галоўных інфарматараў нашага Генеральнага штаба. На вывядоўчую акцыю Ладнова было асігнавана 5 тысяч франкаў у месяц. Тэрыторыяй дзейнасці з'яўляецца Парыж і Прага», – паведаміў у сярэдзіне 1921 г. невядомы карэспандэнт, верагодна, афіцэр «двуйкі»[199].

Як вынік, 8 траўня 1921 г. Ладноў выключаны са складу ўрада БНР. Калі ён вярнуўся ў Парыж, яго чакала распараджэнне з боку Вацлава Ластоўскага здаць усе справы дэлегацыі на рукі генерала Кіпрыяна Кандратовіча[200]. Такім чынам безвыніковымі аказаліся шматгадовыя інтрыгі платнага агента «двуйкі» супраць старога беларускага генерала[201]. Праўда перамагла.

Але канчаткова Я. Ладноў быў адрынуты беларускім рухам толькі праз 2 гады. 10 траўня 1923 г. беларускае прэс-бюро распаўсюдзіла інфармацыю аб тым, што Я. Ладноў з’яўляецца правакатарам, і рэкамендавала ўсім беларускам арганізацыям і дзеячам «пазьбягаць блізкага знаёмства з ім». Як вынікае з паказанняў Антона Луцкевіча і Браніслава Тарашкевіча, дадзеных імі пасля арышту НКУС, II аддзел Генеральнага штаба Войска Польскага ўздзейнічаў на беларускіх палітыкаў якраз праз свайго агента Яўгена Ладнова[202].

---

197 Там жа. С. 845.; Архівы БНР. I, 2. 879.

198 Так званая «двуйка» – другі аддзел Генеральнага штаба польскага войска ў міжваеннае дваццаціголдзе – выведка.

199 Чарнякевіч А. М. Міністр БНР: дзіўныя шляхі Яўгена Ладнова. С. 247.

200 Там жа. С. 248.

201 Вышэй я адмыслова амаль што не цытаваў брудныя паклёпы Ладнова супраць генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Кандратовіча, але ў архівах БНР яны засталіся.

202 Кароткі нарыс беларускага пытаньня. Рэд. Алесь Пашкевіч, А. Вашкевіч. Мінск, 2009. С. 108. 267.

Ёсць надзея, што мы хутка даведаемся пра новыя падрабязнасці аб дзейнасці беларускай дэлегацыі ў Парыжы бо ў сваёй кнізе «Падарожжа ў БНР» Сяргей Шупа паведаміў: «…нядаўна ў сталіцы адной усходнеэўрапейскай дзяржавы быў знойдзены архіў беларускай дэлегацыі на Парыскай мірнай канфэрэнцыі. Тысячы старонак, сабраных і адсартаваных Ладновым» . Будзем чакаць публікацыі архіва, але, зразумела, што Ладноў павінен быў адбіраць для архіва тыя дакументы, якія станоўча адлюстроўвалі яго працу.

«Беларуская энцыклапедыя» піша, што К. А. Кандратовіч застаўся жыць у Парыжы і яго далейшы лёс невядомы[203]. Такую самую інфармацыю дае і «Літоўская гістарычная энцыклапедыя», выдадзеная ў Бостане[204].

Генерал і насамрэч на некалькі гадоў застаўся ў Парыжы. У Архіве БНР захавалася тэлеграма Кандратовіча з Парыжа да Вацлава Ластоўскага, датаваная 02.07.1921: «Ластоўскі. Гатэль Метраполь, Коўна. Ваш ліст, верагодна, не дайшоў, адпраўце копію». 19.07.1921 г. Кандратовіч дасылае з Парыжа Ластоўскаму ў Коўна ліст з паведамленнем аб тым, што нейкі Альберт Бодры аддаў архівы Місіі БНР у Парыжы і друкавальныя машынкі Ладнову[205].

Вядома, што яшчэ ў 1922 г. генерал быў падпісчыкам урадавай беларускай газеты «Беларускі Сьцяг», жыў ён тады ў раёне Парыжа Нёі-сюр-Сен (Neuilly-sur-Seine)[206]. У XX стагоддзі гэта прадмесце стала прытулкам заможных жыхароў Парыжа, асабліва бізнесменаў і прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі.

У 1923 г. Кандратовіч надрукаваў серыю цікавых артыкулаў пад рубрыкай «Ад нашага парыжскага карэспандэнта» ў беларускай газеце «Наш Сьцяг» (гл. дадаткі). У артыкулах ён расказвае пра падзеі ў Еўропе і Лізе Нацый, з тэкстаў бачна, што аўтар уважліва назірае за палітычным жыццём, трамаецца пры гэтым дастаткова левых поглядаў, мае добрыя сувязі і сталыя кантакты з чыноўнікамі высокага ўзроўню ў дзяржаўных еўрапейскіх сферах.

Згодна са спісам афіцэраў Генеральнага штаба з архіва

[203] БЭ. Т. 7. С. 578.
[204] Lietuviu enciklopedija. Boston. T. 12. S. 318–319.
[205] Там жа. С. 1152.
[206] Архівы БНР. I, 2. С. 1315.

Галоўнакамандуючага рускай арміяй у эміграцыі, 1 сакавіка 1924 г. генерал яшчэ жыў у Парыжы[207].

І як бачым, у Францыі Кандратовіч служыў Беларусі.

Але былі і асабістыя прычыны, з-за якіх генерал застаўся ў Францыі. У 1920 ці 1921 г. у яго ў Парыжы нарадзіўся сын Уладзімір. Пакуль што мы валодаем мінімумам інфармацыі пра сына генерала – Кандратовіча Ўладзіміра Кіпрыянавіча. Але відочна, што ён нарадзіўся не ад шлюбу з Адай фон Рыхтэр. Адзіная згадка пра яго знайшлося ў кнізе А. А. Угрымава «З Масквы ў Маскву праз Парыж і Варкуту»[208].

[207] Ганин А. В. Корпус офицеров Генерального штаба в годы гражданской войны 1917-1922 гг. С. 727.

[208] Угримов А. А. Из Москвы в Москву через Париж и Воркуту / сост., предисл. и коммент. Т. А. Угримовой. М.: Изд-во «RA», 2004. С. 299. («Судьба этого человека типична для нашего времени. Сын генерала Кондратовича, он был младороссом в юношеской «спортгруппе». Красивый, статный, веселый был малый. В 1939 году пошел добровольцем во французскую армию и служил в драгунском полку – моторизованной кавалерии. Провоевал всю кампанию 1939–1940 годов и насмотрелся «чудес» о «drole de guerre» (странной войне): мосты не взрывались, минные поля разминировались, оружие не поступало и прочее, и прочее. Был взят в плен вместе с Данзасом, тоже младороссом, который в 1941 году пошел к немцам, а Кондратович отказался и вернулся во Францию только после войны. В общей волне стремления вернуться в Россию и разочарованный Францией, репатриировался в конце 1947 года. Скитался по Советскому Союзу в надежде найти подходящую работу в сельском хозяйстве. Выселен из Крыма, где, было, зацепился. Пытался меня найти в Саратове, когда я был уже арестован. Был сам посажен и осужден ОСО на принудительные работы на Воркуте. Был ранен при «беспорядках» на 29-й, но остался после освобождения, чтобы заработать деньги на устройство жизни с женой, которая приехала к нему на Воркуту после невероятно тяжелых лет, пока он «сидел». Позже начал работать на кожевенной фабрике в Осташкове и нашел меня по учебнику французского языка моей дочери. Заболел раком пищевода. Я ездил к нему в Осташков и сделал, что мог, так как домашние условия у него были совершенно неподходящими. Его, при моем участии, поместили в 62-ю онкологическую больницу в ПетровоДальнем в почти безнадежном состоянии. Он сознавал, что болен раком и умирает. Он умер у меня на руках вследствие кровоизлияния после облучения. Кондратович был жертвой того патриотического психоза, который нас охватил после победоносной войны, победы и веры, что теперь Россия расцветет! Торжественное отпевание Владимира было устроено А. Л. Казем-Беком в церкви Петра и Павла в Лефортове»). У тлумачальнай спасылцы Угрымаў А. А. піша, што справа ідзе менавіта пра сына генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча.

# У Гародне

Апошнія гады свайго жыцця беларускі генерал правёў на радзіме.

Перад Першай сусветнай вайной, пасля пераводу ў Варшаўскую акругу, сям'я генерала купіла маёнтак Гародна (500 га зямлі і лес) у Лідскім павеце, дзе Кандратовіч жыў разам з дачкой Верай і жонкай Адай[209].

Маёнтак Гародна мае вялікую і слынную гісторыю.

Гародна ў першай палове XVIII ст. было спадчыннай уласнасцю княгіні Саламеі Радзівіл з Сапегаў. У 1762 г. яна падаравала яго стрыечнаму ўнуку Людвіку Скумін-Тышкевічу (памёр у 1809 г.), жанатаму з княгіняй Канстанцыяй Панятоўскай (1759–1830). Кароль Станіслаў Аўгуст у Літве вырашыў абаперціся на Тышкевічаў. Адну з сваіх пляменніц, дачку князя Казіміра Панятоўскага, кароннага падкаморыя, выдаў замуж за Людвіка Тышкевіча, для другой, Тарэзы, дачкі Андрэя Панятоўскага, аўстрыйскага фельдмаршала, выбраў Вінцэнта Тышкевіча, літоўскага ардынарыя. Людвік Тышкевіч, паслядоўна займаючы пасады віленскага цівуна, пісара вялікага літоўскага, гетмана польнага літоўскага, падскарбія вялікага літоўскага, а пасля падзелу краіны губернскага маршалка, «действительного статского советника», паступова пашыраў свае ўладанні вакол Гародна, набыўшы Перавозы і Забалаць з фальваркамі. Таксама былі пажалаваны яму каралём староства Эйшышскае, Васілішскае, Каняўскае, Радунскае і інш. Цэнтрам сваёй

[209] Гл.: Roman Aftanazy. Dzieje rezydencji. T. 4. S. 122–139.

рэзідэнцыі ён выбраў Гародна. Ягоная зямельная маёмасць, падзеленая на дзве вялікія зоны, складалася з 65 вёсак. Добры гаспадар, ён трымаў свае маёнткі на высокім гаспадарчым узроўні.

Пасля смерці Людвіка Скумін-Тышкевіча ў 1808 г. увесь гэты вялікі маёнтак атрымала ў спадчыну ягоная адзіная дачка Ганна (1779–1867). Яна была замужам за Аляксандрам Патоцкім, а потым за Станіславам Дунінам-Вансоўскім. Тастаментам ад 1867 г. перапісала Гародна сыну ад першага шлюбу М. Патоцкаму (1812–1879), пасля смерці якога ўсё перайшло ў спадчыну ў 1880 г. графу Аўгусту Патоцкаму. Уладальніца Гародна, графіня Ганна Патоцкая напісала найцікавейшыя мемуары аб часе Напалеона, сваіх шматлікіх сустрэчах з ім (мемуары былі выдадзены ў XIX ст. на французскай мове і ў той жа час перакладзены на рускую, у 2005 г. перавыдадзены)[210].

Напрыканцы XIX ст. А. Патоцкі прадаў Гародна рускаму генералу Асатураву, ад якога маёнтак перайшоў да графа Ігнацьева, ад яго – да генерала Кандратовіча. У той час маёнтак складаўся з 23 200 дзесяцін зямлі і 15 фальваркаў, але Кандратовічы купілі толькі ягоную частку з Гароднам.

Людвік Тышкевіч, жанаты з княжной Канстанцыяй Панятоўскай, дачкой князя Казіміра, подкаморага вялікага кароннага, роднага брата караля Станіслава Аўгуста, у 1775 г. чакаў прыезду караля і, як кажа мясцовае паданне, на працягу аднаго года пабудаваў хоць драўляны, але вельмі прыгожы двор у класічным стылі. Сядзіба пабудавана архітэктарам Ф. Эйсенам. Дом звонку не вылучаўся нічым асаблівым, але ўсярэдзіне быў бліскуча і з добрым густам аздоблены. На ўпрыгожванне сядзібы Тышкевіч выдаткаваў вялікія сумы, запрашаючы мастакоў-дэкаратараў і майстроў, а таксама выпісваючы матэрыялы наўпрост з Парыжа. Кароль Станіслаў Панятоўскі ў Гародна так і не прыехаў, аднак двор быў закончаны і, няглядзячы на гульню лёсу, дастаяў да Другой сусветнай вайны.

Патоцкія ў Гародна бывалі эпізадычна, і таму з-за недахопу гаспадарчага нагляду і надта паспешнай будоўлі сцены пастунова пачалі нахіляцца, што запатрабавала рамонту.

---

[210] Гл.: Графиня Анна Патоцкая. Мемуары. 1794–1820. Москва, 2005.

Ад зруйнавання сядзібу выратаваў М. Патоцкі, які аддаў загад адрамантаваць дом і ашаляваць сцены дошкамі. Гэта не ўпрыгожыла дом, але забяспечыла яму доўгае жыццё. Таксама ўсярэдзіне былі праведзены работы па кансервацыі інтэр'еру.

Сядзібны ансамбль у Гародна стваралі тры будынкі: жылы палац, дом прыслугі, што стаяў насупраць, а з правага боку – мураваная капліца.

Цэнтр кампазіцыі – драўляны, на высокім мураваным цокалі, аднапавярховы прамавугольны сядзібны дом у стылі класіцызму (1780 г., архітэктар Ш. Цуг). Прасторны аднапавярховы сядзібны дом меў франтальна выцягнутыя фасады, па цэнтры якіх вылучаліся рызаліты з чатырохкалоннымі дарычнымі порцікамі, пад галоўны з якіх па шырокіх бакавых пандусах уязджалі карэты. Трохвугольныя франтоны порцікаў запаўнялі пластычныя картушы. Усярэдзіне дом меў парадную анфіладу апартаментаў з вялізнай бальнай залай у цэнтры. У падвале, у які вялі тарцовыя лесвіцы, знаходзіліся гаспадарчыя памяшканні і жыллё прыслугі. Строгі і аскетычны знешні выгляд будынка кантраставаў з багаццем і пышнасцю інтэр'еру дома, аформленага з выкарыстаннем палатняных шпалер, тукавых панэляў, пазалочаных барэльефаў, медальёнаў, гірлянд, кветак, ваз з арнаментным роспісам, кафляных грубак і камінаў, жырандоляў у стылі Людовіка XVI з крышталю з пазалочанамі бронзавымі апраўамі. Захаваліся фотаздымкі 1939 г., па якіх можна ўявіць сабе выгляд дома на працягу XIX–XX ст.ст. Самы вялікі пакой займала бібліятэка. Яна адначасова служыла памяшканнем для гульні ў карты і змяшчала 4 кніжныя шафы і бронзавы, з мармуровымі ўпрыгожаннямі стол для гульні ў карты, 14 карцін, 4 гіпсавыя бюсты[211]. Летам 1944 г. пасля бою аддзела АК з немцамі акаўцы запалілі палац, бо баяліся, што ў ім будзе размешчана залога надыходзячай Чырвонай Арміі. Пры гэтым шмат рэчаў з палаца разнеслі мясцовыя жыхары.

[211] Гл.: Roman Aftanazy. Dzieje rezydencji. T. 4. S. 122–139.



*Палацавы комплекс у Гародна, малюнак Напалеона Орды. На малюнку: палац, капліца, флігель*

* * *

Вось у гэтым прыгожым маёнтку і прайшлі апошнія гады жыцця беларускага генерала К. Кандратовіча.

Пра гэтыя гады распавёў былы памочнік садоўніка маёнтка Струкель Уладзіслаў Янавіч (1916 г. нар., у 1939 г. жаўнер, абаронца Варшавы)[212].

Сям'я Кандратовічаў вызначалася інтэлігентнасцю і добразычлівасцю да людзей. Сам генерал карыстаўся расійскай, беларускай, польскай мовамі ў побыце, у залежнасці ад абставін. Можна меркаваць, што адносіны з навакольнымі абшарнікамі не склаліся, і блізкае сяброўства ўсталявалася толькі з нейкім уладальнікам сядзібы каля Малога Мажэйкава. Госці прыязджалі з Варшавы і Францыі і Іспаніі, дзе жылі сваякі жонкі Ады. Дачка Вера атрымала хатнюю адукацыю і выйшла замуж за мастака з Англіі, іспанца па паходжанні, Трыстама Рэйні (Tristam Reiney), з канца 1930-х і да смерці ў 1988 г. жыла ў Англіі[213].

У жніво жонка Ада сустракала кожныя першыя вазы з падзякай да сялян і келіхам гарэлкі. Сам Струкель, тады яшчэ малады хлопец, атрымліваў заробак у памеры 90 пудоў жыта ў год плюс корм для жывёлы і бульбу, колькі трэба. Асабліва жонка генерала сачыла за прыгажосцю і парадкам у парку, сваім доме і ў дамах, дзе жыла прыслуга. Людзі, якія працавалі ў Кандратовічаў, атрымоўвалі беспрацэнтныя крэдыты на развіццё гаспадаркі, і, калі гаспадары бачылі, што грошы ўкладзены з розумам, крэдыт спісваўся.

Апошнія гады Кандратовіч правёў у інвалідным крэсле, хварэючы стратай каардынацыі руху. Ён не мог хадзіць, і жонка наняла сталую прыслугу. Памёр генерал Кандратовіч 31 кастрычніка 1932 г., быў пахаваны ў тым самым мундзіры, у якім быў паранены ў 1905 г. Пахаванне адбылося на лідскіх праваслаўных могілках.

Віленская газета «Слова» на пачатку лістапада 1932 г.

---

[212] Спадчына. 2002. № 1. С. 161–166.

[213] Вера Кандратовіч пазнаёмілася з Трыстамам Рэйні падчас знаходжання ў Іспаніі, дзе яна гасцявала ў свайго дзядзькі Уладзіміра Гвідавіча Рыхтэра. Каля яе ў кафэ страціў прытомнасць малады іспанец, і Вера была сярод тых, хто аказаў яму першую дапамогу. Першы ўнук генерала – Георгі – нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, наступныя, Мікалай і Аляксандр, у Англіі.

надрукавала аб'яву пра смерць былога міністра абароны БНР Кіпрыяна Кандратовіча: «Генерал ад інфантэрыі рускай арміі, кавалер ордэна Св. Георгія і вялікай стужкі Ганаровага легіёна, пасля доўгай і цяжкай хваробы ціха заснуў з Богам 31 кастрычніка гэтага года ў сваім маёнтку Гародна. Быў пахаваны на праваслаўных могілках у Лідзе. Аб чым з глыбокім смуткам паведамляюць жонка і дачка»[214].

Кандратовічы мелі аўтамабіль, у 1934 г. за Адай Кандратовіч быў зарэгістраваны амерыканскі аўтамабіль «Авэрлэнд» (Overland)[215], а ў 1936 г. польскі «Фіят»[216]. У яе маёнтку меўся адзіны ў Гародна тэлефон, які меў № 3[217].

Вядомы мастак, рэстаўратар, гісторык мастацтва і дацэнт Віленскага ўніверсітэта Ежы Хопэн (Jerzy Hoppen, 1891–1969), які ўвосень 1938 г. гасцяваў у гаспадыні маёнтка Гародна Ады Кандратовіч, вывучаў палац і напісаў цікавы нарыс у віленскай газеце «Слова». Даследчык залічыў гарадненскі палац да найбольш каштоўных помнікаў Віленшчыны. «Вялікі аднапавярховы дом, пабудаваны на невысокім узгорку, з велічным ганкам, манументальнымі сходамі і высокай пад'язной дарожкай, проста ўражвае сваім выглядам... Гародна захавалася да нашых дзён і зараз з'яўляецца маёмасцю жонкі генерала Кандратовіча... Акрамя выдатнага жылога дома гарадненскі двор складаецца яшчэ з найпрыгажэйшага парку і капліцы. У парку маецца штучны стаў у форме вельмі выцягнутага простакутніка, пры канцы става – вялікая альтанка на мураваных калонах. Жылы дом – цудоўны ўзор станіславаўскага стылю (часоў караля Станіслава Панятоўскага – Л. Л.)... знутры прасторны, з высокай столлю, каміны той эпохі, кафляныя печы таксама з XVIII ст. з гербам Тышкевічаў «Лялівай». Сцены, калісьці абабітыя ядвабнай тканінай, сёння выклеены шпалерамі, але захавалі рамы і ліштвы, на якіх трымалася ядваба. Дзверы, супрапорты і рамы ад люстраў таксама добра захаваліся. Усё гэта сніцарскай работы, выканана з дрэва ці з адмысловай масы, мае белы колер з пазалотай і нясе на сабе адбітак таленавітага майстра і архітэктара... Міфалагічныя і алегарычныя сцэнкі, якія ўпрыгожваюць рамы люстраў,

[214] Słowo. № 277 (3084), 4 listopada 1932.
[215] Nowogródzki Dziennik Wojewódzki. № 30. 15 grudnia 1934. S. 202.
[216] Nowogródzki Dziennik Wojewódzki. № 23. 15 grudnia 1936. S. 191.
[217] Spis Abonentów Sieci Telefonicznej Okręgu Dyrekcji Poczt i Telegrafów w Wilnie na 1939 r. Warszawa – Styczeń 1939. S. 36.

інтэграваныя ў супрапорты... Ёсць у іх нейкая лёгкасць, добры густ і атмасфера салонаў»[218], – пісаў Ежы Хопэн.

Аднак Першая сусветная вайна не пашкадавала Гародна. Удава генерала расказала даследчыку, што ў гэты час была вывезена ў Германію ўся бронза. На дзвярах засталіся сляды ад ранейшых клямак і акуццяў, а на прыгожым мармуровым каміне – толькі адтуліны ад цвікоў, якімі была прымацавана дэкаратыўная бронза. Аднак над камінам захаваўся медальён з залатой аздобай з выявай галавы Станіслава Аўгуста. З мэблі немцы пакінулі некалькі крэслаў і фатэляў у стылі Людовіка XVI і столікі пад люстрамі.

Ежы Хопэн заўважыў, што сям'я генерала Кандратовіча цалкам усведамляла каштоўнасць гэтага помніка і старанна яго захоўвала. «Усё ўтрымліваецца з незвычайным піетэтам да твораў мастацтва»[219].

Далей даследчык піша пра вялікую мураваную капліцу ці нават касцёл у стылі віленскага барока. Па меркаванні Хопэна, капліца пабудавана раней за палац і не мае ніякага дачынення да станіславаўскага стылю, на франтоне месціцца выраблены з тынку рэльеф з трыма гербамі фундатараў, сярод якіх чамусьці няма «Лялівы» Скумін-Тышкевічаў. У той час унутры капліцы добра захаваўся багаты алтар і хоры, абапёртыя на слупы, якія нагадваюць такія ж у віленскім касцёле Св. Духа. Падлога з цэглы. На дзвярах акуцці ў стылі ракако. «Несумненна, капліца мае агульныя рысы з архітэктурай віленскіх касцёлаў»[220], – мяркуе гісторык мастацтва.

Ежы Хопэн закончыў артыкул такімі словамі: «Увесь гэты прыгожы маёнтак, які складаецца з сядзібы, старых каштанавых алей у парку, мураваных лаў і да нашага часу рэгуляванага става з альтанкай, адлюстроўвае эпоху, ахінутую моцным захапленнем да асобы караля, з якім гэтак арганічна асацыявалася прыгажосць»[221].

---

[218] Słowo. № 271 (5195). 3 października 1938.
[219] Там жа.
[220] Там жа.
[221] Там жа.

17 верасня 1939 г. Ада Кандратовіч вымушана была з’ехаць праз Літву да дачкі ў Англію. У жніўні 1998 г. яе ўнук прыязджае на Беларусь дзеля перазахавання труны генерала на новых могілках у Воранава. А урну з часткай праху сваёй маці, якая пражыла найлепшыя гады маладосці ў маёнтку Гароднa, пахаваў у прыгожым кутку парку, каля былой альтанкі. На крыжы было напісана: «Вера Киприяновна Рейни (Кондратович) 1912–1988». У траўні 2000 г. труна з парэшткамі генерала была перазахавана каля царквы ў Воранаве.

Цяпер унукі і праўнукі генерала жывуць у Англіі і ЗША. Магчыма, што ўнукі генерала ёсць і ў Расіі.

А ў Беларусі да магілы генерала Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча прыходзяць тыя, каму дарагія ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі, за якія ён змагаўся.



*Ада Кандратовіч з дачкой, зяцем і ўнукам (канец 1930-х гадоў)*



*Ада Кандратовіч з гасцямі каля аўтамабіля ў Гародне*



*Дачка генерала Вера з мужам каля палаца.*
*З музея Пагародненскай сярэдняй школы*



*Ада і Вера Кандратовіч на Каляды ў палацы Гародна.*
*З музея Пагародненскай сярэдняй школы*

Некралог
па генералу
Кандратовічу ў
газеце “Слова”



ś. p.

**Cyprjan Kondratowicz**

**Generał broni b. armji rosyjskiej, kawaler Orderu św. Jerzego i Wielkiej wstęgi Legji Honorowej**

po długiej i ciężkiej chorobie cicho zasnął w Bogu w dniu 31 października r. b. w swoim majątku Horodno. Pochowany został na cmentarzu prawosławnym w Lidzie.

O czem pogrążeni w głębokim smutku zawiadamiają

**Żona i córka.**




Сучасная магіла генерала Кандратовіча каля царквы ў Воранава

## *Дадатак 1*
## *Паслужны спіс генерала Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча*

На службу паступіў 07.05.1875 г. у Вільні.

1878 – закончыў 2-ю вайсковую Канстанцінаўскую вучэльню ў Пецярбургу. 16 красавіка 1878 г. выпушчаны падпаручнікам і прыпісаны да лейб-гвардзейскага Егерскага палка. Затым пераведзены ў лейб-гвардзейскі Ізмайлаўскі полк прапаршчыкам.

29.07.1879 атрымаў чын падпаручніка гвардыі.

28.03.1882 – паручнік гвардыі.

25.03.1884 – штабс-капітан гвардыі, затым пераведзены ў капітаны Генеральнага штаба (зноў пры пераходзе з гвардыі ў армію аўтаматычна атрымаў чын на адну прыступку вышэй). Служыў пры штабе Маскоўскай вайсковай акругі.

08.11.1884–02.04.1888 – афіцэр для спецыяльных даручэнняў пры штабе грэнадзёрскага корпуса ў Маскве.

01.12.1885–01.10.1886 – адбывае цэнзавае камандаванне ротай у 1-м лейб-грэнадзёрскім Екацярынаслаўскім палку (дзеля павышэння па службе афіцэр абавязаны быў выканаць камандзірскі цэнз на ўсіх вайсковых прыступках).

24.04.1888 – падпалкоўнік.

02.04.1888–12.12.1889 – штаб-афіцэр для даручэнняў пры штабе Маскоўскай вайсковай акругі.

12.12.1889–15.11.1897 – штаб-афіцэр для спецыяльных даручэнняў пры камандуючым войскамі Маскоўскай вайсковай акругі.

28.03.1893 – палкоўнік.

01.05.1895–01.09.1895 – адбывае цэнзавае камандаванне батальёнам у 6-м грэнадзёрскім Таўрычаскім палку.

15.11.1897–02.02.1901 – начальнік штаба 2-й грэнадзёрскай дывізіі ў Маскве.

1900 – удзельнічаў у кітайскай кампаніі.

1900 – з фармулёўкай «за баявыя заслугі» раней тэрміну прысвоена званне генерал-маёр.

07.02.1901–11.07.1902 – камандзір 2-й брыгады 36-й пяхотнай дывізіі.

11.07.1902–24.12.1903 – у распараджэнні камандуючага войскамі Квантунскай вобласці.

24.12.1903–31.01.1904 – у распараджэнні намесніка на Далёкім Усходзе.

31.01.1904–22.02.1904 – начальнік 9-й Усходне-Сібірскай стралковай брыгады.

22.02.1904–05.03.1905 – камандзір 9-й Усходне-Сібірскай стралковай дывізіі.

20.08.1904 – «за баявыя заслугі» зноў датэрмінова пры-своена званне генерал-лейтэнант.

04.07.1906–02.01.1907 – прыкамандзіраваны да Галоўнага штаба.

02.01.07–25.01.1907 – камандзір 2-га вайсковага корпуса са штабам у Гродна.

25.01.1907–01.01.1910 – памочнік туркестанскага генерал-губернатара і камандуючага войскамі Туркестанскай акругі генерала Самсонава. Адначасова начальнік штаба Сямірэчанскага казачага войска ў г. Ташкент.

06.12.1910 – генерал ад інфантэрыі.

01.01.1910–15.08.1913 – камандзір 1-га Каўказскага армейскага корпуса, адначасова памочнік генерал-губернатара ў г. Тыфліс.

15.08.1913 – камандзір 23-га армейскага корпуса 2-й арміі.

30.08.1914 – па выніках баёў зняты з займанай пасады і звольнены ў адстаўку, быў ў рэзерве чыноў пры штабе Мінскага ВА (з 25.11.1915).

З 08.05.1917 камандаваў 75-й пяхотнай дывізіяй.

1917 – на з'ездзе воінаў-беларусаў Заходняга фронту ён быў абраны ў Цэнтральную беларускую вайсковую раду (ЦБВР). Узначаліў створанае Радай бюро па арганізацыі беларускага войска.

Май 1918 – у Радзе Міністраў БНР пад кіраўніцтвам Р. Скірмунта, міністр вайсковых спраў.

Лістапад 1918 – на кароткі тэрмін быў прызначаны віцэ-міністрам народнай абароны ва ўрадзе Літвы.

Пачатак 1919 – у Гродна Кандратовіч удзельнічае ў фармаванні штаба, беларускай камендатуры і 1-ы беларускі полк.

Пачатак 1919 – генерал Кандратовіч разам з дэпутатам Дзяржаўнай думы Расіі Азнабішыным выязджае ў Парыж дзеля ўдзелу ў Парыжскай мірнай канферэнцыі.

## *Дадатак 2*
## *Узнагароды генерала Кандратовіча*

За 42 гады службы ў расійскім войску генерал К. Кандратовіч быў узнагароджаны амаль усімі вышэйшымі ордэнамі імперыі і іншых дзяржаў:

Св. Станіслава 3-й ст. (1885);
Св. Ганны 3-й ст. (1891);
Французскі ордэн Ганаровага легіёна (1892);
Св. Станіслава 2-й ст. (1896);
Св. Ганны 2-й ст. (1899);
Св. Уладзіміра 3-й ст. з мячамі (1902);
Св. Станіслава 1-й ст. з мячамі (1904);
Св. Ганны 1-й ст. з мячамі (1905);
Залатая зброя (1906);
Св. Георгія 4-й ст. (17.07.1906);
Св. Уладзіміра 2-й ст. (03.07.1909);
Белага Арла (06.12.1912);
Св. Аляксандра Неўскага (01.06.1916);
Італьянскай кароны 2-й ст. (?).

Пры Часовым урадзе Пажарскі камандаваў Марской дывізіяй Чарнаморскага флота а з жніўня 1917 г. – 30-й пяхотнай дывізіяй. З 1 верасня 1917 г. па 24 лютага 1918 г. займаў пасаду старшыні Беларускай вайсковай камісіі пры штабе Румынскага фронту.

Да сярэдзіны снежня 1917 г. Румынскі фронт фактычна спыніў сваё існаванне. Штабы фронту і армій, якія ўваходзілі ў яго склад, пераходзілі з рук у рукі ад прадстаўнікоў Цэнтральнай украінскай рады да бальшавікоў. Прадстаўнікі нацыянальных партый вялі моцную і паспяховую антыбальшавіцкую прапаганду. 30 кастрычніка (12 лістапада) 1917 г. франтавы камітэт прыняў рашэнне аб непрызнанні савецкай улады. Камандаванне фронту адмовілася падпарадкоўвацца бальшавіку Крыленку, бо мела моцную падтрымку з боку ўкраінскіх узброеных фарміраванняў.

Румыны адразу пасля кастрычніцкага перавароту ў Петраградзе ўзялі ўладу на ўсёй тэрыторыі Румыніі ў свае рукі. Румыны, яшчэ з моманту ўступлення на тэрыторыю гэтай дзяржавы рускіх войск не любілі іх за бесцырымоннае і жорсткае абыходжанне з мясцовымі жыхарамі. Для стабілізацыі сітуацыі ідэя нацыяналізацыі былога рускага Румынскага фронту была падтрымана прадстаўнікамі Антанты і румынскім каралём. Да таго ж нацыяналізацыю арміі было зрабіць дастаткова проста, бо да Першай сусветнай вайны руская армія камплектавалася пераважна па тэрытарыяльным прынцыпе (за выключэннем палкоў, якія стаялі ў Польшчы і Фінляндыі). І, напрыклад, у 30-й пяхотнай дывізіі Румынскага фронту амаль што на 90% служылі беларусы, бо менавіта ў Беларусі дывізія дыслацыравалася ў мірны час (штаб дывізіі стаяў у Менску). Падчас вайны войскі папаўняліся з сваіх запасных палкоў, куды мабілізаваліся жаўнеры са сваіх жа губерняў. Афіцэрскі склад, вядома ж, быў змяшаным.

Для гэтага ў пачатку студзеня 1918 г. пры штабе Румынскага фронту была створана так званая Нацыянальна-тэрытарыяльная дэмакратычная арганізацыя фронту, у якую ўвайшлі камісары: ад УНР, армянскі, малдаўскі, польскі, мусульманскі, літоўскі, эстонскі, казачы (данскі), грузінскі, ад БНР (Павел Данатавіч Манцэвіч) і сібірскі. Гэтая арганізацыя падрыхтавала загад аб нацыяналізацыі фронту, а камандуючы фронтам Шчарбачоў яго падпісаў.

Схема нацыяналізацыі арміі была наступнай: з 9-й (Палтаўскай), 14-й (Бесарабскай) або 30-й (Беларусь) і іншых пяхотных дывізій усе рускія салдаты звальняліся ў 2 – 4-х тыднёвы адпачынак. Пасля водпуску яны павінны былі з'явіцца да воінскіх начальнікаў па месцы жыхарства для прызначэння ў рускія часткі. А салдаты іншых нацыянальнасцей павінны былі з'явіцца ў свае нацыянальныя часткі. Таму прыблізна на працягу тыдня з усіх нацыянальных дывізій рускія салдаты сышлі дадому, і дывізіі фактычна сталі ўкраінскімі, беларускімі, польскімі, мусульманскімі і г. д. Афіцэры заставаліся на сваіх пасадах, але па жаданні маглі таксама сысці.

Такім чынам, 9 студзеня 1918 г. загадам № 1332 па фронце было абвешчана аб арганізацыі Беларускай вайсковай камісіі па арганізацыі беларускіх вайсковых частак на Румынскім фронце. Узначаліў Беларускую камісію генерал-маёр Пажарскі. Былі беларусізаваны 6-ы Таўрагенскі пагранічны конны полк (атрымаў назву Першы Гусарскі беларускі нацыянальны полк), 4-ы Армейскі корпус у складзе 30-й і 40-й пяхотных дывізій з артылерыяй, штаб корпуса і ўсе яго дапаможныя часткі і ўстановы, 43-я дывізія з артылерыяй і прыдадзенымі ёй часткамі разам з 26-м аўтабранявым аддзяленнем. Усе беларусы фронту пераводзіліся ў гэтыя вайсковыя злучэнні. Потым былі беларусізаваны 357-я Віцебская і 401-я Менская дружыны.

З гэтых вайсковых частак утварылася вайсковая сіла колькасцю звыш за 100 000 чалавек. Больш паловы ўсёй маёмасці Румынскага фронту перайшла ў распараджэнне Беларускага Камісарыяту. Мелася думка ўсю гэту вайсковую сілу пераправіць на Бацькаўшчыну, што разам змяніла б сітуацыю ў Беларусі, аднак зрабіць гэта стала немагчымым.

Справа ў тым, што пасля заключэння Берасцейскага міру сітуацыя на ўсходзе Еўропы змянілася. Румыны вымушаныя былі перайсці на бок саюза цэнтральных дзяржаў (Германія і Аўстра-Венгрыя) і былыя рускія войскі ім сталі не патрэбны. Са сваёй тэрыторыі яны выпусцілі толькі тыя нацыянальныя воінскія часткі былога Румынскага фронту, урады якіх прызнала Германія, напрыклад, украінцаў. Што тычыцца палякаў, беларусаў і іншых, каго немцы не прызналі, дык усе яны былі раззброеныя румынамі. У прыватнасці, 4-ы беларускі корпус быў цалкам раззброены ў лютым-сакавіку 1918 г.

Такім чынам, ходам падзей Беларуская Армія ў Румыніі спыніла сваё існаванне. Многамільённая маёмасць Беларускай Арміі (толькі коней больш за 2 000), грузавых і пасажырскіх аўтамабіляў (каля 800), баявых прыпасаў, уніформы, складаў, гармат, ручной зброі і іншага, было здадзена ў дэпазіт Румынскаму ўраду. Народны сакратарыят БНР рабіў захады, каб на будучыню захаваць для сябе ўсю гэтую маёмасць.

Тагачасны беларускі камісар Румынскага фронту П. Манцэвіч атрымаў наступны загад:

«Беларуская Народная Рэспубліка.

Народны Сэкрэтар'ят.

Беларускаму Камісару Румынскага фронту

П. Д. Манцэвічу.

7 красавіка 1918 г.

№ 175.

Знаходзячаяся на быўшым Румынскім фронце, маетнасьць і аружжа раззброеных беларускіх і беларусізаваных вайсковых часьцей Народны Сэкрэтар'ят Б.Н.Р. мае на мэце выкарыстаць для арганізаваньня на тэрыторыі Беларусі нацыянальных войск, калі варункі пазволяць гэта зрабіць (пасьля зьняцьця акупацыі).

На аснове вышэйпададзенага і згодна пастанове Народнага Сэкрэтар'яту Беларускай Народнай Рэспублікі ад 3 красавіка г. г. даручаецца Вам паведаміць аб гэтым адпаведным органам Румынскага Ураду, на быўшым Румынскім фронце, на той прыпадак, каб вышэйазначаная маетнасьць і аружжа, быўшых беларускіх часьцей, ня было перададзена іншым Урадам ці арганізацыям.

Старшыня Народнага Сэкрэтарьяту і Народны Сэкрэтар Зьнешніх Спраў Воронка.

Кіраўнік Справамі Народнага Сэкрэтарьяту

Л. Заяц.»

Што потым сталася з гэтай маёмасцю – невядома, але найверагодней, яна была перададзена румынскаму войску. Расфармаваныя беларускія войскі ўразброд вярталіся на Бацькаўшчыну, дзе ў тыя часы трымалася нямецкая акупацыя, а немцы, як вядома, не дазвалялі ствараць беларускае войска[237].

---

[237] Крывіч №2. 1923. С. 41-44.

Ужо ў красавіку 1918 г. шмат актыўных афіцэраў былога 4-га беларускага корпуса з'явілася ў Кіеве. Генерал Пажарскі асабіста добра ведаў украінскага гетмана Скарападскага і пасля паступіў на службу у войска Украінскай дзяржавы (красавік – снежань 1918 г.). Пасля знаходзіўся рэзерве чыноў добраахвотніцкай арміі, а потым Рускай арміі барона Урангеля. Актыўнасці не выўляў, вядома толькі, што ў лістападзе 1919 г. быў прызначаны камендантам Харкава. Пасля паражэння белых быў эвакуяваны з Севастопаля ў Стамбул на транспарце «Карнілаў». Разам з ім на «Карнілаве» знаходзіліся і два сыны генерала. Першы з іх, палкоўнік Яўген Іосіфавіч Пажарскі, выпускнік Елісаветградскай кавалерыйскай вучэльні, удзельнік Першай сусветнай вайны ў складзе 11-га гусарскага палка, быў кантужаны ў 1915-м, у дзянікінскай арміі камандаваў Кабардзінскім дывізіёнам. Другі – Андрэй Іосіфавіч Пажарскі, былы выхаванец Варшаўскага дзіцячага корпуса і Елісаветградскай кавалерыйскай вучэльні, ротмістр гвардзейскага кавалерыйскага палка, удзельнік Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. Лёс трэцяга сына генерала Іосіфа Фаміча Пажарскага – Барыса Пажарскага застаецца невядомым.

Пазней з Турцыі Пажарскі перабраўся ў Югаславію і пасяліўся ў горадзе Белая Царква блізу румынскай мяжы, тут жа і памёр. Магіла генерала на рускіх могілках гэтага горада ацалела да нашага часу.

Узнагароды: ордэны Св. Станіслава 3-й ст. (1906 г.); Св. Ганны 3-й ст. (1912 г.); Св. Станіслава 2-й ст. (1914 г. ); Св. Георгія 4-й ст. (1915 г.); Георгіеўская зброя (1915 г.); Св. Уладзіміра 3-й ст. з мячамі (1915 г.); Св. Уладзіміра 4-й ст. з мячамі і бантам (1915 г.); мячы да Св. Станіслава 2-й ст. (1916 г.); Св. Ганны 2-й ст. з мячамі (1916 г.)

## *Генерал Яўген фон Гротэ дэ Буко (19.01.1862–1944)*

Паходзіў з аславяненага нямецкага роду праваслаўнага веравызнання, які належаў да дваран Маскоўскай губерні. Быў жанаты з дачкой калежскага дарадцы Свідэрскага – Вольгай Мікалаеўнай (нарадзілася ў 1872 г.). Меў сыноў Уладзіміра (нарадзіўся 13 ліпеня 1891 г.) і Аляксея (нарадзіўся 24 студзе-

ня 1906 г.) і дачку Кацярыну (нарадзілася 4 лістапада 1897 г.). Будучы Лідскі спраўнік адукацыю атрымаў у 4-й Маскоўскай вайсковай гімназіі, а потым у Маскоўскай пяхотнай юнкерскай вучэльні.

31 студзеня 1905 г. загадам № 14 па Віленскім губернскім праўленні «начальнік земскай варты Навамінскага павета (Мінск-Мазавецкі павет – Л. Л.) капітан фон ГротэдэБуко, згодна з яго прашэннем, прызначаецца часовым выканаўцам абавязкаў Лідскага павятовага спраўніка». З «Памятных кніжак Віленскай губерні» бачна, што з 1906 г. па пачатак 1915 г. ён узначальваў павятовую паліцыю і Лідскае пажарнае таварыства, г. зн. адказваў за пажарную бяспеку часта гарэўшага горада, а бліжэй да пачатку вайны быў сябрам апякунскай рады Лідскай прыватнай жаночай гімназіі Ф. Л. і В. С. Навіцкіх. У «Памятнай кніжцы Віленскай губерні» за 1914 г. напісана: «Павятовы спраўнік – калежскі дарадца Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко». Такім чынам, да 1914 г. лідскі спраўнік атрымаў ужо чын VI класа, які адпавядаў чыну армейскага палкоўніка. Загадам Віленскага губернатара № 163 ад 6 ліпеня 1914 г. звальняецца ў адстаўку па яго заяве «з-за хваробы...».

У 1915 г. добраахвотна ідзе на фронт. 9 верасня 1915 г. яго ўзнагародзілі ордэнам Св. Георгія 4-й ст. за асабістую храбрасць. Свечын – камандзір 6-га Фінляндскага палка, у якім служыў Гротэ дэ Буко, – пісаў у сваёй кнізе «Мастацтва кіравання палком...»: «Афіцэрскі склад у маім палку быў надзвычай удалы. У мяне было некалькі выдатных памочнікаў у асобах камандзіраў батальёнаў. ...выдатным камандзірам з'яўляўся... Гротэ дэ Буко. Гэта быў бясхітрасны стары, перад вайной лідскі спраўнік, які па сваёй добрай волі прамяняў сваю спакойную паліцэйскую пасаду на цяжкую прафесію – спачатку камандзіра роты, потым батальёна. Добрая воля, добразычлівасць, досыць моцныя нервы, а затым сівізна рабілі на салдат захапляльнае ўражанне. Салдаты яшчэ не вызваліліся ад кайданоў патрыярхальных уяўленняў, і для іх дзядуля Гротэ з'яўляўся несумненным правадыром-старэйшынам; слухалі яны яго з глыбокай павагай і любоўю, і пасля штурму афіцэры 1-га батальёна распавядалі пра тое, што яны назіралі салдат, якія хапалі дзядулю ў крытычную

хвіліну за фалды і хавалі яго ў вырву, салдаты баранілі яго сваімі целамі. Маладосць – сіла, але ў пэўнай абстаноўцы сівая барада, прыстаўленая да добрай галавы, таксама з'яўляецца буйной маральнай сілай пры ўмове непасрэднага судакранання з салдацка-сялянскай масай».

26 сакавіка 1916 г. былы лідскі спраўнік атрымлівае званне палкоўніка. 9 кастрычніка 1917 г. Яўген Гротэ дэ Буко «за заслугі ў справах...» атрымлівае званне генерал-маёра.

Лёс фон Гротэ дэ Буко на працягу 2-х гадоў да канца 1918 г. невядомы, але найбольш верагодным горадам, дзе ён мог зблізіцца з дзеячамі беларускага руху, быў Менск. Верагодна, пасля развалу арміі, у 1917 г. былы лідскі спраўнік жыў у гэтым горадзе, але ніякай дакладнай інфармацыі няма. З'явіцца ў Лідзе генерал фон Гротэ дэ Буко зноў мог толькі пасля заключэння так званага Берасцейскага міру, раней ён быў бы неадкладна арыштаваны.

Немцы не маглі вызначыцца, каго прызнаць пасля сябе ўладай у павеце, таму што, апрача палякаў, свае прэтэнзіі на ўладу адначасова выказвалі бальшавікі, беларусы і літоўцы. Польскі дзеяч Юзаф Дзічканец, аўтар кнігі «самаабарона Лідскай зямлі» і відавочца тых падзей, пісаў: «Самым небяспечным канкурэнтам для палякаў у справе атрымання зброі ад немцаў побач з яўрэямі быў арганізатар беларускага руху ў Лідзе былы расійскі “исправник” фон Гротэ-дэ-Буко, які па прычыне свайго нямецкага прозвішча меў пэўныя перавагі ў штадтгаўптмана (начальніка павета). Толькі ён мог прыняць рашэнне аб выдачы зброі. Досыць доўгі час працягваліся спробы атрымання зброі... Дзіўна, што рускіх, якія перад вайной мелі прэтэнзіі да Ліды як да “истинно русского города”, у гэты час у Лідзе не было. За выключэннем толькі невялікай групкі, амаль усе “истинно русские люди” пакінулі чужы для іх край і горад, накіроўваючыся да сапраўднай сваёй бацькаўшчыны – Расіі. Былы лідскі спраўнік фон Гротэ дэ Буко і той пакінуў шэрагі расіян. ...фон Гротэ дэ Буко пачаў арганізоўваць беларусаў, каб стварыць Беларускую народную партыю».

Такім чынам, генерал узначаліў беларускую палітычную партыю ў горадзе Ліда і стаў першым лідарам беларускага руху ў нашым горадзе.

Потым генерал Яўген фон Гротэ дэ Буко ў 1920-х гг. жыў у Вільні. Загінуў у Варшаве ў 1944 г.

Узнагароды: 06.12.1910 г. ордэн Св. Ганны 3-й ступені; ордэн Св. Георгія 4-й ст. (09.09.1915 г.); Георгіеўская зброя (21.11.1915 г.); Св. Станіслава 2-й ст. з мячамі (20.10.1916 г.).

Сляды генерала А. Багдановіча, якога ўзгадвае шэраг гісторыкаў (Гл: Латышонак А. Жаўнеры БНР. Беласток, 2009. С. 63.), знайсці пакуль не ўдалося. Падобна, што ў рускай арміі 1917 г. такога генерала не было. Магчыма, генеральскі чын ён атрымаў у 1918 г.

## *Дадатак 6*
## *Пасведчанне Рады Народных Міністраў беларускай Народнай Рэспублікі Кіпрыяну Кандратовічу за 22.01.1919*[238]

Le 22. Janvier 1919
№ 9/1969
Grodno.

CERTIFICAT.

Le Conseil des Ministres de la Republique Nationale de la Russie-Blanche charge de la member de la Rada de la Republique, le general de l'infanterie CYPRIEN KONDRATOWITSCH, d'informer les les Gouvernements des Etats Unis de l'Amerique, de l'Angleterre, de la France et de l'Italie de la situation et les besoins du people de la Russie-Blanche et de transmettre au President du Congres de la paix le Memorandum de Conseil des Ministres.

Le President du Conseil des Ministres
et le Ministre des Affaires Etrangères

Le Secretaire d'Etat.

Пераклад на беларускую мову:
22 студзеня 1919.
№ 9/1969
Гродна.

Пасведчанне.

Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі даручае члену Рады Рэспублікі, генералу ад інфантэрыі Кіпрыяну Кандратовічу, інфармаваць урад Злучаных Штатаў Амерыкі, Англіі, Францыі і Італіі пра становішча і патрэбы народа Беларусі і перадаць прэзідэнту Мірнага Кангрэсу Мемарандум Савета Міністраў.

Старшыня Савета Міністраў
і міністр замежных спраў

Дзяржсакратар.

---
[238] Архівы БНР. I, 1. С. 320.

## *Дадатак 7*
## *Ліст Кіпрыяна Кандратовіча (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 3.12.1919*[239]

3 Декабря 1919.
24 Rue Bayard VIII
Многоуважаемый
Антон Иванович.

Пользуясь удобным случаем, пишу Вам несколько слов о здешней обстановке. В общем работа идет непрерывная и большая в соответствии с тем направлением, которое велось Вами за время Вашего здесь пребывания, хотя за последнее время обстановка становится все более и более сложною, особенно ввиду событий на юге России в связи с Украиною. Как эти события отразятся на политической работе здешнего украинского представительства – нас всех здесь в высокой степени интересует. С нашими общими знакомыми, с Верой Ник. во главе, поддерживается по-прежнему обычная связь. На днях получил определенные сведения о том, что вскоре будет созвана в Лондоне или в Париже международная конференция для обсуждения и выработки общего плана борьбы с большевизмом. Конференция эта закончит свои работы в Варшаве, туда переедет из Лондона или Парижа по окончании здешних совещаний.

На конференцию будут приглашены представители всех союзных государств, а также России (от Колчака, Деникина и др.) и всех новых образований на территории России, значит и Белорусов. Считаю долгом об этом поставить Вас в известность, так как это вопрос чрезвычайной важности, для личных Ваших соображений, и совершенно конфиденциально. Это самый главный вопрос в данное время. Сегодня приехал Барков (с вещами) на несколько дней. Ладнова еще нет. Ждем на днях. Завязаны тесные связи со здешней печатью. Разнёсся слух, будто вместо Баркова секретарём сюда приедет от Вас фон Дитман. Было бы очень желательно никакого секретаря сюда не присылать, особенно потому, что в материальном отношении делегация находиться в критическом положении: с 1 января никто никакого содержания уже получать не может,

[239] Архівы БНР. I, 1. С. 522.

так как нужно уплатить за квартиру до 1 апреля согласно контракту, а курс марок пал невероятно (до 5 марок за 1 франк). Средств на командирование представительства в Лондон, если понадобиться (что вероятно), уже нет, считая и все средства, оставленные Вами Ладнову, так что может получиться крайне нехорошая обстановка. Будьте добры сообщить возможно скорее Ваши по этому делу соображения. Шлём Вам наш сердечный привет и самые лучшие пожелания.

Искр. Вас уважающий К. Кондратович.

Получаете ли Вы наши письма? В том числе мое с выражением глубокого соболезнования по поводу кончины Вашего бедного брата?

Белевич уехал к Вам, поэтому посылаю Вам обратно письмо на его имя.

## *Дадатак 8*
## *Кастусь Езавітаў пра генерала Кандратовіча*

Генерал ад Інфантэрыі Кандратовіч, бязумоўна, меў практыку і ведаў вайсковыя справы, і, пры другіх варунках, магчыма, што аказаўся бы вельмі для беларусаў карысным, але ў пэрыёдзе рэволюцыйнай барадзьбы, ў перыёдзе надзвычайнай сьпешкі і надзвычайных спосабаў фармаваньня барадзьбы, ён ня толькі не аказаўся карысным, але трэба проста і шчыра сказаць – быў, нават, шкодным.

Яго практыка і веданьне прынятых традыціяй і ўзаконеных сводам Вайсковых Пастанаўленьняў, крокаў і формаў ня толькі не давалі яму так патрэбнай у той момант ініціятывы, але наадварот зьвязвывалі яе і ськіровывалі ў традыйнае ручво.

Генерал нічога ня мог і не прывык рабіць “сам” – на ўсё трэба было “дазваленьне”, “прадпісаньне”, “загад” і “палажэньне”, калі ж іх не было – ён быў мёртвы і нічога не рабіў. І нятолькі нічога не рабіў, але нічога не дазваляў рабіць і сваім падзагадным.

Ен ўсё чагосьці чакаў.

А час ішоў ішоў.

Практыка і веданьне старых праўных формаў – засьцілалі гарызонт, адбіралі ініціятыву і рабілі з генерала падзагадны, а не кіраўнічы мозг.

Прыроджаная-ж маруднасьць руху і думкі – зусім ужо жвала ўсю справу.

Было некалькі здарэньняў ў Аддзеле Вайсковых Фармаваньняў, калі падпарадкаваныя генералу нецярплівыя, маладыя афіцэры, ясна бачучы складаўшуюся сытуацію, памятаючы, што “звалока – сьмерці падобна”, бралі на сябе ініціятыву некаторых адпаведных крокаў і толькі прасілі генерала падпісаць загад, ці упаўнаважаньне, але генерал ад Інфантэрыі Кандратовіч не адважаўся і на гэта і падпісаць адмаўляўся.

Ен усё яшчэ нечага чакаў і нічога не хацеў рабіць.

І гэта было другой яго, мякка кажучы, – памылкай.

Яго стары памочнік палкоўнік Камароўскі зусім згаджаўся з тактыкай ген. Кандратовіча, і, як мага, стрымліваў маладых ад «неабдуманых крокаў».

Выдзяленьне і фармаваньне беларускіх частак пазамежамі Менска – было цалком пакінута на волю лесу і на прыватную ініціятыву і энэргію асобных беларускіх арганізацыяў.

І толькі дзякуючы працы франтавых беларускіх камітэтаў, энэргічна праводзіўшых ў жыцьцё пастановы сваіх франтавых зьездаў, справа беларускага фармаваньня ня гіне і пры кождым з іх, а таксама і ў арміях на фронце, фармуюцца асобныя беларускія пешыя палкі і каманды.

У Воршы сарганізовуецца беларускі полк, на Румынскім фронце, дзе найбольш было беларусоў, Беларуская Вайсковая Рада Румынскага фронту дабіваецца і з посьпехам праводзіць у жыцьцё беларусызацыю цэлага 4-га армейскага корпусу з артылерыяй, амуніціяй і тэхнічнымі войскамі.

Усе гэтыя фармаваньні робяць спробы ўвайсці ў кантакт з павадыром беларускіх фармацій, але не знаходзяць з яго боку ніводнага кроку на спатканьне. І толькі ад маладога афіцэрства Белвайск. Рады ды ад кіраўніка Палітычнага Аддзелу яе атрымліваюць беларускія часткі тэлеграфныя рады і інструкціі, а таксама і адказы на пытаньні ў бягучых справах.

Даведзеныя да роспачы маладыя афіцэры, урэшце не змаглі больш стрымацца і, – калі ген. Кандратовіч раздзер па палове запрапанаваную яму да падпісаньня паперу, – спавесьцілі аб справах Прэзыдыўм Вайсковай Рады, папераджаючы, што калі ген. Кандратовіч і надалей астанецца кіраўніком беларускіх фармаваньняў, дык яны змушаны будуць выйсьці з Вайсковага Аддзелу.

Прэзыдыум перанёс справу ў Спаўняючы Камітэт – гэта знача: “чырвоная адстаўка”. Ген. Кандратовічу было запрапанавана даць матывіроўку і тлумачэньне сваіх крокаў.

Тлумачэньні ген. Кандратовіча не здаволілі Спаўнячы Камітэт Белвайсковай Рады, пакінўшы генерала ў аддзеле як тэхнічную сілу, адсунуў яго ад кіраўніцтва Аддзелам і даручыў гэну справу, аднаму з яго памочнікаў, – К. Езавітаву.

Але было ўжо позна.

На другі, ці трэці дзень, пасьля адстаўкі ген. Кандратовіча,

Глаўказап прапаршчык Мясьнікоў, часова, з прычыны ад'езду Крыленкі у Петраград, уступіў у абавязкі Глаўкаверха і першым чынам, – карыстаючы з новага свайго, хоць і часавага становішча і грунтуючыся, на выбухшай у гэты момант, і страшна перапужаўшай бальшавікоў, вайне з Украінай, зноў выдаў катэгарычны тэлеграмны загад з Могілева аб забароне далейшага фармаваньня 1-га пешага Менскага беларускага палка і аб злучэньні яго з астаткамі 289-га пеш. Запаснога палка, які стаяў ў Менску».

*Езавітаў К. Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада // Крывіч. 1924. №1(7). С. 42–43*

## *Дадатак 9. Палітычныя агляды з Парыжа генерала Кандратовіча К. А.*

Пабеда нацыянальнай ідэі[240].
(Ад нашага парыжскага карэспандэнта)

У Бэльгіі узьняўся міністэрскі крызіс. Зьмены ўрадаў у апошнія гады ў-ва ўсіх гаспадарствах не навіна: яны адбываюцца па некалькі разоў у год. Але крызіс у Бэльгіі заслугуе на асаблівую ўвагу дзеля тае прычыны, якая выклікала яго.

Прычына – тое, што ўрад не задаволіў нацыянальных патрэб флямандаў, якія становяць блізу палову насяленьня Бэльгіі. Дагэтуль, ня гледзячы на падзел насяленьня на дзьве нацыянальныя групы: валёнаў і флямандаў, пануючай мовай у Бельгіі была мова француская, ужываная валёнамі. Уся інтэлігенцыя гаварыла па французску, не раўнуючы, як у нас па польску, ці-то па маскоўску. Па флямандзку-ж гаварыла толькі народная маса флямандаў. З гэтае прычыны вышэйшая навука ў абодвух бэльгійскіх урадовых унівэрсытэтах адбываласа выключна па французску. Але за апошнія гады, асабліва ў часе сусьветнае аайны, нацыянальнае адраджэньне флямандаў зрабіла такі вялікі поступ, што народ зажадаў, каб і навука ў адным з унівэрсытэтаў адбыбалася па флямандзку, пакідаючы ў другім і надалей французскую мову.

Бэльгійскі парляманг, у якім большасьць галасоў маюць валёны, пад сільным націскам Францыі, дагэтуль ня йшоў ні на якія уступкі флягмандам. На такім-жа становішчы стаяў і прыхільны да Францыі бэльгійскі ўрад, дык паміж ім і парлямантам ня было ў гэтай справе разнабою. Але ў апошнім часе настрой парляманту зьмяніўся.

Зьмяніўся ён дзякуючы вельмі цікаўнай зьмене становішча сацыялістаў. Сацыялісты ў Бэльгіі стаялі дагэтуль на тым, што нацыянальныя імкненьні флямандаў – гэта зьявішча «дробна-буржуазнае», з якім сацыялізм павінен змагацца. Але пад уплывам нацыянальнае палітыкі ў Савецкіх Рэспубліках, якія ня толькі не змагаюцца з нацыянальнымі імкненьнямі розных народаў, а на гэтых імкненьнях будуюць вялізарны гмах сусьветнае Фэдэрацыі сацыялістычных нацыянальных

[240] Наш Сьцяг. № 7. 27 чэрвеня 1923.

рэспублік, пагляды бэльгійскіх сацыялістаў на нацыянальныя пытаньні значна зьмяніліся.

І вось, калі ў бэльгійскім парлямэнце ўзнялося пытаньне аб перастройцы аднаго з двух францускіх унівэрсытэтаў на флямандзкі, лідэр сацыялістаў, Вандэрвэльдэ, і ўся сацыялістычная фракцыя падалі голас за здаваленьне дамаганьняў флямандаў. Сацыялістычныя галасы далі пераваґу флямандам, і ўрад, які працівіўся іхнім дамаганьням, быў прымушаны падацца ў адстаўку.

У Францыі гэткі неспадзяваны паварот справы выклікаў вялікае абурэньне. Фрацуская мова ў Бэльгіі была да гэтуль тэй асновай, на якой грунтаваўся палітычны ўплыў тутака Францыі. Разумеючы гэта, немцы ў часе акупацыі Бэльгіі вельмі горача падтрымлівалі флямандзкі адраджэнскі рух. Пабеду гэтага руху фрацускія палітыкі разглядаюць, як пабеду нямецкіх уплываў, што можа адбіцца наагул на прыязных да гэтуль француска-бэльгійскіх адносінах.

Але гэты страх – неабаснованы. Гэта была не пабеда Нямеччыны, а пабеда нацыянальнае ідэі сярод бэльгійскіх сацыялістаў. Апошні факт трэба асабліва адзначыць, бо ён сьведчыць, што і заходня-эўрапэйскіх сацыялістаў ужо пачаў пакідаць стары забабонны страх перад нацыянальнымі рухамі адсталых народаў.

*Кандратовіч. 20.VI.1923 г.*

Крызіс насьпявае[241].
(Ад нашага парыжскага карэспандэнта)

Тое абурэньне англійскага грамадзянства, аб якім я пісаў у пачатку чэрвеня, з прычыны становішча Францыі ў пытаньні аб спагнаньні нямецкае кантрыбуцыі, пераходзіць у новую фазу. Я пераказваў вам перш толькі словы дыплямата, гавораныя паціху і ў “чатыры вочы”. Цяпер уся Англія ня ўкрывае свайго пагляду на непамерныя францускія апэтыты на нямецкае золата. У тэатрах і кабарэтах Лёндана вы пачуеце злыя насьмешкі над французамі і іх палітычнымі дзеячамі, якіх выводзяць на сцэну ў карыкатурнай постаці. У шырокіх масах народу раздражненьне ў адносінах да Францыі ўсё больш узмацоўваецца і ўжо пачало выліваца і на страніцах

[241] Наш Сьцяг. № 11. 11 ліпеня 1923.

англійскіх газет. Французскія палітычныя кругі нязвычайна парушаныя пагрозамі дзьвух дужа ўплывовых англійскіх газет: “Sunday Times” і “Observer”, якія адкрыта выступілі проці Францыі, пагражаючы развалам “Антанты” і самастойным выступленьнем Англіі ў справе адносін да Нямеччыны. Сказаныя газеты пішуць, што, раз Англіі не па дарозе ісьці з Францыяй, дык яна павінна цукаць апоры ў нэўтральных гаспадарствах і дайсці разьвязання споркі з Нямеччынай дарогай угоды з немцамі. Французскі пасол у Лёндане ураз-жа зьвярнуўся да лёрда Керзана з запытаньнем, як трэба разумець заявы гэных газет. І хаця яго заверылі, што газеты зусім не адбіваюць поглядаў ураду, ўсё-ж французскія палітычныя кругі дужа крэпка занепакоены: адначасна выявілася, што Англія, аб якой думалі, што яна ня будзе дамагацца ад Нямеччыны ніякіх аплат для сябе, вялікадушна пазваляючы Францыі “выпампаўваць” усё нямецкае золата ў свае кішэні, вымагае ад немцаў аплаты што-году па 600 мільёнаў залатых марак. Гэтае жаданьне зусім паблытала французскія пляны. Да таго і французскія камуністы задаюць ураду ў парлямэнце пытаньні, якія прыадкрываюць завесу над закуліснымі махінацыямі Францыі, скіраванымі да таго, каб разьбіць і так ужо парэзаную на кускі Нямеччыну на драбнейшыя часткі, апіраючыся на сэпаратызьме баварскіх манархістаў.

Настрой французскіх урадавых кругоў дужа нэрвовы. Пункарэ робіць што-раз вастрэйшыя заявы аб адносінах да немцаў, награжае ўсе цяжэйшым націскам на Нямеччыну, бо бачыць, што калі ня ўдасцца зламаць нямецкую апору зараз, дык ня ўдасца дапяць французскіх мэтаў зусім: сэпаратнае выступленьне Англіі, з якой увайшла ў паразуменьне і Італія, набліжаецца вельмі шыбка.

Але нэрвы для палітыкаў – гэта сьмерць. І нэрвовасьць у французскай палітыцы, якая выяўляецца ў усе часьцейшых сьмяротных прыгаворах над рурскімі сабатажнікамі, можа толькі ўскорыць крызіс Антанты.

*Кандратовіч.*

Палітычныя падзеі пасьля англійскае заявы[242].
(Ад нашага парыжскага карэспандэнта)

З тэлеграмаў вы ўжо напэўна ведаеце аб заяве англійскага прэмьера Бальдвіна ў справе адносін Англіі да пытаньня аб рэпарацыях.

Заявы гэнае ў Парыжу чакалі з вялікай нецярплівасьцяй і нэрвовасьцяў. Праўда, французы ня верылі, каб Англія адкрыта выступіла проці францускае палітыкі: хоць і гаварылі цішком аб тым, што гэта ангельскі ўрад паддае немцам сьмеласьці і падбівае іх супраціўляцца францускай акупацыі Рурскае краіны, ды французы пачувалі сваю сілу, з якой павінны ў Англіі паважна лічыцца. Сіла гэта – чыста матэрыяльная: захапіўшы ўсе лятальныя машыны Нямеччыны, Францыя мае найвялікшы на сьвеце паветраны флёт, каторы ў адзін дзень, калі-б здарылася патрэба, мог-бы закідаць бомбамі ўсеньку Англію і спыніць тым-жа спосабам рух агельскага марскога флёту. Дык, не гледзячы на галасы парыжскіх газет, якія робяць добрую міну пасьля заявы Бальдвіна, якбыццам Англія ў-ва ўсім уступіла Францыі, – у францускіх урадавых колах адчуваецца нейкая напружанасьць, нейкае зьмяшаньне, укрыванае вельмі лоўка. Палітычныя дзеячы, з якімі мне даводзілася гутарыць аб гэтым, не заплюшчваюць вачэй на небяспеку, што вісіць над Францыяй і над усёй Эўропай. Бальдвін зусім ясна даў зразумець французам, што Англія ня згодзіцца ні ў якім прыпадку, каб француская палітыка падтрымлівала надалей той фінансавы крызіс, які запанаваў у Нямеччыне і вельмі пагражае эканамічным інтарэсам Англіі і ўсяе Эўропы. Калі ня ўдасцца дагаварыцца з Францыяй да нейкае супольнае палітычнае лініі ў адносінах да Нямеччыны, дык Англія пачне перамовы з немцамі на сваю руку.

Як быццам дзеля падмацаваньня слоў Бальдвіна, англійскі ўрад пачаў апрацоўку плянаў павялічэньня паветранага флёту, каб зраўнаважыць свае сілы з сіламі Францыі. І гэта ў францускім міністэрстве заграцічных спраў адчуваюць вельмі балюча.

Людзі, якія трымаюць руку на пульсе францускай дыпляматыі, кажуць, што ўсе-ж такі да гэткіх крайнасьцей

[242] Наш Сьцяг. № 14. 20 ліпеня 1923.

ня дойдзе. У Парыжу пануе перакананьне, што, захоўваючы свой прасціж у справах прынцыповых, Пуанкарэ пойдзе на ўступкі англічанам у сваёй тактыцы і не дапусціць да разрыву Антанты.

*Кандратовіч.*

Палітычныя падзеі. Паварот англійскай палітыкі[243]
(Ад нашага парыжскага карэспандэнта)

У прыватнай гутарцы, якую мне давялося мець гэтымі днямі з прадстаўнікам аднае з антанцкіх дзяржаваў у Лізе Нацыяў, апошні панізіўшы голас, сказаў прыблізна гэтак:

"Нам ужо па горла надакучыла Францыя з усімі сваімі дамаганьнямі і жаданьнем зьнішчыць Нямеччыну да званьня! Французы хочуць, каб мы памаглі ім заняць першае месца ў Эўропе. Але гэта – больш, чым наіўнасьць! Дый пара ўжо завясьці ў Эўропе запраўдны мір: мы ўсе замарыліся ад таго напружанага палітычнага палажэньня, якое падтрымлівае ўвесь час Францыя".

Гэтыя словы паважанага дыплямата дужа добра характарызуюць людзей, бадай усіх антанцкіх урадаў. Дый не адных толькі ўрадаў, а і шырокіх кругоў грамадзянства. Настроі гэныя найбольш ярка выяўляюцца ў сучаснай палітыцы Англіі – так дзяржавы, ад становішча якое запраўды будзе залежаць адказ на пытаньне: ці Францыі удасца заняць першае месца ў жыцьці народаў Эўропы, ці пляны яе аб гегемоніі на кантыненце развеюцца як дым.

Палажэньне ў Эропе ў сувязі з няўстаннымі пагрозамі новай вайной запраўды сталася несьцярпімым. Утрымліваньне напагатові армій дзеля таго, што Францыя ня можа згартавацца з Нямеччынай, сур'езная пагроза камуністычным пераваротам у Нямеччыне ў сувязі з немагчымасьцю дапусьціць усе далейшае пашырэньне на нямецкай зямлі французскае акупацыі, пагроза пашырэньня з Нямеччыны "камуністычнае заразы" на ўвесь Захад – усе гэта лішне дорага каштуе народам, якія хацелі-бы ўрэшце аддаць ізноў свае сілы творчай культурнай працы.

Вось чаму новы англійскі ўрад пачаў крокі, якія кіруюцца да разьвязаньня і заканчэння сваркі паміж Францыяй і Нямеччынай аб "рэпарацыях". І трэба думаць, што крокі Англіі

[243] Наш Сьцяг. № 17. 27 ліпеня 1923.

або давядуць гэту справу да канца, або ў вельмі яркай форме раскрыюць закрываныя дагэтуль супярэчнасьці паміж імкненьнямі Францыі і інтарэсамі яе саюзніцы Англіі. У апошнім прыпадку ўся палітычная фізіяномія Эўропы павінна будзе так ці сяк адмяніцца, і мы або дачакаемся запраўднага міру, або будзем сьведкамі новага змаганьня паміж Францыяй і Нямеччынай, але ўжо бяз учасьця і ў самай барацьбе, і ў адказнасьці за яе англійскага народу.

*Кандратовіч.*

## *Дадатак 10*
## *Стэнаграма відэзапісу размовы з Рулько Г. А., былой пакаёўкай Кандратовічаў (2010 г.)*

*Відэазапіс захоўваецца ў Пагародненскай сярэдняй школе*

Настаўніца: Добры дзень, Ганна Антонаўна.

Рулько Г.А.: Дзень добры!

Настаўніца: Мы жадаем задаць вам некалькі пытанняў, калі ласка, раскажыце пра сваю працу ў паноў.

Рулько Г.А.: У паноў я працавала... У паноў мне надта было добра. Дужа. Яны плацілі дужа, я пакаёўкай была, прыбірала пакоі, накрывала ім есці на стол і падавала ўсё... у паноў было добра...

Настаўніца: А цяпер, калі ласка раскажыце, які раней ў Пагародна быў парк, вы ж яго памятаеце.

Рулько Г.А.: За панамі парк меў ладны выгляд. Мы жылі каля маёнтка. Дарожкі былі выграсаваныя[244], прыгожыя. Кветкі каля дарожак раслі. Парк быў ладны. Адно слова – ладны. Дзеці ў ім гулялі, і моладзь збіралася... а потым ужо запусцілі гэты парк і ўсё.

Настаўніца: Нам вядома, што раней ісці да парку трэба было праз ліпавую алею. Як яна выглядала?

Рулько Г.А.: Дык вось жа гэтыя самыя ліпы былі, што папілавалі і павыцягвалі ў лес, у лесе ляжаць. Як зацвітуць гэтыя ліпы, дык не хочацца ісці дахаты. Такія ліпы былі прыгожыя ... Парк пасля паноў яшчэ чысты быў.

Настаўніца: А як у той час выглядала альтанка?

Рулько Г.А.: А бяседка была прыгожая, драўляная, пафарбаваная ў розныя колеры. Альтанкай называлася. З-за яе і возера ў парку да нашага часу Альтанкай называюць.

Настаўніца: А што вы ведаеце пра нашу капліцу? Нам вядома, што яе зносілі і не маглі знесці.

Рулько Г.А.: У капліцу я яшчэ дзяўчынай прыходзіла. Тут панна Кабылінская[245] шлюб брала, у гэтай капліцы, так ладна было. Тут святы святкавалі. Прыходзілі людзі, і заўсёды

---

[244] Выграсаваныя – праполатыя.

[245] Кабылінскія валодалі суседнім з Гародна маёнткам Гарадзенка Жырмунскай гміны.

капліца была поўная людзей. А сёння нікога няма. Дзве-тры старыя бабы прыйдуць... у капліцы молімся.

Настаўніца: А выгляд капліца мела такі самы, як і зараз?

Рулько Г.А.: Выгляд быў такі самы. Зараз толькі абразы другія – Ружанцовай і Сэрца Пана Езуса не было, былі толькі... Пан Езус быў і гэта... Мне ўжо амаль што 90 гадоў, забываю ўсё. Прыходзілі ў капліцу, ружанец адпраўлялі, і да сэрца Пана Езуса маліліся, і маёвыя адпраўлялі ў капліцы. На Каляды, на Вялікдзень, на другі дзень заўсёды ксёндз прыязджаў. Меў імшу ў капліцы... Усе верылі ў Бога, і ўсё зусім было не так, як зараз... Але без Бога – ні да парога...

Настаўніца: А Кандратовічаў вы ведалі?

Рулько Г.А.: А чаму ж я не ведала? Старая была пані і дачка замужняя. Дачка потым радзіла хлопчыка. Гэта Адаміцкая, што памерла, вечны спакой (паказвае на суседскі дом), усё вазіла ў вазку гэтага хлопчыка маладой пані.

Настаўніца: А як Кандратовічы адносіліся да людзей?

Рулько Г.А.: Вельмі добра! Ды і ўсе паны адносіліся да людзей добра! Каб вы толькі ведалі! Мы ў Кандратовічаў працавалі, дык нам гэтак было (загінае пальцы): карова забяспечана – сечку нарэжуць, ідзі напхні воркі, зважылі і нясі, на колькі трэба дзён; зімой трасянку давалі – сена і канюшына, і гэта была справа паноў. Яшчэ ж лямпы былі, і таму на месяц давалі літр газы, на месяц давалі кілаграм солі, паны гэта давалі, задарам. Тата мой быў парабкам, дык яму ў месяц плацілі дзевяць пудоў збожжа і дзевяць злотых.

Добра было за панамі. Прыйдзе нядзеля, дык Кандратовічава скажа фурману – запрагай пару коней і вязі людзей да касцёла. Такі быў Рынкевіч, старэйшы чалавек, яму казала: «Рынкевіч, павязеш людзей да касцёла». Сядаем усе на параконны воз і едзем у Асаву да касцёла.

Настаўніца: А шмат гадоў вы працавалі пакаёўкай?

Рулько Г.А.: З 14 да 18 гадоў. У 16 гадоў мяне на тры месяцы выправілі ў Вільню вучыцца на кухара. Потым паненка выйшла замуж за Гродна 60 кіламетраў, ужо не памятаю, як той маёнтак зваўся. Надта ладны быў маёнтак, у адных пладовых дрэвах – усякіх парэчкаў, усякіх ягадаў было ў ім, і яблыкаў, і грушаў, усяго. А кароў пан меў толькі дзесяць. Два

палацы там было, і яго маёнтак быў такі курортны. Адпачываць да яго прыязджалі. І там таксама цэлае лета прабыла ў іх, потым маладая пані паехала нараджаць у Вільню, а я вярнулася дахаты.

## *Дадатак 12*
## *Бібліяграфія публікацый пра генерала Кандратовіча*


Лаўрэш Л. Генерал Кіпрыян Кандратовіч (Дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі). 2007. Ліда. 43 с.

Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір і др. Генерал Кіпрыян Кандратовіч і інш. // Спадчына. 2002. № 1. С. 161–166.

Лаўрэш Леанід. Міністр БНР, генерал Кіпрыян (Цыпрыян) Кандратовіч. Наша слова. № 9 (596), 10 (597), 11 (598). 2002.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч на службе БНР // Наша Слова. № 10 (645). 17 сакавіка 2004.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч // Лідскі летапісец. 2005. № 4 (32). С. 12–26.

Лаўрэш Леанід. Крэскі да біяграфіі генерала К. Кандратовіча // Наша слова. № 40 (828). 10 кастрычніка 2007.

Лаўрэш Леанід. Занатоўкі да біяграфіі міністра БНР генерала Кандратовіча // Наша Слова. № 13 (904). 1 красавіка 2009.

Генерал Кіпрыян Кандратовіч. 150 гадоў з дня нараджэння // Лідскі Летапісец. 2009. № 1–2 (45–46). С. 24–27.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч: крэскі да жыцця // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 2. 2010. С. 81–105.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кандратовіч: два імгненні вечнасці // Наша Слова. № 12 (1163). 19 сакавіка 2014.

Лаўрэш Леанід. Генерал К. А. Кандратовіч ў 1916–1917 гг. // Наша Слова. № 34 (1341). 23 жніўня 2017.

Лаўрэш Леанід. «Абрусіцелі» і дзяцінства генерала Кіпрыяна Кандратовіча // Наша Слова. № 36 (1343). 6 верасня 2017.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кандратовіч і БНР // Наша Слова. № 41 (1348). 11 кастрычніка 2017; № 42 (1349). 18 кастрычніка 2017.

Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч у Парыжы // Наша Слова. № 44 (1351). 1 лістапада 2017.

# Змест

Навукова-папулярнае выданне

Леанід **Лаўрэш**

# Генерал, які дайшоў да Беларусі

*Жыццяпіс генерала*
*Кіпрыяна Кандратовіча*

Вёрстка *Алесь Рыжы*
Карэктар *Аксана Данілевіч*

Падпісана да друку 28.03.2018 г. Фармат 60х84/16.
Папера афсетная. Рызаграфія
Ум.друк.арк. 15,4. Ул.-выд.арк 15,2.
Наклад 130 ас. Замова 47-2/2018

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «ЮрСаПрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/388 ад 01.07.2014 г.
Вул. Карла Маркса,11, 230015, г. Гродна.
+375 152 77 18 20
+375 295 87 84 11



*Парк у Гародна. Сучасны здымак*

*Вельмі жадаю прыцягнуць увагу ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі пачатку XX ст., да гэта незвычайна цікавага для аматараў біяграфій, краязнаўцаў і прафесійных гісторыкаў, тэкста. Аўтар не толькі з захапленнем праводзіць нас праз жыццё генерала Кіпрыяна Кандратовіча, але таксама дзеліцца з чытачом этапамі сваіх пошукаў і даследаванняў і паказвае, якой надзвычай захапляльнай можа быць праца гісторыка.*

**Хабілітаваны доктар,**
**прафесар Дарота Міхалюк**